Katedra Białorutenistyki
Uniwersytetu Warszawskiego

*Мікола Хаўстовіч*

# ДАСЛЕДАВАННІ І МАТЭРЫЯЛЫ:

## ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСІ
## XIX – пачатку XX стагоддзя

**ТОМ СЁМЫ**

Warszawa 2021

**Redaktor Wydawnictwa**
prof. Nina Barszczewska (UW)

**Recenzenci**
prof. Siergiej Kowalow (UMCS)
prof. Halina Twaranowicz (UwB)

**Projekt okładki**
Paweł Kurza

Na czwartej stronie okładki:
fotokopia rękopisu wiersza *Rasła kalina bujno, szyroko*…
(ZNiO, Rps 13228/I, s. 73).

**Skład, łamanie, korekta**
Maryla Chaustowicz, Halina Żarko

Publikacja dofinansowana przez WLS UW ze środków przeznaczonych
w ramach subwencji na utrzymanie i rozwój potencjału badawczego



ISBN 978-83-60951-35-4

**Wydawca:**
*Katedra Białorutenistyki*
*Uniwersytetu Warszawskiego*
*ul. Szturmowa 4, 02-678 Warszawa*
*tel. +48 22 55 34 252*
*http://kb.uw.edu.pl*
*e-mail: kb.wls@uw.edu.pl*

**Druk i oprawa:**
*SOWA Sp. z o.o.*
*ul. Raszyńska 13, 05-500 Piaseczno*
*tel. (22) 431-81-40; fax (22) 431-81-50*

# ЗМЕСТ

# Замест прадмовы

Асноўная частка VII тома *Даследаванняў і матэрыялаў* прысвечаная жыццю і творчасці Яна Баршчэўскага, Гераніма Марцінкевіча і Адама М-скага.

Публікуючы ў 170-ю гадавіну з дня смерці аўтара *Шляхціца Завальні* ягоныя некралогі (пераважна ўжо вядомыя, але з новай версіяй перакладу, а таксама новым каментаром), мы тым самым акцэнтуем увагу на праблеме, якая вынікла ў апошні час у сувязі з выяўленнем вялікае колькасці дакументаў, датычных біяграфіі беларускага пісьменніка: **патрэбе падрыхтоўкі новага жыццяпісу Я. Баршчэўскага** як для энцыклапедычных выданняў, так і для акадэмічнае гісторыі беларускае літаратуры.

У раздзеле *Геранім Марцінкевіч* змешчаны шэраг тэкстаў літаратара (драматургічная паэма *Podróżny*, лісты да Адама Завадскага), а таксама невядомая раней даведка пра навучанне паэта ў Дорпцкім універсітэце і наш артыкул, у якім на падставе вядомых і малавядомых публікацый разглядаецца праблема атрыбуцыі драматургічнага абразка *Адвячорак: Аказія ў карчме пад Фальковічамі*. Гіпотэза пра Г. Марцінкевіча як аўтара твора належыць, відаць, Рамуальду Зямкевічу. Дакладных звестак ён не меў (няправільна падаваў падзагаловак п’есы), але ўпэўнена пашыраў сваю гіпотэзу: паінфармаваў Францішка Аляхновіча і Аляксандра Шлюбскага. Адрозны пункт гледжання на аўтарства *Адвячорка…* меў, здаецца, Міхайла Піятуховіч. Праўда, у прадмове да планаванае публікацыі рукапісаў Аляксандра Рыпінскага ён не закранае пытанне аўтарства, але, верагодна, на лекцыях для студэнтаў БДУ сцвярджаў, што абразок напісаў Арцём Вярыга-Дарэўскі (мяркуем на падставе пазнейшых артыкулаў Антона Адамовіча). Міхась Ларчанка і Любоў Фіглоўская, відаць, нічога не ведаючы пра рукапісы А. Рыпінскага, выявілі ў “ленінградскіх архівах і бібліятэках” п’есу *Адвячорак…*, якую напісаў нехта Сазановіч. Цікава тое, што даследнікі ахарактарызавалі тэму твора даволі агульна – “быт прыгоннага сялянства”, што ўвогуле адпавядае адлюстраванаму ў тэксце з рукапісаў А. Рыпінскага. Пасля публікацыі *Адвячорка…* у 1988 г. большасць даследнікаў (Вячаслаў Рагойша, Генадзь Кісялёў, Уладзімір Мархель) адназначна выказаліся на карысць аўтарства Г. Марцінкевіча, хоць Віталь Скалабан і прапаноўваў не спяшацца з канчатковымі высновамі. Аналіз навуковае літаратуры, стылю польскамоўных твораў Г. Марцінкевіча, а таксама асобных акалічнасцяў віцебскага літаратурнага жыцця канца 1850 – пачатку

1860-х гадоў дазваляе выказаць сумненні, што драматургічны абразок *Адвячорак: Аказія ў карчме пад Фальковічамі* належыць пяру Г. Марцінкевіча. Не менш верагодным аўтарам можа лічыцца А. Вярыга-Дарэўскі ці нехта Сазановіч.

У апошнім раздзеле тома падаюцца матэрыялы і даследаванні жыццёвага і творчага шляху Адама М-скага (Зоф'і Тшашчкоўскае): тут беларускамоўныя вершы паэткі, ейныя лісты да Фелікса Зянковіча, метрыкі (нараджэння і шлюбу), а таксама некралогі. Уважлівае чытанне і аналіз лістоў Адама М-скага дазволіла нам зрабіць выснову пра аграмадную ролю, якую адыграў у жыцці і творчым лёсе З. Тшашчкоўскае былы выгнаннік, з якім яна пазнаёмілася ў Ноўгарадзе. На нашую думку, Ф. Зянковіч не толькі падахвоціў паэтку перакладаць творы еўрапейскай літаратуры на польскую мову, але і натхніў на тварэнне і публікацыя ўласнае паэзіі. Пачуццё кахання, якое паланіла сэрца 35–40-гадовае кабеты, нарадзіла выдатныя ўзоры любоўнае лірыкі, хоць і прынесла ейнай аўтарцы адно боль і горыч.

У дадатку публікуюцца нядаўна выяўленыя дакументы, якія дадаюць істотныя, мяркуем, дэталі да творчых партрэтаў Альгерда Абуховіча, Ялегі Праціша Вуля і Янкі Лучыны.

Дадзены том паўстаў дзякуючы дапамозе шэрагу навукоўцаў. Прагнем падзякаваць філолагам-літаратуразнаўцам доктар Анхеле Эспіноза-Руіс і доктар Катажыне Дрозд, інфарматыку доктару Антону Францішку Брылю і гісторыку Вячаславу Мартысюку.

## Прынцыпы перадачы тэкстаў

Вертыкальнаю рыскаю адасабляецца напісанае ў арыгінале злітна.

Пачатак кожнае старонкі рукапісу мы перадаём дзвюма прамымі рыскамі з устаўленым паміж імі нумарам аркуша ў ніжнім рэгістры: |$_{\mathbf{1r}}$| – правая старонка аркуша (ад лац. rectus – проста); |$_{\mathbf{1v}}$| – левая старонка аркуша (ад лац. verso – адваротная старонка).

Перакрэсленыя ў рукапісе словы і сказы падаём адпаведна – ~~Biedny~~; напісанае зверху, між радкамі – у верхнім рэгістры – $^{\text{Uiszow}}$.

Занатаваныя збоку (на палях) праўкі і дадаткі падаём напрыканцы асноўнага тэксту пасля пазнакі: * *Ad marginem*.

Дзеля кампактнасці тэксту элементы кутняга штампу (назва ўстановы, дата, выходны нумар і інш.) падаюцца ў верхнім радку дакумента.

Той тэкст рукапісу, які не ўдалося расчытаць, сігналізуецца кутнімі дужкамі са словам “нечытэльна” – <*нечыт.*>.

У квадратных дужках [ ] узнаўляюцца скарачэнні ў рукапісе, а таксама (па магчымасці) словы і часткі слоў у канцы (звычайна) радка, дзе папера аказалася пашкоджанаю.

# Ян Баршчэўскі: 170 гадоў з дня смерці

Шлях Яна Баршчэўскага да чытача аказаўся надзвычай доўгім, неймаверна складаным і пакутным.

Беларускае савецкае літаратуразнаўства зусім не імкнулася праставаць гэты шлях, бо на перашкодзе стаяў кіраваны імперскімі амбіцыямі ідэалагічны шлагбаум, ці то па-даўняму – рагаткі, з-за якіх пільна сачылі, каб нішто “чужое і шкоднае” не трапілася на вочы будаўнікоў камунізму. Вядома, мы памятаем самаахвярныя спробы асобных даследнікаў прыадчыніць заслону, давесці, што анічога “чужога і шкоднага” ў напісаным Я. Баршчэўскім няма[1]. “Чужая” польская мова? Дык сам жа пісьменнік выказаўся пра гэта адназначна:

> Не кожны чытач зразумее беларускую мову, дык гэтыя народныя апавяданні, якія пачуў я з вуснаў люду, вырашыў (наколькі змагу) у даслоўным перакладзе напісаць па-польску[2].

“Шкодны” змест? Дык жа сацыяльная праблематыка выразна прачытвалася ледзь не ў кожным апавяданні кнігі Я. Баршчэўскага! Дык жа словы спачування працаўніку-селяніну знаходзім ледзь не на кожнай старонцы *Шляхціца Завальні*! А мы памятаем, што нават у расейскай літаратуры аповесць Дзмітрыя Грыгаровіча *Антон-Горемыка* з’явіцца праз некалькі гадоў пасля выхаду ў свет кнігі Я. Баршчэўскага. Беларускія мудрагелі перакручвалі Я. Баршчэўскага на свой камуністычны капыл:

---

[1] Назавём найважнейшае: у 1946 г. Навум Перкін (1912–1976) падрыхтаваў, але не змог абараніць кандыдацкую дысертацыю па творчасці Я. Баршчэўскага і Я. Чачота. (Апублікаваная ў 1980 г. Гл.: Н. Перкін, *Літаратурная спадчына Яна Баршчэўскага і Яна Чачота* [у:] Н. Перкін, *Абсягі думкі: Літаратурна-крытычныя артыкулы*, Мінск 1980, с. 177–186). У 1971 г. Сцяпан Александровіч (1921–1986), Алег Лойка (1931–2008) і Вячаслаў Рагойша (нар. 1942) уключылі ў хрэстаматыю для філалагічных факультэтаў ВНУ раздзелы з тэкстамі Рамуальда Падбярэскага і Яна Баршчэўскага. (Гл.: *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1971, с. 73–100). У 1975 г. Віктар Каваленка (1929–2001) даў арыгінальную інтэрпрэтацыю творчасці Я. Баршчэўскага. (Гл.: В. Каваленка, *Вытокі. Уплывы. Паскоранасць: Развіццё беларускай літаратуры XIX – XX стагоддзяў*, Мінск 1975, с. 76–92). У 1977 г. Генадзь Кісялёў (1931–2008) ажыццявіў навуковую публікацыю ўступных раздзелаў *Шляхціца Завальні*, а таксама нарысаў Р. Падбярэскага і Ю. Барташэвіча пра Я. Баршчэўскага. (Гл.: *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 39–84).

[2] Я. Баршчэўскі, *Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях*, Warszawa 2012, с. 394.

> Міфалагічныя сюжэты і вобразы, асабліва містычныя, былі для Баршчэўскага сапраўднай знаходкай. Яны дапамагалі яму “давесці”, што прыгонніцтва не з’яўляецца прычынай сялянскага гора, бо вінаватыя ва ўсім розныя чэрці, злыя духі і чарнакніжнікі, волю якіх выконваюць дрэнныя паны і іх слугі. Паны не вінаватыя ў тым, што здзекуюцца з сялян і цягнуць з іх жылы[1].

З аднаго боку, у 1970–1980-я гг. з’явілася магчымасць прачытаць у хрэстаматыі ажно два апавяданні Я. Баршчэўскага і ў цэлым станоўчую характарыстыку ягонае творчасці, але з другога – усё тыя ж перашкоды, як і ў 1930–1960-я гг.: *Szlachcic Zawalnia* ў “спецхранах”[2], а каб атрымаць студэнту-філолагу адмысловы дазвол, трэба дапамога навуковага кіраўніка, трэба згоды дэкана і рэктара ўніверсітэта. Не на шмат лепш і ў часы “перестройки”: толькі дзякуючы спрыянню Анатоля Сідарэвіча машынапіс перакладу кнігі Я. Баршчэўскага трапіў у выдавецтва “Мастацкая літаратура”, але амаль тры гады (1986–1989) ляжаў там без руху. І толькі Уладзімір Арлоў, уладкаваўшыся на працу ў выдавецтва, цягам некалькіх месяцаў падрыхтаваў *Шляхціца Завальню* да выдання. Ды яшчэ дамогся, каб выйшаў ён амаль саракатысячным накладам.

Інтэрпрэтацыя твора Я. Баршчэўскага, якая з’явілася ў часе нацыянальнага адраджэння (1991–1994), не была, вядома, дастаткова аргументаванаю, больш нагадвала гіперінтэрпрэтацыю, але абраны шлях – шуканне і выяўленне ў творы гістарычнае асновы – быў, нам падаецца, правільны.

Бясспрэчна, інтэрпрэтацыі шмат у чым магло б дапамагчы даследаванне “таямніцаў” біяграфіі пісьменніка, але зроблена ў 1990-я гг. было вельмі мала: новыя дзяржаўныя межы перашкаджалі весці нармальны архіўны пошук ды і напрацовак у гэтым кірунку фактычна не існавала. Заставалася выкарыстоўваць пераважна творы і карэспандэнцыю літаратара, шукаць у іх “фрагментаў” ягонае біяграфіі, выдатна разумеючы, што такое мадэляванне жыццёвага і творчага шляху Я. Баршчэўскага не можа даць ягонага праўдзівага вобліку. Але былі спадзяванні, што раней ці пазней прапанаваныя гіпотэзы будуць грунтоўна распрацаваны.

І сапраўды, у XXI стагоддзі своеасабліваю “праверкаю” ўсяго таго, што было напісанае пра Я. Баршчэўскага заняўся пецябургскі аматар творчасці беларускага літаратара XIX стагоддзя Дзмітрый Вінаходаў. Яму пры спрыянні і дапамозе прафесіяналаў – архівістаў, гісторыкаў і літаратуразнаўцаў – удалося выявіць у пецярбургскіх і маскоўскіх бібліятэках і архівах шматлікія друкаваныя і рукапісныя матэрыялы, якія дазволілі ўнесці істотныя змены ў ранейшы жыццяпіс Я. Баршчэўскага. Гісторыкам літаратуры стала

---

[1] С. Майхровіч, *Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, выд. другое, папраўленае, Мінск 1959, с. 60.

[2] У 1980-я гг. у Нацыянальнай бібліятэцы БССР імя У. Леніна захоўваліся па аднаму асобніку першага і другога тома *Szlachcica Zawalni*, а ў Бібліятэцы Акадэміі навук БССР імя Якуба Коласа – ксеракопіі (з прапушчанымі старонкамі) трэцяга і чацвёртага томікаў.

вядома пра бацькоў і братоў пісьменніка, з’явілася магчымасць больш дакладна акрэсліць год ягонага нараджэння, час вучобы ў Полацкай езуіцкай акадэміі, працу ў Пецярбурзе і інш.[1]. Маем надзею, што некалі будзе падрыхтаваны новы жыццяпіс Яна Баршчэўскага, бо – наколькі нам вядома – беларускія літаратуразнаўцы пакуль яшчэ не здолелі асэнсаваць даробак Дз. Вінаходава, а папулярызатары творчасці беларускага літаратара карыстаюцца пераважна даўнімі публікацыямі (хоць спарадычна і выкарыстоўваюць тое, што з’яўляецца ў Сеціве) пра класіка беларускае літаратуры[2].

Вядома, каб падрыхтаваць навуковую біяграфію Яна Баршчэўскага патрэбныя новыя архіўныя матэрыялы, а таксама крытычны аналіз ужо апублікаванага. Бо якраз крытычнага стаўлення да асобных “знаходак” і не хапае літаратуразнаўцам. Згадаем толькі пра дзве з іх.

Па-першае. У красавіку 2019 г. на шмат якіх інфармацыйных парталах і ў друкаваных выданнях тыражаваліся звесткі пра знойдзеную ў Чуднаве на прыватным падворку пліту з магілы Я. Баршчэўскага, а недакладна перакладзены надпіс[3] з якое “дазволіў” асобным беларускім літаратуразнаўцам заявіць пра “новы” год нараджэння пісьменніка – 1780 ці 1781.

Але надмагільная пліта не можа быць аргументаваным сведчаннем: яна невядома калі і кім была ўсталяваная. Нават пахавальнай метрыцы можна давяраць больш, бо чуднаўскі ксёндз асабіста ведаў паэта і, відаць, не мог запісаць у сваіх кнігах 70-гадовага як 54-гадовага. Аднак больш істотнымі тут з’яўляюцца дакументы, што Я. Баршчэўскі ў 1813–1817 гг. вучыўся ў Полацкай езуіцкай акадэміі. Проста неверагодна, каб студэнтам I і II курса (логікі і фізікі) была асоба, якая мела 33–35 гадоў. Трыццацігадовыя нават на аддзяленні тэалогіі рэдка калі сустракаліся. І калі літаратуразнаўца верыць у тое, што Я. Баршчэўскі мог “маладзіцца” дзеля нейкіх неакрэсленых мэтаў падчас вучобы ў Акадэміі (бо лічыць, што сам літаратар падаў свой узрост), дык як быць тады з “Рэвізскімі сказкамі ўніяцкіх святароў”? (А яны захаваліся за 1811 і 1834 гг.). А таксама з “Генеральнымі візітацыямі цэрк-

---

[1] Больш падрабязна пра выяўленае Дз. Вінаходавым – у каментарах да некралогаў Яна Баршчэўскага.

[2] Дастаткова пазнаёміцца з матэрыяламі беларускае (*Ян Баршчэўскі* [online] https://be-tarask.wikipedia.org/wiki/%D0%AF%D0%BD_%D0%91%D0%B0%D1%80%D1%88%D1%87%D1%8D%D1%9E%D1%81%D0%BA%D1%96 [доступ: 05.04.2021]; *Ян Баршчэўскі* [online] https://be.wikipedia.org/wiki/%D0%AF%D0%BD_%D0%91%-D0%B0%D1%80%D1%88%D1%87%D1%8D%D1%9E%D1%81%D0%BA%D1%96 [доступ: 05.04.2021]), расейскае (Барщевский, Ян [online] https://ru.wikipedia.org/-wiki/%D0%91%D0%B0%D1%80%D1%89%D0%B5%D0%B2%D1%81%D0%BA%D0%B8%D0%B9,_%D0%AF%D0%BD [доступ: 05.04.2021]), польскай (Jan Barszczewski [online] https://pl.wikipedia.org/wiki/Jan_Barszczewski [доступ: 05.04.2021]) і ўкраінскае (Барщевський Ян [online] https://uk.wikipedia.org/wiki/%D0%91%D0%-B0%D1%80%D1%89%D0%B5%D0%B2%D1%81%D1%8C%D0%BA%D0%B8%D0%B9_%D0%AF%D0%BD [доступ: 05.04.2021]) Вікіпедыі.

[3] “Żył cnotliwie lat 70” – гэта ўсё ж не “жыў годна 70 гадоў”. Трэба: “Жыў годна прыкладна (як варыянт: каля/блізу) 70 гадоў”.

ваў” (1822–1823)? А там паказана, што гады жыцця бацькі пісьменніка – 1760–1832, што жонка святара нарадзілася ў 1871-м[1], сам ён у 1793-м, ягоныя браты – у 1798-м, 1805-м, 1810-м, 1812-м. Апрача таго, выяўленыя Дз. Вінаходавым дакументы пра службу Я. Баршчэўскага ў Пецярбургскіх дзяржаўных установах таксама паказваюць, што паэт нарадзіўся на пачатку 1890-х гадоў. Так што, ці варта, увёўшы ў навуковы ўжытак на падставе “артэфакту” яшчэ адну гіпотэзу, так зацята аддаваць перавагу менавіта ёй?

Па-другое. З не меншай заўзятасцю асобныя літаратуразнаўцы прапануюць уключыць у даробак Я. Баршчэўскага невялічкую навелу *Zacharyjaszek*, упершыню надрукаваную пад прозвішчам беларускага пісьменніка ў 1949 г. у зборніку *Polska nowela fantastyczna*[2]. Кніжка, укладзеная Юльянам Тувімам (1894–1953) добра вядомая беларускім гісторыкам літаратуры. Але ніхто не пагаджаўся назваць яе творам нашага Я. Баршчэўскага: напрыклад, Віктар Каваленка даводзіў, што напісана яна зусім іншым стылем[3], вытрымана ў зусім іншай стылістыцы[4].

Не закранаючы тут пытання атрыбуцыі навелы *Zacharyjaszek*[5] больш шырока, зазначым толькі: у гісторыі літаратуры, апрача нашага Я. Баршчэўскага, былі яшчэ і ўласна польскія літаратары, якія насілі гэтае самае прозвішча[6], малавядомыя і забытыя. Істотна таксама і тое, што фантастычныя творы пісаў Стэфан Баршчэўскі (1862–1937), творчасць якога была забароненая ў Польскай Народнай Рэспубліцы, а гэта значыць, што Юльян Тувім мог надрукаваць навелу свайго блізкага знаёмца як твор Я. Баршчэўскага.

Выяўленыя Дз. Вінаходавым дакументы, якія датычаць жыцця Я. Баршчэўскага, апублікаваныя. Але, “раскіданыя” па альманахах і зборніках, відаць, не трапілі яшчэ ў поле зроку літаратуразнаўцаў. Дык ці не варта выдаць іх у асобным томіку? Верым, што такое магчыма і некалі здзейсніцца. А пакуль пададзім дакументы (некралогі) пра Я. Баршчэўскага, якія датычаць смерці пісьменніка. Шэсць выданняў аддалі даніну павагі чалавеку, які сумленна працаваў дзеля польскае і беларускае культуры.

Але, па сутнасці, усе гэтыя публікацыі заснаваныя на допісах двух аўтараў: бліжэй нязнанага **P… K…** (Канстанты Піятроўскага?) і Юльяна Барташэвіча. „Kurjer Warszawski” і „Przegląd Poznański” выкарысталі, не спасылаючыся, у сваіх паведамленнях тэкст першага, а „Czas” і „Goniec Polski” перадрукавалі, захаваўшы “аўтарскія правы” другога.

---

[1] Невядома, ці ідзе тут гаворка пра маці Я. Баршчэўскага, ці пра другую, магчыма, жонку бацькі.

[2] J. Barszczewski, *Zachariaszek: Powiastka z dawnych czasów* [w:] *Polska nowela fantastyczna*, zebr. J. Tuwim, Warszawa 1949, s. 75–79.

[3] А мы дададзім: і зусім іншаю польскаю моваю, у якой адсутнічаюць г. зв. правінцыялізмы.

[4] Паводле прыватнае размовы з сярэдзіны 1990-х гг.

[5] Нашае даследаванне гэтага пытання яшчэ не завершанае.

[6] Гл. напр.: *M.J. Minakowski: Wielka Genealogia Minakowskiego: Jan Barszczewski* [online] http://wielcy.pl/wgm/i.php?qt=Jan+Barszczewski [доступ: 5.04.2021].

Пададзім усе некралогі ў храналагічнай паслядоўнасці:

16/28 сакавіка 1851 г.

P… K…, *Nekrolog*, „Tygodnik Petersburski” 1851, nr 20, 16/28 marca, s. 132–133.

4 красавіка[1] 1851 г.

*W d. 28 Lutego*…, „Kurjer Warszawski” 1851, nr 90, 4 kwietnia, s. 465.

23 і 25 красавіка 1851 г.

J. B., *Jan Barszczewski*, „Dziennik Warszawski” 1851, nr 22 i 24 (z dodatkiem), 23 i 25 kwietnia.

2 мая 1851 г.

J. B., *Jan Barszczewski*, „Czas” 1851, nr 101, 2 maja.

4 чэрвеня 1851 г.

J. B., *Jan Barszczewski*, „Goniec Polski” 1851, nr 127, 4 czerwca, s. 305–307.

Чэрвень 1851 г.

*Nekrologi*, „Przegląd Poznański” 1851, t. XII, poszyt III, s. 362–363.

[1] Варшаўскія, кракаўскія і познаньскія выданні пазначалі ў той час дату паводле новага стылю.

# Некралогі

## № 1

Першы некралог Яна Баршчэўскага з'явіўся ў друку праз два тыдні пасля смерці літаратара. Нехта **Р… К…** (магчыма, Канстанты Піятроўскі. Хоць ён звычайна падпісваўся сваім прозвішчам, а не крыптанімам, ды і крыптанім ягоны павінен быць іншы – **К… Р…**. Але відавочна тое, што гэта быў чалавек, які добра ведаў пра апошнія гады жыцця Я. Баршчэўскага), адразу пасля пахавання напісаў і выслаў у Пецярбург нататку, у якой коратка апісаў жыццё і смерць беларускага паэта ў Цуднаве.

Друкуецца паводле: "Tygodnik Petersburski" 1851, nr 20, 16/28 Marca, Piątek, s. 132–133.

## Nekrolog

(Nadesłano)

W gubernii Wołyńskiej, w powiecie Żytomirskim, w miasteczku Cudnowie, w dniu 28 Lutego bieżącego roku umarł znany w naszej Literaturze, z rozmaitych prozą i wierszem utworów, Jan Barszczewski, Białorusin. Wydawca dzieła ś. p. Barszczewskiego *Zawalnia*, skreślił wiele rysów jego życia. Może też kto zechce się zająć rozbiorem wszystkich pism i dokończeniem obrazu życia jego. Tu się tylko wspomną ostatnie pięć lat jego żywota. Przybywszy w r. 1846 do Cudnowa, w towarzystwach odznaczał się najpiękniejszym owocem nauki: skromnością i zacnością postępowania. Kochając ludzi, czuły na ich cierpienia, dawał im co miał, to jest serce swoje, – potrafił zyskać wzajemność, i oddalonemu od krewnych, przez lat kilka, upadającemu na zdrowiu, przyjaźń starała się osłodzić ostatnie chwile. W czasie tej długiej choroby odbywszy kilka razy spowiedź i opatrzony ŚŚ. Sakramentami, z wielką mocą duszy, a można nawet rzec z wesołością, patrzał na zbliżający się koniec. Otaczający go zdawali się w tém widzieć, iż ta dusza, dobrze zasłużona swojemu Panu, idzie po nagrodę. Licznie zgromadzona Publiczność na jego pogrzebie, odbytym w kościele Cudnowskim w dniu 2 Marca, dowiodła, ile ś. p. Barszczewski był poważanym i kochanym. Pochowany na cmentarzu Cudnowskim przy zachodniej ścianie parkanu.

„Cześć jego popiołom! a te kilka słów prawdy, pamięci i przyjaźni, niech będą jak lampa zawieszona w jego ubogim wieczystym domku".

P… K…

Pisano 3 Marca 1851 roku.

*Пераклад*[1]

## Некралог

(Даслана)

У Валынскай губерні, у Жытомірскім павеце, у мястэчку Цуднаве[2] 28 лютага[3] гэтага года памёр вядомы ў нашай літаратуры рознымі празаічнымі і вершаванымі творамі беларус Ян Баршчэўскі. Выдавец[4] кнігі св. памяці Баршчэўскага *Завальня* апісаў шмат якія акалічнасці ягонага жыцця. Магчыма, хтосьці захоча прааналізаваць усе ягоныя творы і закончыць жыццяпіс літаратара. Тут жа мы згадаем толькі пра апошнія пяць гадоў ягонага жыцця. Прыехаўшы ў 1846 г.[5] у Цуднаў, ён вылучаўся ў таварыстве самым цудоўным плёнам адукацыі: сціпласцю і прыстойнасцю. Любячы людзей і спачуваючы ім, ён дзяліўся ўсім, што меў, гэта значыць, сваёю сардэчнасцю; яму адказвалі ўзаемнасцю; і калі праз некалькі гадоў, будучы далёка ад крэўных, ён стаў траціць здароўе, сяброўства давала ўцеху апошнім ягоным хвілінам. Падчас доўгае хваробы колькі разоў паспавядаўшыся і прыняўшы св. Сакрамэнт, ён з вялікаю сілаю духа і можна нават сказаць радасцю чакаў канца. І ўсім, хто быў ля яго, здавалася, што ягоная душа, добра паслужыўшы свайму Пану, ідзе па ўзнагароду. Шматлікасць грамады, што сабралася на жалобную імшу, якая прайшла ў Цуднаўскім касцёле 2 сакавіка, паказала наколькі с. п. Баршчэўскі быў паважаны і шанаваны. Пахавалі яго на Цуднаўскіх могілках блізу заходняе агароджы[6].

Гонар ягоным астанкам! А гэтыя колькі слоў праўды, памяці і прыхільнасці няхай будуць нязгаснаю лямпаю ў ягоным убогім вечным доме.

П ... К ...

Напісана 3 сакавіка 1851 года.

---

[1] Тут і далей пераклады іншамоўных твораў, дакументаў ды інш. выкананыя намі.

[2] Польская назва мястэчка – Cudnów, расейская (з канца XVIII ст.) – Чуднов.

[3] Дата пададзена паводле старога стылю.

[4] Гаворка, відавочна, пра аўтара прадмовы да *Шляхціца Завальні* Рамуальда Падбярэскага (1812–1856). Выдаўцом жа першых трох томікаў кнігі быў Ян Эйнерлінг (пам. 1854), а чацвёрты выдаў сам Ян Баршчэўскі.

[5] Я. Баршчэўскі мог пакінуць Пецярбург пасля 22 сакавіка 1846 г., калі атрымаў “білет” цэнзара на апошні томік *Шляхціца Завальні*. Гэты “білет” часцей за ўсё быў дазволам на распаўсюджванне ўжо надрукаванае кнігі ці часопіса. Відаць, вясною ці напачатку лета 1846 г. Я. Баршчэўскі, забраўшы з друкарні і разаслаўшы наклад кнігі сябрам, а таксама ў кнігарні, выехаў разам з графіняю Юліяй Жавускай на Валынь.

[6] Магіла Я. Баршчэўскага не захавалася, бо за савецкім часам каталіцкія могілкі ў Цуднаве былі разрабаваныя. У красавіку 2019 г. на падворку аднаго з мясцовых жыхароў была выяўленая надмагільная пліта з апошняга прытулку беларускага паэта. Надпіс удалося прачытаць: “JAN BARSZCZEWSKI MIŁOSNIK BOGA NATURY I LUDZI PISARZ NATCHNIEN J|CZUCIA. ZYŁ CNOTLIWIE LAT 70. UMARŁ 28. LUTEGO 1851 ROKU = Ян Баршчэўскі, які любіў Бога, прыроду і людзей. Пісьменнік натхнення і пачуцця. Жыў годна прыкладна70 гадоў”. Гл.: *Ва Ўкраіне знайшлі надмагільную пліту беларускага пісьменьніка Яна Баршчэўскага* [online] https://-www.svaboda.org/a/29886072.html [доступ: 27.03.2021].

## № 2

Рэдакцыя газеты "Kurjer Warszawski" на падставе некралогу ў "Tygodniku Petersburskim" падрыхтавала кароткую нататку пра смерць Я. Баршчэўскага. Друкуецца паводле: "Kurjer Warszawski" 1851, № 90, 4 Kwietnia, piątek.

W d. 28 Lutego (12 z. m.) umarł w miasteczku Cudnowie, w Gubernji Wołyńskiej, znany w naszej literaturze, z rozmaitych prozą i wierszem utworów, ś. P. Jan Barszczewski, Białorusin. Zwłoki tego autora, przy licznem zebraniu publiczności, w d. 2 (14) z. m. po odprawieniu Nabożeństwa w Kościele miejscowym, na smętarzu Cudnowskim, pogrzebane zostały.

*Пераклад*

28 лютага (12 мінулага месяца) памёр у мястэчку Цуднаве, што ў Валынскай губерні, вядомы ў нашай літаратуры рознымі празаічнымі і вершаванымі творамі св. памяці беларус Ян Баршчэўскі. Астанкі гэтага аўтара былі пахаваныя ў прысутнасці вялікае грамады 2 (14) мінулага месяца пасля імшы ў мясцовым касцёле на Цуднаўскіх могілках.

## № 3–5

Тэкст, які ў сувязі са смерцю Я. Баршчэўскага напісаў гісторык і літаратуразнаўца Юльян Барташэвіч (1821–1870), уласна, не з'яўляецца некралогам. Гэта, хутчэй, спроба аўтара даць на падставе ранейшых публікацый і сваіх успамінаў з часу побыту ў Пецярбурзе (1838–1842) жыццяпіс беларускага пісьменніка. Артыкул колькі разоў публікаваўся ў перакладах Генадзя Кісялёва[1] і Сцяпана Александровіча[2]. Праўда, з невялічкімі купюрамі, якія, хутчэй, не перакладчыцкія, а рэдактарска-выдавецкія: тагачасныя цэнзурныя вымаганні не дазвалялі на залішнюю рэлігійнасць літаратара, які прэтэндаваў на месца ў хрэстаматыі для студэнтаў. Мэта нашае публікацыі, вядома, не столькі вярнуць першасны від артыкула Ю. Барташэвіча, колькі з пазіцыі сённяшніх ведаў пра Я. Баршчэўскага і яго час пракаментаваць асобныя сцверджанні аўтара жыццяпісу, бо нават дасведчаныя даследнікі раз-пораз без усялякіх агаворак спасылаюцца на яго як цалкам надзейную і праўдзівую крыніцу. З дробнымі праўкамі і пропускамі тэкст Ю. Барташэвіча перадрукавалі газеты „Czas" (Кракаў, Аўстра-Венгрыя) і „Goniec Polski" (Познань, Прусія).

Друкуецца паводле: J. B., *Jan Barszczewski*, „Dziennik Warszawski" 1851, nr 22 i 24 (z dodatkiem), 23 i 25 kwietnia.

---

[1] Ю. Барташэвіч, *Ян Баршчэўскі* [у:] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 78–84.

[2] С. Александровіч, В. Александровіч, *Беларуская літаратура XIX – пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў*, Мінск 1978, с. 53–58.

## KRONIKA SPÓŁCZESNA

### Jan Barszczewski

Jan Barszczewski urodził się w r. 1790 w Morohach nad jeziorem Nieszczodra, w dawném województwie Połockiém, na samych granicach Newelskiego i Siebieżskiego powiatów, a więc na wschodnich krańczynach dawnéj Białorusi. Pochodził z biednéj ale poczciwéj szlachty. Chociaż o niéj wcale nie wspomniał herbarz Niesieckiego, przecież zacna w swojéj prostocie, w życiu towarzyskiém i zaściankowém, przechowała najwięcéj żywiołów rodowych, które przypominały bardzo dawne sejmikowe czasy, może dla tego, że żyła w zapomnieniu i w dali od wielkiego świata.

Oddany do szkół w Połocku, kształcił Barszczewski młodociane swoje zdolności pod kierunkiem ojców Jezuitów. Już bardzo wcześnie zaczął się brać do literatury i pisywał wierszyki. Oczywiście nie było to poezyą ani natchnieniem, ani formą, a ciągnęło się w ślad za wzorami klassycznemi. Barszczewski przecież słynął już w szkołach jako w i e r s z o p i s i spółuczniowie dawali mu chętnie ten przydomek. Nie|opuścił żadnéj okoliczności, żeby nie|wypalił zaraz jakiego wiersza albo oracji. Nie|tylko w szkole, ale na wsi u rodziców, albo w zaściankach u sąsiadów, w święto albo uroczystość, na wakacje, popisywał się ze swoją weną poetycką. Pokazywał także zdolności do rysunku. Brał więc ołówek do ręki i kreślił z natury piękne widoki rodzinnéj ziemi, albo kiedy przeważył w nim dowcip, rysował pocieszne karykatury na radość zaścianków, które się śmiały serdecznie. Lubiono téż wszędzie Barszczewskiego. Bez niego nie obeszły się w okolicy żadne imieniny, albo urodziny, żadne złote albo srebrne wesele; wszyscy go zapraszali i częstowali. Wyrywała sobie poetę biedna szlachta i wychodziło to nieraz na dobre młodzieńcowi. Jeden mu dał miarkę pszenicy, drugi grochu, ten gryki nasypał do torby, tamten worek bobu albo kaszy pocichn[1] zawiązał u podróżnéj bryczki. Takim sposobem żył na łasce opatrzności biedny student połocki, wieszcz w rodzimych stronach.

A czasem włóczył się Barszczewski po jarmarkach białoruskich, kiedy opuścił zaścianki: Arciejkowicze, Holubów, Mieżów i Hołowczyce. To szlachcic Urwojski złapał poetę i jak skarb drogi rozwoził po jarmarkach, to Łotyszewicz znowu podróżował z nim z miasteczka do miasteczka. Śmieli się, śpiewali piosenki, które im młody poeta komponował. Tych piosnek uczyli się na pamięć zaściankowi bracia Załęscy, Przełęscy, Jurachowie, Urwojscy i Siwochy.

Taką idąc drogą Barszczewski mógł zostać poetą gminu, czyli właściwie narodowym, gdyby w piersiach uczuł prawdziwe wieszcze natchnienie. W pośród wiosek zapomniał o formach klassycznych i śpiewał nie dla literatury, ale dla Białéj rusi, w języku ludu. Nauczyciele powiedzieliby o nim wtedy, że zniżył swój talent do gminu, ale pokolenie nasze zrozumiało dobrze tę prawdę, że, ażeby mieć poezję narodową, potrzeba wprzód skąpać ją w pieśni gminnéj, bo w téj jedynie pieśni są pierwiastki rodzinne, jak w poemacie homerycznym, ale nie naśladowane jak rzymskie i francuskie. (d. c. n.)[2].

---

[1] Так у газеце. Трэба: *pocichu*.

[2] d[alszy] c[iąg] n[astąpi] – працяг будзе. Наступная частка некралогу была змешчаная ў 24 нумары газеты.

Lat 18 mając w r. 1809, student połocki jeszcze w Morohach rodzinnéj wiosce swojéj kochał pannę Maximowiczównę i do niéj pisał piosnkę białoruską: *Da czimże twoja dziewoszko hałowką zamiata*?[1]. Pisząc nie myślał pewnie o druku, a jednak piosenka do kochanki aż do dziś dnia z ust do ust przechodząc w pamiątce przetrwała. Morohy były ulubioném miejscem poety. Z Połocka tutaj zawsze wracał i stąd wycieczki odbywał w okolice. Nie wiemy czém się skończyła jego miłość dla Maximowiczównéj, czas i ludzie pewno wyzięblili uczucie, i ustała namiętność. Ale w trzy lata potém, jeszcze Barszczewski w Morohach nócił na swojéj lirze białoruskiéj. Widział wielką wojnę Napoleona i jego wojska, i walkę chłopów po lasach z uchodzącemi Francuzami. W Połockiém i Witebskiém zaczęły się pierwsze bitwy i tam téż srożyły się najwięcéj zabójcze żywioły straszliwéj wojny. Białoruś całe życie nędzna, całe życie uboga, upadła teraz pod ciężarem podwójnym niedoli. Po ustąpieniu Francuzów, tknięty widokiem ogólnego zniszczenia, w Morohach pisał Barszczewski wiersz: *Rabunki mużyków*[2]. Dzisiaj zapewniają nas, że to poemat narodowy, co żyje i żyć będzie w ustach ludu. Mówią że to był wiersz sławny po całéj Białorusi, że nasz poeta stał się popularnym i jedynym wieszczem swojéj Ukrainy. Poezye jego rozchodziły się po wszystkich rękach. Umiały je dzieci, a piastunki nóciły przy kolebkach dumki Barszczewskiego, jeżeli tak możem nazwać te utwory samorodnéj muzy bez sztuki i pretensji.

Potrzeba było nareszcie opuścić szkoły Połockie i wybrać sobie sposób do życia.

Długo namyślał się Barszczewski. Ukończywszy kursa pod dozorem Jezuitów, z patentem w ręku, sławny wieszcz w rodzinnéj stronie, autor nowego poematu o pasie *Wenery*, a więc klassyk i twórca, uważał się za coś lepszego od innych. Umiał dobrze po łacinie, po grecku, czytywał Cycerona i Wirgiljusza. Był zatém gruntownie uczony i postanowił dla tego poświecić się mozolnemu zawodowi, któryby go jednak mógł zalecić przed panami. Poezji opuścić nie chciał a sądził że w pośród guwernerki, znajdzie niejedną szczęśliwą wolną chwilę i westchnie czasem do swojéj muzy. Tylko znowu ten zawód nie przedstawiał mu żadnéj przyszłości. Znękany myślą i troską, z kilku złotówkami w kieszeni, puścił się w świat nareszcie, piechotą, z tłómokiem na plecach. Piérwszym jego zamiarem było udać się do Wilna, bo miał ochotę słuchać jeszcze nauk na uniwersytecie, żeby zupełnie ukształcić się na guwernera. Raz na pół drogi odpoczywał sobie pod kamieniem i dumał o przyszłości. Bez funduszu, bez znajomych w Wilnie, co miał zrobić? gdzie zajść na nocleg? do kogo udać się po radę i opiekę? W tém nadjechał stary znajomy z Białorusi, podsędek J., który powracał z Wilna. Zacny obywatel zatrzymał się, a widząc Barszczewskiego tak samotnym i opuszczonym od świata, pożałował biednego, namówił go do powrotu, osadził w swojém mieszkaniu, prosił poetę, żeby uczył jego dzieci. Miłe

[1] Назва верша Я. Баршчэўскага пададзеная з друкарскімі памылкамі. У першапублікацыі (гл.: "Rocznik Literacki" 1843, s. 203–204) – *Dziewieńka* (incipit: *Ach czymże twaja dzieweńka hałouka zaniata*…).

[2] У першапублікацыі (гл.: J. Barszczewski, *Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach*, Petersburg 1844, s. XXVIII) – *Rabunki Mużykou*.

spędzał chwile wędrownik u podsędka J. Był jego rezydentem, przyjacielem, doradzą. Nieraz chwile jednostajne na wsi, Barszczewski uprzyjemniał rozmowami swojemi i wierszykami, nieraz panu podsędkowi coś nowego powiedział i tak zeszło znowu lat kilka.

Guwerner przeszedł potém w dom księcia R., ale paliła zawsze Barszczewskiego żądza, żeby poznać świat i ludzi. Mając kilkanaście rubli, puścił się do Petersburga w podróż[1].

Myślał, te tam znajdzie stalsze jakieś zajęcie, i lepszą przyszłość. Wielu Polaków mieszkało w stolicy cesarstwa, a najwięcej białorusinów. W Wilnie możeby nie znalazł, w Petersburgu zapewne spodziewał się znaleźć przyjaciół. Ale w całém ogromnem mieście napotkał jednego tylko znajomego, był|to pan Gaudenty Szepielewicz, białorusin, spółuczeń z Połocka jeszcze, także poeta, autor *Psychy*, poematu klassycznego w kilkunastu pieśniach, pisanego w stancach ośmiowierszowych, jak monachomachia Krasickiego. Szepielewicz dawniéj osiadły w Petersburgu, znał już całe miasto i białorusinów przedewszystkiém. Pierwszy wstęp musiał się więc udać. Barszczewski znalazł przyjaciół i opiekunów w stolicy. Pukał tu i owdzie, przyglądał się zuchwałym twarzom lokajów w przedpokojach; przełamał nareszcie pierwsze zawady. Skutkiem nowo zawiązanych stosunków otrzymał posadę rządową i zaczął pracować w wydziale morskim. Ale namiętne zamiłowanie nauki i natura całkiem poetyczna, która mu kazała tęschnić za niepodległym sposobem życia, sprawiła że Barszczewski prędko porzucił służbę i poświęcił się na nowo guwernerce. Dawał zatém lekcje po domach prywatnych w Petersburgu a potém i po kilku zakładach rządowych. W stolicy państwa rosyjskiego lepiéj płacą jak gdzieindziéj prywatnemu nauczycielowi. Za jedną lekcję każdy dostanie kilka rubli srebrem, cóż dopiero uczony professor i sławny poeta? Barszczewski nie był sławnym, ale mógł dobrze lekcjami opędzić pierwsze potrzeby życia. Wprawdzie drożyzna w Petersburgu, nikt jednak nie umarł z nędzy, klo chciał i umiał pracować. Uczył więc Barszczewski przez lat kilkanaście języka greckiego i łacińskiego, a to ciągłe przestawanie z grammatyką i z autorami, wyrobiło w nim jakiś nałóg, jakieś przywiązanie do literatury starożytnéj, z którém się wcale nie taił. Zasłynął pomiędzy swoimi w Petersburgu jako głęboki hellenista i filolog. Do niego uciekali się białorusini w niejedném zdarzeniu. Jak potrzebował kiedyś pomocy, tak teraz sam zaczął stanowić ognisko, do którego kupiły się promienie. Zaczął bywać po domach magnackich. Przyjmowano go wszędzie z otwartemi rękami, jako człowieka z wielu wiadomościami i nadzwyczaj łagodnego charakteru. Raz uczył po łacinie w Petersburgu Barszczewski jakąś hrabinę do Włoch jadącą.

Znalazł zręczność odbycia kilku podróży morskich z Petersburga, widział brzegi Francji i Anglii. Uzbiérawszy zapas pieniędzy, robił wycieczki w dalsze okolicy, a potém wracał do pracy i bakałarzował na nowo.

Nie rzucał jednak literatury, pisał wciąż, ale nic nie drukował. Bawił właśnie wtenczas w Petersburgu znakomity autor *Konrada Wallenroda* i *Grażyny*, który

[1] Наступная частка некралогу была змешчаная ў дадатку да 24 нумара газеты, s. 5–6. (Dodatek do Nru 24 „Dziennika Warszawskiego”, Piątek 25 Kwietnia 1851 r.).

nagle zabłysnął na horyzoncie poezji polskiéj, jak gwiazda pierwszéj wielkości. Młodzi literaci znosili Adamowi owoce prac swoich, tulili się pod skrzydła wieszcze. Barszczewski zaniósł także zeszyt poezji. Lubił to często powtarzać potém przed młodszymi od siebie, że autor *Grażyny* czytał jego wiersze, że je pochwalił i że własną ręką poprawił z nich kilka. Barszczewski chował te arkusze jako pamiątkę. Poprawka jednak nie miała na celu poezji, a jedynie wyrażenie: nieudolność formy ale nie ducha utworu prostował znakomity artysta.

Klassyk więc pod natchnieniem nowych wyobrażeń, powoli przemieniał się na romantyka. Barszczewski zaczął układać ballady i zbierać podania gminne Białorusi. Co rok więc odbywał ze stolicy podróż piechotą w rodzinne strony. W zimie pracował, uczył się i uczył drugich, ale skoro wiosna rozzieleniła pola, a słońce ociepliło świat boży, Barszczewski jak skowronek z wiosną wylatał w okolice Połocka, Witebska i Mścisławia. Z kijem w ręku obchodził chaty wieśniacze, zbierał legendy i spisywał piosenki. Podróż ta orzeźwiała go, dawała mu siły do walki z losem, natchnieniem czoło opromieniała.

Znowu upłynęło lat kilkanaście wpośród pracy i ciągłych wędrówek. Barszczewskiego niepokoiła myśl, że nic nie zrobił, że żadnych zasług jeszcze nie położył dla literatury, a nie chciał tak zakończyć życia, żeby nie zostawić po sobie imienia, albo jakiéj pamiątki na świecie.

Kilku młodych ludzi w Petersburgu, zbierali się wspólnemi siłami, wydawać noworocznik literacki. Brakowało im jednak środka ciężkości, punktu oporu. Mieli dosyć artykułów, ale potrzeba było, żeby ktoś jeden zajął się samém wydaniem noworocznika, to|jest wziął na siebie część ekonomiczną zadania. Ten ktoś musiał być koniecznie zewnątrz kółka literackiéj młodzieży. Barszczewski wprowadzony do tego grona przez W. D., stał się ogniskiem ruchu naukowego, który się w krótce na większą skalę rozwinął. Groszem własnym i prenumeratą pokrył koszta. Tak urodziła się "Niezabudka".

"Niezabudka" wychodziła w Petersburgu lat pięć (od r. 1840 do r. 1844). Była owocem pierwszych usiłowań i pracą nowo wstępujących na pole działania, skromnych autorów. Obejmowała prozę i wiersze. Z prozy małe rozprawki estetyczne, powiastki; z poezji drobne utwory, sonety, legendy, ballady. Do młodzieży, która założyła "Niezabudkę", przybyło wkrótce grono Białorusinów, bo oprócz Barszczewskiego, jeszcze Wincenty Renth[1] i Gaudenty Szepielewicz, drukowali w niéj swoje wiersze. Z Wileńskiéj młodzieży, dawali do "Niezabudki" artykuły: Stanisław Lachowicz i Ludwik Płoszyński. Zapewne nie położył skromny Noworocznik petersburski wielkich zasług dla literatury polskiéj, ale i on zdaje się nam nie|żył na podziw. Dla stosunków z Barszczewskim, "Niezabudkę" prenumerowała cała Białoruś, a mnóstwo egzemplarzy szło téż do Wilna i do Warszawy. Wspomnieć téż należy, że w "Niezabudce" pierwszy raz dała się poznać satyrycznym talentem swoim Eleonora Sztyrmer; *Pantofel* i *Pamiętniki oryginalnie wychowanéj kobiety*, były drukowane w Noworoczniku wprzód, zanim wyszły oddzielnie *Frenofagiusz, Frenolesty*, *Dusza w suchotach* i t. d.

---

[1] Так у газеце. Трэба: *Reutt*.

Możebyśmy jeszcze nie jeden powód znaleźli do rozprawiania o "Niezabudce", gdyby nie zajmował nas teraz jedynie i wyłącznie, jéj przysposobiony redaktor, a raczéj wydawca, Barszczewski.

Barszczewski drukował w "Niezabudce" same ballady z podań gminnych i wiersze opisowe. Nie|było w jego poezjach natchnienia, a rym tytko na stary ład po klassycznemu ukuty. Nie tą więc drogą miał iść Barszczewski, żeby nabyć imienia w literaturze. Spostrzegł to w prędce a może go ostrzeżono. "Niezabudka" dawała jednak ciągle oznaki życia, chociaż jéj twórcy opuścili Petersburg, ale Barszczewski zamiłowany w pracy, już nie ustawał, i zamiast noworocznika, zaczął wydawać dzieła. Rzuciwszy rymy, wziął się do obrabiania podań gminnych Białorusi, których tyle w dzieciństwie nazbierał, których się tyle nawiązało w jego pamięci, i wyszedł na tém nierównie lepiéj.

Na taki zbawienny kierunek wpłynął znakomicie redaktor "Rocznika literackiego", który wtenczas bawił w Petersburgu, i nowe życie kupił na około siebie. Zbawienny powiadamy kierunek, bo winien mu był Barszczewski swoje stanowisko, jakie zajmuje i zajmować będzie w literaturze polskiéj.

Wystawił sobie Barszczewski, że w domu szlachcica Zawalni, zbiera się ciekawa przyjaciół drużyna. Zawalnia lubił podaniowe i klechdowe pogadanki o czartach i strachach, o upiorach i zaklętych królewiczach, i pięknych jak słońce królewnach. Otóż nawzajem jeden gość drugiemu opowiadał u Zawalni bardzo piękne gminne uplotki, w które wierzył lud białoruski. Ta forma dzieła, jaką sobie obrał Barszczewski. W kolejnych opowiadaniach, snują się przed oczami naszemi, przez całe cztery tomiki, czary i mary, czysta fantazja ludu wcielona w słowo. Miało być aż sześć tomów, ale nie wiemy, dla czego dwóch dla zupełności dzieła, bo cztery tylko wyszły, niedostaje. Wydawaniem zajmował się redaktor "Rocznika literackiego", który poprzedził dzieło krytycznym rzutem oka na literaturę białoruską, a patrząc przez szkło powiększające na rodzinną ziemię Barszczewskiego, postwarzał wielkich ludzi tam, gdzie ich wcale nie było, i wielkie dzieła, których nie znał nikt w Polsce. Wydawca osobny artykuł poświęcił naszemu autorowi, w którym starał się także ocenić jego zasługi i dawniejsze prace. Po tym wstępie, zaczynał się *szkic północnéj Białorusi* i sam *Szlachcic Zawalnia*. Wydanie było piękne i ozdobne, Rudolf Żukowski do tekstu dorobił ryciny, które przedstawiały główne sceny opowiadań. Cena bardzo przystępna, po pół rubla za tomik.

Oryginalny ten utwór, a formą obrobienia swojego jedyny w naszéj literaturze, stanowi w saméj rzeczy prawo Barszczewskiego do sławy. Poezje, które nasz autor wydał w osobnym tomiku, nie mają i setnéj cząstki tych zalet, co *Szlachcic Zawa1nia*. Rozumieli to krytycy nasi, co rozbierali dzieło Barszczewskiego po rozmaitych pismach perjodycznych. Pan Michał Grabowski napisał także artykuł oddzielny o *Zawalni*, z wielkiemi pochwałami i podziękami.

Oprócz Białorusi, Barszczewski nie znal wcale innych województw dawnéj Rplitéj. Nauczycielska praca znudziła mu się nareszcie, i dla tego zapragnął odpoczynku na starość. Literat już z rozgłośném imieniem, chciał zobaczyć inne strony rodzinnéj ziemi. Oświadczył to pani Julji hrabinie Rzewuskiéj, która właś-

nie wybierała się z Petersburga do swoich dóbr na Wołyniu. Barszczewski był od lat kilku prawie domownikiem hrabiny. Pani Rzewuska ucieszyła się bardzo z tego, i zaprosiła go z sobą do Cudnowa. Po dwudziestoletnim więc pobycie w stolicy cesarstwa, autor nasz porzucił miasto, żeby odetchnąć wiejskiém powietrzem. Zwiedził Wilno i w przejeździe wielką część Litwy, nareszcie stanął w Cudnowie. Znalazł tutaj miłe towarzystwo, zawiązał nowe stosunki z obywatelami w okolicy, poznał wreszcie doktora Henryka Koehlera, szlachcica polskiego, który i dochody swoje i głęboką znajomość sztuki lekarskiéj poświęcał chętnie dla ulgi cierpiącéj ludzkości. Mieszkali literaci w okolicy Cudnowa, między innemi: Konstanty Piotrowski były chorąży żytomierski, zacny obywatel, od lal bardzo dawnych uprawiał pole literatury. Nim jeszcze nastąpiła reakcja przeciw klassycyzmowi, Piotrowski już zajmował się poezją, i tłomaczył pomiędzy innemi wierszem listy Heloizy do Abelarda. Chorąży bardzo polubił Barszczewskiego, i nieraz też z nim rozprawiał o dawnych czasach i starych literatach.

Z Cudnowa puszczał się znowu piechotą Barszczewski w okolice, żeby odwiedzić nowych przyjaciół i znajomych. Gdzie tylko przyszedł, mile wszędzie był widziany i bawił tu i owdzie po dni kilka. To dzieci obywatelskie uczył, to gawędził z ojcami. Nie lenił się do pracy, zawsze zdrów i czerstwy, nareszcie spokojność na wsi i swoboda, dokonała zwycięstwa nad jego umysłem. Kiedy pani Rzewuska wracała do Petersburga, Barszczewski już nie chciał z nią jechać; tak polubił Cudnów i obywateli w okolicy, że wolał osiąść na zawsze w domku wiejskim hrabiny, chciał przepędzić tutaj ostatki swojego życia i umrzeć nawet w tym szczęśliwym domku wiejskim.

Teraz Koehlerowie byli calem jego wsparciem i pociechą. Pamiętali o najmniejszych jego potrzebach i wygodzie; w samej rzeczy potrzebował Barszczewski téj opieki, bo tak bardzo mało dbał o siebie całe życie. Zrobił raz tylko z Cudnowa wycieczkę do Odessy, a zresztą ciągle przesiadywał u Koehlerów. Za ich nawet wsparciem wydał *Sierotę*, pismo przyjęte uprzejmie przez publiczność polską.

Tak znowu upłynęło lat pięć Barszczewskiemu w Cudnowie.

W styczniu r. b. zapadł śmiertelnie. Smutny koniec choroby przewidział Koehler i sam Barszczewski. Pełen wiary, przez cały czas trwającéj słabości, autor *Zawalni* myślał tylko o Bogu. Kilka razy spowiadał się i przyjmował ciało Zbawiciela. W dniu, który zgon jego poprzedzał, sam prosił o ostatnie pomazanie Olejem świętym, i przyjął ten sakrament z największą przytomnością umysłu, po czém co raz widoczniéj słabieć począł. Hrabina Rzewuska i Koehlerowie znajdowali się przy ostatnich chwilach umierającego. Dziedziczka Cudnowa, podała mu ostatnią filiżankę napoju, a we dwie godziny potém Barszczewski zasnął w Bogu na rękach Koehlera, dnia 11. marca 1851 roku.

Czternastego marca odbył się pogrzeb Barszczewskiego na Cmentarzu w Cudnowie, Konstanty Piotrowski przyczynił się wiele do okazałości tego smutnego obrzędu. Jemu podziękowanie należy od piszącéj braci. Autor *Zawalni* żył lat 61.

J. B.

## Ян Баршчэўскі

Ян Баршчэўскі нарадзіўся ў 1790 годзе[1] ў Марогах[2] ля возера Нешчарда ў былым Полацкім ваяводстве, на самай мяжы Невельскага і Себежскага паветаў, г. зн. на ўсходніх ускраінах даўняе Беларусі. Паходзіў ён з беднае, але пачціваe шляхты[3]. І хоць пра яе зусім не ўспомніў гербоўнік Нясецкага[4], аднак высакародная ў сваёй прастаце, у таварыскім і засцянковым жыцці, яна з тае, можа, прычыны, што жыла ў забыцці і воддаль ад вялікага свету, захавала найбольш родавых элементаў, якія нагадвалі вельмі даўнія соймікавыя часы[5].

Аддадзены ў полацкія школы, Баршчэўскі развіваў свае юначыя здольнасці пад кіраўніцтвам айцоў езуітаў[6]. Ён вельмі рана захапіўся літаратураю, пісаў вершыкі. Вядома, не была гэта ні паэзія, ні натхненне, ні форма, а толькі наследаванне ўзораў класіцызму. Аднак Баршчэўскі ўжо ў школах выславіўся як в е р ш а с к л а д а л ь н і к і калегі ахвотна карысталіся гэтым прыдомкам. Не прапускаў аніводнага выпадку, каб не выступіць з якім-небудзь вершам альбо арацыяй. Не толькі ў школе, але і на вёсцы

---

[1] У літаратуры сустракаюцца розныя версіі года нараджэння Я. Баршчэўскага (ад 1781 г. да 1797 г.). Гл.: М. Хаўстовіч, *Ян Баршчэўскі і ягоны ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ* [у:] Я. Баршчэўскі, *Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях*, Warszawa 2012, с. 12–15; М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, том першы, Варшава 2014, с. 114–139; Д. Лісейчыкаў, *Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596–1839 гг.*, Мінск 2015, с. 136; Д. Виноходов, Д. Лисейчиков, *Штрихи к биографии Яна Барщевского: “От то мое вы брацiхны…*”, “Асоба і час” 2018, вып. 8, с. 17–62; Д. Виноходов, *Штрихи к биографии Яна Барщевского: На исходе зимы 1851 г.*, “Асоба і час” 2020, вып. 9, с. 200–232.

[2] Паводле новых дадзеных Я. Баршчэўскі – хутчэй за ўсё – прыйшоў на свет у вёсцы Няведра Себежскага павета, дзе ягоны бацька Ян Баршчэўскі (1761? – 1832) быў святаром. У Марогах (Мурагах) сям’я Баршчэўскіх апынулася прыкладна ў 1799 г. Гл.: Д. Виноходов, Д. Лисейчиков, *Штрихи к биографии Яна Барщевского: “От то мое вы брацiхны…*”, “Асоба і час” 2018, вып. 8, с. 17–62.

[3] Шляхецкае паходжанне Я. Баршчэўскага сёння не выклікае сумненняў, хоць справа паэта пакуль не выяўленая сярод папераў Герольдыі дваранскіх родаў Расейскае імперыі. Гл.: Д. Виноходов, *Штрихи к биографии Яна Барщевского: “В одном департаменте служил один чиновник”*, “Асоба і час” 2016, вып. 7, с. 76–101.

[4] Гаворка пра Каспара Нясецкага (1682–1744), аўтара гербоўніка *Korona polska przy złotej wolności starożytnymi wszystkich katedr, prowincji i rycerstwa klejnotami <…> ozdobiona, potomnym zaś wiekom na zaszczyt i nieśmiertelną sławę pamiętnych w tej ojczyźnie synów podana...*, t. 1–4, Lwów 1728–1743.

[5] Два наступныя абзацы некралогу Ю. Барташэвіча – пераказ адпаведных мясцінаў прадмовы Р. Падбярэскага.

[6] “Полацкімі школамі” Ю. Барташэвіч называе Полацкі езуіцкі калегіум, дзе Я. Баршчэўскі мог вучыцца (дакументы пакуль не выяўленыя) да вайны 1812 г., і Полацкую езуіцкую акадэмію, студэнтам якое паэт быў у 1813 –1817 гг.: ён наведваў заняткі на факультэце філасофіі і вольных навук (класы: логікі, фізікі, права і красамоўства), а таксама на факультэце тэалогіі (клас маральнае тэалогіі).

ў бацькоў ці ў засценках у суседзяў, у свята альбо на ўрачыстасць, на вакацыях выхваляўся сваімі паэтычнымі здольнасцямі. Таксама добра маляваў. Браў у руку аловак і з натуры крэсліў прыгожыя краявіды роднае зямлі альбо, калі займаў яго досціп, маляваў пацешныя карыкатуры на радасць засценкаў, якія сардэчна смяяліся. Усюды любілі Баршчэўскага. Без яго ў ваколіцы не абыходзіліся аніводныя імяніны альбо дні нараджэння, аніводнае залатое ці срэбранае вяселле; усе яго запрашалі ды частавалі. Цягнула да сябе паэта бедная шляхта, і меў юнак з гэтага няраз карысць. Адзін даваў яму мерку пшаніцы, другі – гароху, гэты грэчкі насыпаў у торбу, той мяшэчак бобу альбо крупаў ціха клаў у падарожную брычку[1]. Такім спосабам жыў на ласцы божай бедны полацкі студэнт, прарок роднага краю.

А часам, калі пакідаў засценкі, цягаўся Баршчэўскі па беларускіх кірмашах – Арцейкавічы, Галубаў, Межаў і Галоўчыцы. То шляхціц Урвойскі схопіць паэта і як дарагі скарб возіць па кірмашах, то Латышэвіч падарожнічае з ім ад мястэчка да мястэчка. Смяяліся, спявалі песенькі, якія складаў для іх малады паэт. Гэтыя песенькі вучылі на памяць браты-засцянкоўцы Заленскія, Праленскія, Юрагі, Урвойскія і Сівохі.

Ідучы такім шляхам, Баршчэўскі мог зрабіцца паэтам простага люду, ці ўласна народным, калі б адчуў у грудзях сапраўднае прарочае натхненне. Сярод вёсак забыў ён пра класічныя формы і спяваў не дзеля літаратуры, але дзеля Белай Русі і на мове народа. Настаўнікі сказалі б пра яго тады, што ён знізіў свой талент да простанароддзя, але нашае пакаленне добра зразумела тую ісціну, што, каб мець нацыянальную паэзію, трэба спачатку выкупаць яе ў вясковай песні, бо толькі ў гэтай песні ёсць элементы першародныя, як у гамеравай паэме, а не наследаваныя, як рымскія і французскія.

Маючы ў 1809 годзе 18 гадоў, полацкі студэнт яшчэ ў Марогах, роднай сваёй вёсцы, кахаў панну Максімавічанку і ёй ахвяраваў беларускую песеньку *Да чім|жэ твоя дзевошко галовкон замята*? Пішучы, не думаў, пэўна, пра друк, аднак песенька да каханае, пераходзячы з вуснаў у вусны, дажыла ажно да сягоння. Марогі былі ўлюбёным месцам паэта. З Полацка заўсёды сюды вяртаўся і адсюль рабіў вандроўкі ў ваколіцы. Мы не ведаем, чым закончылася ягонае каханне да Максімавічанкі, час і людзі, пэўна, астудзілі пачуццё, і страсць мінулася. Але і праз тры гады Баршчэўскі яшчэ спяваў у Марогах на сваёй беларускай ліры. Бачыў вялікую вайну Напалеона: і яго войска, і сутычкі сялян у лясах з французамі, калі тыя адступалі. У Полацкім і Віцебскім паветах пачаліся першыя бітвы, і там найбольш лютавалі найбольш забойчыя стыхіі жахлівае вайны. Беларусь, увесь час жабрачая, увесь час убогая, занепадала цяпер пад двайным цяжарам нядолі. Пасля адыходу французаў, крануты выглядам агульнага разбурэння, у Ма-

[1] Р. Падбярэскі дазволіў сабе ў гэтым месцы на досціп: „Biednego bursaka szlachta porywała z rąk do rąk i wynagradzała podług ubogiéj swéj możności, to miarką pszenicy, to miarką grochu, to gryki, to czasem dała bobu!” (Беднага бурсака шляхта рвала з рук у рукі і ўзнагароджвала паводле беднае свае магчымасці то меркаю пшаніцы, то меркаю гароху, то грэчкі, а часам задавала перцу!).

рогах пісаў Баршчэўскі верш *Рабункі мужыкув*[1]. Сёння запэўніваюць[2] нас, што гэта нацыянальная паэма, што жыве і жыць будзе ў вуснах люду. Кажуць, што быў гэта верш слаўны па ўсёй Беларусі, што наш паэт стаўся папулярным і адзіным прарокам свае Украіны[3]. Яго вершаваныя творы траплялі да ўсіх. Ведалі іх дзеці, а нянькі напявалі над калыскамі думкі Баршчэўскага, калі так можам назваць гэтыя творы самароднае музы без аздобы і прэтэнзій.

Трэба было нарэшце пакінуць полацкія школы і выбраць свой шлях у жыцці.

Доўга думаў Баршчэўскі. Закончыўшы курс пад наглядам езуітаў, з дыпломам у руках[4], славуты прарок роднага краю, аўтар новае паэмы пра *Пояс Венеры*[5], класік і творца, лічыўся лепшым за іншых. Ведаў добра латынь і грэцкую мову, чытаў Цыцэрона і Вергілія. Быў грунтоўна вывучаны і вырашыў заняцца мазольнаю працаю, якая магла б, аднак, заслужыць увагу паноў. Паэзіі пакідаць не хацеў і меркаваў, што ў час гувернёрства знойдзе не адну шчаслівую вольную хвіліну, каб часам уздыхнуць да свае музы. Толькі гэтая праца не давала аніякіх надзей на будучае. Змучаны думкамі ды клопатамі, з некалькімі злотымі[6] ў кішэні, пусціўся ён нарэшце ў свет, пешкі, з хатульком за плячыма. Першым яго намерам было накіравацца ў Вільню, бо меў яшчэ ахвоту слухаць навукі ва ўніверсітэце[7], каб цалкам падрыхтавацца да гувернёрства. На паўдарозе адпачываў сабе ля каменя ды думаў пра будучае. Без фундушу, без знаёмых у Вільні, што мусіў чыніць? куды пайсці на начлег? да каго звярнуцца па раду і дапамогу? І тут пад’ехаў

---

[1] Пра сялянскія выступленні ў ліпені 1812 г. у ваколіцах возера Нешчарда, якія сталі асноваю твора Я. Баршчэўскага, гл.: Д. Виноходов, *Штрихи к биографии Яна Барщевского: “Дубина народной войны”*, “Вестник Полоцкаго государственного университета”, сер. А, 2020, с. 2–12. Цікава адзначыць: у в. Шнітаўкі быў павешаны не Мінка, лёкай пана Маліноўскага, а шляхціц Леан Ігнатоўскі, што стаўшы на французскую службу, бунтаваў сялян памешчыкаў Маліноўскага, Рыпінскага, Снарскага, Палітыкі, Драшкоўскага і Багамольца. Эскадрон Маскоўскага драгунскага палка стлуміў сялянскі бунт і захапіў у палон ягоных кіраўнікоў, якіх расейскія вайскоўцы асудзілі на смерць: Данілу Макарава (в. Казуліна), Сямёна Грачуху (в. Дворышча) і Ларывона Куршонка (в. Дзейчына).

[2] Відавочна, маецца на ўвазе Р. Падбярэскі.

[3] Так у Ю. Барташэвіча. Трэба, відаць: *Беларусі*.

[4] Дыплома (г. зн. ступень кандыдата) Полацкае езуіцкае акадэміі Я. Баршчэўскі ў той час не атрымаў. І толькі ў 1834 г., мяркуючы атрымаць пасаду настаўніка ў Пецярбурзе, ён звярнуўся да рэктара Пецярбургскага ўніверсітэта з просьбаю здаць экзамен дзеля атрымання атэстату. Гл.: Д. Виноходов, *Штрихи к биографии Яна Барщевского: “Он знал довольно по-латыне”*, “Белорусский сборник”, вып. 6, 2015, с. 51–59.

[5] Паэма не захавалася.

[6] У першай палове XIX ст. злоты выкарыстоўваўся адно на тэрыторыі Польскага Каралеўства.

[7] Гіпатэтычна можам прапанаваць, што ў Вільню Я. Баршчэўскі накіраваўся ў 1817 г., пасля таго, як пакінуў Полацкую езуіцкую акадэмію.

стары знаёмы з Беларусі падсудак J.[1], які вяртаўся з Вільні. Шляхетны грамадзянін затрымаўся і, бачачы Баршчэўскага такім самотным і пакінутым усімі, пашкадаваў беднага, намовіў яго вярнуцца, пасяліў у сваім доме ды прасіў паэта, каб вучыў ягоных дзяцей. Міла праводзіў час вандроўнік у падсудка J. Быў ягоным рэзыдэнтам, прыяцелем, дарадцам. Няраз Баршчэўскі сваімі размовамі ды вершамі чыніў больш прыемнымі аднастайныя хвіліны на вёсцы, няраз пану падсудку нешта новае паведамляў, і так зноў прайшло колькі гадоў.

Гувернёр перайшоў пасля ў дом князя R.[2], але заўсёды Баршчэўскага паліла прага пазнаць свет і людзей. Маючы крыху больш за дзясятак рублёў, ён пусціўся ў падарожжа ў Пецярбург[3]. Меркаваў, што там знойдзе нейкі больш сталы занятак ды лепшую будучыню.

Шмат палякаў жыло ў сталіцы імперыі, а найбольш беларусаў. У Вільні, можа б, не знайшоў, а ў Пецярбурзе, напэўна, спадзяваўся знайсці сяброў. Але ва ўсім велізарным горадзе ён спаткаў аднаго толькі знаёмага, гэта быў пан Гаўдэнты Шапялевіч[4], беларус, калега яшчэ па вучобе ў Полацку, таксама паэт, аўтар *Псіхеі*, класічнае паэмы з добрага дзясятка песень, напісаных васьмірадковымі стансамі, як *Манахамахія* Красіцкага. Шапялевіч, які раней пасяліўся ў Пецярбурзе, ведаў ужо ўвесь горад і перш за ўсё беларусаў[5]. Такім чынам, першыя крокі павінны былі атрымацца. Баршчэў-

---

[1] Пасада падсудка ў Расійскай імперыі першае чвэрці XIX ст. была толькі ў павятовых судах Віцебскае, Магілёўскае і Мінскае губерняў. У склад суда ўваходзіў суддзя, два падсудкі і пісар.

[2] Гаворка пра князя Аляксандра Рамаданоўскага-Ладыжанскага. Зусім верагодна, Я. Баршчэўскі быў гувернёрам ягоных дзяцей – Канстанціна і Юрыя. Родавы маёнтак Рамаданоўскіх Прыгарына знаходзіўся блізу возера Няведра. Гл.: Д. Виноходов, *Штрихи к биографии Яна Барщевского: Архив К.С. Сербиновича*, “Асоба і час” 2015, вып. 6, с. 17–37.

[3] Магчыма, гэта адбылося летам 1824 г., калі Я. Баршчэўскі прыехаў у Пецярбург са сваім выхаванцам князем Канстанцінам Рамаданоўскім-Ладыжанскім, які паступаў у Пажаскі корпус. Гл.: *Ibidem*.

[4] Гаўдэнты Шапялевіч (1798–1846) – паэт, калега Яна Баршчэўскага, магістр філасофіі і кандыдат вольных навук – пасля закрыцця Полацкае езуіцкае акадэміі, як сведчаць дакументы [ЦДГА ў Мінску, ф. 3157, воп. 1, спр. 95. (*Аб прызначэнні Шапялевіча настаўнікам лацінскае мовы Віцебскае гімназіі*), а таксама ЦДГА ў Мінску, ф. 3157, воп. 1, спр. 181. (*Аб антыўрадавых песнях і вершах, знойдзеных у вучняў Віцебскае гімназіі і прыналежнасці да гэтага настаўніка Шапялевіча*)], служыў у 1820–1830 гг. у Пецярбурзе ў Дэпартаменце духоўных спраў замежных веравызнанняў, маючы чын калежскага сакратара. У 1830–1834 гг. працаваў настаўнікам лацінскае мовы ў Віцебскай гімназіі, адкуль звольнены ў сувязі са справаю Т. Лады-Заблоцкага. Супрацоўнічаў з альманахам “Niezabudka” і газетаю “Tygodnik Petersburski”. У аснове польскамоўнае паэмы *Псіхея* (Пецярбург, 1843) – міфалагічны сюжэт, шырока вядомы яшчэ з часоў Апулея. Да сястры Г. Шапялевіча Юлі Корсак пісаў Я. Баршчэўскі з Пецярбурга лісты, якія сёння захоўваюцца ў Віцебскім краязнаўчым музеі.

[5] У сталіцы Расейскае імперыі жыло і працавала некалькі дзясяткаў выпускнікоў Полацкае езуіцкае акадэміі.

скі знайшоў сяброў і апекуноў у сталіцы. Стукаўся тут і там, глядзеў на зухаватыя твары лёкаяў у перадпакоях; нарэшце ён адолеў першыя няўдачы. У выніку зноў наладжаных сувязяў атрымаў ён дзяржаўную пасаду і пачаў працаваць у марскім аддзеле[1]. Але палымянае замілаванне да навукі і цалкам паэтычная натура, якая прымушала яго імкнуцца да незалежнага спосабу жыцця, былі прычынаю таго, што Баршчэўскі хутка кінуў службу і зноў заняўся гувернёрствам[2]. Даваў, такім чынам, урокі ў прыватных дамах Пецярбурга, а пасля і ў некалькіх дзяржаўных установах[3]. У сталіцы Расейскае дзяржавы прыватнаму настаўніку плацяць лепей, чым дзе ў іншым месцы. За адзін урок кожны атрымае колькі рублёў срэбрам, тым больш вучоны прафесар і славуты паэт. Баршчэўскі не быў славуты, але мог урокамі добра задаволіць першыя жыццёвыя патрэбы. Праўда, у Пецярбурзе дарагоўля, але з тых, хто хацеў і ўмеў працаваць, ніхто не памёр у галечы. Больш за дзесяць гадоў Баршчэўскі навучаў грэцкай і лацінскай мовам, і гэтыя сталыя дачыненні яго з граматыкаю і з аўтарамі выпрацавалі ў ім нейкую звычку, нейкую прыхільнасць да старажытнае літаратуры, і гэтага ён ніколі не хаваў. Выславіўся сярод сваіх у Пецярбурзе як глыбокі эліністі філолаг. Да яго звярталіся беларусы ў шмат якіх выпадках. Як самому некалі была патрэбная дапамога, так цяпер ён станавіўся агменем, да якога цягнуліся іншыя. Пачаў бываць у магнацкіх дамах. Прымалі яго ўсюды з радасцю як чалавека вялікіх ведаў і надзвычай лагоднага характару. Аднойчы ў Пецярбурзе Баршчэўскі вучыў лаціне нейкую графіню, што ехала ў Італію.

Знайшоў магчымасць зрабіць колькі марскіх падарожжаў з Пецярбурга, бачыў берагі Францыі ды Англіі[4]. Назбіраўшы грошай, вандраваў па далёкіх ваколіцах, а пасля вяртаўся да працы і вучыў зноў.

Не кідаў ён, аднак, літаратуры, пісаў увесь час, хоць нічога не друкаваў. Быў якраз тады ў Пецярбурзе знакаміты аўтар *Конрада Валенрода* і *Гражы-*

---

[1] Уладкаваўшы князя К. Рамаданоўскага-Ладыжанскага ў Пажаскі корпус, Я. Баршчэўскі на некалькі месяцаў вярнуўся ў Беларусь (каб атрымаць у Віцебскай шляхецкай зборні атэстат пра шляхецкае паходжанне) і зноў прыехаў у Пецярбург ды ўладкаваўся на пасаду канцылярыста ў Эканамічны камітэт па работах у Санкт-Пецярбурзе Галоўнае ўправы шляхоў зносінаў (10.03.1825 – 18.11.1825). Відаць, у гэтым жа годзе ён пазнаёміўся з віцэ-адміралам Макарам Ратманавым (1772–1833) (служыў гувернёрам у яго сям'і?), які ўладкаваў паэта ў Марское міністэрства, дзе служыў сам (спачатку ў Аўдытарыяцкім, а пасля Інспектарскім дэпартаментах). Гл.: Д. Виноходов, *Штрихи к биографии Яна Барщевского: "В одном департаменте служил один чиновник"*, "Асоба і час" 2016, вып. 7, с. 76–101.

[2] У Марскім міністэрстве Я. Баршчэўскі служыў амаль дзесяць гадоў (з 25.01.1825 г. да 1834). Гл.: *Ibidem*.

[3] У вядомых нам адрас-календарах і даведніках дзяржаўных школьных устаноў Пецярбурга прозвішча Я. Баршчэўскага не сустракаецца. Але, магчыма, ён працаваў настаўнікам у адчыненым у 1833 г. пансіёне для хлопчыкаў Я. Эйнерлінга.

[4] Магчыма, марскія падарожжы Я. Баршчэўскі здзейсніў у часе свае службы ў Марскім міністэрстве.

*ны*, які раптам заззяў на небасхіле польскае паэзіі як зорка першае велічыні[1]. Маладыя літаратары прыносілі Адаму плён свае працы, туліліся пад прарочым крылом. Баршчэўскі прынёс таксама сшытак з вершаванымі творамі. І любіў часта паўтараць потым перад маладзейшымі, што аўтар *Гражыны* чытаў яго вершы, што пахваліў іх і што сваёй рукою паправіў асобныя з іх. Баршчэўскі захоўваў гэтыя аркушы як памятку. Папраўкі, аднак, не закраналі саму паэзію, а толькі спосаб выяўлення: няўдаласць формы, а не духу папраўляў знакаміты мастак.

І вось класік пад уплывам новых уяўленняў пакрысе перамяняўся ў рамантыка. Баршчэўскі пачаў складаць балады і збіраць народныя паданні Беларусі. Дык штогод выпраўляўся са сталіцы пешшу ў родныя мясціны. Узімку працаваў, вучыўся і вучыў іншых, але як толькі вясна кранала зеллянінаю палі, а сонца саграваў свет божы, Баршчэўскі, як вясновы жаўрук, вылятаў у ваколіцы Полацка, Віцебска і Мсціслава. З кіем у руках абыходзіў вясковыя хаты, збіраў легенды і запісваў песенькі. Гэтае падарожжа асвяжала яго, давала сілы змагацца з лёсам, апраменьвала чало натхненнем.

Ізноў прайшло больш за дзесяць гадоў у працы і сталых вандроўках. Баршчэўскага непакоіла думка, што нічога не зрабіў, што ніякіх заслуг яшчэ не мае перад літаратурай, і не хацеў так закончыць жыццё, не пакінуўшы па сабе ні імя, ні якое памяткі на свеце.

Колькі маладых людзей у Пецярбурзе збіраліся супольнымі сіламі выдаваць літаратурны альманах. Неставала ім, аднак, цэнтра цяжару, пункту апоры. Мелі досыць твораў, але трэба было, каб нехта адзін заняўся непасрэдна выданнем альманаха, г. зн. узяў на сябе эканамічную частку задачы. Гэты нехта мусіў быць абавязкова з па-за кола літаратурнае моладзі[2]. Баршчэўскі, уведзены ў гэтую сябрыну праз В. Д.[3], стаўся агменем

[1] Гаворка пра Адама Міцкевіча, які ўпершыню апынуўся ў Пецярбурзе 6 лістапада 1824 г. і знаходзіўся ў сталіцы да 24 студзеня 1825 г. З Я. Баршчэўскім ён мог сустрэцца ўжо тады, бо А. Міцкевіч меў пэўныя дачыненні з ліцвінска-беларускім зямляцтвам, прынамсі, з мастаком Юзафам Аляшкевічам; але таксама і ў канцы 1820-х гг., калі спрабуючы наладзіць выданне часопіса "Irys", прыязджаў і жыў у сталіцы імперыі з 6 снежня 1827 да 27 студзеня 1828 г. А яшчэ праз некалькі месяцаў, у красавіку 1828 г., А. Міцкевіч перасяліўся ў Пецярбург, дзе знаходзіўся да 15 мая 1829 г. – дня выезду за мяжу.

[2] З 1836 г. у Пецярбурзе існавала студэнцкае зямляцтва ўраджэнцаў былое Рэчы Паспалітае, якое налічвала ў сваім складзе блізу 100 чалавек. Зямляцтва напачатку выдавала рукапісны часопіс "Pamiętnik", у якім змяшчаліся вершы, артыкулы, пераклады, рэцэнзіі на прачытаныя кнігі, нататкі пра культурнае жыццё Пецярбурга і студэнтаў. Увосень 1839 г. прадстаўнікі зямляцтва звярнуліся да цэнзуры за дазволам на выданне неперыядычнага штогодніка, складзенага з твораў студэнтаў Пецярбургскага і Маскоўскага ўніверсітэтаў, а таксама іх знаёмых з Беларусі і Літвы. Але ў тагачаснай Расейскай імперыі студэнтам не дазвалялася займацца камерцыйнай дзейнасцю.

[3] Гаворка пра Вінцэнта Давіда (1816–1897), літаратара і педагога, рэдактара першых томікаў "Niezabudki". Пра свае дачыненні з Я. Баршчэўскім ён расказаў падчас след-

ства ў 1843 г.: "Яшчэ на трэцім годзе майго навучання ва ўніверсітэце Ян Баршчэўскі, прыватны настаўнік, увёў мяне ў дом Абрамовічаў, дзе, як мяне запэўніў Баршчэўскі, сам бацька нікога не прымаў дома, калі той не быў заўзятым патрыётам. А з тае прычыны, што ягоная дачка Ёанна падабалася мне і жадала вершаў, дык я напісаў ёй *Godło*, прынагодны вершык у тым духу, каб спадабацца ейным бацькам. Той самы Баршчэўскі ўвёў мяне ў дом Асташкевічаў (Нарцыз Асташкевіч застаецца ў Пецярбурзе чыноўнікам у Вайсковым дэпартаменце). А з тых 2 дамоў, калі сам меў кніжкі ад іх, таксама свае часам даваў ім. Адзін з калегаў юрыдычнага факультэта, Казлоўскі, што прыехаў з Кіеўскага ўніверсітэту, больш за іншых уздзейнічаў на мяне. Ён спяваў шмат песняў, дэкламаваў і апавядаў, што прыходзіла яму ў галаву. Даў мне нават на праўку нейкую драму *Pierścionek*, якую я пачаў перапрацоўваць у аповесць у стылі *Тадэвуша*, дадаючы малюнкі, запазычаныя з апавяданняў Баршчэўскага. Але не закончыў і так засталася. Казлоўскі таксама заахвочваў напісаць верш на 29 лістапада, прычыну сапраўднага майго вар'яцтва. Калі сам Казлоўскі памёр, бо хворы ад'ехаў з універсітэта, дык пасведчыць ягоны калега, Бачкоўскі, які бачыў, якія рукапісы даваў мне Казлоўскі. Але сваіх вершаў я яму не чытаў, бо ледзь Казлоўскаму здолеў прачытаць пачатак верша на 29 лістапада (Бачкоўскі застаўся ў Пецярбурзе на нейкай службе). Іншыя калегі могуць засведчыць, што Казлоўскі апавядаў пра Міхальскага з Падолля (Міхальскі за прыналежнасць да справаў Канарскага пазней высланы ў Сібір) і якія спяваў песенькі. Гэты верш, пэўна, і Місіньскаму (настаўнік у Плоцку) даваў чытаць, жывучы доўга з ім, хоць гэтага добра і не памятаю. Але калі мне Барташэвіч зганіў той верш, дык нікому там не паказваў, адно што толькі ў Сувалках. Перад ад'ездам са сталіцы я паслаў у Вільню кнігару Адаму Завадскаму некалькі дзясяткаў асобнікаў альманаха «Niezabudka», якія атрымаў ад выдаўца Баршчэўскага за супрацоўніцтва. За што Завадскі даслаў мне шмат гістарычных помнікаў, напрыклад, Нямцэвіча, Атвіноўскага, Кітовіча, Паска, Радзівіла, Гісторыю Яна Казіміра. Толькі асобныя з іх пазней я забраў, едучы праз Вільню. Вось так універсітэт і знаёмствы згубілі мяне. Пастаянна то спеўкі, то кнігі, апавяданні, паказкі, якія апавядалі ранейшыя, а пазней і новыя калегі, якія прыязджалі. Я быў нямым слухачом усяго, і тым больш глыбока праняла мяне атрута. Вось імёны тых калегаў: Шлезыгер, Пятроўскі, Мішкель, Казлоўскі, Чарвінскі, Гарэцкі, Мазуркоўскі (усе цяпер з'яўляюцца настаўнікамі ў краі). На маё няшчасце калегі-расіяне праследавалі мяне, а палякі пачалі хваліць маю пісаніну і заахвочвалі, каб пісаў. Шлезыгер збіраў літаратурныя тэксты ў «Pamiętnik», якія пазней Баршчэўскі пачаў змяшчаць у «Niezabudce». А калі Баршчэўскі пазнаёміў мяне з Абрамовічамі, а пазней з домам Асташкевічаў, я купаўся ў памыях дурнога патрыятызму. Калі прыходзіў хто незнаёмы, не рэкамендавалі мне яго інакш, толькі як добрага патрыёта, а ён адразу выкладваў мне ўсё, што ведаў. Фатальныя вершы, якія мне даў Казлоўскі, абудзілі ў мяне жаданне патрыятычнае творчасці, тым больш, што мне заўсёды прапаноўвалі новыя вобразы то калегі, то Абрамовічы сваімі апавяданнямі ды паказкамі. А найбольш заахвочваў (entuzjazmował) мяне Баршчэўскі". Гл.: *Rewolucyjna konspiracja w Królewstwie Polskim w latach 1840–1845. Edward Dembowski*, Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk – Łódź 1981, s. 293–294. У апошні час апублікаваныя асобныя дакументы следчае справы В. Давіда. Гл.: Д. Виноходов, *Штрихи к биографии Яна Барщевского: НА ТЕБЯ ДОНОС, ВАНЮША*, "Асоба і час" 2020, вып. 9, с. 200–245.

навуковага руху, які неўзабаве ўзняўся на больш высокую прыступку. Уласнымі грашыма, а таксама грашыма з падпіскі ён заплаціў за друк[1]. Так нарадзілася "Niezabudka"[2].

"Niezabudka" выходзіла ў Пецярбурзе пяць гадоў (з 1840 г. да 1844 г.). Яна была плёнам першых намаганняў і працы сціплых аўтараў, якія толькі пачыналі сваю дзейнасць. Была тут проза і вершы. З прозы – невялікія артыкулы па эстэтыцы, апавяданні; з паэзіі – дробныя творы, санеты, легенды, балады. Да моладзі, якая заснавала "Niezabudkę", далучылася неўзабаве група беларусаў, бо, апрача Баршчэўскага, яшчэ Вінцэнт Рэвут[3] і Гаўдэнты Шапялевіч друкавалі ў ёй свае вершы. З віленскае моладзі ў "Niezabudkę" давалі творы Станіслаў Ляховіч і Людвік Плашынскі[4]. Напэўна, сціплы пецярбургскі альманах не мае вялікіх заслугаў перад польскаю літаратураю, але і ён, здаецца нам, існаваў не дзеля таго, каб здзіўляць. Дзякуючы сувязям Баршчэўскага "Niezabudkę" выпісвала ўся Беларусь, і мноства экземпляраў ішло таксама ў Вільню і Варшаву. Трэба прыгадаць яшчэ, што ў "Niezabudce" ўпершыню выступіла са сваім сатырычным талентам Элеанора

[1] На першы томік альманаха падпісаліся 295 асобаў.

[2] Крыху іншую думку пра нараджэнне "Niezabudki" меў Станіслаў Аўгуст Ляховіч (каля 1820 – 1882), калега В. Давіда і Ю. Барташэвіча: "Увогуле, «Niezabudka» гэтага года ў літаратурным значэнні ёсць nulle – апрача аднае толькі аповесці пані Штырмер. Бо мэта «Niezabudki» – быць зборам пачаткоўцаў, тых, хто прабуе свае сілы; для ўсіх яна адчыненая; кожны можа змясціць свае тэксты, хто толькі больш-менш мае талент. І з гэтага пункту гледжання, можа, яна і мае якую заслугу. Каб Пан мог зразумець «Niezabudkę», трэба яму ведаць, які быў яе пачатак і адкуль яна ўзялася. Больш за два гады таму вырашыла польская ўніверсітэцкая моладзь выдаваць і выдавала штомесяц рукапісны сшытак у шэсць аркушаў пад тытулам «Pamiętnik uniwersiteckiego pożycia», які складаўся з пладоў саміх толькі студэнтаў нашага ўніверсітэта. Вось з гэтага «Pamiętnika» і ўзніклі першы і другі томікі «Niezabudki». Трэба было камусьці ўзяць на сябе рэдагаванне. З нас ніхто не мог, ці, хутчэй, нікому нельга было, не выпадала па вельмі ясных прычынах. Дык мы напісалі першае лепшае прозвішча на вокладцы, але рэдагавалі на працягу двух гадоў мы самі". Гл.: Ліст С.А. Ляховіча да Ю.І. Крашэўскага ад 14.04.1842 г. Rkps BJ, sygn. 6457IV, k. 12.

[3] Гаворка пра Газдава-Рэвута Вінцэнта (каля 1810 – да 1883) – літаратара, уладальніка маёнтку Мосар; яго жонка Кацярына – сваячка Т. Лады-Заблоцкага. Вучыўся ў Віцебскай гімназіі разам з Т. Лада-Заблоцкім. Друкаваў свае творы ў "Niezabudce", "Rubonie", "Roczniku Literackim", "Ondynie", "Wizerunkach i Roztrząsaniach Naukowych". Яго верш ёсць у "Альбоме" Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. У маёнтак Мосар В. Газдава-Рэвута наведваліся шматлікія літаратары краю: Т. Лада-Заблоцкі, Я. Баршчэўскі, Р. Падбярэскі ды інш. Захаваўся яго ліст да Ю.І. Крашэўскага. У пачатку XX ст. у архіве Рамуальда Зямкевіча быў ліст В. Газдавы-Рэвута да Ігната Легатовіча, у якім апавядалася пра сустрэчы Т. Шаўчэнкі з Я. Баршчэўскім і Р. Падбярэскім. У сваёй творчасці выкарыстоўваў беларускі фальклор (прысвечаная "Białorusinam" вершаваная аповесць *Жонка*, у падтытуле якое аўтар пазначае, што гэта "беларуская аповесць", напісаная "З народнага падання").

[4] Людвік Плашынскі ў 1838 г. закончыў Віленскі шляхецкі інстытут. Надрукаваў у альманаху Я. Баршчэўскага шэраг вершаў. Гл.: Janina Godlewska, *Wileński instytut szlachecki (1834–1863)*, "Rozprawy z dziejów oświaty" 1985, t. XXVIII, s. 158.

Штырмер[1]; перш *Пантопель* і *Успаміны арыгінальна выхаванае кабеты* былі надрукаваныя ў альманаху, а пасля выйшлі асобна *Фрэнафагіуш* [і] *Фрэналесты*, *Душа ў сухотах* і г. д.

Магчыма, мы знайшлі б яшчэ не адну прычыну, каб пагаварыць пра "Niezabudkę", калі б не займаў нас цяпер адзіна і выключна яе ўдаваны[2] рэдактар, а хутчэй выдавец Баршчэўскі.

Баршчэўскі друкаваў у "Niezabudce" толькі балады, заснаваныя на народных паданнях, і апісальныя вершы. Не было ў яго паэтычных творах натхнення, а толькі выкутая на стары лад, па класічнаму, рыфма. І не гэтай дарогаю павінен быў ісці Баршчэўскі, каб набыць імя ў літаратуры. Неўзабаве заўважыў ён гэта, а можа, яго перасцераглі[3]. "Niezabudka" ўвесь час

---

[1] Маецца на ўвазе адзін са стваральнікаў польскае псіхалагічнае прозы Людвік Штырмер (1809–1886), паўстанец 1830–1831 гг., вязень, а пасля палкоўнік Генеральнага штабу. Напрыканцы XIX ст. ягоная жонка Элеанора, імем якое пісьменнік падпісваў свае творы, прыгадвала ў лісце да Аляксандра Валіцкага пра пачатак літаратурнае творчасці свайго мужа: "Выдавец пецярбургскага альманаха п. Баршчэўскі быў нашым штодзённым госцем і прыяцелем. Не ведаю, адкуль яму прыйшла думка прасіць мяне напісаць які-небудзь артыкул у альманах. Мой муж, будучы сведкам ягонае просьбы, а мае адмовы, сказаў жартам: «Будзь спакойны, Баршчэсю, даю табе слова, што будзеш мець аповесць». Сапраўды, з'явіўся *Пантопель*. Аповесць мела поспех...". Гл.: Ліст Э. Штырмер да А. Валіцкага. Rkps BN, sygn. 2976, k. 185. У "Niezabudce" друкаваліся: *Pantofel. Historyja mojego kuzyna* (t. II, s. 106–213), *Urywki z pamiętnika oryginalnie wychowanej kobiety* (t. III, s. 35–145), *Trupia główka* (t. IV, s. 22–82), *Magda karczmarka* (t. IV, s. 89–93), *Błogosłowieństwo matki* (t. V, s. 17–78).

[2] Так Ю. Барташэвіч хоча падкрэсліць, што правільна будзе лічыць Я. Баршчэўскага адно выдаўцом, а не рэдактарам альманаха. Зрэшты, пра ўдзел Я. Баршчэўскага ў рэдагаванні сведчыць С.А. Ляховіч: "«Niezabudka» цалкам перайшла пад рэдакцыю Баршчэўскага і апынулася на новай дарозе. Тое, што гэтая новая дарога давядзе яе да заняпаду – няма нічога пэўнейшага. З нашага шляхетнага намеру зрабілася *metier* (франц. – бізнесам). Баршчэўскі неспадзявана ды міжволі неяк *lance duns cianiere*, без аніякіх літаратурных прынцыпаў рэдагуе гэты альманах, напіхваючы яго ўласнымі вяршыдламі, – якіх і ў тым годзе было шмат у рукапісе «Niezabudki», а што не ўбачылі яны свету – чытач абавязаны толькі мне, апошняму з даўніх супрацоўнікаў, спадкаемцу Давіда. Але і так з прычыны ўпартасці выдаўца засталося іх шмат і шмат. Грахоў гэтых не бяру на сябе". Гл.: Ліст С.А. Ляховіча да Ю.І. Крашэўскага ад 14.04.1842 г. Rkps BJ, sygn. 6457IV, k. 12. Пра рэдагаванне альманаха пісаў Юлі Корсак і сам Я. Баршчэўскі: "Ледзь знайшоў час, каб напісаць ліст. Так быў заняты сваім альманахам! Рэдагаваў асобныя творы, перапісваў, цэнзура ды іншыя меў клопаты. Цяпер, дзякуй Богу, ён ужо друкуецца і дастаткова паспешна. Альманах на наступны год будзе элегантны. Пан Жукоўскі, добры мастак, рупліва заняўся літаграфіяй малюнкаў для асобных аповесцяў ды баладаў. І такіх шэсць карцінак будзе змешчана ў кожнай кніжцы. Таксама і партрэт пані Штырмер да ейнае аповесці. Цяперашні яе твор, здаецца, болей заслугоўвае на ўвагу, чым мінулагодні". Гл.: Ліст Я. Баршчэўскага да Ю. Корсак ад 28.12.1841 г. Віцебскі абласны краязнаўчы музей, КП 7324/23.

[3] Здаецца, першым, хто звярнуў увагу на балады Я. Баршчэўскага, быў Міхал Грабоўскі, уплывовы тагачасны крытык: "Балады паэта заснаваныя на простанародных беларускіх традыцыях. Але шкада, што былі змайстраваныя на ўзор усіх баладаў, якія жахліва стаў банальны, але і напачатку быў не без заганаў. Традыцыя, як ужо

выяўляла, аднак, прыкметы жыцця, хоць творцы яе пакінулі Пецярбург. Баршчэўскі, захоплены працаю, ужо не спыняўся і замест альманаха пачаў выдаваць творы. Кінуўшы рыфмаванне, узяўся за апрацоўку народных паданняў Беларусі, якіх столькі назбіраў у дзяцінстве, якіх столькі захавалася ў ягонай памяці, і атрымлівалася гэта ў яго непараўнальна лепей.

На такі выратавальны выбар скіраваў яго рэдактар "Rocznika Literackiego", які тады знаходзіўся ў Пецярбурзе і сканцэнтраваў вакол сябе новае жыццё[1]. Выратавальны, кажам, выбар, бо дзякуючы яму Баршчэўскі заняў і будзе заўсёды мець сваё месца ў польскай літаратуры.

Уявіў сабе Баршчэўскі, што ў доме шляхціца Завальні збіраецца цікавая сябрына. Завальня любіў паданні і казачныя аповеды пра чарцей і жахі, пра прывіды і заклятых каралевічаў, і прыгожых, нібы сонца, каралеўнаў. Дык вось госці Завальні па чарзе расказвалі адзін аднаму надзвычай прыгожыя вясковыя гісторыі, у якія верыў беларускі люд. Гэта і ёсць форма твора, якую абраў сабе Баршчэўскі. У чарговых апавяданнях праходзяць перад нашымі вачыма, праз усе чатыры томікі, чары і летуценні, чыстая фантазія народа, увасобленая ў слове. Мелася быць ажно шэсць тамоў, але, не ведаем чаму, двух для завяршэння твора нестае, бо выйшла толькі чатыры.

---

простанародная паэзія, мае сваю ўласную сукенку, калі б якую не здымалі, дык болей было б прывабнасці ды разнастайнасці ў форме. Мы хацелі б бачыць гэтыя паданні ў першаснай чысціні". Гл.: Gr. M., *Niezabudka. Rok 1842*, "Tygodnik Petersburski", 1842, nr 46.

[1] Гаворка пра Р. Падбярэскага, які ў маі 1841 г. прыехаў у Пецярбург і, пазнаёміўшыся з мясцовымі (расейскім і "польскім") літаратарамі, рабіў спробы актывізаваць літаратурнае жыццё ў сталіцы імперыі. Асабліва ўдала атрымалася з гуртком беларускае інтэлігенцыі: беларусаў Р. Падбярэскі, як "сусед-зямляк", заахвочваў да творчасці, заклікаў болей выказваць народнага духу; урэшце, звяртаў увагу на адметнасць ды самабытнасць беларускага краю і люду. Жаданне стаць выдаўцом альманаха ці часопіса вымушала яго прасіць творы ў слынных польскамоўных пісьменнікаў – Ю.І. Крашэўскага, М. Грабоўскага, Г. Жавускага ды інш. Я. Баршчэўскі не ўваходзіў у лік "слынных", але Р. Падбярэскі знайшоў, якім чынам выкарыстаць і яго: "Пан Баршчэўскі заняўся больш адпаведнаю для сябе працаю; ён узяўся за апісанне ўсіх класаў пецярбургскага грамадства; мае цікавы артыкул пра літаратурныя суполкі. Ён заўсёды мае на мэце нашых землякоў, а беларусам дасталося больш за ўсіх; ужо ў палове твора. Сама душа Баршчэўскага выяўляецца на кожнай старонцы, але шкада, што праца ягоная не шмат мае прывабнасці, бо, пэўна, толькі вершам умее пісаць. Аднак гэтая асаблівасць не перашкаджае маляваць сцэны найарыгінальнейшым спосабам, зусім не простым. Для мяне ён піша *Нарысы Беларусі*, бо не ведаю, ці ёсць дзе другі чалавек, каторы б са шмат якіх бакоў знаў так Беларусь. Калі ёсць, дык гультай які, не здольны да пяра. Адкрыўшы гэту якасць у Баршчэўскім, я стараўся адвесці гэтага 50-гадовага дзядульку ад вершавання. А гэта – найпрыстойнейшы арыгінал. Рукапіс ягоны носіць тытул *Пан Тузальскі*, твор, у якім выявіўся ўвесь Баршчэўскі са сваёй паэзіяю, розумам, практычнай абазнанасцю і паняццем пра свет. Ён мае дзве заслугі: знаходка таленту п. Штырмер і напісанне *Тузальскага*, у якім накрэсліў самабытнасць сваіх землякоў. Мусіў і я граць не апошнюю ролю, бо абудзіў ад сну лайдака". Гл.: Ліст Р. Падбярэскага да Ю.І. Крашэўскага ад 15.01.1842 г. Rkps BJ, sygn. 6457IV, k. 244.

Выданнем займаўся рэдактар “Rocznika Literackiego”[1], які змясціў у кнізе крытычны погляд на беларускую літаратуру і, гледзячы праз павелічальнае шкло на родную зямлю Баршчэўскага, пастవараў вялікіх людзей там, дзе іх зусім не было, і вялікія творы, якіх ніхто ў Польшчы не ведаў[2]. Асобны артыкул выдавец прысвяціў нашаму аўтару[3], дзе стараўся таксама ацаніць яго заслугі і ранейшыя працы. Пасля гэтага ўступу пачынаўся *Нарыс паўночнае Беларусі* і сам *Шляхціц Завальня*. Выданне было прыгожае і аздобленае: Рудольф Жукоўскі[4] зрабіў да тэксту гравюры, якія перадавалі галоўныя сцэны апавяданняў. Цана вельмі даступная, па паўрубля за томік.

Гэты арыгінальны твор, адзіны па сваёй форме ў нашай літаратуры, сапраўды дае Баршчэўскаму права на прызнанне. Вершы, якія наш аўтар выдаў асобным томікам, не маюць і сотае часткі тых вартасцяў, што *Шляхціц Завальня*. Гэта разумелі нашыя крытыкі, якія аналізавалі твор Баршчэўскага ў розных перыядычных выданнях[5]. Пан Міхал Грабоўскі напісаў таксама асобны артыкул пра *Завальню* з вялікімі пахваламі і падзякамі[6].

---

[1] Ю. Барташэвіч памыляецца: першыя тры томікі выдаў Я. Эйнерлінг, а апошні – сам Я. Баршчэўскі.

[2] Ю. Барташэвіч мае на ўвазе прадмову да *Шляхціца Завальні* – “krytyczny rzut oka na Literaturę Białoruską” *Беларусь і Ян Баршчэўскі*.

[3] Я. Баршчэўскаму прысвечана заключная частка нарыса *Беларусь і Ян Баршчэўскі*.

[4] Рудольф Жукоўскі (1814–1886), закончыўшы ў 1839 г. Акадэмію мастацтваў супрацоўнічаў, як мастак-ілюстратар, з вядомымі расейскімі літаратарамі. Таксама падтрымліваў дачыненні з беларуска-ліцвінскім зямляцтвам у Пецярбурзе.

[5] Пасля выхаду ў свет першых томікаў *Шляхціца Завальні* з’явіліся некалькі публікацый, у якіх згадваўся Я. Баршчэўскі і ягоны твор. Гл.: E.J. Ziemięcka, *Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach, przez J. Barszczewskiego. Petersburg, 1844*, “Pielgrzym” 1845, t. I, s. 198–207; *Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych obrazach, przez J. Barszczewskiego*, “Biblioteka Warszawska” 1845, t. I, s. 668–671; W. Prokopowicz, *Publikacye Petersburskie*, “Tygodnik Petersburski” 1845, nr 74–75; *Białoruś czyli dawniéj województwa połockie…*, “Rozmaitości: pismo dodatkowe do «Gazety Lwowskiej»” 1845, nr 15, s. 123; M. Grabowski, *O nowych powieściach polskich*, “Tygodnik Petersburski” 1847, nr 61. Але, па сутнасці, (тут трэба згадзіцца з Івонаю Венгжын: гл.: I. Węgrzyn, *Koniec świata, którego nikt nie zauważył. Białoruski „rok bez lata” Jana Barszczewskiego*, “Ruch Literacki” 2019, r. LX, z. 5, s. 547–562) былі гэта адно „entuzjastyczne anonse”, якія “ні на што не прыдаліся. *Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях* поспеху не меў. Шмат што паказвае на тое, што твор Баршчэўскага стаўся ахвяраю хуткага працэсу распаду супольнасці грамадзян былое Рэчы Паспалітае. <…> У сярэдзіне XIX стагоддзя аказалася, што ўжо няма чытачоў, якія хацелі б чытаць *Шляхціца Завальню…*” (с. 548). Паказальнае ў гэтым плане выказванні ксяндза Ігнацы Галавінскага. У 1843 г., пазнаёміўшыся з першымі раздзеламі *Шляхціца Завальні*, ён у лісце да М. Грабоўскага захоплена вітаў новы твор Я. Баршчэўскага (гл.: M. Grabowski, *Korespondencja*, “Pielgrzym”, 1843, t. II, s. 353. Ліст І. Галавінскага М. Грабоўскі ўключыў у свой артыкул). Але пасля выхаду ў свет першага томіка *Шляхціца Завальні* ён у лісце да Ю.І. Крашэўскага ад 25.12.1844 г. даў негатыўную характарыстыку твора: “Калі больш уважліва прыгледзеўся – гэта вялікая дурнота”. Гл.: Rkps BJ, sygn. 6466$^{IV}$, Korespondencja J.I. Kraszewskiego, t. 7, 1842–1862, s. 96 v.

[6] М. Грабоўскі колькі разоў у сваіх публікацыях згадваў Я. Баршчэўскага і ягоныя творы. Тут маецца на ўвазе, відаць, артыкул у часопісе “Pielgrzym” (1843, t. II, s. 353).

Апрача Беларусі, Баршчэўскі зусім не ведаў іншых ваяводстваў даўнейшае Рэчы Паспалітае. Настаўніцкая праца яму ўрэшце надакучыла, і ён захацеў адпачынку на старасць. Літаратар з шырока ўжо вядомым імем, ён марыў пабачыць іншыя куткі роднае зямлі. Выказаў гэтае жаданне пані графіні Юлі Жавускай[1], якая якраз выпраўлялася з Пецярбурга ў свае маёнткі на Валыні. Баршчэўскі быў ужо колькі гадоў у доме графіні амаль сваім чалавекам. Пані Жавуская вельмі ўзрадавалася гэтаму і запрасіла яго з сабою ў Цуднаў. І вось пасля дваццацігадовага побыту ў сталіцы імперыі наш аўтар пакінуў горад[2], каб падыхаць сельскім паветрам. Наведаў Вільню і, праехаўшы вялікую частку Літвы, нарэшце спыніўся ў Цуднаве. Знайшоў тут мілае таварыства, пазнаёміўся з шаноўнымі людзьмі ў наваколлі, сустрэўся, нарэшце, з доктарам Генрыкам Кёлерам[3], польскім шляхціцам, які і свае даходы, і глыбокую дасведчанасць у лекарскай навуцы ахвотна ахвяраваў хворай частцы чалавецтва. У ваколіцах Цуднава жылі літаратары; сярод іх Канстанцін Піятроўскі[4], былы жытомірскі харунжы, высакародны шляхціц, які ўжо шмат гадоў урабляў літаратурную ніву. Яшчэ да пачатку рэакцыі на класіцызм Піятроўскі займаўся паэзіяй і пераклаў, між іншым, вершамі лісты Элаізы да Абеляра[5]. Харунжы вельмі палюбіў Баршчэўскага і няраз таксама гутарыў з ім пра даўнія часы і старых літаратараў.

З Цуднава Баршчэўскі вандраваў таксама пешшу па наваколлі, наведваў новых сяброў і знаёмых. Усюды, куды ён прыходзіў, яго міла прымалі, і ён гасцяваў па колькі дзён і тут і там[6]. То вучыў панскіх дзяцей, то гутарыў

---

[1] Юля Жавуская (каля 1800 – 1867), жонка вядомага літаратара Генрыка Жавускага (1791–1866). Магчыма, Я. Баршчэўскі займаўся выхаваннем дзяцей Жавускіх – Марыі Ганны Катажыны (1827–1897) і Ядвігі (1836 – ?).

[2] Інфармацыя Ю. Барташэвіча пра дваццацігадовы побыт Я. Баршчэўскага ў Пецярбурзе пацвярджаецца навейшымі даследаваннямі: прыехаўшы на стала ў сталіцу імперыі ў сярэдзіне 1820-х гг., ён пакінуў яе назаўсёды ў 1846 г.

[3] Звестак пра Генрыка Кёлера выявіць не ўдалося. Магчыма, ягоным братам ці крэўным быў Людвік Францішак Кёлер (Ludwik Franciszek Köhler, 1799–1871), вядомы варшаўскі лекар-хірург. Гл.: A. Kierzek, *Ludwik Koehler (1799–1871) – życie i dokonania w otorynolaryngologii*, "Otorynolaryngologia" 2013, 12(4), s. 169–175.

[4] Канстанты Піятроўскі ( калі 1790 – пасля 1863), паэт, перакладнік на польскую мову англамоўнае літаратуры (У. Шэкспіра, Д.Г. Байрана, А. Попа). Першыя свае творы надрукаваў у 1816 г. у Варшаве. У 1836 г. у Бярдзічаве выдаў зборнік паэзіі і перакладаў *Poezye*.

[5] Насамрэч К. Піятроўскі пераклаў і апублікаваў у 1816 г. вершаванае пасланне Аляксандра Поўпа *Элаіза да Абеляра* (1717), заснаванае на добра вядомай сярэднявечнай гісторыі.

[6] Відаць, у часе адной з такіх вандровак пісьменнік наведаў маёнтак Аляксандра Грозы (1807–1875) Салагубаўку. Літаратары маглі сустракацца і раней. Передусім, на пачатку 1840-х гг., калі А. Гроза стала жыў на Беларусі, а Я. Баршчэўскі штолета прыязджаў з Пецярбурга на Бацькаўшчыну. Іхняя сустрэча, апавяданні Я. Баршчэўскага пра сваё юнацтва, а таксама творы беларускага пісьменніка натхнілі А. Грозу на напісанне фантастычнае аповесці *Нечаканы госць* (упершыню апублікаваная ў ягонай кніжцы *Obrazki ukraińskie*, 1855), вытрыманае ў стылі *Шляхціца Завальні*. А вось вандроўка ў мястэчка Янушполь і магчымае знаёмства з Францам Савічам

з бацькамі. Не ленаваўся працаваць, заўсёды быў здаровы і бадзёры; нарэшце вясковыя спакой і свабода перамаглі. Калі пані Жавуская вярталася ў Пецярбург, Баршчэўскі ўжо не хацеў з ёю ехаць; так упадабаў Цуднаў і жыхароў гэтае ваколіцы, што марыў назаўсёды застацца ў вясковым доміку графіні, хацеў пражыць тут рэшту жыцця і нават памерці ў гэтым шчаслівым вясковым кутку.

Цяпер Кёлеры былі галоўнаю яго апораю і ўцехаю. Памяталі пра самыя малыя яго патрэбы і выгоды; і Баршчэўскаму сапраўды трэба была гэтая апека, бо так мала дбаў ён пра сябе ўсё жыццё. Толькі аднойчы з'ездзіў ён з Цуднава ў Адэсу, а астатні час бавіў у Кёлераў. З іх падтрымкаю надрукаваў нават *Сірату*[1], якую прыхільна сустрэла польская грамадскасць.

Так Баршчэўскі пражыў у Цуднаве пяць гадоў.

У студзені гэтага года ён смяртэльна занядужаў. Сумны канец хваробы прадбачыў Кёлер і сам Баршчэўскі. Поўны веры, праз увесь час хваробы аўтар *Завальні* думаў толькі пра Бога. Колькі разоў спавядаўся і прымаў Цела Збавіцеля. У дзень перад смерцю сам папрасіў пра апошняе памазанне Святым Алеем і прыняў гэты сакрамант у поўнай свядомасці, пасля чаго ўсё больш і больш пачаў слабець. Графіня Жавуская і Кёлеры знаходзіліся пры яго апошніх хвілінах. Уладальніца Цуднава падала яму апошні кубак напою, а праз дзве гадзіны Баршчэўскі сканаў на руках Кёлера – 11 сакавіка[2] 1851 года.

Чатырнаццатага сакавіка Баршчэўскага пахавалі на могілках у Цуднаве. Канстанты Піятроўскі вельмі спрыяў таму, каб гэты сумны абрад меў належную ўрачыстасць. Яму належыць падзяка ад літаратурнае брацііі. Аўтар *Завальні* жыў 61 год.

J. B.

## № 6

Яшчэ адзін некралог Я. Баршчэўскага з'явіўся ў часопісе "Przegląd Poznański". Узнік ён на аснове вышэй пададзенай публікацыі ў "Tygodniku Petersburskim", а таксама нарыса Р. Падбярэскага, змешчанага ў першым томіку *Шляхціца Завальні*. Бо, па-першае, у ім падаецца дата смерці паводле старога стылю, а па-другое, – артыкул Ю. Барташэвіча ў „Dzienniku Warszawskim" выйшаў з друку на месяц пазней. Вядома, рэдакцыя часопіса, які друкаваўся ў далёкай Прусіі, не магла нічога дадаць і пра асобу "znanego białoruskiego pisarza", і пра ягоную творчасць, хоць *Шляхціца Завальню* і ме-

(хутчэй, з людзьмі, якія ведалі яго) ужо самога пісьменніка падахвоціла напісаць аповесць *Душа не ў сваім целе*.

[1] Маецца на ўвазе паэма *Жыццё Сіраты*, апублікаваная ў зборніку Я. Баршчэўскага *Proza i wiersze* (cz. pierwsza, Kijów 1849).

[2] Відаць, Ю. Барташэвіч не дакладна замяніў стары стыль на новы – трэба 12 сакавіка. Але, магчыма, Я. Баршчэўскі памёр позна ўвечары 11 сакавіка. Пра гэта ў Варшаве маглі даведацца з ліста Ю. Жавускае да мужа, які рэдагаваў "Dziennik Warszawski".

лі ў сваёй бібліятэцы. Для нас, аднак, істотнае тое, што выданне, якое спецыялізавалася на анатацыі і характарыстыцы разнастайнае польскамоўнае літаратуры, заўважыла творы Я. Баршчэўскага і аддала даніну павагі і даробку пісьменніка, і яго памяці.

Друкуецца паводле: "Przegląd Poznański" 1851, poszyt III, s. 362–363.

## Nekrologi

W końcu lutego umarł w Cudnowie na Wołyniu Jan Barszczewski, znany białoruski pisarz. Barszczewski przeszedł na świat w r. 1794 we wsi Morohach nad jeziorem Nieszczorda na Białejrusi. Pochodził z niemajętnéj szlachty. W Połocku u Jezuitów odbył nauki. W szkołach jeszcze będąc pisał wiersze, z których jedne w narzeczu białoruskiém ułożone a noszące tytuł ***Rabunki mużykow*** zostały popularne na Białéjrusi. Barszczewski rad zawsze przestawał z drobną szlachtą po zaściankach: tam nasłuchał się opowiadań miejscowych, tam wszystkie właściwości białoruskie poznał. Po skończeniu nauk w Połocku obrał zawód nauczyciela prywatnego. W kilkanaście lat przeniósł się do Petersburga, zkąd morskie podróże do brzegów Anglii i do brzegów Francyi odprawił. Wracał téż do własnéj okolicy i po niéj wzdłuż i wszerz wędrował. W towarzystwie literatów petersburskich na rozmaite wpływy zagranicznych szkół podanych, umysł Barszczewskiego skierował się do fantastyczności, wszakże ta fantastyczność obłokła się zaraz w białoruskie szaty. Czytającéj polskiéj powszechności pierwszy raz dał się poznać Barszczewski przez wydanie Noworocznika ***Niezabudki***, gdzie kilka własnych balad białoruskiego kolorytu umieścił. Najważniejsza rzecz jaką ogłosił jest czterotomowy zbiór Szkiców białoruskich p. t. ***Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach*** (Petersburg 1844–1846). Do téj książki p. Romuald Podbereski napisał przedmowę i wysoko autora wyniósł.

Ks. Hołowiński w ten sposób osobistość i talent Barszczewskiego w liście swoim do M. Grabowskiego (***Pielgrzym***. Czerwiec 1843) ocienia:

„Pan Barszczewski okazuje się najdoskonalszym przedstawiaczem gminnéj fantastyczności i obyczajów ludu białoruskiego. Jestem pewny, że w swoim rodzaju nie ustąpi Soplicy. Zaczął on prozą pisać powieści: nie umiem ci zdać sprawy z wielkiego wrażenia. Wszystko tam po mistrzowsku wykonane pod pozorem największéj prostoty. Nie jest to prosty zbieracz podań ludu; ma wszelkie potrzebne do tego warunki. Białorusin zapalony, nie teraz, ale od samego dzieciństwa; z ludem całe życie przepędził; jego twarz opalona, nie gabinetowa, dowodzi człowieka czynu, nie spekulacji; wziął wychowanie od Jezuitów, ale mu to nie odjęło czucia i prostoty; pełen prawdziwéj wiary w przedmioty swoich powieści, a to nie mały warunek, bo z wiarą każdy opis bez porównania żywszy i prawdziwszy; całą Białoruś zna jak najdoskonaléj, bo ze trzydzieści razy piechotą ją obszedł i corocznie ją i teraz z Petersburga odwiedza, a wszędzie tam pożądany i mile przyjmowany, bo jak bard tamtéj strony opowiada ustawnie anegdoty, powieści sypie jak z za rękawa. Dziwny ma instynkt w obrabianiu podań, prawie nic swego nie dodaje, a wszystko jest jego własnością: bajka goła nie miałaby

żadnéj wartości, ale on ubiera ją innemi podaniami, dramatyzuje najdoskonaléj i nagle rośnie całość pełna prawdy gminnéj i życia najrzeczywistszego".

*Пераклад*

## Некралогі

У канцы лютага ў Цуднаве на Валыні памёр вядомы беларускі пісьменнік Ян Баршчэўскі. Баршчэўскі прыйшоў на свет у 1794 г. у вёсцы Марогі ля возера Нешчарда ў Белай Русі. Ён паходзіў з незаможнае шляхты. Вучыўся ў езуітаў у Полацку. Яшчэ ў школах ён пісаў вершы, адзін з якіх на беларускім дыялекце пад тытулам *Рабункі мужыкоў* стаў папулярным на Белай Русі. Баршчэўскі заўсёды ахвотна кантактаваў з дробнаю засцянковаю шляхтаю: там ён наслухаўся мясцовых гісторый, там пазнаў усе беларускія асаблівасці. Пасля завяршэння навучання ў Полацку абраў прафесію прыватнага настаўніка. Праз больш чым дзесяць гадоў ён пераехаў у Пецярбург, адкуль здзейсніў марскія падарожжы да берагоў Англіі і да берагоў Францыі. Ён таксама вяртаўся ў свае ваколіцы, дзе вандраваў уздоўж і ўпоперак. У таварыстве пецярбургскіх літаратараў, што падпалі ўплывам розных замежных школ, розум Баршчэўскага звярнуўся да фантастыкі, але гэтая фантастыка ад самага пачатку апранула беларускія шаты. Польскія чытачы пазнаёміліся з Баршчэўскім дзякуючы альманаху "Niezabudka", дзе ён апублікаваў некалькі ўласных балад з беларускім каларытам. Найважнейшы твор, які ён надрукаваў, – чатырохтомны зборнік беларускіх нарысаў *Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях* (Пецярбург, 1844–1846). Да гэтае кнігі п. Рамуальд Падбярэскі напісаў прадмову і высока ацаніў аўтара.

Кс. Галавінскі ў сваім лісце да М. Грабоўскага наступным чынам характарызуе асобу і талент Баршчэўскага ("Pielgrzym", czerwiec 1843):

"Пан Баршчэўскі паўстае перад намі самым дасканалым выразнікам народнае фантастыкі і звычаяў беларускага люду. Я ўпэўнены, што ён у сваім родзе не саступіць Сапліцы[1]. Пачаў ён прозаю пісаць аповесці: не магу табе перадаць сваё вялікае ўражанне. Усё там выканана па-майстэрску пад выглядам найвялікшае прастаты. Гэта не просты збіральнік народных паданняў; у яго ёсць усе патрэбныя для гэтага ўмовы. Шчыры беларус, не цяпер, а з самага дзяцінства, правёў усё жыццё з народам. Яго твар, загарэлы, не кабінетны, выказвае ў ім чалавека дзеяння, не спекуляцыі; выхоўваўся ён

---

[1] Гаворка пра наратара ў гістарычных аповесцях Г. Жавускага *Успаміны Сапліцы* (*Pamiątki JPana Seweryna Soplicy, cześnika parnawskiego*, Paryż 1839–1841; Wilno 1844–1845). Севярын Сапліца апавядае пра падзеі часоў Барскае канфедэрацыі. І. Галавінскі, відаць, ведаючы пра задуму Я. Баршчэўскага (выкарыстоўваючы народную фантастыку, стварыць малюнак гістарычных падзеяў часоў першага падзелу Рэчы Паспалітае), невыпадкова згадвае наратара аповесці Г. Жавускага і высока ацэньвае не прачытаныя яшчэ ім тэксты. Пасля выхаду ў свет першага томіка *Шляхціца Завальні* І. Галавінскі, відаць, не здолеўшы раскадаваць складаную сістэму алегорый і сімвалаў Я. Баршчэўскага, у лісце да Ю.І. Крашэўскага выказвае сваё расчараванне.

у езуітаў, але гэта не пазбавіла яго пачуцця і прастаты; поўны сапраўднае веры ў тое, пра што піша, а гэта немалая ўмова, бо з верай кожнае апісанне непараўнальна жывейшае і праўдзівейшае; Беларусь ён ведае дасканала, бо разоў трыццаць абышоў усю яе пешшу ды штогод яе і цяпер наведвае з Пецярбурга, і ўсюды ён там жаданы, усюды яго міла прымаюць, бо як бард таго краю апавядае няспынна – показкі, аповесці сыпле як з рукава. Дзівосны ў яго інстынкт у апрацоўцы паданняў, амаль нічога свайго не дадае, а ўсё – яго ўласнасць: голая казка не мела б аніякае вартасці, але ён аздабляе яе іншымі паданнямі, найдасканалей драматызуе, і раптам вырастае нешта цэласнае, поўнае народнае праўды і самага сапраўднага жыцця”.

# Праблемы атрыбуцыі вершаванага драматургічнага абразка *Atwieczerek*

Адзін з лепшых твораў сярэдзіны XIX ст. – вершаваны драматургічны абразок *Atwieczerek: Akazija u karczmie pad Falkowiczami* – упершыню быў апублікаваны Віталём Скалабанам у 1988 г. у хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя*[1] паводле дадатку да артыкула Міхайлы Піятуховіча *Рукапісы А. Рыпінскага*, выяўленага ў паперах Васіля Мачульскага. Адзін са складальнікаў і аўтараў каментароў хрэстаматыі Вячаслаў Рагойша, спасылаўшыся на шэраг публікацый, даводзіў, што *Адвячорак* належыць пяру Г. Марцінкевіча:

> Лёс гэтай драматычнай паэмы доўгі час быў невядомы. Упершыню ўпамінанне пра яе з’явілася ў “Полымі” ў 1928 г. Паведамлялася, што рукапіс гэтага твора да Кастрычніцкай рэвалюцыі захоўваўся ў маёнтку Сялігоры на Лепельшчыне. Затым краязнаўца Д. Васілеўскі расшукаў звесткі пра пастаноўку драматычнай паэмы ў Віцебску ў 1861 г. (“Наш край” 1929, № 5). Праўда, і ў першым, і ў другім выпадку назва твора падавалася скажона (*Аказія падпалкоўніцам*, *Аказія пад палкоўніцамі*). Толькі ў наш час літаратуразнаўцу В. Скалабану пашчасціла адшукаць машынапісную копію твора, знятую яшчэ да вайны М. Піятуховічам з рукапіснай копіі А. Рыпінскага. Копія (зараз яна захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР у Мінску) мае падзагаловак-растлумачэнне: *Адвячорак. Аказія ў карчме пад Фальковічамі напісана ў Віцебску ў 1858 г. перад Піліпаўкай*[2].

Сам жа В. Скалабан, ажыццяўляючы ў 1990 г. навуковую публікацыю і артыкула М. Піятуховіча (паводле сучаснага правапісу), і “дадатку” (з захаваннем арфаграфічных асаблівасцяў арыгіналаў)[3], пра атрыбуцыю твора выказаўся больш асцярожна:

> Твор мае падзагаловак *Аказія ў карчме пад Фальковічамі*, што дазваляе выказаць меркаванне пра магчымага аўтара. Ёсць звесткі, што беларуская камедыя Гераніма Марцінкевіча *Аказія падпалкоўніцам* (другі варыянт назвы – *Аказія пры палкоўніцах*) была пастаўлена ў 1862 г. у Віцебску. Не выключана, што маецца на ўвазе якраз перапісаны А. Рыпінскім *Адвячо-*

[1] Г. Марцінкевіч, *Адвячорак: Аказія ў карчме пад Фальковічамі* [у:] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. А. Лойка, В. Рагойша, 2-е выд., перапрац. і дап., Мінск 1988, с. 74–92.

[2] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. А. Лойка, В. Рагойша, 2-е выд., перапрац. і дап., Мінск 1988, с. 457.

[3] *М.М. Піятуховіч. Рукапісы А. Рыпінскага* [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1990, с. 216.

І замест раю Тыгру, Еўфрату*[1]
Раем стане ўвесь свет.

*(Пасля паўзы)*

Як мне душна, як мне цесна…
Калі ж зморы мае заснуць?

*(Пазіраючы ў вакно)*

От, і світаць ужо пачынае –
Гадзіна сну, які дае сілы…

*(Чуваць жалейку пастуха)*

**Падарожны**

О, – не ўсе спяць!
Пастух на жалейцы звонка грае;
Дзень добры табе, пільны чалавеча!
Цудоўны поплаў цябе чакае, –
Пільнуй добра сваю чараду, –
Каб не нарабіў воўк табе шкоды…

*(Падае на ложак і застаецца там напаўлежачы. Чуваць гучны барабанны бой. Жаўнеры ў суседніх пакоях абуджаюцца і выходзяць, бразгаючы зброяй. Падарожны мармыча праз сон)*

Хоць вочы сон жмурыць,
Барабан заве ў падарожжа…
Узброеныя ў шаломы і латы
З далёкага ж вы краю
Вяртаецеся, шляхетныя рыцары!
Жонкі, сяброўкі вас чакаюць,
Пацалуюць, прывітаюць…

*(Уваходзіць карчмар)*

**Карчмар**

Дзень добры, пану! (*кланяецца*) О, і пан абудзіўся. Жаўнеры ўжо пайшлі, – завяду пана ў суседні пакой. Там чысцей і выгодней.

**Падарожны**

Можа… потым… пабачу… а пакуль, няхай усё будзе так, як ёсць.

**Карчмар**

Але ж пану там будзе значна лепш, а кошт пакояў такі самы.

**Падарожны**

Няхай… потым… пабачу...

---

[1] Паводле легенды, зямным раем нашых прабацькоў Адама і Евы была краіна, якая знаходзілася між рэкамі Тыгр і Еўфрат. (*Прып. аўтара*).

**Карчмар**

Зараз пану прынясуць самавар.

**Падарожны**

Дзякуй. Спачатку пайду купацца.

**Карчмар**

Купацца гэтак рана! Пан, мне здаецца, крыху нездаровы і купацца…

*(Адыходзіць хутка, пацепваючы плячыма)*

**Падарожны** *адзін*

Што нездаровы – гэта праўда, паліць мяне нейкая пякельная гарачка – нервовая… Можа, тыф, а можа.. неістотна, як называецца, досыць таго, што гарачка; у такім стане купацца крыху небяспечна, але купанне ў Дзвіне пры кожным недамаганні мне дапамагала… (*У адчаі*). О, так, хай будзе, што будзе – пайду да любай Дзвіны, дам нырца раз, два, паплаваю, і дасць Бог, усё будзе добра… (*Збіраецца выходзіць*).

*(Уваходзіць паважны, стары гаспадар дому са шклянкаю гарбаты)*

**Гаспадар**

Я чуў, што пан хоча гэтак рана выкупацца ў халоднай вадзе, – прашу прыняць ад мяне гэтую шклянку гарбаты; адна шкляначка перад купаннем не зашкодзіць; – можа, пан спачатку парадзіцца з лекарам, я яго зараз жа прывяду; – можа, пакуль купанне пану непатрэбнае ці нават небяспечнае. (*Ставіць шклянку і ўважліва прыглядаецца да падарожнага*).

**Падарожны**

Дзякуй табе, шаноўны гаспадар! Шкода твайго клопату… Не варта клікаць аніякага лекара, – можа, і без яго абыдуся.

**Гаспадар**

Бог яго ведае, а я зычу пану ад шчырага сэрца ўсяго найлепшага. *(Кланяецца з павагаю і адыходзіць)*.

**II**

*(Да карчмы ўбягае сярэдняга веку жыдоўка ў парванай вопратцы, з шалёнымі вачыма, раскудлачанымі валасамі; яна траціць раўнавагу і падае на калідоры. Вартаўнік і хлопцы з карчмы з жахам на яе глядзяць)*

**Жыдоўка**

О, я горкая ўдава, сірата! Ані дзіцяці, ані хаткі!.. Была там, на папялішчы… усё прапала… дамок згарэў… О, сынку! Кажуць, яго нейкі добры чалавек выхапіў з пажару і невядома куды панёс. Бедны мой сынок! Ён моцна спалохаўся… можа, ужо нежывы… О, я няшчасная сірата! Дайце мне вады, людцы цікаўныя! (*Шматае на сабе адзенне*).

**Вартаўнік**

Хто ты? Адкуль ты, пачвара? Прэч мне адсюль!… Сюды паны зараз прыедуць, добрых людзей нам настрашыш. Ідзі як хутчэй прэч, – бо сабак спушчу.

**Жыдоўка**

Напускай на мяне сабак, злы чалавек! Самыя злосныя сабакі лепшыя за вас, бяздушных людзей… Сабак я не баюся, сабакі мяне не пакусаюць… Вады мне, вады! Бо не выйду адсюль…

*(Падарожны рукою падзывае аднаго з хлопцаў, дае яму шклянку вады, той – жыдоўцы; яна хціва хапае шклянку, да паловы яе выпівае, рэшту выливае сабе на галаву і, падымаючыся, кажа хлопцу)*

Дзякую, пачцівы хлопча! Ты лепшы за таго (*паказвае на вартаўніка*) старога гада, ён на мяне сабак хацеў спусціць – дачакаецца і ўласнага няшчасця – відаць, ніколі яго не бачыў, хоць і стары. Дзякуй табе, хлопча! Дадала мне сілы тая вада, – мне ўжо лепш, магу ісці далей і далей… Пайду шукаць майго сынка, нават і ў магіле…

**Хлопец**

Куды ж ты пойдзеш цяпер?

**Жыдоўка**

Не ва ўласную пайду хатку… яе ўжо няма (*уздыхаючы*). Мела невялічкі, але ахайны дамок… Выйшла было ўчора на гадзінку за места ў лес, назбіраць сухога галля ў печ, спешна вяртаюся, гнуся пад вялікаю вязкаю ламачча, гляджу: мой дамок і суседнія ў полымі… Ужо мне і дрэва таго не трэба… Невядомыя шляхі Божыя… Пакуль прыбегла да агню, ён ужо маю хатку з’еў – усё прапала. Адразу ж бягу да нашага рабіна, – ён такі чулы, разумны, усім нешчаслівым дапамагае грашыма і парадаю, але і там пры браме спаткала падобнага (*паказвае на вартаўніка*) злыдня. Можа, палічыў мяне шалёнаю... Забараніў мне зайсці і выгнаў з вуліцы. Ах, горка-горка няшчасным! (*Уздыхаючы*). Пайду шукаць майго сынка… (*Адходзіць*).

**Хлопец** (*да другога*)

Шкада мне яе. Па-праўдзе, шкада. Такая бедная кабета. Няшчасце яе прыгняло – ходзіць, як вар’ятка.

**Вартаўнік**

Менавіта, як вар’ятка нейкая шалёная… Я б ёй паказаў, каб тут вас, шубраўцаў, не было. Нагнаў бы на яе жаху! Не прыйшла б сюды ўжо ніколі з гэтакім лямантам і ў такім пачварным выглядзе. Каб яшчэ чалавек Божы, а то нейкая абадраная жыдоўка!

**Другі хлопец**

Э, стары буркун, жыдоўка ці не – заўсёды чалавек, – Божае стварэнне. І над няшчасным зверам трэба ж літасць мець! Якою меркаю мы мераем, гэтакаю і нам будзе.

**Вартаўнік** (*з прыхільнаю інтанацыяй*)

О, шубраўцы вы, шубраўцы! Літуйцеся і мерайце сабе, як хочаце; добра яшчэ, што гэтак скончылася… А я стары лепш разумею: каб, напрыклад, калі тая абрыдлівая жыдоўка тут таўклася і лямантавала, а вы над ёю літаваліся, – шась! – пад’ехала б да брамы каляска з падарожнымі панямі… вось бы мілы від быў для паняў! Страшная, шалёная, вісклівая жыдоўка… Усе б закрычалі: “ах, ах!” І паехалі далей. А пан вартаўнік, як Заблоцкі на мыле… і размінуўся з сякой-такой залатовачкаю… Праўда, і нашы мілыя пані маюць досыць чулыя сэрцы, але разам з тым вельмі далікатныя, баязлівыя. Нягледзячы на сваю самую вялікую чуласць, часцей за ўсё ад няшчасных уцякаюць… Я добра гэта ведаю, не сёння ж я нарадзіўся… Сысуны вы, сысуны! Цюкнула ж вам у галаву вучыць мяне старога! Вы толькі пачынаеце жыць на Божым свеце, а ў мяне ўжо валасы пасівелі. Спачувайце, каму хочаце! Чуласць нічога не дае, нават хлеба штодзённага… халодны розум і спрыт усім кіруюць – гэта аснова жыцця! Калісьці і я быў спраўным хлопцам, меў падкручаныя вусікі і шчыра лашчыўся, уздыхаў да дзяўчат; і не ў аднае красуні меў узаемнасць і надзею, а як дайшло да заручын, да шлюбу… дзяўчына яшчэ сяк-так, але ж яе бацькі, яе радня нападае на мяне: “Гэта ж смаркач! Гэта ж гультай страшэнны! Людзі каханнем і паветрам не жывуць!” І заканчвалася заўсёды на тым, што мае чулыя каханкі выходзілі замуж за старэйшых, брыдчэйшых, а часам і не зусім пачцівых, але багацейшых за мяне людзей… Сёння ж, хоць я стары і кульгавы, але дайце мне добрыя грошы і я з імі пакажуся ў свеце, – дык знойдзецца і мне прыгожая ды маладая жонка. Не дам зарукі, што будзе кахаць мяне шчыра, абы шанавала і ўзяла шлюб са мною… О, не адзін бы мне такі сысун пазайздросціў!

*(Хлопцы гучна смяюцца і абодва разам крычаць вартаўніку)*

**Хлопцы**

Які з цябе зух, стары! Жартуй сабе на пацеху... Нашыя дзяўчаты яшчэ не гэтакія прадажныя, як ты думаеш. Надта ж ты зухаваты, стары!

**Вартаўнік**

Дзяўчаты ці хто там? Кажыце сабе, што хочаце, а я лепей за вас ведаю жыццё і людзей…

*(Усе расходзяцца ў розныя бакі).*

*(З таго часу, як прыйшла жыдоўка, Падарожны, седзячы ля свайговаконца, з вялікаю цікаўнасцю прыглядаўся і прыслухоўваўся, што дзеялася і гаварылася на калідоры)*

**Падарожны** (*не рушаючыся з месца, паціраючы лоб*)

О, на кожным кроку, у кожным выпадку сумны вобраз і яшчэ больш сумную навуку дае нам гэтае дзіўнае людское жыццё... Ці ж магла гэтая бедная кабета ў роспачы колькі гадзін таму прадбачыць цяперашняе сваё становішча? Страціла малы, праўда, дамок, але той дамок, можа, быў усім яе набыткам?.. Якая супярэчлівасць у характарах людзей. Тая, напрыклад, спагадлівасць хлопцаў да болю, да нядолі і тая ачарсцвеласць старога вартаўніка ў ягоных самалюбных разважаннях… А і гэтыя, спагадлівыя ды чулыя сёння хлопцы, калі перажывуць тое або яшчэ горшае, што стары вартаўнік, хто ведае, што яшчэ з іх будзе? Сапраўды, трэба вялікая загартоўка душы, каб не запэцкацца ў брудзе самалюбства і захаваць у чысціні чалавечую годнасць… О, лягчэй разважаць пра мужнасць і дабрадзейнасць, чым быць мужным і дабрадзейным. Быць дабрадзейным не для бляску, не для пыхі, не для ўзнагарод на гэтым або на тым свеце, а быць дабрадзейным з моцнай унутранай патрэбы дабрадзейнасці, словам, – быць дабрадзейным толькі дзеля самое дабрадзейнасці, – з-за глыбокае любові да яе. Каб унутранымі – сапраўднымі – чыннікамі змераць чалавечыя заслугі, шмат бы гэтакіх сёння вялікіх і праслаўленых людзей змізарнела, счарнела!.. А менш бы, напэўна, невядомых, схаваных, як пад снежным покрывам мурашы, людзей, засвяціла б нязгасным хараством, жывым святлом сапраўднае годнасці чалавека!.. Гэтак мала, на жаль, сустракаем дабрадзейства, што як нявінныя дзеці з апладысментамі радасці вітаем той ці іншы слаўны чын, баючыся адхіліць заслону, бо гэта, можа, празмернаю і несуцешнаю горыччу перапоўніла б нас; дык ашукваем сябе і часта спыняемся на адных толькі прыгожых уяўленнях... Гэтак у нас, хоць памылкова, робяць самыя пачцівыя; злосць, страшэнная зайздрасць брудам засыпаюць найчысцейшае нават дабрадзейства, шукаючы ў ім схаваных, нібы злачынных спружын. Калі ўжо так цяжка размінуцца з памылкамі на гэтым бедным свеце, дык будзем жа, прынамсі, пачцівымі ў сваіх памылках. З двух злыбед выбірайма меншае! (*У задуменні*).

Дзіўнае з намі дзеецца тут:
Увесь час то роспач, то надзея,
Ніколі не ўраўнаважацца шалі –
Што сёння ўзносіцца, заўтра спадае:
Чалавек да мэтаў прыгожых ляціць –
Трапляе ў схаваныя сеткі…
З адной выбраўся, у другую дастаўся, –
Бой крывавы, на знішчэнне,
Няспынная ідзе ў жыцці;
Але толькі той збаўлены будзе,
Хто ў ім вытрывае аж да канца!

*(Пасля паўзы)*

Толькі не думайце, Божыя дзеці,

Што ў ім вытрымаць вельмі лёгка?
Усім сэрцам, усёю душою
Хто не любіць Божую задуму,
Таго чары свету спакусяць –
З кола свайго не выйдзе…
Каго вабяць зямныя лялькі –
Ужо пераможаны і без бою…
У кім з любоўю разам
Гарт нязломны, сіла волі,
Непадуладнасць спакусам,
Гарачая вера ў Бога,
Героем той стане,
Таго спаткае вітанне
Невычэрпнае раскошы неба, –
Нічога яго ніколі не спалохае.

**III**

*(Чуецца далёкае туркатанне павозак, убягае ў калідор лёкай, сустракае гаспадара. Падарожны кладзецца на ложак і дрэмле)*

**Лёкай** (*да гаспадара*)

Ці маеш выгодныя пакоі?

**Гаспадар**

Маю, прашу паглядзець! (*Вядзе лёкая калідорам і, адчыняючы дзверы да чатырох вялікіх пакояў.*) Здаецца, будзе зручна нават для самых вялікіх паноў. (*Адходзіць*).

*(Лёкай спехам адбягае; праз хвіліну на дзядзінец прыязджае каляска, падвода, да пакояў уваходзіць дама сярэдняга веку ў таварыстве маладое панны, паніча і вялікае колькасці лёкаяў)*

**Дама** (*аглядаючы пакоі*)

Пару разоў тут спынялася, – некалі было лепш: прыгажэйшыя шпалеры і больш люстэркаў. Што ж зробіш (*павярнуўшыся да таварыства*), застанёмся тут. (*Да лёкаяў*). Гэй, хутка: кавы і гарбаты!

*(Слугі мітусяцца, накрываюць столік, дамы папраўляюць уборы, Паніч выходзіць на калідор, зазірае праз шкляныя дзверы да бакоўкі Падарожнага, бяжыць далей на дзядзінец, размаўляе хвіліну са спатканым Вартаўнікам дому; Панна таксама выходзіць на калідор і зазірае ў бакоўку Падарожнага. Абодва вяртаюцца ў свае пакоі)*

**Паніч**

Ведаеце што? Ідучы па калідоры, я зірнуў праз шыбу ў суседнюю бакоўку, якая заўсёды да нашых пакояў належала, цяпер там пасялілася нейкая незвычайная птушка. Запытаўся ў Вартаўніка: хто гэта? Дык той мне

сказаў, што гэта несумненна нейкі вар'ят. Невядома адкуль прыехаў уночы, нічога ні есць, ні п'е, цэлую ноч хадзіў і нешта бубніў, а сёння нядаўна на ветлівае запрашэнне гаспадара не захацеў перайсці да лепшага пакоя. Мне здаецца, што гэта авантурыст, а можа, і вар'ят… Я бачыў, як ён ляжыць, выцягнуўшыся на ложку, чырвоны, як рак.

**Панна**

Прашу прабачэння ў пана! І я выпадкова зазірнула да таго ж пакойчыка: ляжыць там нейкі незнаёмы, з бледным тварам, з выразам вялікага смутку; напэўна, хворы або няшчасны. (*Паніч адходзіць ў іншыя пакоі*).

**Дама**

Ах, Божа! Што мне да таго – чырвоны ён ці бледны, хворы ці здаровы – той пакойчык заўсёды мне належаў! (*Да лёкаяў*). Паклікаць мне зараз жа гаспадара! Яшчэ чаго не ставала! Мець у блізкім суседстве Бог ведае каго? Можа, якога грубіяна. Я да такога не прызвычаеная… Бо каб быў ён ветлівым чалавекам, ужо паказаўся б, адрэкамендаваўся і спытаў: ці можа кватараваць побач з намі. Не, гэта нейкая недарэчнасць… (*Ходзіць расхваляваная*).

**Стары гаспадар**

Я тут. Што пані загадае?

**Дама**

Вось, мой каханы, хто там у цябе ў тым пакоі на калідоры?

**Гаспадар**

А Бог яго ведае. Не пытаўся, як ён завецца. Гэта падарожны, мая пані.

**Дама**

Прэч з тым панам падарожным! Выгані яго зараз жа!

**Гаспадар**

Няма за што, мая пані, а нават і не магу гэта зрабіць. Гэта было б не палюдску, тым больш, што ён крыху хвараваты.

**Дама** (*пагардліва*)

Ці крыху, ці моцна, а выгані яго зараз жа! Я асобна за той пакойчык заплачу. А не, дык паклічу паліцыю і ніколі ўжо да цябе не заеду, будзь пэўны.

**Паніч** (*выбягаючы з другога пакоя*)

Так, так – паліцыю! Лепш паліцыю. Я з самім Паліцмайстрам знаёмы, а нават і губернатарам; яны для мяне ўсё зробяць!..

**Гаспадар**

Воля панская. Рабіце, панства, як хочаце, а я гэтага рабіць не магу і не зраблю. (*Адходзіць*).

**Дама** (*да паніча*)

Які ўпарты стары, варта яго правучыць!

*(Садзіцца за каву і гарбату, вакол мітусяцца лёкаі)*

**Падарожны** (*паварушыўшыся на ложку*)

Ёсць пустыя і злосныя, – ёсць увішныя і пачцівыя людзі; іншым разам за гэтыя мілыя слоўцы, што да мяне хвіліну таму даляцелі, з'явіўся б ім у лепшай форме – адрэкамендаваўся б той вялікай пані і яе шчабятліваму сысуну; а цяпер на дзіва абыякавы я да падобнае балбатні. Хацелася мне адсюль сёння з'ехаць, але спецыяльна тут яшчэ застануся, каб даведацца, што гэтая вяльможная пані можа са мною зрабіць.

**Дама** (*устаючы ад століка*)

Каб нам да касцёла не спазніцца! Сёння вялікая ўрачыстасць (*папраўляючы перад люстэркам убор*), як усё ў гэтай няшчаснай дарозе пацерлася, пакамячылася... Бедныя мы вяскоўцы, ніколі па-людску ў горадзе паказацца не можам... Шчаслівыя гарадскія кабеты, у іх заўсёды свежы гардэроб, нібы сёння пашыты. (*Усе ўстаюць і выходзяць. Дама, звяртаючыся да лёкаяў і паказваючы на бакоўку падарожнага*). Пастарайцеся выгнаць таго пана! Ах, каб жа хоць не спазніцца на набажэнства!

*(Выходзяць. Адзін з лёкаяў адразу ж ідзе і, затрымаўшыся перад дзвярыма Падарожнага, крычыць)*

Вар'ят! Вар'ят! (*Другі ўслед за ім*). Вар'ят, вар'ят!

**Падарожны** (*сам сабе*)

Вось гэта павінна быць першая спроба выгнаць мяне (*падымаючыся*). Даўно ўжо пара мне ісці купацца! (*Замыкае бакоўку і выходзіць*).

**IV**

**Падарожны** (*адзін у пакоі, ходзіць неспакойна*)

Цудоўна складаюцца акалічнасці! Ледзьве, вярнуўшыся, даткнуўся замка, ён сам адчыніўся, без дапамогі ключа. Нехта яўна быў цікавы агледзець маю вязніцу. Трэба паглядзець, ці не зазірнуў у падарожны куфэрак. (*Адчыняе куфэрак*). Так, значна ўсяго паменшала; – гэта яшчэ быў пачцівы злодзей, нешта і мне пакінуў… Здагадлівы чалавек… Зразумеў, можа, як ужо мала мне на гэтым свеце што трэба… (*Пасля паўзы*). О! Ці не другая гэта спроба выгнаць мяне? Хто ж ведае, можа, яны і пачцівыя людзі, гэтыя лёкаі, але занадта ўвішныя і непераборлівыя ў сродках, дагаджаючы сваёй пані... Што пан загадае, слуга павінны. Бог з ёю, тою шкодаю. Нікому пра яе не скажу. Дык падумае злодзей: "Гэты падарожны, напэўна, сапраўдны

вар’ят, калі нічога не ведае, што ў яго пад носам робіцца”. Большы крадзеж мне баліць! Перад ёю – нішто мне ўсе скарбы гэтага свету… (*Пасля паўзы*). І добра ж я пакупаўся! Скончыўшы досыць доўгую праходку па высокім беразе ды іншых памятных мне мясцінах, падышоў да ракі малалюднай вулачкай, аж тут раптам насустрач трое маіх даўніх знаёмых. І давай мяне распытваць, хацелі ў вусны са мною цалавацца, а калі я, сам не свой, даволі холадна іх прывітаў толькі поціскам рукі, думаючы, што маю заразную хваробу; што яны пра мяне падумаюць. Баючыся яшчэ аднаго падобнага спаткання, адмовіўся ад купання і бягом у нару. Словам, кругом няўдачы… Як кажуць: бяда адна не ходзіць. Буду цяпер старанна ўнікаць людзей, і не выгляну на вуліцу. (*Хістаючыся*). І ногі ўжо мне не служаць, паспрабую паляжаць, можа засну. (*Кладзецца ў ложак*).

*(Дама вяртаецца ў свае пакоі з маладым мужчынам – запрашае яго сядаць)*

**Дама** (*азіраючыся*)

Нам у вёсцы казалі, што тут вельмі весела: палкі кватаруюць, іграе вайсковая музыка, а як паглядзіш – нічога няма... Глуха, як і даўней.

**Мужчына**

Так, мая пані. Досыць часта цяпер праходзіць войска праз нашае места. Ат, учора былі ў нас два палкі, яны сёння раніцаю выйшлі, але заўтра або паслязаўтра прыйдуць яшчэ два. І калі пані затрымаецца на пару дзён у месце, дык абавязкова ўбачыць і войска, і вайсковую музыку паслухае.

**Дама**

Слушна пан кажа. Толькі гэтакае добрае надвор’е ўсталявалася, было б вельмі прыемна пад гукі капэлы пашпацыраваць па гарадскіх бульварах, але ж хто ведае, як яно будзе. (*Звяртаючыся да лёкая*). Ну што? Ці выгналі таго пана?

**Лёкай**

Ой, цяжкая справа з тым панам. Гэта сапраўдны вар’ят; ні на што не зважае, нібы не бачыць і не чуе – ніяк яму дапячы немагчыма!

**Дама**

А некалі ж быў ты дасціпным хлопцам…

**Лёкай**

О, мая пані, аніякі досціп тут не дапамагае! (*Адходзіць*).

**Дама** (*да мужчыны*)

Бачыць пан, маем тут блізенька, – проста за дзвярыма нейкага дзівака-падарожнага. Гаспадар не хоча яго выгнаць, кажа, што ён хворы, але што мне да таго? Той пакойчык заўсёды мне належаў, і прызнаюся пану, што не люблю ў блізкім суседстве мець Бог ведае каго. Даўно ўжо паслала па паліцмайстра, каб загадаў таго пана як найхутчэй адсюль выгнаць.

**Мужчына**

Выгнаць! Навошта? Прашу прабачыць, пані, але ніхто не мае права нікога без важнай прычыны выганяць з кватэры, а тым больш хворага.

**Дама**

Дастаткова той прычыны, што я заплачу за той пакойчык, і не жадаю, каб нехта гэтак блізка сядзеў. А можа, яшчэ які авантурыст! Бо каб ён быў шляхетным, дык наняў бы сабе асобны гатэль і мог там сядзець спакойна. Выганю яго абавязкова! Маючы знаёмых, усё можна зрабіць. О, вер мне, пан, я і не такія рэчы рабіла.

**Мужчына**

Хоць і можна ўсяго дамагчыся, але ці ўсё пачціва, мая пані? Не кожны ж хоча і не кожны ў стане наймаць гатэлі; можа, гэта нейкі бедны чалавек, а да таго ж хворы…

**Дама** (*нецярпліва*)

Бачу, што пан вялікі педант, а я хачу давесці сваё і дасягнуць гэтага! Досыць нам ужо гэтае смешнае дыскусіі. Час паразмаўляць з панам пра больш важную справу!

*(Адходзяць або ў іншыя пакоі)*

**Падарожны** (*прыпадымаючыся напалову*)

Магутны Божа! Як часам можна без віны заслужыць людскую нянавісць… Не зважаю на пагрозы гэтае пані, бо паліцыя, напэўна, больш дбайная і пачцівая за яе. Але цікава, навошта ёй спатрэбілася гэтая мая нара, брудная і гнілая? Ці не мае яна нейкіх прыхаваных вартасцяў? Трэба яе агледзець старанна. (*Устае і ходзіць, пільна прыглядаючыся. Набліжаецца да сцяны, каля якое стаіць столік*). Я не ведаў, што тут ёсць дзверы да іншых пакояў. Праўда, добра закрытыя і прыстаўленыя столікам, але пры патрэбе маглі б адчыніцца. (*Зазіраючы ў шчыліну дзвярэй*). Там досыць ладны пакойчык з вітальняю і выхад на другі ганак; нічога больш. Ці ж гэтай пані абавязкова патрэбныя два выхады? Нічога не хачу разумець. (*Ідзе, хістаючыся, і сядае на ложак*). Ах, нязносны стан. І смерць да мяне не прыходзіць, і здароўе не вяртаецца… Ужо два месяцы гэтак пакутую. Мушу мець дзіўны тэмперамент… дзіўны збег акалічнасцяў! Гэтак старанна ўнікаючы людзей, яшчэ і дакучаю ім – гэта цяжкае выпрабаванне!

*(Пад уплывам прыпадку хваробы)*

Ах, як сумна, жахліва, як змрочна на душы
І раздзірае яе пакут нейкая шалёная раскоша,
Што пайшоў бы на дно глыбокага пекла
І кпіў бы з немачы шатанскіх катаванняў…
І новыя б нязнаныя паўтарыў цярпенні,
І ўсе б іх выліў ва ўласнае лона:
У перадсмяротнай агоніі, у полымі болю

Сачыў бы: ці разам з духам і памяць таксама канае?
Ці духам вызваленым з цялеснай абалонкі
Рой зямных успамінаў навек забаронены?
Ці выратаваныя захаваюць прыемныя ўспаміны,
А балючыя будуць кінутыя ў пякельную прорву?
О, каб нават было і так, –
Ах, як жа там выратаваным у тым небе міла!
І якая жахлівая пякельная юдоль –
Не трэба там ні агню, ні гарачай смалы…

*(Здрыгануўшыся)*

Пабачым, як будзе.
У грудзях нейкае дзікае гранне…
Усе нараканні, увесь боль
У іх страшэнна сваволяць –
І скачуць, і віруюць –
Спяваюць здзеклівую песню:
Брава! Далей, сябры мае!
Працягвайце крывавыя баі,
Рвіце, таўчыце спрацаваныя грудзі!
Вам дадзеная поўная свабода…
Смела! Разам! Атакуйце сэрца!
Да атакі, шляхетныя забойцы!
Яшчэ адна жылка б'ецца,
Яшчэ слабае дыханне жыве…
Скончыце хутчэй вашую справу!

*(Пасля кароткага роздуму)*

Што цешыла, тое загінула…

*(Пасля паўзы)*

Можа лепей у здранцвенні,
Чым у гомане шумнага свету?
Можа лепей быць у сне
Пад зялёнай дзесь муравою?

*(Гнеўна)*

Недарэкі! Спакуснікі
І бачныя, і таемныя!
О, давяраў я вам занадта!
Не можаце разарваць ніткі,
Што мяне ледзьве звязвае з жыццём?
Чаму ж яшчэ мацней чую,
Чаму я думкаю блукаю,
Уласным агнём не
Ці тыранскія гэтыя пакуты,
Што маю смутную мучаць душу,

Выдраць яе не маюць сілы –
У маё жыццё ўвайшлі?!
А гэта прыгожае, мілае жыццё…
О, забойцы, глядзіце,
Як такім жыццём я жыву!
А ці ведаеце чые, чыё
Урэшце будзе нараканне?
Што мае быць – няхай будзе!

**Голас спакусы**

Ах, шкада мне цябе, бедны чалавеча!
Рана незагойная пячэ тваё лона,
Нішчыць падступна ўсе мары.
Падумай добра – скараці свае пакуты!
Ёсць у цябе тут схаваная
Зброя халодная і агнястрэльная, заражаная;
Тая ці іншая з твае ўласнае рукі
Ў адзін момант спыніць твае пакуты.
Так усе разумныя рабілі людзі,
Якія не верылі ў падманы жыцця.
Ёсць жа адзіны прывілей –
Пазбыцца жыцця, калі гняце роспач.
Скарыстайся гэтым цудоўным правам!
Чым табе пашкодзіць пасля смерці асуджэнне?
А разумнейшыя скажуць ціха:
Мужны гэта чалавек, бо адмовіўся ад жыцця…
Надзея – даўно матка ёлупняў:
Апляце нейкаю чароўнаю сеткаю,
Потым з цябе кпіць і смяецца,
Гэтак часцей за ўсё з усімі надзеямі!
Паслухай голасу шчырага сябра –
А што да пекла – не трэба баяцца!
О, самае нязноснае пекла –
Гэта тутэйшы паганы лёс…

**Падарожны** (*нібы абудзіўшыся*)

Нехта прыгожанькую мне праспяваў арыю: мудрая парада – марная… Каб менш верыў у справядлівасць Божую, а больш баяўся праследу лёсу, можа, і схапіўся б за тую параду… (*Пасля паўзы*). Не… і ў такім разе не ўчыніў бы таго, быў бы гэта вялікі трыумф незычлівых мне людзей… Шкода для іх гэтакай нявіннай пацехі… А ўжо досыць і таго, каб жыў, пакуль мне суджана. Так, трэба жыць (*з іроніяй*), калі смерць сама без вялікага прымусу дагэтуль яшчэ не прыйшла… (*Прыпамінаючы*). Уга, мне хвіліну таму казалі шмат пра зброю… Памятаю, я глыбока запхнуў яе ў куфэрак, пакідаючы тыя мясціны, дзе атрымаў гэтакую горкую навіну пра маю любую…

З таго часу гэтакая мяне агарнула абыякавасць да жыцця, што са схаванаю ў куфэрку зброяю праехаў міль з пяцьсот даволі небяспечнае дарогі, але нідзе на дарозе не толькі разбойнік, але нават злодзей мне не трапіўся… Наадварот, цэлымі начамі салаўі мне спаць не давалі сваім гучным пошчакам – пачцівыя птушкі… Аглушалі мяне мелодыяй, а я на іх гневаўся, мне здавалася, што яны насміхаюцца з мае нядолі; чалавек прыціснуты жахлівым болем нават і нявінныя істоты падазрае ў кпінах… (*Падымае вочы ўгару*).

Калі трацім тое, што кахаем,
Калі няшчасці адно за адным,
Калі чалавек, стаўшыся самотным у свеце,
Цярпіць шал жахлівага болю,
Калі мае ў грудзях атруту –
Ні жыве, ні памірае;
Калі яму чужая кожная страха, –
Дзе ж надзея? Дзе суцяшэнне?
Там… у Творцы ўсяго жывога.
Чалавек дарэмна мітусіцца,
Пакуль з Ім не пагодзіцца –
Ён суцешыць, Ён дасць прыемнасць…
Міне бура, мінуць вятры –
Зноў блісне табе надзея
І як зорка, у імгле схаваная,
Раніцою цябе прывітае…
Але хто ж гэта ў стане даведацца,
Калі прыйдзе міласэрнасць?..

*(Кладзе галаву на падушку і здаецца, што засынае. На дзядзінцы перад вакном падарожнага грамадка дзяцей featured рознага полу весела скача і крычыць; асобныя з іх утвараюць колы. Адны бавяцца ў ката і мышку, а другія – у сухога мазура, голасна спяваючы:)*

Скача верабей па вуліцы,
Шукае зярнят пшаніцы,
А я сабе пастанаўлю:
Каго кахаю, таго злаўлю…

*(Некалькі раз паўтараюць гэтае чатырохрадкоўе, з віскам і смехам ганяючыся адно за адным. Адзін з хлопчыкаў, зазірнуўшы ў вакно падарожнага, бяжыць да грамадкі з крыкам:)*

Падарожны памёр! Памёр! Ляжыць бледны, нерухомы.

*(Другі і трэці, падбягаючы да гэтага ж вакна, паўтараюць тое самае)*

**Карчмар** (*напалову адчыняе свае дзверы, пагражае дзецям рукою і крычыць*)

Чаго вы там бегаеце ля таго вакна! Там адпачывае хворы падарожны…

**Дзятва** (*хорам*)

Падарожны ўжо памёр… Нежывы, нежывы!

*(Яны разбягаюцца ў розныя бакі. Карчмар замыкае дзверы.*
*Дама з мужчынам выходзяць у першы пакой)*

**Лёкай** (*ідучы калідорам, прыглядаецца праз дзверы да падарожнага,*
*а потым, уваходзячы ў пакой, кажа даме*)

Ведае пані? Той сусед наш, пан падарожны, падобна, ужо аддаў Пану Богу душу. Ляжыць збялелы, не варухнецца, і не чутно, каб дыхаў.

**Дама** (*звяртаючыся да мужчыны*)

Бачыць пан! Нездарма хацела ад яго пазбавіцца… (*Да лёкая*). Загадай, як найхутчэй, запрагаць коні, усё забірай і руш дадому P.P.N.N. Там знойдзеш мяне і ўсё наша таварыства, мы зараз жа едзем дадому, я так баюся нябожчыкаў... Яшчэ, барані Божа, якое следства! Няма на што тут глядзець. (*Спехам адходзіць у таварыстве мужчыны*).

## V

*(Раптоўная бура, пярун б'е раз-пораз блізу бакоўкі падарожнага; б'юць у званы)*

**Падарожны** (*падхопліваючыся са сну*)

Светла!.. Гучна!.. Як на балі…

*(Адчыняе вакно, любуецца бураю і кажа:)*

Бліскавіца яркая, жывая,
Наскрозь цёмны змрок прашывае,
Адчыняе від неба ўдалечыні,
Ледзьве згасне, ужо ўспыхне –
Выбеленая і выкупная ў хмарах.
Ярка бліснe, гучней стрэліць,
А ўстрывожаны людскі род
Спявае "Авэ Марыя", б'е ў званы.
Чаму ж, чаму мяне захапляе
Гэты гук грому, бліскавіца?
Чаму ж вокам, думкаю лячу
У недасяжныя тоні неба?
Чаму з віхураю і з перунамі,
З бясформнымі саванамі хмараў
Я хацеў бы зліцца недзе ў прасторы,
Каб прачытаць слова Божае
І зразумець Яго гучанне:
Гукі слова, як прамяні,
Рассеяныя ў сонцах, зорках,
У думах цішы, бур нападах,
У тонях бездані і бязмежжа,

У бясконцым бегу вякоў,
У гомане птушак, у шуме ветру,
У незлічоных стварэнняў тлуме…

*(Азіраючыся і прыпамінаючы)*

Уга! Дзе ж мая гэтакая вяльможная занадта чулая на нервы Пані? – чуў, як жвава ўцякла ад мёртвага. Ад мёртвых уцячы – невялікая штука. Хай бы ёй гэтак лёгка было ўцячы ад жывых… Калі гэтая бура дагнала ў дарозе – вось шчыра яна моліцца, бедачына, пэўна больш набожная цяпер, чым тады, як тут была ў касцёле на ўрачыстым набажэнстве…

*(Бура сціхае. На небасхіле вялікая вясёлка)*

**Падарожны** (*аглядаючы наваколле*)

Бура ўжо сціхла. Калі-нікалі чуваць глухі водгалас далёкіх грымотаў, гарачае сонца ўрачыста, цудоўна, весела плыве па блакіце неба і зноў пануе ціша; – сяміколерная вясёлка высока падняла да неба ганарлівае сваё чало, а велізарнымі плячыма падперла два супрацьлеглыя канцы свету… Цудоўнае відовішча… Нічога не скажаш... І бура сыграла не абы-які канцэрт. Шкада толькі, што вырвала мяне з прарочых мрояў: снілася мне пахавальная працэсія. Пытаюся ў людзей: каго гэта хаваць збіраюцца? “Гэта Яе! – крычаць. – Тваю любую!” Ледзь мне сэрца не разарвалася. Кідаюся, як шалёны, да пахавальнае працэсіі, зрываю века труны, лямантую: стойце! Яна жывая, дыхае, толькі ў летаргіі… Але сыплецца на мяне град кпінаў і пагроз: “Звязаць гэтага шаленца! Хоча ўваскрашаць памерлых… звар’яцеў, звар’яцеў!” І ўжо быў я ў небяспецы. На шчасце, высоўваецца з тлуму малады хлопец, яе родны брат, пазнаў мяне ў той сціжме. Я схапіў яго за руку, прысягаю, што яна жывая, трэба яе абудзіць! Вокамгненна разагналі мы з ім натоўп і далакопаў, выцягнулі яе з труны, пачалі яе будзіць – памалу дыхае, ажывае… Неверагодная радасць ахапіла маю душу, а тут пярун – бух! – над галавою і знік прыгожы відзеж… (*Пасля роздуму*). Дзякуй небу за ўсё! Бура гэта ці відзеж, ці тое ды другое разам, абудзілі мяне канчаткова. Адчуваю, як вяртаецца да мяне ранейшае маё здароўе. Патрэбныя чалавеку непрыемнасці ды прыгоды… Яны ўзбагачаюць нас досведам, вучаць: без тых пакут, якіх, напрыклад, тут я нацярпеўся, і не прыйшло б мне ў галаву, што ёсць гэтакія людзі, як тая набожная пані або той шчабятлівы сысун. Праўду кажуць: “Няма дабра без ліха”. Някепска ведаць і тое, што ёсць нікчэмныя людзі… Які часам супярэчлівы Божы свет!.. Адзін, задыхаючыся ў гнілой халупе ў стане неспатольнае роспачы, як арыштант, у агоніі пакут чакае апошняе хвіліны, а тут побач другі, размясціўшыся ў некалькіх пакоях, шалее ад гневу, што хворы падарожны, не з уласнага жадання і волі, стаў прычынаю яго нязручнасці тым, што заняў цесную бакоўку. Але досыць усяго гэтага. Дзякуй небу, што паздаравеў… Час мне збірацца ў дарогу.

***(Уваходзіць стары гаспадар з выразам страху на твары)***

**Гаспадар**

О, і пан ужо абудзіўся, а гэтак моцна заснуў!.. Мы ледзь не памерлі ад страху, а што тая бура нарабіла і трывогі, і шкоды! Паразбівала вокны, пазрывала дахі, а ў прадмесці два дамкі пярун спаліў. Гэта быў судны дзень, мой пане! Можа, пан нядаўна ўстаў, не бачыў і не чуў усяго?

**Падарожны**

Устаў досыць даўно, здаецца, у сярэдзіне буры, пярун, што стукнуў непадалёк, мяне разбудзіў, і я толькі што быў сведкам асобных цудоўных сцэн.

**Гаспадар**

Ой, цудоўных! Няхай нас Бог бароніць ад падобнае цудоўнасці! Колькі жыву на свеце, першы раз сёння бачыў гэтакую страшную буру. А колькі трывогі, а колькі шкоды людзям яна нарабіла!

**Падарожны**

Але ж тая самая бура больш людзям зрабіла добрага, чым кепскага: не адзін ад страху шчыра памаліўся, зрабіў рахункі сумлення, значна паправіўся і стаў лепшым, чым быў раней.

**Гаспадар**

Праўда і гэта. Але ж гэтак знянацку бліснула… Загрымела… Што нават няшмат і часу было на рахунак сумлення.

**Падарожны**

Тым лепей: раптоўная небяспека перасцерагае, што чалавек павінны быць заўсёды гатовы да смерці, гэта значыць: павінны жыць пачціва.

**Гаспадар**

Гэта дробязь, мой пане! Ды не ўсе на гэта здольныя.

**Падарожны**

Так, па-living рознаму на свеце бывае… Гэтая бура, напрыклад, некаторым зашкодзіла, а мне, можа, і дапамагла. Здаровы стаў і гатовы ў дарогу. Дзякуй табе, шаноўны гаспадар, за праўдзівы чалавечы клопат пра мяне. Зробіш мне яшчэ адну паслугу (*даючы паперу*), пашлі каго з гэтаю папераю па паштовыя коні, а зараз развітаемся.

**Гаспадар**

Шчаслівай дарогі! Мы б хацелі, каб пан як даўжэй у нас заставаўся, але што рабіць? Няхай будзе, як патрэба кажа… І мы крыху ведаем людзей і акалічнасці… Ужо, дзякуй Богу, 40 гадоў трымаю карчму, бачыў розных людзей і розныя з імі прыгоды… Вось сяк-так чалавек стараўся ўсё паправіць. (*Адходзіць*).

**Падарожны** (*пасля кароткага роздуму*)

О, доўгая яшчэ перада мною і не надта акрэсленая дарога… Дзякуй небу, што здароўе маё вяртаецца, дык хоць бы і самае доўгае ды небяспечнае падарожжа мяне чакала – пастанавіў яго здзейсніць. (*Падымаючы вочы да неба*):

Добрай надзеі запалілася зорка,
Хвала Табе, Магутны Божа!
Не дай мне болю над чалавечыя сілы.
Вырві тыя церні, што мяне крывавілі –
Дай схаванае раней святло праўды,
Каб не блудзіў я па шляхах жыцця!
Не прагну багацця, ні пустое славы,
Нястрашная мне спёка і мазоль крывавы,
Абы працаваць мне ў Тваім вінаградніку, –
Каб чэрпаць сілы з жывое крыніцы…
Канец майго падарожжа яшчэ далёка…
Ахіні мяне чуйнай Тваёю апекай!
Новага жыцця дай мне світанак –
Няхай будзе Твая воля!

*(Ходзіць задуменны, зазірае часам у вакно, парадкуе падарожныя катомкі, потым, ходзячы ў кола і пазіраючы навокал)*

Усё ўжо ў дарогу гатова!
Няшмат мне на гэта трэба клопату…

*(Пасля паўзы)*

О, нязнаны суд Божы…
Зноў мне мрояцца моры і суша…
Нядаўна меўся тут злажыць свае косці
І ўжо зрабіць крок праз браму вечнасці.
І хто ведае? Можа, дзе ў чужой старане
І чужая далонь прысыпле мне скроні,
І маё імя не напіша…
І не пасадзіць куст кіпарысу…
Зямляк, выпадкова ў той край трапіўшы,
Не знойдзе мае сціплае магілы…

*(Пасля паўзы)*

А можа, калісьці… праз шмат гадоў,
Пасля мазольнае працы, у цяжкім змаганні,
З чалом, заараным клопатам і гадамі,
Я прыйду на парог прыязнае хаты, –
Дык няхай усіх пабачу вясёлымі і жывымі,
Багатымі дабрадзейнасцю, па-чалавечы шчаслівымі!
Каб жа гэтыя словы сталі прарочымі!
Каб жа мы сабе глянулі ў вочы

Смела і шчыра, як глядзяць людзі,
Што не выквацалі свае сэрцы ў крывадушнасці!
Каб зямныя спакусы
І фальшывага бляску прыгажосць
Рассыпаліся перад мэтаю Божага намыслу –
Каб мы ў праўдзе, святым каханні
Вытрывалі ў бурлівым бегу жыцця,
Каб дайшлі да зялёнага берагу,
Там, дзе квітнее шчасце ўсіх людзей –
Дзе не закрычаць: “Дайце нам цудаў!”
Бо цуды будуць у моцы людской…
Тая Божая сіла, што нас стварыла,
Схаваная ў нас, намі шанаваная,
Калі пазбудземся зямнога бруду,
У нас аб’явіцца сіла цуду!

*(Ён набліжаецца да вакна, пільна слухаючы)*

Здаецца мне, што чую голас званка і туркатанне паштовае брычкі… Усё бліжэй, усё бліжэй… Так, несумненна, заязджае ў гэтую браму…

*(Жвава)*

Званок звініць, званок плача,
У хваляванні сэрца скача,
Хто ж выкажа гэтае адчуванне!
Кепскія і добрыя – будзьце здаровы!
Заставайся здаровая і ты, прыгожая Дзвіна!
І родная мая краіна!
Няхай яна часам мяне ўспамінае…
Далей! – падарожжа бясконцае –

*(Напявае ў задуменні)*

Хуткая лодка мая
Смела ляці па хвалях!
Жыццё кароткае,
Бераг далёкі мой…
Бо хто паспее да яго,
Пакуль пачнецца ноч,
Той увянчае скронь –
Знайдзе цудаў моц.
І ў слаўнай старане
Гучыць анёльскі спеў –
Расце працы плён –
Несмяротны куст…
Там гучыць Божы хор
Хутчэй, мая лодка!
Там няма ўжо хмар,

Там вечнае святло…
А тут густая імгла,
Бруднай похаці клаака,
Тут надзея кволая,
Смутна плыве век.
Тут незагойны жаль,
Сэрцу тужліва заўсёды,
Хутка лодка ў далеч!
Да маіх берагоў ляці!

*(Пасля кароткае паўзы)*

Няўжо не час на абшары,
Які род людскі займае,
Каб быў розум з дабрадзейнасцю ў пары
І не пляваў бы сусед на суседа?
Няўжо ж не час зразумець,
Што мы ўсе з аднае гліны,
Што мы госці на гэтым свеце
І не маем тут нічога свайго?
Няўжо не час пераканацца,
Што бег часу мае свае законы,
Што пара ўжо тое выканаць,
Чаго жадае Бог і слава?..
Няўжо не час скончыць казкі,
З пыхаю пустою расстацца?
Бо як у брудзе жыццё згасне,
Не адродзімся нанова!..
Няўжо не час знаць пра тое,
Што плён людскі – дабрадзейнасць, праца,
Што не жыве душа золатам,
Жыццё другі раз не прыйдзе?
Няўжо не час сумленна
Адчуць, што нас, грэшных, чакае –
І прытуліцца да пляча
Пакрыўджанага брата-чалавека?
Няўжо не час біць сябе ў грудзі
І перапрашаць люд наш братні?
Як у грахах мы былі першыя,
Будзем жа і ў скрусе не апошнія!
У сэрцах слова ўжо загучала –
Трэба сцвердзіць яго справай –
Каб духам цела стала
"І жыло паміж намі!"

*(Выходзіць)*

# Лісты да Адама Завадскага

Пра тое, як літаратары Беларусі выдавалі свае кнігі ў XIX стагоддзі, апавядаюць архівы выдавецкіх фірмаў Завадскіх, Аргельбрантаў, Глюксбергаў і інш. У сувязі з тым, што беларускамоўнага ў тыя часы друкавалася вельмі мала, нашыя гісторыкі літаратуры апублікавалі даволі мізэрную колькасць дакументаў, у якіх вялася гаворка пра акалічнасці тагачаснае выдавецкае справы. І сапраўды, нам вядома адно колькі лістоў В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, у якіх закраналіся пытанні пра друкаванне ўласных літаратурных зборнікаў. Але ці можна даведацца з іх, напрыклад, колькі каштавала аўтару выдаць сваім накладам зборнік паэтычных твораў? Калі цалкам давяраць В. Дуніну-Марцінкевічу, то атрымаліваецца, што на адцэнзураваныя (здаецца, тры) томікі (быліцы) перакладу *Пана Тадэвуша* Адама Міцкевіча Беларускі Дудар выдаткаваў 724 рублі[1]. Ці азначае гэта, што за невялічкі томік аб'ёмам 80–100 старонак літаратар павінен быў заплаціць больш за 200 рублёў? Адказ на гэтае пытанне ў дступнай літаратуры знайсці даволі складана. Ці можа, скажам, задаволіць нас інфармацыя, што Міністэрства народнай асветы дазволіла вярнуць страты выдаўца і аўтара ў памеры 176 рублёў 76 капеек (першаму – 100 руб. 76 кап., другому – 76 руб.)[2]? Гэта рэальныя выдаткі за друк, прынамсі, перакладу двух быліц *Пана Тадэвуша*?

З гэтай прычыны мы палічылі патрэбным апублікаваць дзевяць дакументаў (восем лістоў і дамова), якія датычаць акалічнасцяў падрыхтоўкі і публікацыі двух томікаў *Poezyi* Г. Марцінкевіча. Першыя сем дакументаў апавядаюць пра тое, як больш за два гады малады паэт уладжвае разрахункі з Адамам Завадскім[3] адносна выдання свайго першага паэтычнага зборніка накладам 500 асобнікаў (напачатку дамаўляліся надрукаваць 250 асобнікаў за 47 руб. 25 кап., а пасля аўтар просіць павялічыць наклад да 500 асобнікаў). Перад намі варты жалю малюнак жабрацкага становішча Г. Марцінкевіча, які дзеля ажыццяўлення свае мэты шукае розныя магчымасці (звяртаецца па дапамогу да Арцёма ці Сымона Вярыгаў-Дарэўскіх,

[1] В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у двух тамах*, т. 2, Мінск 2008, с. 409.

[2] Я. Янушкевіч, *Жыццяпіс Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў кантэксце нацыянальнай гісторыі XIX стагоддзя* [у:] В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у двух тамах*, т. 2, Мінск 2008, с. 577–578.

[3] Адам Завадскі (1814–1875), знаны віленскі выдавец, уладальнік кнігарняў. Кіраваў друкарняю з 1838 г. (пасля смерці бацькі).

Антона Эдварда Адынца, прапануе А. Завадскаму ўзяць на камісію частку накладу), каб аплаціць друк кніжкі. І гэта чалавек, які быў у той час на дзяржаўнай службе. У двух апошніх лістах з 1849 года гаворка ідзе пра падобныя праблемы з аплатаю за выдадзены годам раней другі томік *Poezyi*.

Нам падаецца, што занатаваныя на паперы клопаты Г. Марцінкевіча пра выданне ўласных паэтычных зборнікаў былі знаныя і іншым літаратарам Беларусі. В. Дунін-Марцінкевіч, закладаючы маёнтак, а таксама пазычаючы грошы, здолеў выдаць шэраг сваіх кніг (у тым ліку – і з беларускамоўнымі творамі). А вось А. Вярыгу-Дарэўскаму ўдалося выдаць толькі польскамоўную *Gawędkę o Swojaku*. Іншыя ягоныя творы і пераклады – і польскамоўныя, і беларускамоўныя, тытулы якіх называюцца ў лістах Беларускае Дуды да У. Сыракомлі і А. Кіркора, не ўбачылі свету і не захаваліся. Адсутнасць сродкаў у аўтара, а таксама беспаспяховыя пошукі выдаўца-мецэната, відаць, – асноўныя прычыны таго, што вершаваныя тэксты А. Вярыгі-Дарэўскага так і не трапілі на друкарскі варштат.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1135–7–434, k. 80–95v.

# Геранім Марцінкевіч да Адама Завадскага

## № 1

|80r| Października d. 9$^{\underline{go}}$. Witepsk.

Wielmożny Mości Dobrodzieju!

Znając ludzkość i uczynność W. Jmci Pana ośmielam się przełożyć Mu moję proźbę o wydrukowanie mi w swojej typografii pewną liczbę prenumeracyjnych biletów, – liczbę jakiej załączona tu czerwona assygnata wydołać może (ma się rozumieć po oddtrąceniu kosztu przesłania).

Tutejsza typografijka Rządowa tak podupadła że w niej i na tę drobnostkę zdobyć się trudno. Bilety mają być zwyczajnej wielkości, na dobrym białym papierze, z błękitnym czworograniastym, a tym lepiej okrągłym marginesem, – następującej treści: “Okaziciel tego biletu opłacił za 1$^{\underline{n}}$ egzemplarz *poezij Heronima Marcinkiewicza* rubel sr. jeden. № 1$^{\underline{n}}$. Zaświadcza...”.

Prosiłbym by wyraz *poezij* jako też imię i nazwisko autora oznaczone były pochyłémi literami; zresztą mniejsza o marginesy i kształt ich jeśli to ma zbyt zatrudniać lub zbyt zmniejszyć liczbę biletów, – ale się tego nie spodziewam. W. Jmć Pan każe bilety ponumerować.

|80v| Wielmożny Jmć Pan nieskończone mię zobowiąże jeśli tak będzie łaskaw rychło spełni moją proźbę i za dni jakich dziesięć prześle mi pomienione bilety, – mnie im prędzej tém lepiej.

Niezadługo spodziewam się być w Wilnie i złożyć W. Jmci Panu osobistą podziękę. – może mi wypadnie utrudzać Jego typografiją i odciśnieniem całego dziełka. Niech W. Jmć Pan raczy mi objaśnić coby mało kosztować mniej więcej odciśnienie *poezji* pierwszego arkusza jako|też i następnych egzemplarzy.

Adres do mnie: Его Благородію Мил. Госуд. Ивану Дементьевичу Г$^{\underline{ну}}$ Черневскому чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія въ г. Витебскѣ для передачи Герониму Марцинкевичу.

Czekam niecierpliwie skutku najpokorniejszej proźby mojej i zostaję z najgłębszym ku W. Jmci Panu szacunkiem najniższy sługą H. Marcinkiewicz.

*Арыгінал. У гары наступнае |81r| старонкі паштовае паперы пазнака (відавочна, разлікі) А. Завадскага (?)*: posłano bilety dnia 5/9.XI.1843[1]. Zecer 70. <*нечыт.*> 120. <*нечыт.*> Papier 55. 245. Porto 40. 20. <*нечыт.*>

*На адвароце старонкі |81v| пазнака А. Завадскага (?)*: Marcinkiewicz w Witebsku. 9. 8$^{bra}$ 1843. odpi<*нечыт.*> 5/9. 9$^{bra}$ 1843[2].

---

[1] Апошняя лічба толькі ўмоўна можа быць прачытаная як “3”. Бяром, аднак, пад увагу тое, што ў лісце ідзе гаворка пра выданне падпісных білетаў на зборнік Г. Марцінкевіча *Poezye*, які выйшаў у 1845 г., а наступны ліст датуецца 1844 г.

[2] Апошнія лічбы датаў толькі ўмоўна могуць быць прачытаная як “3”. Гл. вышэй. “9. 8$^{bra}$ 1844” – трэба чытаць 9 кастрычніка (october) 1843 г., “5/9. 9$^{bra}$ 1843” – 5/9 лістапада (november) 1843 г.

*Пераклад*

9 кастрычніка, Віцебск

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

Ведаючы пра чалавечнасць і паслужлівасць В[яльможнага] Я[гамо]сця Пана, асмельваюся падаць Яму маю просьбу пра надрукаванне для мяне ў сваёй тыпаграфіі пэўнае колькасці падпісных білетаў; колькасці, на якую дастаткова будзе далучанае тут чырвонае асігнацыі[1] (пасля вылічэння, вядома, кошту перасылкі).

Тутэйшая Урадавая тыпаграфійка так заняпала, што ў ёй і гэтую драбніцу цяжка выканаць. Білеты павінны быць звычайнага памеру, на добрай белай паперы, з блакітнымі чатырохграннымі, а яшчэ лепей акруглымі палямі, наступнага зместу: “Прад’яўнік гэтага білету заплаціў за 1 асобнік *Poezij Геранiма Марцінкевіча* адзін срэбраны рубель. № 1. Пасвядчае…”.

Я прасіў бы, каб слова *Poezij*, а таксама імя і прозвішча аўтара былі пададзеныя курсівам; зрэшты, не істотна, якія будуць палі і іхні кшталт, калі гэта можа быць складаным альбо вельмі зменшыць колькасць білетаў, хоць гэтага і не спадзяюся. Няхай загадае Вяльможны Ягамосць Пан пранумараваць білеты.

Усё жыццё буду ўдзячны Вяльможнаму Я[гамо]сцю Пану за ласку хутка выканаць маю просьбу і за якіх дзесяць дзён даслаць мне згаданыя білеты; мне чым хутчэй, тым лепей.

Неўзабаве спадзяюся прыехаць у Вільню і скласці В[яльможнаму] Я[гамо]сцю Пану асабістую падзяку. Можа, мне давядзецца скарыстацца Ягонаю тыпаграфіяю і дзеля друкавання самое кніжкі. Дык няхай В[яльможны] Я[гамо]сць Пан мае ласку патлумачыць мне, колькі больш-менш можа каштаваць друк першага асобніка, а таксама і наступных.

Мой адрас: Его Благородію Мил[остивому] Госуд[арю] Ивану Дементьевичу Гну Черневскому[2], чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія въ Витебскѣ, для передачи Героніму Марцинкевичу.

Нецярпліва чакаю вынікаў пакорлівае мае просьбы і застаюся з самай глыбокай да В[яльможнага] Я[гамо]сця Пана пашанаю найніжэйшым слугою. Г. Марцінкевіч.

---

[1] Маецца на ўвазе, відаць, асігнацыя чырвонага колеру ўзору 1818 г., якая мела вартасць 10 рублёў. З 1843 г. такія асігнацыі пачалі абменьвацца (да 1849 г.) на новыя грашовыя знакі па курсу: 3,5 рубля асігнацыямі за 1 рубель крэдытнымі білетамі.

[2] Ян Чарнеўскі (блізу 1827 г. н.), відаць, малодшы калега (магчыма, былы выхаванец) Г. Марцінкевіча. Актыўна дапамагаў паэту збіраць падпіску на зборнік *Poezye* (сярод іх была Антаніна Корбут, маці паэта Ялегі Пранціша Вуля). На пачатку 1860-х гг. ён меў чын надворнага саветніка (падпалкоўнік у войску) і займаў пасаду радцы (совѣтника) губернскае ўправы. Адукаваўся дома, быў нежанаты, 1863 г. меў ордэны св. Анны 3 ст. і св. Станіслава 2 ст., бронзавы медаль “на Владимировской лентѣ въ память войны 1853–1856 гг.”, а таксама “знакъ отличія безпорочной службы за XV л.”. Жыў на “Вѣтрянной ул., домъ Родкевича”. У 1864 г., як католіка, яго звольнілі з казённае службы.

## № 2

|82r| Mca marca d. 12$^{go}$. Z Witebska.

Wielmożny Mości Dobrodzieju!

Przepraszam W. J. P. że tak późno listownie składam Mu podziękę, nim ją zdążę osobiście wynurzyć, za nadesłanie mi prenumeracyjnych biletów, liczbą 600$^{t}$; bardzom z nich kontent. Uczynność Wielmożnego Jmci Pana ośmiela mię znowu się udać do Niego z najgorętszą prośbą a tą jest: W. Jmć Pan będzie tyle łaskaw – oświeci mię coby miało kosztować odciśnienie w Jego drukarni 600$^{t}$ egzemplarzy pisma, wierszem, zawierającego dziesięć arkuszy druku, na białym, miernej wartości, papierze, średniej ścisłości, średnim drukiem, w formacie in 8$^{ce}$ oraz złożenie pierwszego arkuszu przy zwyż oznaczonych warunkach? Pisemko moje co do druku, ścisłości, papieru i formy ma być zupełnie podobne do *Poezij* Bohdana Zaleskiego, które W. Jmć Pan niezawodnie ma u siebie. Raczy mi W. Jmć Pan choć przez zbliżenie – mniej więcej |82v| określić miarę nakładu w pomienionym przedmiocie; przyznam Mu się, że niewiadomość pod tym względem zwleka poniekąd mój wyjazd do Wilna. Czekam skwapliwie łaskawej Jego odpowiedzi i zastaję z najwyższym ku Niemu szacunkiem. H. Marcinkiewicz. –

NB. Adres do mnie: Е. Б. М. Г. Ивану Дементьевичу Г$^{ну}$ Черневскому, чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія. Въ Витебскѣ. Для передачи Герониму Марцинкевичу. –

Czy można odcisnąć mniej 600$^{t}$ exemplarzy? Na przykład 300 tylko lub 400$^{ta}$? I czy wielkaby zaszła różnica w koszcie?

*Арыгінал. У гары адварота наступнае* |83v| *старонкі паштовае паперы пазнака А. Завадскага* (?): Marcinkiewicz w Witebsku. 12 Marca 1844. Odp: 2 Apryla.

*Пераклад*

12 сакавіка. З Віцебска.

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

Перапрашаю В[яльможнага] Я[гамосця] П[ана], што так позна лістоўна складаю Яму падзяку, пакуль змагу асабіста яе засведчыць, за дасланыя мне падпісныя білеты ў колькасці 600[1]; вельмі задаволены імі. Паслужлівасць Вяльможнага Я[гамо]сця Пана асмельвае мяне зноў звярнуцца Да Яго з гарачаю просьбаю, а менавіта: няхай В[яльможны] Я[гамо]сць Пан мае ласку паведаміць мне, колькі можа каштаваць выданне ў Ягонай друкарні 600 асобнікаў кнігі, вершам, аб’ёмам дзесяць аркушаў, на паперы белай, сярэдняе вартасці, сярэдняе шчыльнасці, сярэднім шрыфтам, фармат – 8°, а таксама вёрстка першага асобніка на акрэсленых вышэй умовах? Мая кніжка адносна шрыфту, шчыльнасці, паперы і формы павінна быць цалкам падобнаю да *Poezij* Багдана Залескага[2], якую В[яльможны] Я[гамо]сць Пан

---

[1] У спісе падпісчыкаў на томік паэзіі Г. Марцінкевіча – 102 асобы.

[2] Хутчэй за ўсё гаворка ідзе пра выданне *Poezije J. Bohdana Zaleskiego* (Wilno, drukiem Józefa Zawadzkiego, 1838), хоць нельга выключаць, што Г. Марцінкевіч мае на ўвазе парыжскі томік у сіняй вокладцы: *Poezije Bohdana Zaleskiego* (Paryż 1841).

пэўна мае ў сябе. Няхай В[яльможны] Я[гамо]сць Пан ласкава, хоць больш-менш прыкладна, акрэсліць межы накладу пры згаданых умовах; прызнаюся, што няведанне ўсяго гэтага адкладвае ў пэўнай ступені мой ад'езд у Вільню. Нецярпліва чакаю ласкавага Яго адказу і застаюся з найвышэйшаю да Яго пашанаю. Г. Марцінкевіч.

NB. Мой адрас: Е[го] Б[лагородію] М[илостивому] Г[осударю] Ивану Дементьевичу Г$^{\underline{\text{ну}}}$ Черневскому, чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія. Въ Витебскѣ. Для передачи Герониму Марцинкевичу.

Ці можна надрукаваць менш за 600 асобнікаў? Напрыклад, толькі 300 альбо 400? І ці вялікая будзе розніца ў кошце?

### № 3. Распіска-дамова Гераніма Марцінкевіча

|$_{84r}$| Roku 1845 stycznia 2$^{\underline{\text{go}}}$ ja niżej podpisany ułożyłem się z Jmć Panem Adamem Zawadzkim następnie. Jmć Pan Zawadzki obowiązuje się wydrukować mi 250 egzemplarzy *Poezij* pod tytułem: *Poezije Heronima Marcinkiewicza* druk ma się ukończyć pierwszych dni następującego mca lutego; – odcisk na welinie, format in 12$^{\underline{\text{m}}}$. Na rachunek kosztów druku obowiązuję się po powrocie moim do Witebska nadesłać Jmć Panu Zawadzkiemu pewną ilość pieniędzy, a resztę $^{\text{brakującą}}$ do umówionej summy rub. sreb. 47 i kop. 25 przeslę Jmci P. Zawadzkiemu skoro otrzymam 25 exemp. moich *Poezij*. Heronim Marcinkiewicz.

Adres do mnie: Его Благородію Мил. Г. Ивану Дементьевичу Г$^{\underline{\text{ну}}}$ Черневскому чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія въ г. Витебскѣ. Для передачи Герониму Марцинкевичу.

NB. Okładki *Poezij* ciemnobłękitne.

*Арыгінал.*

*Пераклад*

2 студзеня 1845 года, я, ніжэй падпісаны[1], дамовіўся з Я[гамо]сцем Панам Адамам Завадскім пра наступнае. Я[гамо]сць Пан Завадскі абавязваецца надрукаваць мне 250 асобнікаў вершаваных твораў пад тытулам: *Poeizje Heronima Marcinkiewicza*. Друкаванне павінна быць завершана ў першыя дні наступнага м[еся]ца, лютага; на вяленевай паперы[2], фармат – 12°. На рахунак кошту друку я абавязваюся, вярнуўшыся ў Віцебск, даслаць Я[гамо]сцю Пану Завадскаму пэўную колькасць грошай, а рэшту, якой будзе не хапаць да ўмоўленае квоты 47 срэб[раных] руб[лёў] і 25 кап[еек], вышлю Я[гамо]сцю П[ану] Завадскаму, як атрымаю 25 асобн[ікаў] маіх *Poezij*. Геранім Марцінкевіч.

---

[1] Дамову (хутчэй, распіску пра дамоўленасць) з Адамам Завадскім Г. Марцінкевіч падпісаў пасля таго, як цэнзар Ян Вашкевіч 30 снежня 1844 г. даў дазвол на друк кніжкі.

[2] Ад фр. *vélin* (цялячая скура). У XIX ст. так называлі дарагую, гладкую і тонкую паперу.

Мой адрас: Его Благородію Мил[остивому] Г[осударю] Ивану Дементьевичу Г^{ну} Черневскому, чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія, въ г. Витебскѣ. Для передачи Герониму Марцинкевичу.

NB. Вокладка *Poezij* – цёмна-блакітная.

**№ 4**

|85r| Stycznia d. 24^{go}. Z Witebska.

Wielmożny Mości Dobrodzieju!

W dzień wyjazdu mego z Wilna doświadczeńsi ode|mnie ludzie poradzili mi odcisnąć więcej niż 250 ezemp. moich *Poezij*; – widząc zasadność tej rady udałem się natychmiast do Pańs[k]iej Księgarni; w skutek zaś nieobecności tam W. Pana, prosiłem Jego brata pomówić z W. P. o odcisnieniu 500^{t} ex. i niektórych warunkach. Za powtórném mojém do WW. PP. przybyciem brat mi Pański powiedział że różnica ceny drukowej 500^{t} od 250 exemp. wynosi rub. sr. 12^{cie} i za ten przybyt nakładu t. j. za rub. sr. 12^{cie} WW. PP. przyjmą odemnie 48 exemp. Czując się wielce obowiązany Ich uczynności zgodziłem się na wszystko byle się odcisnęto 500^{t} exemp. Niech mi W. P. raczy przebaczyć że Mu tak niewcześnie i tak mało rub. sreb. 17^{cie} na konto naszego rachunku nadsyłam na tyle się tylko zdobyć dziś mogłem; – nadczekuję zasiłku, da Bóg prędko zupełnie się Im uiszczę. Powtarzam proźby moje o pośpiech w druku i o przesłanie mi, jak tylko będą |85v| gotowe książki, kiedy łaska, 200 lub 150 exemp. jednego prawie dnia rozdam je moim kolektorem – oni wszyscy niemal w Witebsku i to mi ułacni środki finansowe, reszta exemp. będzie dla N. P. pewną z mojej strony rękojmią. – Polecam to Jego wyrozumiałości, ale – bym szczerze chciał mieć jak można prędzej 150 exemplarzy; – wreszcie i na tém przestanę co mi W. P. tymczasowo nadeśle. Niech W. P. każe odcisnąć na okładkach: cena rub. sr. 1^{n}. Proszę o zachowanie pisowni jaka jest w rękopismie. Najżarliwiej czekam miłego mi Ich odpisu, exemplarzy i zostaję z najgłębszem ku Nim uszanowaniem sługa najniższy Heronim Marcinkiewicz. –

Dla lepszej pewności powtarzam adres do mnie: Его Б. М. Г. Ивану Дементьевичу Г^{ну} Черневскому чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія. Въ г. Витебскѣ. Для передачи Герониму Марцинкевичу. –

NB. W. Pan będzie łaskaw włączy ^{jeśli można} w listę prenumeratorów następujące osoby: ~~Kaz~~ Bujnicki Kazimierz, Sędzia, Butwiłowski Adam, Grzybowski Mikołaj, |86r| Jałoza Kazimierz, Kalinowski Jan, Kałusowski Herkuljan, Kłodnicki August, Saulski Demiro Hilary, Witowski Aleksander, Zdrajewska Sedalija, Żyżniewski Józef.

Proszę umieścić te osoby podług szyku abecadłowego – Kazimierza Bujnickiego w moim zbiorze a następujące po nim 10^{é} osób w zbiorze Jana Czerniewskiego. – Jeśli dla typografii nie będzie uciążliwie po odciśnieniu 500^{t} exemp. zatrzymać nienaruszenie ułożone na mój rękopism litery w ich arkuszowym porządku, proszę W. Pana o takowe zachowanie przez parę miesięcy,

gdyż w tym czasie mogę się zdobyć na jaki taki pieniądz i będę prosić W. P. o odciśnienie jeszcze jakich 300^tu^ lub więcej exemp. coby mnie kosztu a typografii powtórnej oszczędziło pracy. H. M. –

*Арыгінал. На доле гэтае* |86r| *старонкі паштовае паперы пазнака (відавочна, разлікі) А. Завадскага* (?): 1,20 + 35 = 36,20. 64,50 – 12,50 = 52 – 17 = 35+[1].

*На адвароце старонкі* |86v| *пазнака А. Завадскага* (?): Marcinkiewicz w Witebsku. 27 Stycznia 1845. Odp: <*нечыт.*> 21/23 febr 1845.

*Пераклад*

24 студзеня. З Віцебска.

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

У дзень майго ад'езду з Вільні больш дасведчаныя за мяне людзі параілі мне надрукаваць больш, чым 250 асобн[ікаў] маіх *Poezij*. Бачачы слушнасць гэтае парады, я адразу ж накіраваўся да Панскае кнігарні. З прычыны адсутнасці там В[яльможнага] Пана, я прасіў Ягонага брата[2] паразмаўляць з В[яльможным] П[анам] пра друкаванне 500 ас[обнікаў] і некаторыя ўмовы. Калі я паўторна прыйшоў да В[яльможных] П[аноў], Панскі брат сказаў, што розніца кошту друку 500 ад 250 асобн[ікаў] складае 12 ср[эбраных] руб[лёў] і за гэтае павелічэнне накладу г. зн. за 12 ср[эбраных] руб[лёў] В[яльможныя] П[аны] прымуць ад мяне 48 асобн[ікаў]. Пачуваючыся шмат чым абавязаным Іхняе паслужлівасці, я згадзіўся на ўсё, абы толькі было надрукавана 500 асобн[ікаў]. Няхай В[яльможны] П[ан] мае ласку дараваць мне, што позна і так мала, 17 ср[эбраных] руб[лёў], дасылаю на наш рахунак; адно столькі магу даць сёння. Чакаю ўспамогі, дык – дасць Бог – хутка цалкам з Ім разлічуся. Паўтараю сваю просьбу пра паспешнае друкаванне і пра высланне мне, як толькі будуць гатовыя кніжкі, калі ласка, 200 альбо 150 асобн[ікаў]. Я за адзін толькі дзень раздам іх маім калектарам[3]: яны ледзь не ўсе ў Віцебску, а гэта дасць мне фінансавыя сродкі; рэшта асобн[ікаў] будзе для В[яльможнага] (?) П[ана] пэўнаю з майго боку гарантыяй. Спадзяюся на Яго прыхільнасць, але – хоць і надзвычай прагну мець як найхутчэй 150 асобнікаў – задаволюся, урэшце, тым, што мне В[яльможны] П[ан] тым часам прышле. Няхай В[яльможны] П[ан] загадае надрукаваць на вокладцы: "Кошт 1 ср[эбраны] руб[ель]". Калі ласка, захоўвайце тую пісоўню, якая ёсць у рукапісе. Нясцерпна чакаю мілага мне Іхняга адказу, асобнікаў і застаюся з найвышэйшаю да Яго пашанаю найніжэйшым слугою. Геранім Марцінкевіч.

Дзеля лепшае пэўнасці паўтараю адрас да мяне: Е[го] Б[лагородію] М[илостивому] Г[осударю] Ивану Дементьевичу Г^ну^ Черневскому, чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія. Въ г. Витебскѣ. Для передачи Герониму Марцинкевичу.

---

[1] Лічба "17", відаць, азначае дасланыя Г. Марцінкевічам грошы, а "35" – належны доўг.
[2] Гаворка пра Фелікса Завадскага (1824–1891).
[3] Асобы, якія збіралі падпіску.

NB. Няхай В[яльможны] Пан мае ласку ўключыць, калі можна, у спіс падпісантаў, наступныя асобы: Буйніцкі Казімір, Суддзя; Бутвілоўскі Адам; Грыбоўскі Мікалай; Ялоза Казімір; Каліноўскі Ян; Калусоўскі Геркульян; Кладніцкі Аўгуст; Саульскі Дэміра Гіляры; Вітоўскі Аляксандар; Здраеўская Седалія; Жыжнеўскі Юзаф.

Прашу змясціць гэтыя асобы паводле алфавіту: Казіміра Буйніцкага ў маім зборы, а наступныя пасля яго 10 асобаў у зборы Яна Чарнеўскага. Калі тыпаграфіі не будзе складана пасля надрукавання 500 асобн[ікаў] захаваць паводле майго рукапісу вёрстку ў ейным пастаронкавым парадку, дык прашу В[яльможнага] Пана пра такое на пару месяцаў, бо за гэты час магу атрымаць сякія-такія грошы і буду прасіць В[яльможнага] П[ана] надрукаваць яшчэ якіх 300 альбо і больш асобнікаў, што мне б зэканоміла грошы, а тыпаграфіі – паўторнае працы. Г. М.

## № 5

|87r| R. 1845. kwietnia d. 17$^{go}$. Z Witebska.

Wielmożny Mości Dobrodzieju!

Szczere dziękuję W. Jmci Panu za spieszne ukończenie druku mojego pisemka: szanowne listy Jego oraz 40$^{ci}$ exemplarzy już dawno otrzymałem. – Spodziewałem się przesłać Mu niebawem pozostałą należność i do tego czasu zwlekałem odpis, lecz szczególniejszy układ moich domowych okoliczności odjął mi nadzieję prędkiego i bezpośredniego uiszczenia się z długu. Przed trzema tygodniami udałem się z prośbą do W. Jmć Pana Odyńca czyby on nie|mógł zaspokoić W. Pana co do mego długu, wziąć pod swoje rozporządzenie 250 exemp.? Aby Pan Dobrodziej był tak łaskaw 150 exemp. przesłać mi, jak można rychlej, do Witebska: o skutku tej proźby nie|mam jeszcze wiadomości. Jeśli W. Jmć Pan Odyniec ma jakie przeszkody w zadośćuczynieniu mojej proźbie czyby Pan Dobrodziej nie przyjął na siebie tego konisu? – będę Mu nieskończenie obowiązany! – prośiłbym zostawić w swojej księgarni 250 exemplarzy do zbycia jak najumiarkowańszą ceną (choć po 2 złote exem.) a resztę 150 exem. przesłać do Witebska, – ~~xxxxx~~ cenę zostawyję Jego własnej uwadze i możności. – Pan Dobrodziej łaskaw zastąpi mię w tym przedmiocie. Oczekuję pożądanej mi Jego odpowiedzi tudzież choć 120$^{tu}$ exem. i zostaję z najwyższym szacunkiem sługa najniższy Heronim Marcinkiewicz.

Adres do|mnie dawniejszy – t. j. Ивану Дементьевичу Черневскому чиновнику Витебс. Губернскаго Правленія въ г. Витебскѣ для передачи Герониму Марцинкевичу. –

*Арыгінал. У гары наступнае |88r| старонкі паштовае паперы пазнака А. Завадскага* (?): Hieronim Marcinkiewicz. 17/IV 1845. Odpisano 12/VII.

17 красавіка 1845 г. З Віцебска.

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

Шчыра дзякую В[яльможнаму] Я[гамо]сцю Пану за спешнае заканчэнне друку мае кніжкі: шаноўныя Ягоныя лісты, а таксама 40 асобнікаў ужо даўно атрымаў. Спадзяваўся адразу даслаць Яму астатак доўгу, дык марудзіў з адказам, але спецыфічны ўклад маіх хатніх здарэнняў забраў у мяне надзею хутка і непасрэдна разлічыцца. Тры тыдні таму звяртаўся з просьбаю да В[яльможнага] Я[гамо]сця Пана Адынца[1], ці не мог бы ён задаволіць В[яльможнага] Пана ў справе майго доўгу, узяць і распаўсюджваць 250 асобнікаў? І каб Пан Дабрадзей меў ласку 150 асобн[ікаў] выслаць, як можна хутчэй, мне ў Віцебск, але пра вынікі гэтае просьбы я не маю яшчэ вестак. Калі В[яльможны] Я[гамо]сць Пан Адынец мае нейкія перашкоды, каб выканаць маю просьбу, дык ці Пан Дабрадзей не ўзяў бы на сябе гэтую камісію? Буду бясконца ўдзячны Яму! Я прасіў бы пакінуць у сваёй кнігарні 250 асобнікаў, каб прадаваць па самым памяркоўным кошце (хоць па 2 злотыя асоб[нік]), а рэшту – 150 асоб[нікаў] – выслаць у Віцебск, – вызначэнне кошту пакідаю Ягонай уласнай увазе і магчымасці. Пан Дабрадзей мае ласку замяніць мяне ў гэтай справе. Чакаю на жаданы мне Ягоны адказ, а таксама хоць на 120 асоб[нікаў] і застаюся з найвышэйшаю пашанаю найніжэйшым слугою. Геранім Марцінкевіч.

Адрас мой даўнейшы, г. зн.: Ивану Дементьевичу Черневскому, чиновнику Витебс[каго] Губернскаго Правленія, въ г. Витебскѣ, для передачи Герониму Марцинкевичу.

**№ 6**

|89r| R. 1845, lipec d. 3$^{go}$, z pod Witebska.

Wielmożny Mości Dobrodzieju!

Mocno czuję nad tém żem dotychczas nie|skończył zaszłego między nami rachunku! Długie pasmo dręczących mię niepowodzeń i niezdrowia nie pozwała mi i dopiero drogą prostą uiścić się W. J. Pana; w poprzednim liście prosiłem W. Jmć P. czyby nie|mógł zbyć ceną najmniejszą z pozostałych u Niego 400$^{t}$ exemp. moich *Poezij* taką ilość któraby wróciła W. Panu należne odemnie r. sr. 36 i kop. 35 sr. – Nic jeszcze dotychczas nie wiem; – W. P. będzie łaskaw zechce mi cokolwiek o tém napisać lub powiedzieć przez Jmć Pana Weryhę któremu to pisemko poleciłem. Jeśli interesa Jmci P. Weryhy pozwolą dług mój W. Panu opłacić, lub W. P. zaspokoił takowy sprzedaniem pewnej ilości exemplarzy – proszę pozostałe exempl. wydać Jmci Panu Weryże on je przywiezie do Witebsku. Zostaję z najwyższym ku Niemu szacunkiem sługa najniższy H. Marcinkiewicz. –

[1] Гаворка, відаць, пра Антона Эдварда Адынца (1804–1885).

*Арыгінал. На доле гэтае старонкі паштовае паперы пазнака А. Завадскага* (?): Dnia 23. 8$^{\text{bra}}$ odpisam i proszono o odesłanie należnych 36 r. sr. i kop. 35. *На наступным* |90r| *аркушы (ён выкарыстаны ў якасці канверта) – адрас і (збоку) пазнака А. Завадскага* (?): Wielmożnemu Jmci Panu Zawadzkiemu. Łaskawemu Dobrodzieju. W Wilnie. Marcinkiewicz Heronim. 3 Lipca 1845. Odp. 23 8$^{\text{bra}}$ 1845.

*Пераклад*

3 ліпеня 1845 г. З-пад Віцебска.

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

Моцна я перажываю, што да гэтага часу не разлічыўся са свайго доўгу! Доўгая паласа пакутлівых для мяне няўдач і хваробаў не дазваляе мне і цяпер проста задаволіць В[яльможнага] Я[гамо]сця Пана. У папярэднім лісце я прасіў В[яльможнага] Я[гамо]сця Пана, ці не мог бы прадаць па самым нізкім кошце з тых 400 асобнікаў маіх *Poezij*, якія застаюцца ў Яго, такую колькасць, якая б вярнула В[яльможнаму] Пану належныя ад мяне 36 ср[эбраных] р[ублёў] і 35 ср[эбраных] кап[еек]. Нічога яшчэ дасюль не ведаю. Няхай В[яльможны] П[ан] мае ласку хоць што пра гэта напісаць альбо паведаміць праз Я[гамо]сця Пана Вярыгу[1], якому я даручаю гэты ліст. Калі справы Я[гамо]сця П[ана] Вярыгі дазволяць заплаціць мой доўг В[яльможнаму] Пану альбо В[яльможны] П[ан] задаволіць яго продажам пэўнай колькасці асобнікаў, дык, калі ласка рэшту асобн[ікаў] выдаць Я[гамо]сцю Пану Вярыгу; ён прывязе іх у Віцебск. Застаюся з найвышэйшаю да Яго пашанаю найніжэйшым слугою. Г. Марцінкевіч.

**№ 7**

|91r| Z Witebska, dnia 1$^{\underline{\text{go}}}$ grudnia.

Wielmożny Mości Dobrodzieju!

Przebaczy mi W. Pan Dobrodziej opóźnienie się w opłacie 36 rub. sr. – aleśmy podobna wzajemne obowiązani sobie przebaczenie: ja, żem z powodu niemal całorocznej mojej choroby, śmierci Ojca i innych dość niepomyślnych dla mnie wydarzeń nie mógł dotychczas uiścić się w pomienionym długu, a W. Pan Dobrodziej – że przez nieufność handlową nie raczył mi na kilkokrotną prośbą (króm uprzednio przesłanych 40$^{\underline{\text{tu}}}$) przesłać jeszcze ze 100 exemplarzy, mając dostateczną kaucyą w pozostałych exemp. i piśmienne ode|mnie upoważnienie sprzedać dowolną ceną połowę t. j. 200 exem. na korzyść należności. – Obaśmy względem siebie poniekąd winni, lecz że nasze Chrześcjańskie ustawy nie|pozwalają długo się gniewać – ja z mojej strony przebaczam. Na konto należności posyłam W. Panu 20$^{\underline{\text{cia}}}$ rub. sr. a razem też naj usilniej |91v| proszę przesłać mi pocztą do Witebska na imię P. Jana Czerniewskiego, jak można najprędzej 100 lub trochę więcej exemp. moich *Poezij*, czem W. Pan wielce obowiąże i przyśpieszy ostateczne ukończenie naszego rachunku. – gdyż mam dosyć na moje

[1] Невядома, пра каго ідзе гаворка: Арцёма ці Сымона Вярыгаў-Дарэўскіх.

pisemko ochotników. Zostaję z najgłębszym ku W. Panu szacunkiem sługa najżyczliwszy Heronim Marcinkiewicz. –

*Арыгінал. У гары першае* |91r| *старонкі паштовае паперы пазнака А. Завадскага* (?): posłano 110 Ex dnia 18/XII 1845. wogule 150 Ex.

*У гары адварота наступнае* |92v| *старонкі паштовае паперы пазнака А. Завадскага* (?): Marcinkiewicz w Witebsku. 1/XII 1845. Odp. i eksped: 18/XII 1845.

*Пераклад*

З Віцебска, 1 снежня.

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

Няхай даруе мне В[яльможны] Пан Дабрадзей спазненне з выплатаю 36 ср[эбраных] руб[лёў], але ж мы, здаецца, узаемна абавязаныя прасіць прабачэння: я, што з-за амаль гадавое мае хваробы, смерці бацькі і іншых досыць непамысных для мяне здарэнняў не мог дасюль разлічыцца са згаданага доўгу, а В[яльможны] Пан Дабрадзей, што з-за гандлёвага недаверу не меў ласкі, нягледзячы на шматразовыя просьбы (апрача раней дасланых 40) выслаць яшчэ якіх 100 асобнікаў, маючы як дастатковы заклад рэшту асобн[ікаў] і пісьмовае ад мяне паўнамоцтва прадаць за любы кошт палову, г. зн. 200 асоб[нікаў] на карысць доўгу. Абодва мы адносна сябе ў пэўнай ступені віноўныя, але з-за таго, што нашыя хрысціянскія законы не дазваляюць доўга гневацца, я – са свайго боку – дарую. На рахунак доўгу высылаю В[яльможнаму] Пану 20 ср[эбраных] руб[лёў] і адначасна таксама наймацней прашу выслаць мне поштаю ў Віцебск на імя Пана Яна Чарнеўскага – як можна хутчэй – 100 альбо трохі і больш асобн[ікаў] маіх *Poezij*, чым В[яльможны] Пан мне моцна дапаможа і прыспешыць нашае разлічэнне, бо маю шмат ахвотных набыць маю кніжку. Застаюся з найвышэйшаю да Яго пашанаю найніжэйшым слугою. Геранім Марцінкевіч.

**№ 8**

|93r| Stycznia d. 11$^{\underline{go}}$, r. 1849$^{\underline{go}}$, Witebsk.

Wielmożny Mości Dobrodzieju!

Przepraszam W. Pana że dosyć późno uiszczam się z reszty długu – i na chwilkę o nim nie zapominałem, przyczyną tej zwłoki zwyczajna trudność finansowa. Oznaczony dług mój w liście W. Pana pod datą 15$^{\underline{go}}$ marca zeszłego 1848$^{\underline{go}}$ roku z dołączeniem kosztu przesyłki 50$^{\underline{ciu}}$ exemp. w owym czasie nadesłanych wynosi r. s. 15$^{\underline{cie}}$ i kop. 75. –

Posyłam dopiero W. Panu na pokwitowanie tej należności r. s. 18$^{\underline{cie}}$ potrącając przez przybliżenie r. s. 2 i kop. 25. na koszt transportu – zostających u W. Pana 100 exemp. drugiego tomiku moich *poezyj* z tych 28$^{\underline{m}}$ exemp. proszę W. P. Dobrodzieja (jeśli można) co najpierwszą pocztą posłać Jmci Panu Ignacemu Bohomolcowi pod adresem: Е. Б. Игнатію Ромуальдовичу Богомольцу

Витебской Губерніи Рѣжицкаго уѣзда на станцію Горикольну для передачи въ имѣніе Розентово.

Restancyjne zaś 72 exemp. W. Pan będzie łaskaw prześle mi niezwłocznie do Witebska pod adresem: |93v| Е. Б. Ивану Дементьевичу Черневскому чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія въ г. Витебскѣ для передачи Герониму Марцинкевичу. –

Jeżeli by się okazała jaka przewyżka nakładu pocztowego W. Pan nie zaniedba uwiadomić mię o tém i jak się kolwiek pomiarkujemy.

Serdecznie dziękuję W. Panu za cierpliwość w oczekiwaniu i rzetelną powolność w zadość uczynieniu prośbom moim; spodziewam się że to nie ostatnia była moja z W. Panem w podobnym przedmiocie styczność, – dałby Bóg by moje materialne środki mogły nadal regularniej dobrym chęciom odpowiadać. Pozostaje z najgłębszem ku W. Panu uszanowaniem sługa najżyczliwszy

Heronim Marcinkiewicz

NB. Jeżelibym po ścisłym obrachunku został W. Panu dłużnym jaką ilość, – czy nie zechce W. Pan nabyć u mnie stosowną do tej ilości exemp.? a ja Mu drugie tyle exemp. tomiku 1$^{\text{go}}$ do kompletu nadeślę. – Z resztą może przed wiosną będę miał przyjemność widzieć $^{\text{się}}$ z W. Panem w Wilnie. Więc tam ostatecznie się rozliczym jeśli tego będzie potrzeba.

*Арыгінал. У гары адварота наступнае* |94v| *старонкі паштовае паперы пазнака А. Завадскага* (?): 11/I 1849. Hier. Marcinkiewicz, w Witebsku. Odp. i cap. *(?)* 5/II 1849.

*Пераклад*

11 студзеня 1849 г. Віцебск.

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

Няхай даруе В[яльможны] Пан, што досыць позна[1] разлічваюся за рэшту доўгу – і на хвілінку не забываўся, прычына затрымкі – звычайныя фінансавыя праблемы. Мой доўг, азначаны ў лісце В[яльможнага] Пана ад 15 сакавіка мінулага, 1848 года з дадаткам кошту перасылкі ў той час адпраўленых 50 асобнікаў складае 15 ср[эбраных] р[ублёў] і 75 кап[еек].

Высылаю зараз В[яльможнаму] Пану на разлічэнне доўгу 18 ср[эбраных] р[ублёў], прыкладна вылічваючы з іх 2 ср[эбраныя] р[ублі] і 25 кап[еек] на кошт траспарту 100 асобнікаў другога томіку маіх *Poezyj*, якія застаюцца ў В[яльможнага] Пана, з іх 28 асобні[каў] прашу Вяльможнага Пана дабрадзея (калі можна) самаю першаю поштаю даслаць Я[гамо]сцю Пану Ігнату Багамольцу па адрасе: Е[го] Б[лагородію] Игнатію Ромуаль-

[1] Цэнзар Ян Вашкевіч падпісаў дазвол на друк другога томіка *Poezyi* Г. Марцінкевіча 7 лістапада 1847 г. Відаць, на пачатку 1848 г. кніжка ўбачыла свет.

довичу Богомольцу, Витебской Губерніи Рѣжицкаго уѣзда, на станцію Горикольну, для передачи въ имѣніе Розентово[1].

Астатнія ж 72 асобн[ікі] няхай В[яльможны] Пан мае ласку выслаць без затрымкі ў Віцебск на адрас: Е[го] Б[лагородію] Ивану Дементьевичу Черневскому, чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія, въ г. Витебскѣ, для передачи Герониму Марцинкевичу.

Калі б мела месца якое перавышэнне паштовых коштаў, дык няхай В[яльможны] Пан не занядбае паведаміць мне пра гэта: мы як-небудзь дамовімся.

Сардэчна дзякую В[яльможнаму] Пану за цярплівасць у чаканні і сумленную марудлівасць у задавальненні маіх просьбаў; спадзяюся, што гэта былі не апошнія мае з В[яльможным] Панам у падобнай справе кантакты. Дай Божа, каб мае матэрыяльныя сродкі маглі ў далейшым належна адпавядаць добрым жаданням. Застаюся з найвышэйшаю да Вяльможнага Пана пашанаю найзычлівейшым слугою.

Геранім Марцінкевіч.

NB. У выпадку калі – пры дакладным разліку – я застаўся вінным В[яльможнаму] Пану нешта, дык ці не захоча В[яльможны] Пан набыць у мяне адпаведную да тае колькасці асобн[ікаў]? А я Яму яшчэ столькі асобн[ікаў] 1 томіку дзеля камплекту дашлю. Зрэшты, можа, напрадвесні буду мець прыемнасць бачыцца з В[яльможным] Панам у Вільні. Дык там канчаткова разлічымся, калі будзе такая патрэба.

**№ 9**

|95r| Dnia 15$^{\underline{go}}$ Lutego, r. 1849$^{go}$. Z Witebska.

Wielmożny Mości Dobrodzieju!

Mocno mię to zadziwia i niepokoi że dotąd nie|mam od W. Pana ani książek moich ani wiadomości; oto już pięć tygodni upłynęło gdyż 11$^{\underline{go}}$ Stycznia posłałem na imię Pańskie 18$^{\underline{cie}}$ rub. sr. na pokrycie mojej należności i na przesłanie 100 exem. 2$^{\underline{go}}$ tomiku moich *poezyj*, – z tych 28 exem. prosiłem niezwłocznie posłać pod adresem: Игнатію Ромуальдовичу Богомольцу Режицкаго уѣзда на станцію Горикольну для пересылки въ имѣніе Розентово, – resztę zaś t. j. 72 exem. do Witebska pod adresem Jana Czerniewskiego: Ивану Дементьевичу Черневскому чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія, въ г. Витебскѣ. – для передачи Герониму Марцинкевичу.

---

[1] Гаворка пра Ігнацы-Савелія Вікенція Багамольца (нар. каля 1811), інжынер-капітана Корпусу інжынераў шляхоў зносін, пасля губернскага сакратара ў Дэпартаменце дзяржаўных маёмасцяў. У адстаўцы з 1842 г. Па спадчыне ад маці атрымаў маёнтак Разентава. Сын Рамуальда Багамольца (1763–1840), былога Віцебскага маршалка шляхты (1816–1819) і баранэсы Тэрэзы фон Фелькерзан (1786–1862). Гл.: *Генеалогический форум ВГД* [online] https://forum.vgd.ru/post/171/89025/p261-1883.htm [доступ: 16.04.2020].

Należało się wszystkiego ode|mnie W. Panu 15½ rub. sr. reszta zaś 18$^{\underline{tu}}$ r. sr. pozostaje na transport, wątpię by przyczyną nie zadość uczynienia mojej pokornej prośbie była jaka przewyżka w koszcie transportu takową na pierwsze Jego zawiadomienie z największąbym podzięką odesłał. – Najusilniej więc proszę W. Pana wyprowadzić mię z nudzącego powątpienia i rychło nadesłać exemplarze podług powyższych skazówek; – te exemplarze od dawna są mi bardzo potrzebne. Czekam łaskawego i prędkiego skutku mojej prośby zostający z najwyższym szacunkiem – sługa jego najniższy H. Marcinkiewicz. –

*Арыгінал. У гары адварота гэтае* |95v| *старонкі паштовае паперы пазнака А. Завадскага* (?): 15 lutego 1849. Marcinkiewicz w Witebsku wyexpedyowany.

*Пераклад*

15 лютага 1849 г. З Віцебска.

Вяльможны Мосці Дабрадзею!

Моцна мяне гэта здзіўляе і непакоіць, што дасюль не маю ад В[яльможнага] Пана ані кніжак маіх, ані вестак; вось ужо пяць тыдняў мінула, як 11 студзеня я выслаў на Панскае імя 18 ср[эбраных] руб[лёў] у якасці аплаты майго доўгу і дзеля перасылання 100 асоб[нікаў] 2 томіка маіх *Poezyj*, з іх 28 асоб[нікаў] прасіў неадкладна накіраваць на адрас: Игнатію Ромуальдовичу Богомольцу, Режицкаго уѣзда, на станцію Горикольну, для пересылки въ имѣніе Розентово, рэшту – г. зн. 72 асоб[нікі] у Віцебск на адрас Яна Чарнеўскага: Ивану Дементьевичу Черневскому, чиновнику Витебскаго Губернскаго Правленія, въ г. Витебскѣ, – для передачи Герониму Марцинкевичу.

Належала ад мяне В[яльможнаму] Пану 15½ ср[эбранага] р[убля], а рэшта з 18 ср[эбраных] р[ублёў] застаецца на транспарт. Сумняваюся, што прычынаю нездавальнення мае пакорлівае просьбы было перавышэнне кошту транспарту. Гэтае б я на першае Ягонае паведамленне з найвялікшаю падзякаю выслаў. Дык наймацней прашу В[яльможнага] Пана вывесці мяне з роспачнага сумнення і неадкладна выслаць асобнікі паводле вышэй пададзеных звестак. Гэтыя асобнікі даўно ўжо мне патрэбныя. Чакаю ласкавага і хуткага выканання мае просьбы, застаючыся з найвышэйшаю пашанаю найніжэйшым ягоным слугою. Г. Марцінкевіч.

# Геранім Марцінкевіч у Дорпцкім універсітэце

Архіўных дакументаў пра Г. Марцінкевіча выяўлена вельмі мала, і яны да таго ж не публікавалася. Г. Кісялёў, спасылаючыся на архіўныя справы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі[1], пісаў што Г. Марцінкевіч прыйшоў на свет 2/14 ліпеня 1816 г. у маёнтку Тулава[2] ля Віцебска, у другой палове 1820-х гг. вучыўся ў Віцебскай базыльянскай гімназіі[3], пасля закрыцця якое ўладамі перайшоў у Віцебскую губернскую гімназію. У 1834 г. Франц Марцінкевіч[4] з дапамогаю павятовага маршалка віцебскае шляхты Мікалая Энка імкнуўся ўладкаваць сыноў – Геранiма і малодшага на год Аляксандра – на казённы кошт, але гімназічная ўлада адмовіла з тае прычыны, што нібыта Марцінкевічы не мелі пацверджаных шляхецкіх дакументаў. У наступным годзе Г. Марцінкевіч, скончыўшы ўсё ж гімназію, стаў студэнтам юрыдычнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта[5]. "Колькі ён там правучыўся – невядома, але закончанай універсітэцкай адукацыі не атрымаў"[6] – сцвярджаў Г. Кісялёў. А вось У. Мархель на падставе пазнакаў пад вершамі пісаў пра навучанне паэта ў Маскве ў 1837 г.[7].

[1] Гл.: НДГА, ф. 1430 [*Канцелярия витебского гражданского губернатора*], воп. 1, спр. 18165; НДГА, ф. 2512 [*Витебское губернское дворянское собрание Департамента герольдии Сената*], воп. 1, спр. 601. На жаль, нам не ўдалося пазнаёміцца з гэтымі справамі.

[2] Паводле *Słownika geograficznego* (Warszawa 1892, t. XII, s. 620), маёнтак Тулава з 4800 дзесяцінамі зямлі належаў спачатку Кошчыцам, а пазней Цеханавецкім (прынамсі, у другой палове XIX ст. Генрыку Цеханавецкаму). Відаць, Франц Марцінкевіч на пачатку XIX ст. быў на службе ва ўладальніка маёнтка.

[3] У 1829–1830 н. г. Г. Марцінкевіч быў вучнем трэцяга класа Віцебскай базыльянскае гімназіі. (Гл.: Л. Хмяльніцкая, *Віцебская базыльянская гімназія ў 1822–1832 гадах*, "Acta Albaruthenica" 2016, t. 16, s. 233). Вучнямі гімназіі ў гэты час былі: Генрык Цеханавецкі (першы клас), пазнейшы ўладальнік Тулава, брат Ігнацы Цеханавецкага; Аляксандар Марцінкевіч (другі клас); Максімільян Маркс (чацвёрты клас); Тадэвуш Лада-Заблоцкі (шосты клас). Аляксандар Рыпінскі закончыў гімназію ў 1828 г.

[4] З ліста Г. Марцінкевіча да А. Завадскага вядома, што Франц Марцінкевіч памёр у 1845 г.

[5] Пра навучанне Г. Марцінкевіча ў Маскоўскім універсітэце Г. Кісялёў ведаў з архіўных матэрыялаў. У сваіх працах ён спасылаецца на Р[асейскі] Д[зяржаўны] Г[істарычны] А[рхіў] у Маскве (ф. 458, воп. 105, спр. 108), але праз памылку, відаць, архіўны адрас пададзены недакладна.

[6] Г. Кісялёў, *Марцінкевіч Геранім* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах*, т. 4, Мінск 1994, с. 223.

[7] Гл.: У. Мархель, *Прысутнасць былога: Нарысы, артыкулы, эсэ*, Мінск 1997, с. 85.

Вярнуўшыся на бацькаўшчыну (год у даследаваннях не называецца), ён уладкаваўся на працу ў Віцебскую губернскую ўправу. Але, відаць, служыў там нядоўга. Мяркуем па тым, што ўжо ў 1844 г. ён у якасці свайго зваротнага адраса падае Адаму Завадскаму дадзеныя Яна Чарнеўскага, "чиновника Витебскаго Губернскаго Правленія": было б дзіўна, каб ён, служачы ў гэтай установе сам, прасіў пісаць на імя калегі.

У 1849 г. Г. Марцінкевіч зноў уладкаваўся на дзяржаўную службу: стаў "канцелярскимъ чиновникомъ" Віцебскае шляхецкае зборні, дзе даслужыўся чыну 12-га класа "губернскаго секретаря" і атрымаў нават медаль "Въ память войны 1855–1856 годовъ"[1]. Ён служыў на гэтай пасадзе яшчэ ў 1861 г.: прынамсі, *Памятная книга Витебской губерніи на 1862 г.* зафіксавала яго як дзейнага чыноўніка "по 1-е Января 1862 года"[2]. А вось у наступным выпуску "адрас-календара" прозвішча Г. Марцінкевіча адсутнічае: трэба думаць, захварэў ён якраз у 1862 г. Праўда, дакументы сведчаць, што пытанне пра прызначэнне пенсіі цяжка хвораму (разбіты паралічам) вырашалася ў віцебскіх установах у 1864 г.[3].

У апошні час у Тартускім аддзеле Нацыянальнага архіва Эстоніі знайшоўся запыт Віцебскае шляхецкае дэпутацкае зборні ад 3 ліпеня 1853 г. да Управы Дорпцкага ўніверсітэта з просьбаю пацвердзіць атэстат[4] Г. Марцінкевіча, атрыманы ім у 1840 г. Дакладней, Віцебск цікавіла: іхны чыноўнік быў вольным слухачом універсітэта ці знаходзіўся ў ліку студэнтаў. Атэстат, відавочна, – гэта не дакумент пра завяршэнне навучання ва ўніверсітэце, а, фактычна, папера, якая ў тыя часы магла служыць г. зв. "видомъ на жительство". Такім чынам, пацвярджаюцца словы Дароты Самборскай-Кукуць, што Г. Марцінкевіч "od r. 1835 studiował na UM na wydziale prawa, a później na UD"[5]. Цяпер мы можам сцвярджаць, што віцебскі паэт з 1835 па 1840 г. набываў вышэйшую адукацыю (магчыма, з перапынкам) у Маскоўскім і Дорпцкім універсітэтах.

Друкуецца паводле: Rahvusarhiiv (Нацыянальны архіў у Тарту), Fondi nr 402, Nimistru nr 2, Säiliku nr 15892 [*Acta des Conseils und Directoriums der Kaiserlichen Universität zu Dorpat, betreffend Hieronymus Marcinkewicz. Angefangen d. 1853. Geschlossen d. __*] (*Polonica z Archiwum Historycznego w Tartu: Marcinkewicz, Hieronymus, AA 4003, dipl. niem., ros.* [online] http://agadd.home.net.pl/metrykalia/estonia/eaa0402_002_0015892_ [доступ: 17.04.2021]).

---

[1] *Памятная книжка Витебской губерніи на 1861 год*, Витебскъ 1861, с. 35. Разам з Г. Марцінкевічам у шляхецкай зборні ў якасці "помощника столоначальника" служыў "губернскій секретарь Игнатій Оттоновичъ Заневскій Мигановичъ", аўтар беларускамоўнае "фантазіі" *Ihnat Slinka*, напісанай у дзень імянін Марціна Дэмбінскага-Пюра, пісара гэтай жа ўстановы.

[2] *Памятная книга Витебской губерніи на 1862 год*, Витебскъ 1862, с. 26.

[3] Г. Кісялёў, *Загадка беларускай Энеіды*, Мінск 1971, с. 162.

[4] Відавочна, маецца на ўвазе не дакумент пра завяршэнне вучобы ва ўніверсітэце, а, фактычна, папера, якая магла служыць г. зв. "видомъ на жительство".

[5] D. Samborska-Kukuć, *Polski Inflantczyk: Kazimierz Bujnicki (1788–1878) – pisarz i wydawca*, Kraków 2008, s. 434.

# З Дакументаў Рады і Управы Імператарскага ўніверсітэта ў Дорпаце адносна Гераніма Марцінкевіча

## № 1

|1r| Министерство внутреннихъ дѣлъ. Витебскаго Дворянскаго Депутатскаго Собранія. Іюля 3° дня 1853 года. № 1751. Городъ Витебскъ. Съ аттестатомъ Марцинкевича.

Въ Правленіе Императорскаго Дерптскаго Университета

Дворянское Депутатское Собраніе препровождая при семъ аттестатъ бывшаго Студента Императорскаго Дерптскаго Университета Дворянина Геронима Францова сына Марцинкевича, выданный ему изъ Университета 6 Апрѣля 1840 года за № 167-мъ, покорнѣйше проситъ Правленіе Университета сдѣлать на обратной сего аттестата засвидѣтельствованіе съ приложеніемъ печати, о томъ, былъ ли Марцинкевичъ |2v| въ числѣ опредѣленныхъ въ Университетъ Студентовъ, или только вольнымъ слушателемъ? и возвратить таковый аттестатъ въ Собраніе въ возможной скорости. При чемъ Собраніе имѣетъ честь присовокупить, что свѣдѣніе это требуется Инспекторскимъ Департаментомъ Гражданскаго Вѣдомства.

Исправляющій должность Губерскаго<br>
Витебскій Уѣздный Предводитель Дворянства [*подпіс нечыт.*].<br>
Секретарь Дворянства [*подпіс нечыт.*].<br>
Столоначальникъ [*подпіс*: М. Хруманъ].

*Пераклад*

Міністэрства ўнутраных спраў. Віцебскі шляхецкі збор. 3 ліпеня 1853 года. № 1751. Горад Віцебск. З атэстатам Марцінкевіча.

Да Управы Імператарскага Дорпцкага ўніверсітэта

Шляхецкі дэпутацкі збор, высылаючы атэстат былога студэнта Імператарскага Дорпцкага ўніверсітэта шляхціца Гераніма, сына Франца Марцінкевіча, выдадзены яму Універсітэтам 6 красавіка 1840 г. за № 167-м, ласкава просіць Управу ўніверсітэта зрабіць на адваротным гэтага атэстата пазнаку з даданнем пячаткі, пра тое, ці быў Марцінкевіч у ліку студэнтаў Універсітэта, ці толькі вольным слухачом? і вярнуць гэты атэстат як толькі магчыма ў Збор. Пры гэтым Збор мае гонар дадаць, што гэтыя звесткі патрабуе Інспектарскі дэпартамент Грамадзянскага ведамства.

За Губерскага<br>
Віцебскі павятовы маршалак шляхты [*подпіс нечыт.*].<br>
Сакратар шляхты [*подпіс нечыт.*].<br>
Кіраўнік бюро [*подпіс*: М. Хруманъ].

## № 2

|2v| Въ Витебское Дворянское Депутатское Собраніе[1]

Въ слѣдствіе отношенія ~~упомянутаго~~ Витебскаго Дворянскаго Депутатскаго собранія отъ 3го Іюля с. м. за № 1751, Правленіе Дерптскаго Университета, – возвращая свидѣтельство для дворянина Геронима Марцинкевича отъ 6го Апрѣля 1840 г. за № 167 – имѣетъ честь препроводить при семъ аттестатъ о томъ, что помянутый Геронимъ Марцинкевичъ, во время пребыванія въ семъ Университетѣ, находился въ числѣ опредѣленныхъ студентовъ, а не былъ только вольнымъ слушателемъ.

*Пераклад*

Да Віцебскага дэпутацкага шляхецкага збору

У сувязі з адносінай ~~згаданага~~ Віцебскага дэпутацкага шляхецкага збору ад 3 ліпеня г. г. за № 1751, Управа Дорпцкага ўніверсітэта, вяртаючы пасведчанне шляхціца Гераніма Марцінкевіча ад 6 красавіка 1840 г. за № 167, мае гонар выслаць пры гэтым атэстат пра тое, што згаданы Геранім Марцінкевіч падчас побыту ва Універсітэце знаходзіўся ў ліку сапраўдных студэнтаў, а не быў толькі вольным слухачом.

[1] На аркушы 2r змешчаны адказ Управы Дорпцкага ўніверсітэта Віцебскаму дэпутацкаму шляхецкаму збору ад 15 ліпеня за № 1208 на нямецкай мове.

# Беларусь і Адам М-скі

## Прозвішча і псеўданім

Літаратараў, што з пэўных прычынаў вырашылі падпісаць свае тэксты, прызначаныя ў друк, не ўласнымі прозвішчамі, а псеўданімамі ці крыптанімамі, хапала ва ўсе часы. Але, звычайна, у чытацкае публікі, а, прынамсі, у гісторыкаў літаратуры не ўзнікала вялікіх праблемаў пры ідэнтыфікацыі таго ці іншага аўтара. Асабліва не ўзнікала праблемаў і з тым, як называць таго ці іншага пісьменніка: паводле ўласнага прозвішча ці паводле псеўданіма. Беларускія літаратуразнаўцы сёння адназначна пішуць: Янка Купала, а не Іван Луцэвіч; Якуб Колас, а не Канстанцін Міцкевіч. Праўда, у асобных выпадках выбар ідэнтыфікацыйнага, скажам так, "знака" дзеля таго ці іншага паэта ці празаіка залежаў не ад волі самога аўтара, а прычынаў, назавём так, выпадковых. Чаму, напрыклад, Алаіза Пашкевіч стала Цёткаю, а не Гаўрылам з Полацка альбо Мацеем Крапіўкаю? З тае прычыны, што паэтка ў сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці карысталася мянушкаю "Цётка"? Ці, можа, таму, што ўжыванне мужчынскага псеўданіма ў дачыненні да кабеты стварае пэўныя складанасці пры рэцэпцыі навуковага ці публіцыстычнага тэксту?

Зося Манькоўская (1847–1911) у 1866 г. выйшла замуж і стала паводле дакументаў Зоф'яю Тшашчкоўскаю. Аднак, паверыўшы ў свой талент і вырашыўшы апублікаваць у 1883 г. свой пераклад паэмы Альфонса Ламарціна[1] *Le Dernier Chant du Pélerinage d'Harold*, яна абрала сабе за псеўданім імя бацькі і скарочаную форму ягонага прозвішча – ***Adam M-ski***. Гэтым псеўданімам яна шмат разоў падпісвала пераклады і ўласныя вершы ў газетах "Tygodnik Illustrowany" (1884–1886) і "Życie" (1887–1888), але ў сакавіку 1888 г. пажадала "адмовіцца" ад яго:

> À propos[2] гэтага прозвішча, прыгадаў сабе: калі Пану пераклад Камоэнса[3] так падабаецца, дык няхай Пан падпіша мяне пад ім поўным прозвішчам – Adam Mańkowski[4].

[1] Альфонс дэ Ламарцін (1790–1869), пісьменнік і паэт, адзін з пачынальнікаў рамантызму; аўтар паэмаў *Апошняя песня пілігрымкі Чальд-Гарольда* і *Жоселен*, перакладзеных Адамам М-скім на польскую мову.

[2] *À propos* (фр.) – у справе; на тэму; дарэчы.

[3] Луіс дэ Камоэнс (Luís Vaz de Camões; каля 1524 – 1580) – партугальскі паэт, аўтар паэмы *Лузіяды* (*Os Lusíadas*, 1556).

[4] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 9/21 сакавіка 1888 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego z lat 1887–1901*, wstęp, oprac. A. Błasińska, Warszawa 2019, s. 105.

Заўважым: адмаўленне ад ранейшага свайго псеўданіму (крыптаніму) па сутнасці ім не з'яўляецца, бо і сваё сапраўднае прозвішча, і тоеснасць жаночую яна не выяўляла[1]. Дык ці не хацела яна адно сказаць Зянону Пшасмыцкаму (1861–1944), на той час (да чэрвеня 1888 г.) пакуль яшчэ рэдактару "Życia", што ягоная ацэнка ейнае творчасці канчаткова асмельвае яе, што гэта дэманстрацыя ейнае адкрытасці і шчырасці і перад ім, і перад чытачамі ды крытыкамі; што яна "сапраўдны" Адам Манькоўскі? Магчыма, бо ўжо праз месяц яна змяніла сваю думку:

> Я прасіў Ш[аноўнага] Пана ў апошнім лісце змясціць на вокладцы *Luzjady* поўнае маё прозвішча, але калі асобныя мае вершы маюць выйсці за мяжою, дык ці варта дэмаскавацца з прозвішчам? Можа, больш бяспечна будзе захаваць псеўданім? Як Ш. Пан лічыць?[2]

Насамарэч З. Тшашчкоўская выдатна ўсведамляла, што яна практычна аніяк не дэмаскуе сябе, называючыся Адамам Манькоўскім замест ранейшага Адама М-скага. Відаць, ёй, што дасылала ў Варшаву вершы з падтытулам *Kartka wykradziona z dziennika kobiety*, была істотнаю ***такая*** размова з рэдактарам газеты, з якім актыўна супрацоўнічала.

Цягам наступных дваццаці гадоў паэтка, здаецца, ніколі не вярталася да пытання, як падпісваць свае творы ці пераклады: ***толькі Адам М-скі, афіцыйна застаючыся Зоф'яю Тшашчкоўскаю.***

Адамам М-скім (Адамам Манькоўскім, Адам М., А. М.) была яна і як аўтарка лістоў да З. Пшасмыцкага – ад першага, датаванага 20 сакавіка / 1 красавіка 1887 г., да апошняга, дзевяноста восьмага (датуецца 1901 г.). Пэўна, у лістах да іншых літаратараў яна таксама падпісвалася Адамам М-скім. ***А таму, здаецца, ёсць усе падставы называць яе Адамам М-скім і толькі Адамам М-скім***. Інакш мы будзем ігнараваць волю аўтаркі.

Дапускаем, што паэтка дала дазвол (хоць гэтага магло і не быць) сваім блізкім, каб яны пасля ейнае смерці адкрылі таямніцу. Вельмі верагодна, што зрабіла гэта стрыечная сястра і таксама паэтка Альдона Раецкая (1853–1922): спачатку паінфармавала пра смерць уладальніцы Дарагавіцы журналістку "Kuriera Wileńskiego" Станіславу Сыльвестровіч, а пасля (магчыма, праз год ці нават больш) загадала выбіць на надмагіллі: "Zofja z Mańkowskich / Trzeszczkowska / Poetka Adam M-ski. / Ur. 1847 26/XI † 24/IX 1911 / w Dorohowicy. / Może wiatr pieśni rozniesie po świecie / Pieśń serca, które czuło tak gorąco".

---

[1] Пётр Хмялёўскі (1848–1904), які ліставаўся з Адамам М-скім, ужо на пачатку XX ст. у пэўнай ступені прыадчыніў таямніцу псеўданіму паэткі: "З крыху іншага боку асвятляе становішча нацыі **другая паэтка** [вылучэнне нашае. – *М. Х.*], што хаваецца пад псеўданімам Адама Манькоўскага". Гл.: P. Chmielowski, *Najnowsze prądy w poezyi naszej*, wydanie drugie, Warszawa 1901, s. 43. І хоць аніводнага, здаецца, твора паэтка не апублікавала пад псеўданімам "Адам Манькоўскі", але са сказанага П. Хмялёўскім вынікае, што ён ведаў ейную тоеснасць.

[2] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 14/26 красавіка 1888 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 107.

Таямніца, што больш за дваццаць пяць гадоў ахутвала постаць Адама М-скага, была раскрытая цягам кастрычніка-лістапада 1911 г. у некралогах паэткі, што з'явіліся ў васьмі польскіх выданнях[1]. Цікава адзначыць: у польскім друку нарадзілася тэндэнцыя называць паэта не ***Adam M-ski***, а ***Zofia Trzaszczkowska***. Прынамсі, складаецца ўражанне, што Адам М-скі адыходзіць на другі план: аўтары публікацый звычайна апавядаюць пра З. Тшашчкоўскую, хоць абавязкова згадваецца і псеўданім паэткі. Традыцыя, якая склалася ў першай палове XX ст., захоўваецца ў польскім літаратуразнаўстве да сённяшняга дня.

Інакш сталася ў беларускім літаратуразнаўстве. За пяцьдзесят гадоў прысутнасці[2] Адама М-скага ў беларускім літаратурным полі прозвішча паэткі падавалася ў шасці варыянтах (***Адам М-скі***, ***Зоф'я Тжашчкоўская***, ***Зоф'я Трашчкоўская***, ***Зоф'я Тшашчкоўская***, ***Зоф'я Манькоўская*** і ***Зося Манькоўская***). Прычым, як і ў польскім літаратуразнаўстве, псеўданім выкарыстоўваецца рэдка. Варыянтнасць прозвішча, якое паэтка атрымала ў замужжы (***Trzeszczkowska***), тлумачыцца тым, што ў нас канчаткова не склалася традыцыя перадачы польскіх прозвішчаў тыпу ***Rzewuski***, ***Sierzputowski*** і інш.[3]. Дакладней, моцна ўплывалі асаблівасці колішняга расейскага напісання падобных прозвішчаў – ***Ржевускій***, ***Сержпутовскій*** і інш. Апрача таго, уласнаю рукою паэтка пісала па-расейску – ***Зофія Тржещковская***[4]. І толькі ў апошні час, здаецца, замацавалася напісанне ***Тшашчоўская***. Так, прынамсі, у асобных працах Уладзіміра Казберука, Уладзіміра Мархеля і Юрася Гарбінскага[5]. Не зусім адпаведным, на нашую думку, з'яўляецца называнне паэткі Зоф'яю Манькоўскаю (Зосяю Манькоўскаю)[6]. Такое магчыма, хіба, толькі ў гаворцы пра дзіцячыя гады паэткі.

---

[1] Гл. раздзел *Некралогі Адама М-скага*.

[2] Самае значнае дасягненне беларускага літаратуразнаўства – выданне двухмоўнага збору твораў Адама М-скага *Цяпер і назаўседы: Паэзія = Dzisiaj i na wieki: Poezja* (2004). Тут звернем увагу на перакладніцкі подзвіг Ірыны Багдановіч (73 творы) і Уладзіміра Мархеля (62 творы).

[3] Прозвішча ***Rzewuski*** ў беларускіх тэкстах падаецца як ***Ржавускі***, ***Равускі*** і ***Жавускі***. А вось ***Sierzputowski*** – толькі ў традыцыйнай расейскай пісоўні XIX ст.

[4] А вось ейны муж Вацлаў мог па-расейску напісаць і ***Тжещковскій***.

[5] Гл.: У. Казбярук, *Зоф'я Тшашчкоўская (Адам М-скі): жыццё і творчасць у беларуска-польскім літаратурным асяроддзі* [у:] *На шляхах да ўзаемаразумення: Навуковы зборнік*, Мінск 2000, с. 87–92; Ю. Гарбінскі, *Эпісталярый Адама М-скага. (З гісторыі беларуска-польскага культурнага ўзаемадзеяння XIX ст.)* [у:] *Скарыназнаўства. Кнігазнаўства. Літаратуразнаўства: Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый"*, Мінск 2001, с. 206–215.

[6] Гл.: І. Багдановіч, *Янка Лучына і Зося Манькоўская: тыпалагічная блізкасць светаўспрымання і індывідуальнасці стыляў* [у:] *Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускае літаратуры: Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі*, Мінск 2002, с. 92–100; У. Мархель, *Творчасць Уладзіслава Сыракомлі*, 2-е выданне, дапоўненае і перапрацаванае, Мінск 2005, с. 193–195; І. Багдановіч, *Дарагавіцкія песні Зоф'і Манькоўскай*, "Маладосць" 2007, № 10, с. 130–134 і інш.

Мяркуем, што захаваныя матэрыялы (апублікаваныя творы і пераклады, лісты, дакументы) дазваляюць сцвердзіць: у гісторыі літаратуры канца XIX – пачатку XX стагоддзя адметнае месца займае паэт ***Адам М-скі***, сапраўднае прозвішча якога – ***Зоф'я Тшашчкоўская***. Мы ў нашай працы будзем падаваць перш-наперш псеўданім творцы і толькі як дадатковае найменне – імя і прозвішча паэткі.

**Кантакты з краёвымі літаратарамі**

Нягледзячы на тое, што значная частка жыцця Адама М-скага прайшла па-за межамі краю, паэтка цікавілася літаратурным працэсам на беларуска-ліцвінскі землях, лёсам мясцовых паэтаў, хоць непасрэдных дачыненняў, здаецца, амаль ні з кім не падтрымлівала. Вядома, было знаёмства з крэўным Уладзіславам Сыракомлем і быў уплыў вясковага лірніка на пісьменніцкую кар'еру Зосі Манькоўскае. Меркаваць можам на падставе ліста самое З. Тшашчкоўскае да Вінцэся Каратынскага. Гэты ліст, даўно вядомы літаратуразнаўцам, друкаваўся ў нататцы Тадэвуша Грот-Бэнчкоўскага (Tadeusza Kończyca) у газеце для кабет "Bluszcz" (1917). Напісаны ён з Зарайска Разанскае губерні, куды дайшоў заклік[1] В. Каратынскага дасылаць неапублікаваныя творы У. Сыракомлі. Па сутнасці, гэта не толькі жаданне З. Тшашчкоўскае пазнаёміць чытацкую публіку з невядомым тэкстам паэта, але адначасна, на нашую думку, і просьба да В. Каратынскага дапамагчы ёй выявіць свой паэтычны дар.

Зарайск, 5/18[2] лістапада 1871 г.

Piej, młody piewco, leć młody ptaku!

Гэтымі словамі, здаецца, вітаў колісь Вас, Пане, сардэчны наш пясняр. У імя гэтых слоў працягваю Вам братнюю далонь: – я Вам сястра па сэрцу і блаславенню ягоным. І мне ён прадказваў вялікую будучыню, ягоныя словы запалі мне ў сэрца, ягоная прамяністая постаць да гэтага часу ў хвіліны ціхіх сноў з'яўляецца нада мною. Але неаднолькавыя нашыя лёсы. Вы мужчынскаю моцаю і гартам шляхетнага сэрца прыйшлі туды, дзе ён бачыць Вас хацеў, ды стаіце спакойныя, пэўныя сябе, карысныя людзям і далонь дапамогі падаеце асірочанай сям'і, а я, таксама пад ягоным крылом узгадаванае піскляня, спрабую сабраць апошнія, можа, думкі.

Адгучалі словы дарагога прарока, свет зачыніў перад дзяўчынаю шляхі, адкрытыя для хлопца, хмара сталася бураю і ўсё знікла… Толькі яшчэ са стукам сэрца, якое рвецца да нечага лепшага, я адчуваю, што пясняр не памыляўся, што ў гэтым сэрцы хаваліся сапраўдныя скарбы пачуцця і паэзіі.

Кранула дрыготкую струну і хочацца гаварыць пра тое, што цяжарам ляжыць на душы, але Вам гэта ўсё роўна, дык давайце лепей звернемся

[1] З. Тшашчкоўская выпісвала шмат якія польскія выданні.

[2] У XIX ст. розніца паміж старым і новым календаром складала 12 дзён. А таму запіс "5/18 лістапада" недакладны: тут памылка ці то З. Тшашчкоўскае, ці то Т. Коньчыца.

да далёкае мінуўшчыны, то, можа, трапім на якія сляды дарагіх нам успамінаў.

Ці памятаеце фальварак у Залуччы?[1] Я яго памятаю, наколькі можа хапіць памяці шасцігадовага дзіцяці.

Родная сястра Людвіка Кандратовіча, Альжбета, выйшла замуж за Антона Раецкага, майго дзядзьку. З гэтае прычыны завязаліся дачыненні паміж нашымі дамамі і маці мая, Манькоўская[2], бывала частым госцем як у Тулёнцы, так і ў Залуччы.

Я чула няраз апавяданне, што першы візіт песняра да нас адбыўся досыць арыгінальным чынам. Ён прыехаў конна на нейкім акалечаным кані і такі стомлены, што яго трэба было зняць і занесці ў ложак. Не памятаю, ці выехаў ён з Тулёнкі ці з Паздзежыц, дзе жыў Канстанты Быхоўскі, а пасля Сідаровічы. Ва ўсялякім разе было гэта некалькі міляў[3] ад Залучча.

Памятаю, як напаўтаямніча, напаўрадасна шапталі ў нас пра талент песняра, які ўсё больш і больш развіваўся, і прароцтвы пра ягоную вялікую будучыню, а ціхае летуценнае дзіця хапала гэтыя словы і сніла ўжо нейкі зорны сон…

З аграмаднаю радасцю я заўсёды ехала ў Тулёнку, дзе дзядулька быў такі добры і апавядаў пра польскіх каралёў і пра старых багоў (я ўжо ўмела чытаць і начыталася міфалогіі). Але яшчэ больш прыцягваў мяне гэты прыгожы, разумны “дзядзечка Людвік”, у якога было столькі кніжак з малюнкамі. Кандратовіч любіў дзяцей, дык браў мяне на рукі і паказваў розныя “святыні” і іншыя рысункі. Ягоная дачушка Марыня была на год старэйшая за мяне; дазвалялася нам сваволіць ва ўсіх кутках, а нават у пакоі самога песняра, які смяяўся з нашага блазнавання, а часам нават падыгрываў на грэбені, каб мы паскакалі…

Вось з тых гадоў я запомніла і Вашае прозвішча[4]. Здаецца мне нават, што Вы ігралі на скрыпцы, а мы з Марыняю падслухоўвалі пад дзвярыма.

Было мне гадоў шэсць, найбольш – сем, калі памерлі тры дачушкі Кандратовіча: Марыня, Вікця і Анэтка…

Пасля было выгнанне з Тулёнкі і Залучча[5], якое так балесна апісаў пясняр у паэме *Kęs chleba*. Памятаю, як стары мой бацька абураўся ўсёю тою справаю…

Няраз, пэўна, мае ездзілі ў Тулёнку, але мяне не бралі і я не бачыла ўжо песняра…

Так прайшло некалькі гадоў… Для мяне засвяціла чатырнаццатая вясна жыцця, пара было вучыцца. Выбар выпаў на Вільню, на пансіён п. Клячкоўскае, у доме Хаўстайна на Бакштах. Дык паехалі мы ў Вільню, і мая маці па старой знаёмасці спынілася ў Кандратовічаў. Было гэта ў лютым 1861 года.

[1] З 1846 г. У. Сыракомля арандаваў фальварак Залучча, а ягоны бацька Аляксандар Кандратовіч суседнюю Тулёнку.

[2] Гаворка пра Міхаліну з Раецкіх Манькоўскую (1820 ці 1830–1898).

[3] Польская міля ў той час раўнялася сямі вёрстам (7,5 км), а расейская – шасці (8,5 км).

[4] З 1851 г. В. Каратынскі працаваў у якасці сакратара ва У. Сыракомлі.

[5] У 1853 г. Кандратовічы мусілі пакінуць Залучча і Тулёнку, бо сусед паабяцаў уладальніку (князю Вітгенштэйну) вышэйшую плату за арэнду.

Абое Кандратовічы прывіталі мяне ў адзін голас, што я прыгадала ім памерлую дачку, і былі да мяне невыказальна добрымі. Ажылі дзіцячыя ўспаміны. Ціхія пакоікі песняра, карціны на сценах, чэрап на пісьмовым стале. Стосы кніг і паперы нейкае дзіўнае ўражанне аказвалі на мяне. Нават маркотны стан, у якім я бачыла створанага ў мроях лірніка, будзіў ува мне толькі глыбокі жаль.

Мая песня, абуджаная яшчэ дома смерцю брата, пад уплывам новага атачэння, цудоўнага краявіду гор, які адкрываўся з вокнаў пансіёну, старога саду, старых успамінаў – загучала больш моцна. Сыракомля даведаўся пра гэта, прачытаў – і нейкая дзіцячая песенька прыпала яму да душы. З таго часу любіў часта бачыць ля сябе, распытваў, жартаваў і нарэшце назваў мяне “беспамылковаю”: не таму, што заўсёды ўмела яму адказаць, але ад ягонага погляду знікала дзявочая палахлівасць, ніколі я не бянтэжылася, а як чаго не ведала, то глядзела яму ў вочы з даверам дзіцяці і прасіла, каб мне растлумачыў.

Пазней доўгі час пясняр жыў у Барэйкаўшчыне; мяне забралі на вакацыі дадому.

У верасні я вярнулася зноў, яшчэ больш спяваючы і летуценячы. Да гэтага часу не магу без хвалявання згадваць пра тыя хвіліны… Божы свет быў такі цудоўны, добрых людзей так многа, у сэрцы столькі песенек, у паветры нават, здаецца, вітала надзея… а пясняр мой сардэчны, як зорка, выпраменьваў святло перада мною…

Ён любіў і хваліў мае песенькі, заахвочваў, распальваў сэрца, шаптаў словы ўласнае песні (*Do niemowlęcia*):

My, starzy piewcy, lirę już złożym;
Bóg pokolenie nowe odmłodni
I lepszą dolę piewcom przeznaczy…

А я любіла яго каханнем дачкі і сястры. Паэтычнае прадчуванне казала мне, што я здольная яго зразумець. Словы яго песенькі

W oczach ciemno, serce boli
I zapłakać chce się…
Pójdę szukać lepszej doli,
Wywoływać w lesie[1] –

гучалі заўсёды ў маіх вушах, нібы ў гэтых словах ягоная душа вырвалася з грудзей і аб’ядналася з маёй. Здалося, што ёю прасякнутая да глыбіні. Памятаю, што няраз мне хацелася ўкленчыць перад ім, як перад абразом, і маліцца, і плакаць…

Асабліва запомніўся мне адзін велікодны дзень. Вы гэта зразумееце, Пане… Ён мне сказаў, што сваю найчысцейшую лютню ўкладзе ў мае рукі, што мне наканавана спяваць пасля яго на сірочай Літве.

Так снаваліся дні, мой сон пятнаццацігадовы…

Прыйшоў дзень маіх імянінаў і дарагі мой пясняр прыслаў мне напаўжартоўную, напаўсентыментальную песеньку. Вось яна:

[1] Радкі з верша У. Сыракомлі *Dola*.

**Do panny Zofii Mańkowskiej**[1]

Dzisiejszy dzionek wygląda inaczej,
Tłum jarmarkowy raźniej się uwija.
Pytam u ludzi: Co to wszystko znaczy?
„Święta Zofia!”

Tam… maszeruje rycerska parada,
Każdy z nich sztywny, jakby połknął kija;
Jeden drugiemu z uśmiechem powiada:
„Święta Zofia!”

W katedrze baba z ręką wyciągniętą
Trzepie *Ojcze nasz* i *Zdrowaś Maryja*.
– „Powiedz mi imość, jakie dzisiaj święto?”
„Święta Zofia!”

Pegazy!.. muzy!.. a prędzejże trutnie!
Pisać się będzie wierszowana chryja…
Niechaj Apollo nastroi mi lutnię!
„Święta Zofia!”

Lecz muzy poszły z koszykiem do jatek,
Apollo piwo bawarskie gdzieś spija.
Czyż mi przebaczy rymów niedostatek
Święta Zofia?

Pegaz nie w domu… Laskarys[2] pożyczył,
Chce hasać wierszem, póki wiosna sprzyja.
A któż mi teraz będzie zgłoski liczył?..
„Sancta Sophia!”

Więc już po prostu mówię sam do siebie:
Pisz, jak tam umiesz, bo pora omija;
Dobre życzenia zrozumie tam w niebie
Święta Zofia!

Solenizantko! Oto maj uroczy
Zieleni drzewa i kwiaty rozwija.
Niech takiem pięknem twą dolę otoczy
Święta Zofia!

Niebo pochmurne… bo nasz los ponury,
Ale się słońce z obłoków przebija.
Módl się, niech z nieba odgarnie te chmury
Święta Zofia!

Niewinna modła dobry skutek sprawi:
Złamie swe żądło jadowita żmija.
Dosyć tej chwili niech ci błogosławi
Święta Zofia!

---

[1] В. Каратынскі апублікаваў гэты верш У. Сыракомлі ў VII томе поўнага збору твораў паэта (Warszawa 1872, s. 280–282) з пазначэннем, што тэкст даслала З. Тшашчкоўская. У публікацыі Т. Коньчыца адсутнічае адна страфа.

[2] Гаворка пра паэта Ежы Ласкарыса (1828–1888), які жыў у Вільні ў доме насупраць і сябраваў з У. Сыракомлем.

Dar, co ci dano – posłannictwo boże,
Niechaj się w piersi rodzinnej odbija,
Niech polską pieśnię składać ci pomoże
Święta Zofia!

Męża, pieniędzy, wszystkiego nareszcie,
Co składa szczęście, życzę z sentencyją.
Żyj pani długo – jakich lat ze dwieście,
Panno Zofio!

Wilno, 3/15 maja 1862 r.

Няшмат мне застаецца сказаць. Пясняр з кожным днём усё больш і больш слабеў. Бачыла яго ўжо ў ложку. Прасіў, каб паправіла яму падушкі, узяў мяне за руку, прыцягнуў да сябе і сказаў яшчэ некалькі слоў гарачых, сардэчных, якімі толькі абранцы Божыя прамаўляць умеюць. Гэта была апошняя сустрэча. Пясняр аслабеў, мяне забралі дадому, і толькі ўжо ў верасні дайшла да мяне вестка пра смерць Кандратовіча.

Зазванілі званы па ўсёй Літве, застагналі сэрцы. Няшмат каго, можа, родная зямля ўшанавала так сардэчна.

Намаўлялі няраз мяне знаёмыя, каб склала жалобную песню па ім, але не магла… Я ведала яго, я яго любіла, усялякі гук здаваўся мне слабым, каб выказаць мой жаль, а ягоныя заслугі…

І зноў пайшлі дні і месяцы, але ўжо цяжкія, балесныя…

Усё больш і больш хмурна было на свеце, а мяне яшчэ прыгняталі хатнія акалічнасці. Бура шумела на свеце і ў сэрцы кіпеў вулкан пачуццяў і прагненняў… халодная магіла ўсё засланіла…

У адну з такіх хвілінаў, калі пачувалася цалкам самотнаю, неяк на змярканні задумалася і мне здалося, што прамяністая постаць песняра прыплыла да мяне, а я выказала яму сваю тугу і надзеі. Так амаль падсвядома нарадзілася песенька-размова:

**DZIEWCZYNA**

Tak smutno, tak smutno na ziemi, na niebie…
Gdzież skrył się miniony mój raj?
Lirniku serdeczny, zaklinam ja ciebie:
Piosenkę co prędzej mi graj!
Weź lirę do ręki, na świat spójrz szeroki,
Oj, grajku, sokole ty mój!
Niech piosnki wytrysną, jak źródło z opoki!
Niech szczęścia popłynie mi zdrój!
Rok mija po roku, a chwila po chwili,
A w sercu tęsknota i żal –
Ja chcę poznać młodość, chcę skrzydłem motyli
Po kwiatach pobujać gdzieś w dal.
Ty płaczesz, mój grajku? Co tobie? Co tobie?
Na lirze piołunów masz splot,
I lice twe blade, i piosnka w żałobie
Straciła dawniejszy swój lot…
Rozwesel się grajku, bo w bezdnach twej łezki
Utonął sierocy mój duch…
A w sercu tak ciężko… czy wyrok niebieski
Zapisał, że boleść – nam druh?

**ŚPIEWAK**

Dziewczyno, słuchaj mnie!
Z mych oczu znikł już świat;
Mój duch tam wyżej mknie,
W niebiosa zdąża rad.
Wiatr skrzydła moje zgniótł;
W miejsce wianeczka z róż,
Cierniowy wieniec splótł
I skroń przystroił już.
Wytrysły krople krwi…
Skończony zawód mój…
O, dziecię, kwiatki rwij,
Lecz się na boleść zbrój!
Życie jest drogą prób –
Ten z niebios wyrok dan.
Ostatnim progiem – grób,
Za nim – nasz Bóg, nasz Pan.
On słodzi ciężki los,
On tuli dzieci swe…
Słyszę już, słyszę głos,
Co mnie ku sobie zwie.
Lecz, Ojcze, spojrzeć chciej!
Tu nowy piewca twój…
Ty w pierś dziewiczą zlej,
Twej łaski święty zdrój:
Sny harde w bólach złam,
Pragnienie młode skrusz!
Lecz niech do niebios bram
Wiedzie ją Anioł Stróż!

**DZIEWCZYNA**

Mój grajku, co tobie? Na oku łza błysła,
Ucichły akordy piosenki.
I lica pobladły, i głowa powisła,
I lira wymknęła się z ręki?
Czy cierpisz, czyś szczęsny – odgadnąć nie mogę…
Z kogoż modliłeś się przecie?
Dla kogo wróżyłeś tych bólów, walk drogę
I gwiazdę, co w niebie zaświeci?
Odpowiedz! Ty milczysz… Zgaduję, zgaduję –
Zasłona z mych oczu opada…
Już siła nieznana w mej piersi nurtuje,
I dziwne powstają widziadła.
Na grobie twym, piewco, na świętym kurhanie
Pieśń moja ku ludziom zadzwoni.
A gdy dźwięk ucichnie, gdy siły nie stanie
Twój duch mnie skrzydłami osłoni.
O jedno cię błagam: niech piosnka dziewczęca
Ukocha słomianą swą strzechę…
Niech świat jej nie olśni, a blask nie przynęca.
Niech sercom zbolałym pociechę,
Niech duszom zwątpiałym nadzieję przynosi,
Niech ognia zaczerpnie od słońca.
Jak wiosną jaskółka niech wieść dobra głosi
I szczęście bez granic, bez końca!

Добра ведаю, што гэтая думка не мае аніякае мастацкае вартасці і не дала б яе ў друк, але Вам, Пане, высылаю, як слёзку па песняру, які нам аднолькава быў дарагі…

І дзіўная рэч, нібы ўсё, што судакраналася з песняром, адорана было прарочаю сілаю, мая песенька споўнілася на мне: пішучы яе, я не думала, што сапраўды блізкаю была хвіліна, якая магла зламаць гордыя сны і скрушыць маладыя прагненні. Ці ж і другая палова страфы здзейсніцца калісь?

Хопіць ужо гаворкі! Нямала забрала ў Вас дарагога часу. Даруйце мне гэта як маладой сястрычцы. Адна рука блаславіла нашае світанне. Сёння мы ўшаноўваем памяць любімага: кожны па-свойму: Вы працаю шляхетнаю па выданні ягоных твораў на карысць сям'і, я – хоць сардэчнаю слязою.

Развітваюся з Вамі, Пане, словамі прыязні і шчырае павагі, з якім прагну застацца назаўсёды.

Зоф'я Тшашчкоўская
(калісь Манькоўская)[1]

Здаецца, аніякіх дачыненняў З. Тшашчкоўскай з В. Каратынскім наладзіць не атрымалася. Хіба, не звяртаўся да яго Адам М-скі і пазней, калі сам актыўна выступаў на літаратурным полі. Але калі З. Пшасмыцкі з нейкай прычыны зганіў В. Каратынскага, то знайшоў у сабе сілы пярэчыць і апраўдваць суайчынніка-ліцвіна:

Не асуджай так сурова Каратынскага, я не ведаю яго асабіста, але знаю ягонае жыццё. Веды здабываў па крыхах як самавук, пачаўшы ў сталыя ўжо гады, а і цяпер долю мае невясёлую. Спрацаваны, можа, расчараваўся і састарэў?[2]

Бараніў Адам М-скі таксама і Элізу Ажэшку:

Калі быў колькі гадоў таму ў Варшаве, дык назбіраў нясмачных успамінаў. У коле адукаваных людзей сказалі мне пра тую самую Ажэшку – немаральная, мела некалькіх каханкаў – і гэта ўся ацэнка![3]

Бо найважнейшым для паэта было тое, што Э. Ажэшка "ў сваё вялікае сэрца бярэ нядолю ўсяго краю"[4].

Адам М-скі даволі часта наведваўся ў Вільню, але сустракаўся там толькі са сваімі блізкімі. Зрэшты, пасля 1863 г. віленскі літаратурны Парнас практычна не існаваў. Прынамсі, паэта ўзроўню Адама М-скага на Літве не было. Можа, з гэтае прычыны Адам М-скі, здаецца, нікога (апрача свае стрыечнае сястры Альдоны Раецкае) з мясцовых літаратараў асабіста не

---

[1] Гл.: T. Kończyc, *Syrokomla i młoda poetka*, "Bluszcz" 1911, nr 5–6.

[2] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 20 верасня 1889 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 194–195.

[3] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 18/30 снежня 1887 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 83.

[4] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 25.08/6.09.1887 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 67.

ведаў ды і асаблівага жадання пазнаёміцца з імі не выказваў. Хіба, не хацеў дэмаскаваць свой псеўданім.

Пра аднаго толькі Яна Неслухоўскага (Янку Лучыну) Адам М-скі няраз успамінае ў сваіх лістах да З. Пшасмыцкага[1]. Спрычыніліся да гэтага, відаць, блізкія дачыненні беларускага паэта з А. Раецкаю. У выніку падзеі мінскага літаратурнага жыцця так ці інакш станавіліся вядомымі і ў Дарагавіцы[2]. Зрэшты, асаблівых сімпатый да Я. Неслухоўскага Адам М-скі не меў. Гэта адчуваецца ў першай згадцы пра яго, што зафіксавана ў лісце да З. Пшасмыцкага яшчэ з 1888 г. Згаджаючыся з невысокаю ацэнкаю тэкстаў Аляксандра Валіцкага Мірыямам, ён далучае і свае сумненні адносна паэтычных здольнасцяў Янкі Лучыны[3]:

> Маеш рацыю: Валіцкага належыць складсці *ad acta*[4]; не ведаю, адкуль Ясь Н[еслухоўскі] выкапаў ягоныя паэтычныя здольнасці. І на самога Н[еслухоўска]га я няшмат лічу: там могуць быць добрыя жаданні і нават талент, але з такою фізічнаю нямогласцю далёка не зойдзеш. Праўда, мы ведаем Гейнэ, але той перш стаў вялікім паэтам, а пасля паралітыкам – гэта іншая справа. Ці Л[ангэ] пісаў Н[еслухоўска]му? Я не ведаю[5].

Праз некалькі месяцаў, у верасні 1889 г. Адам М-скі паведаміць З. Пшасмыцкаму пра жаданне Я. Неслухоўскага выдаваць калектыўныя паэтычныя зборнікі коштам аўтараў. Гісторык літаратуры Аляксандра Бласінская на падставе ліста Янкі Лучыны да З. Пшасмыцкага (яна датуе ліст 1887 г., а У. Мархель – 6/18 лістапада 1888 г.) дапускае, што тут ідзе гаворка пра планы мінскага паэта перакладаць і выдаваць польскую літаратуру па-расейску. Але, як вядома, нават надрукаваць (а можа, і напісаць) артыкул *O nowej poezji polskiej* у часопісе "Вѣстникъ Европы" ў яго не атрымалася. Тут – хутчэй за ўсё – ідзе гаворка пра той праект, які будзе абмяркоўвацца ў наступных лістах:

---

[1] Упершыню пра стаўленне Адама М-скага да Янкі Лучыны пісаў Ю. Гарбінскі: *Янка Лучына ў эпісталярыях Адама М-скага* [у:] *Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускае літаратуры: Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі*, Мінск 2002, с. 127–131.

[2] З 1888 г. Адам М-скі значную частку года жыў у сваім фальварку Дарагавіца. У *Słowniku geograficznym* нехта H. R. (чамусьці не Аляксандар Ельскі, які апісаў шмат якія суседнія вёскі) так характарызуе маёнтак: "Дарагавіца, фальв[арак] з авульсам Ржавіца і засц[енкам] Зосін ля рэчкі Выня, прытоку Лошы, у 3 адм[іністрацыйным] ст[ане] Слуцкага пав. Адлегласць ад Слуцку – 7 міль, ад Капыля – 10 вёрст, ад Нясвіжа –3 мілі. 50 валок. Побач з дваром, у лесе, – урочышча Замачак, добра захаваныя шанцы і валы; мясцовыя паданні не тлумачаць іх паходжання. Уласнасць Міхаліны Манькоўскае". Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. II, Warszawa 1881, s. 124.

[3] З. Пшасмыцкі, відаць, не згадзіўся з падобным меркаваннем, бо ў хуткім часе Адам М-скі вернецца да гэтага пытання і крыху змякчыць сваю ацэнку апублікаваных у газеце "Życie" твораў Яна Неслухоўскага.

[4] *ad acta* (лац.) – адкласці (у архіў).

[5] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага, другая палова 1888 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 137–138.

> Альдона піша мне, што чула ад Неслухоўскага пра намер выдаваць зборнікі паэзіі коштам аўтараў; гэта штосьці накшталт таго, што Табе пісаў Парэмбовіч; толькі ты кажаш пра выданне асобных томікаў, Н[еслухоўс]кі ж – наколькі я зразумеў з ліста Альдоны – мае ў думках сумеснае выданне твораў некалькіх маладых песняроў[1].

У наступным лісце Адама М-скага дэталізуецца ініцыятыва Янкі Лучыны: сіламі шасці паэтаў з "крэсаў" падрыхтаваць і выдаць калектыўны зборнік. На думку мінскага паэта аўтарамі зборніка могуць быць: Альдона Раецкая, Адам М-скі, падалянін Юзаф Вяжбіцкі (1853 – пасля 1935), сам Я. Неслухоўскі, берасцеец Ігнацы Балінскі (псеўданім: Аксель, 1862–1951) і Аляксандар Валіцкі (1826–1893). Адам М-скі не верыць у поспех праекту: з аднаго боку, мастацкі ўзровень твораў малавядомых аўтараў не дазволіць зборніку заняць годнае месца ў тагачасным літаратурным працэсе, з другога – цэнзура не прапусціць нават тое вартаснае, што могуць даць ліцвіны. Але не можа і адназначна адмовіцца ад такое прывабнае думкі, "каб кожная правінцыя прынесла сваё водгулле жыцця ў агульную песню". А таму хоча пачуць меркаванне З. Пшасмыцкага:

> З гэтаю распачліваю карткаю прыслала мне Альдона ліст Неслухоўскага; ён піша: "З вялікай нецярплівасцю чакаю магчымасці скантактавацца з Адамам М-скім, а праект, пра які я Пані казаў, надзвычай моцна свідруе мне ў галаве. Вось бы абладзіць яго наступным чынам: Пані, А. М-скі, Вяжбіцкі, мая асоба, Аксель, Аляксандар Валіцкі можам выдаць невялікі сумесны паэтычны зборнік з Літвы, а ўступ пра нашу найноўшую паэзію напіша Алякс[андар] Валіцкі". Далей ён дае разлікі, што кошт друку за аркуш будзе 20 руб. срэбр.; лічыць: Альдоне – 1 аркуш, А. М-скаму – 2, Вяжбіцкаму – 2, Неслух[оўскаму] – 2, Акселю – 1, Валіцкаму – 1; паводле ягоных разлікаў выдаткі павінны цягам года вярнуцца з пэўным прыбыткам, што дасць магчымасць абнаўлення эксперыменту. Несл[ухоўскі] ведае, што Альдона знае мяне, дык моцна насядае, каб я далучыўся да іх; Альдона, відавочна, згодзіцца. Дык вось у мяне ў галаве дзіўны разлад, і я хацеў бы, Другу, Тваё меркаванне пачуць. Па-першае, апрача Альдоны ніхто мяне там не цікавіць; Альдона – гэта талент змарданы і знявечаны, неадшліфаваны брыльянт, але брыльянт, праўдзівы паэта сэрца; паэмы Вяжбіцкага вялікага памеру (*Ганка*) я не чытаў, дробныя рэчы сустракаў, але нічога такога, каб магло мяне асабліва захапіць; Аксель мне амаль што невядомы; акварэлькі Неслух[оўскага] сімпатычныя як мясцовыя абразкі, больш моцнага нічога не сустрэў, але найбольш адштурхоўвае мяне Валіцкі. Я ведаю, што гэта чалавек высакародны, але стары; пра ягоныя паэтычныя здольнасці я ніколі не чуў (у маладосці ён быў вядомы з'едлівымі і трапнымі жартамі); як жа ён можа напісаць уступ пра найноўшую паэзію? Ведаю, што застаючыся надзвычай зычлівым, ён сварыўся на Альдону за залішне смелы (на яго думку) тон ейнае паэзіі, гатовы і на нас накінуцца за кожнае смелае слова. Другая справа наступная: усе мае завершаныя творы ў цябе, мне здаецца, што іх нашмат

[1] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 20 верасня 1889 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 193.

больш, чым два аркушы. Дык калі маю плаціць па 20 руб. срэбр. за аркуш, то мяркую, што больш практычна было б адважыцца на выданне ўсяго асобным томікам. Па-трэцяе, схіляе мяне адмовіцца яшчэ і тое, пра што Ты, Другу, пісаў і што я сам адчуваю: нават *Z fal życia* палову цэнзура не прапусціць; ці ж варта са жменькаю эратычных песенек паказацца на людзях? Усё альбо нічога. Скажы мне шчыра сваё меркаванне. Я сёння адкажу Альдоне, што яшчэ не вырашыў, і буду чакаць твае парады, а ім усім іншым параю, каб з Табою скантактаваліся, чаго самі жадаюць, бо Несл[ухоўскі] праз Альдону прасіў у мяне твой адрас, які ім сёння высылаю. Мне здаецца, што калі Ты маеш намер заснаваць выдавецтва ў Вене, дык варта і належыць, каб усё, што рухаецца і дзейнічае на полі айчыннае паэзіі, мела сувязь з Табою, гуртавалася вакол Цябе[1].

Але З. Пшасмыцкі знайшоў аргументы, каб перашкодзіць ажыццяўленню праекту Янкі Лучыны. Мажліва, у выданні "літоўскага зборніка" ён заўважыў "праяву сепаратызму"; мажліва, зайздросна рэагаваў на перспектыўную ў тагачасных умовах ідэю калектыўных выданняў і спешна прапанаваў "літоўскім паэтам" удзел у ягоным кніжным праекце, які назваў *Parnas*. Адам М-скі, давяраючы З. Пшасмыцкаму больш, чым каму іншаму, фактычна згаджаючыся з ім, адначасна выступае ў якасці абаронцы Янкі Лучыны:

Калі гаварыць пра калектыўнае выданне – не пагаджуся з Табою, каб выданне асобнае серыі літоўскіх паэтаў было б праяваю сепаратызму; супольная мова – гэта неразарваны вузел, а калі кожная правінцыя мае свой лакальны характар, дык было б карысным, можа, пабачыць згуртаваных яе прадстаўнікоў. І такі падыход варта захаваць таксама пры ўкладанні *Parnasu*. Дадам яшчэ: нішто так не злуе праціўны бок[2], як тое, што правінцыя, асабліва наша правінцыя, падае знак самастойнага жыцця; вось чаму так хутка адкруцілі галаву віленскаму выдавецтву Ажэшкі. Каб яна друкавала рэцэпты атрутаў на пацукі, дык і гэтага было б дастаткова, што ў Вільні прамовілі роднаю моваю Сыракомлі – мусілі задушыць! На маю думку, усё разбіваецца аб немагчымасць выканання справы, карацей кажучы, з гэтага выдання нічога не будзе. Трэба ведаць людзей: галоўны ініцыятар Н[еслухоўскі], які напачатку так загарэўся, цяпер засумняваўся, астыў, напісаў нават недарэчны ліст да Альдоны, адмаўляючыся ад далейшае працы і г. д. Н[еслухоўскі] – чалавек добрых жаданняў, але нешчаслівы калека, са спаралізаванымі нагамі і хваробаю хрыбетніка (здаецца, застудзіўся на Каўказе), дык нічога дзіўнага, што канчаткова спаняверыўся. Валіцкі ж – здаецца – гэта чалавек вельмі немалады, калі мяне дзіцячыя ўспаміны не ашукваюць – уявіў сабе відавочна, што мае значна большае значэнне ў літаратуры, чым колісь гэта было ў рэчаіснасці, і – спаткаўшыся з Н[еслухоўс]кім і Альдонаю – нагадаў ім пра цудоўныя планы, надзеі і г. д., адсюль паходзіць задума выдання з ягонаю прадмоваю, змяшчэнне ягоных вершаў (?) і розныя

[1] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 11/23 верасня 1889 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 199.

[2] Маецца на ўвазе расейская адміністрацыя.

паветраныя замкі. Натуральна, што калі Н[еслухоўскі], вярнуўшыся ў Галіцыю[1], хацеў свае мроі перамяніць у чын, рэчаіснасць яго ашукала, а Н[еслухоўскі] – страціў надзею. Я напісаў да Альдоны, каб дадала яму адвагі, бо сёння шкода кожнае такое асобы, Твой адрас таксама яму праз яе вышлю. Сам да яго не паеду, хоць і недалёка: мы сустракаліся ў дзяцінстве пры няньках, сем'і нашыя былі ў добрых дачыненнях[2], але ў дарослым веку мы не бачыліся ніколі і ён зусім не ведае, хто хаваецца пад іменем А. М-скі, а мне вельмі залежыць на тым, каб гэта не выяўлялася. Іншых асобаў, здольных заняцца падобным выданнем, няма на даляглядзе; я не магу, Альдона яшчэ менш; дык, як бачыш – дарэмна паднялі галас і Твой *Parnas* аніякіх супернікаў мець не будзе. <…> Калі б Н[еслухоўскі] напісаў да Цябе – пастарайся і Ты ахінуць яго надзеяю, заслугоўвае на спачуванне. Хто ў такім няшчасці, як ён, думае яшчэ аб працы дзеля грамады, той мусіць мець вялікае сэрца[3].

Праект Янкі Лучыны "з дапамогаю" З. Пшасмыцкага і ў пэўнай ступені Адама М-скага быў пахаваны пад словы пацяшэння пра нараджэнне ідэі значна больш перспектыўнага выдання – агульнапольскага паэтычнага зборніка *Parnas*. Адам М-скі, відаць, адчуваў сваю адказнасць за лёс "літоўскага зборніка", дык усяляк стараўся "далучыць" да *Parnasu* ягоных былых кандыдатаў у аўтары:

Пра Яна Н[еслухоўскага] чуў, што дзесьці на воды выехаў[4], дык таксама відаць, спазненне будзе, але не будзем траціць надзеі – адолеем цяжкасці[5].

Нават раіў З. Пшасмыцкаму не выяўляць інфармацыю, якая магла б паўплываць на рашэнне тых, хто быў на царскай службе:

Ці атрымаў Ты мой апошні ліст, высланы 19/31 жніўня? У ім я пісаў пра справу свайго ўдзелу ў *Parnasie*. Хачу яшчэ зрабіць адну заўвагу: можа варта, як і пра наклад *Parnasu*, нікога з выдаўцоў не называць? Такі, напрыклад, Ясь Несл[ухоўскі] – служыць на чыгунцы, ва ўправе – можа, адчуць страх. Іншыя таксама могуць быць у непрыемным становішчы, а гэта адштурхоўвае. Проста – Кракаў – і нічога больш; так мне здаецца[6].

---

[1] Так у арыгінале. Трэба, відаць, – "з Галіцыі".

[2] Відаць, маецца на ўвазе тое, што фальварак Мархачоўшчына (пад Стоўпцамі), які арандавалі Неслухоўскія, знаходзіўся не зусім далёка ад Дарагавіцы Манькоўскіх. Істотны таксама факт, што Мархачоўшчыну ў 1830-я гг. арандаваў Аляксандар Кандратовіч, бацька У. Сыракомлі.

[3] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 17/29 студзеня 1890 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 210–211.

[4] У тым часе Я. Лучына выязджаў на курорт Буска, які знаходзіўся недалёка ад Кракава, але ў межах Расейскае імперыі. З Буска адрасаваны адзін з недатаваных (відаць, лета 1890 г.) лістоў паэта да З. Пшасмыцкага. Гл.: Я. Лучына, *Творы: Вершы, нарысы, пераклады, лісты*, Мінск 2001, с. 188.

[5] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага (пасля 23.08.1890 г.). Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 227.

[6] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 28.08/9.09.1890 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 230.

Праўда, усведамленне таго, што ў *Parnasie*, у атачэнні вядомых, хоць і маладых польскіх паэтаў, знаходзіцца больш прэстыжна, вяртала Адама М-скага да цвярозае ацэнкі мастацкага ўзроўню тэкстаў Янкі Лучыны:

> Што да Неслухоўскага – баюся, каб гэта не было "масла маслянае": я мала ведаю ягоныя творы, дробныя – досыць прыстойныя абразкі, але Альдона, якая больш чытала і ад яго самога чула, казала мне, што гэта рэчы пераважна слабыя. (Натуральна, гэта між намі). Магу памыляцца, але разумовым здольнасцям паралітыкаў не давяраю[1].

Справа з выданнем *Parnasu* задоўжылася. Як бачым з наступнага ліста да З. Пшасмыцкага, надзея нібыта яшчэ ёсць, але неўзабаве і яна згасне:

> Бавілася тут[2] тры тыдні Альдона, распытвала мяне пра Цябе і пра *Parnas*. Яна нядаўна бачылася з Неслухоўскім і дастала весткі пра Вяжбіцкага. Вяжбіцкі, здаецца, мае сям'ю, дзеля якое вельмі цяжка працуе; Н[еслухоў]скі – ажаніўся, нейкая немаладая кабета[3] адважылася ўзяць шлюб з калекам; абавязковыя ў такіх выпадках выдаткі, уладкаванне дому – вычарпалі ягоныя сродкі – вось чаму гэтыя двое не адгукнуліся на Твой заклік. Дзеці Гамера ў нас небагатыя! З аповедаў Альдоны я зрабіла выснову, што ім шкада свае адмовы – і хто ведае? – каб Ты яшчэ раз нагадаў, можа б, хоць паволі, хоць часткамі яны аплацілі складку[4].

Вядома, у лістах да варшаўскага Друга Адам М-скі не мог пісаць усё тое, што ведаў пра Янку Лучыну ад А. Раецкае, а таксама з расейскамоўнае газеты "Минскій листокъ". (Зрэшты, сумнеўна, што ён чытаў падобныя выданні). А таму цяжка сказаць, ці трапіла яму інфармацыя пра беларускамоўныя публікацыі паэта. А калі трапіла, то як Адам М-скі рэагаваў на дадзены ўчынак знаёмца дзіцячых гадоў: было гэта для яго "праяваю сепаратызму" ці не? У лістах да З. Пшасмыцкага мы не знойдзем адказу на гэтае пытанне, як і не знойдзем у іх іншых згадак пра Янку Лучыну.

Лічым патрэбным спыніцца на гіпотэзе, якая з'явілася ў шэрагу публікацый, пра знаёмства Адама М-скага з творчасцю Францішка Багушэвіча[5]. Сапраўды, такая гіпотэза мае права на існаванне, бо лагічна будзе меркаваць, што прадстаўнікі таго вузкага кола ліцвінска-беларускіх літаратараў проста абавязаны былі ведаць адзін аднаго. Яны чыталі адны і тыя ж

---

[1] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 15 снежня 1890 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 261.

[2] У Дарагавіцы.

[3] Гаворка пра Ганну Грыневіч.

[4] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 7/19 ліпеня 1891 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 304.

[5] Гл.: І. Багдановіч, *Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння*, Мінск 2001, с. 46; І. Багдановіч, *Янка Лучына і Зося Манькоўская: тыпалагічная блізкасць светаўспрымання і індывідуальнасці стыляў* [у:] *Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускае літаратуры: Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі*, Мінск 2002, с. 95; І. Багдановіч, *Дарагавіцкія песні Зоф'і Манькоўскай*, "Маладосць" 2007, № 10, с. 133–134 і інш.

выданні, яны дзейнічалі на адной культурнай прасторы, яны – урэшце – маглі сустракацца ў Мінску, Вільні ці нейкім іншым месцы. Не пакінем без увагі і тое, што і Адам М-скі, і Ф. Багушэвіч былі моцна прывязаныя да краю, да мясцовых традыцый, прыязна ставіліся да люду, да беларускае мовы, пісалі літаратурныя творы "для вёскі". Сацыяльны складнік паэзіі Мацея Бурачка нібыта на парадак большы, чым Адама М-скага, але варта прыгадаць словы аўтара аднае з першых польскіх аналітычных працаў па гісторыі беларускае літаратуры Багдана Жыраніка (1892–1984): "Яго беларускія песні поўныя свежасці і сапраўднай жаночай (у найбольш узвышаным гэтага слова значэнні) любві да ўсіх, хто пакутуе, каго прыгнятаюць і крыўдзяць"[1]. Тут гаворка якраз пра тыя песні Адама М-скага, якія да нас не дайшлі (можа, лепш: якіх мы яшчэ не выявілі). Ведаем мы таксама, што Адам М-скі разносіў па вёсках не толькі ўласныя песні, але і адмысловую "народную" літаратуру, якую стараўся набыць праз сваіх знаёмых. А раптам сярод такое літаратуры была і *Dudka białaruskaja*?

Аднак падобных нашых згадак дзеля навуковае гіпотэзы мала, бо гэтыя згадкі павінны абгрунтоўвацца фактычнымі дадзенымі з улікам ужо вядомых заканамернасцяў, уласцівых аб'екту, які даследуецца. На якія ж фактычныя дадзеныя абапіраецца гіпотэза пра знаёмства Адама М-скага з творчасцю Ф. Багушэвіча? Пастараемся ўважліва прачытаць, што на гэты конт піша ейная аўтарка – Ірына Багдановіч:

> Вельмі празрыстымі ў яе творах дарагавіцкага цыкла з'яўляюцца намёкі-алюзіі на знаёмства з творчасцю Ф. Багушэвіча. Згадваецца вобраз аціхлай дудкі, якой ужо не чуваць у наваколлі, і, як нам падаецца, гэта не проста паэтычная рэфлексія, а менавіта форма зносін з традыцыяй. Такая замоўклая "дудка", напрыклад, згадваецца ў цыкле санетаў *Выня*, прысвечаным маленькай мясцовай рачулцы. Цыкл датуецца 1901 г., а значыць, паэтэса ведала не толькі вобраз Багушэвічавай паэзіі, але і была абазнаная ў факце яго смерці (хутчэй за ўсё з прэсы). Так, аб заняпадзе айчынных традыцый, нацыянальнай памяці і мовы, аб замоўклай "дудцы" і аб прадчуванні наступнага песняра айчыны (ці не Купалы?) напісаны трэці санет з названага дарагавіцкага цыкла[2].

У якасці аргументаў аўтарка прапануе, па-першае, "намёкі-алюзіі" ў выглядзе "вобразу аціхлае дудкі" (накшталт жалобнага вянка на магіле "Змоўклі песні тыя, што іграў на дудцы"); па-другое, датаванне санетаў пад агульным тытулам *Wynia: Rzeczułka*, дзе з'яўляецца вобраз дудкі, 1901 годам.

Першы аргумент аўтарка ілюструе ўласным перакладам польскамоўнага твора. Але ці ўдалося перакладніцы дакладна перадаць сэнс арыгінала? Параўнаем тэрцэты трэцяга санету.

---

[1] B. Żyranik, *Zarys literatury białoruskiej*, "Przymierze: Czasopismo związku zbliżenia narodów odrodzonych" 1921, nr 9–10, 13 marca.

[2] І. Багдановіч, *Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння*, Мінск 2001, с. 46.

У арыгінале:

Zmilkły prostacze „dudki", których swojskie tony
Podniecały poetę ku pieśni natchnionej,
Znikły jak wyschłe źródła, zamulone strugi.

Czasem śród pól się jakiś obcy ton ozowie…
Lecz czy w nim głos swych dzieci poznają Ojcowie?
Kiedyż, kiedy się zjawi piewca *Dziadów* drugi?

У перакладзе:

Дый памяць аб былым не будзіць спеў натхнёны,
Бо не чуваць ужо той свойскай "дудкі" тоны.
Народзіцца ці не тут зноў нашчадак рупны?

Гучаць усё мацней чужыя тоны ў мове.
Ці ў іх пазнаюць галасы дзяцей Айцове?
Калі ж ты з'явішся, пясняр *Дзядоў* наступны?

Адам М-скі ўжывае ў творы не польскае слова ***fletnie*** ці ***fujarki***, а беларускае – ***дудкі***, а, заключаючы яго ў двукоссе, паказвае на іншамоўную ўстаўку. Але – звернем увагу – у арыгінале іншамоўнае слова падаецца ў множным ліку. Няўжо гэта дзеля таго, каб цэнзар не здагадаўся, што гаворка ідзе пра *Dudku białaruskuju*? Цікава таксама, што і ў папярэднім санеце вобраз дудкі таксама прысутнічае. Прычым – з устаноўкаю на стварэнне таго самага сэнсу:

Dziś – wyschły krynice i zdroje,
Rzeka w zwężonych brzegach toczy wody swoje –
Znikły wydry, łabędzie, bąk, wierzby z moczarów –

Znikły wierzbowe fletnie. Wędrowiec z daleka
Wrócony – słuch wytęża – tęskno – na coś czeka –
Ach to wierzbowej „dudki" żal mu śpiewnych czarów.

На нашую думку, інтэрпрэтаваць "prostacze «dudki»" і "wierzbowe fletnie-«dudki»" Адама М-скага як *Dudku białaruskuju* Ф. Багушэвіча не дазваляе апісальны характар не толькі трох санетаў *Wynia: Rzeczułka*, але і ўсяго цыклу *Ziemia*, які ўваходзіць у склад *Pieśni dorohowickich.* Ваколіцы дарагавіцкія (як і іншыя мясціны Беларусі) змяняюцца не да лепшага, лірычны герой з болем канстатуе перамены "фізічныя" (гэтаму служыць апісальнасць цыклу *Ziemia*) і заўважае перамены "духоўныя" – замест ранейшых беларускіх мелодый цяпер з'явіліся іншыя, чужыя. Чытач павінен сам здагадацца, што мае на ўвазе аўтар.

Вядома, даследнік, схільны да прыёмаў гіперінтэпрэтацыі, можа бачыць у санетах *Wynia: Rzeczułka* алюзію да *Dudki białaruskaj* Ф. Багушэвіча. Тым больш, што ён мае яшчэ адзін аргумент: творы нібыта датуюцца 1901 годам.

Але на падставе чаго і хто датуе санеты *Wynia: Rzeczułka* 1901 годам?

І. Баргановіч не тлумачыць гэта. Магчыма, яна мае на ўвазе той факт, што санеты былі апублікаваныя ў 1901 г.?

На жаль, у даступнай літаратуры нам не ўдалося вызначыць дакладную дату напісання санетаў *Wynia: Rzeczułka*, але нескладана было даведацца, што два цыклы *Pieśni dorohowickich*, якія Адам М-скі назваў *Ziemia* і *Ludzie*, задумваліся і пісаліся ў 1897 г., калі на заклік З. Пшасмыцкага далучыцца да праекту *Księga Mickiewiczowska*, якую ў трох частках-тамах планавалася выдаць да стагоддзя з дня нараджэння аўтара *Пана Тадэвуша*, паэт адказаў згодаю. План не быў рэалізаваны, але ў лістах Адама М-скага да З. Пшасмыцкага захаваліся шматлікія згадкі пра працу паэта над гэтымі цыкламі *Pieśni dorohowickich*, а таксама фрагменты твораў, якія павінны стаць часткаю *Księgi Mickiewiczowskiej*.

Ужо маючы прыгатаваную частку *Pieśni dorohowickich*, Адам М-скі піша летам 1897 г.:

> Бо, сапраўды, ці ж мы віноўныя, што час наш хмурны? Што штандары не развіваюцца над нашымі галовамі, што нам ясныя зоркі не свецяць? Але трэба не сумнявацца ды быць папярэднікамі лепшага заўтра, якое ідзе, і вышэйшага песняра – гэта нашае заданне. Так – бачыш – паволі, не ведаю як, пачалася ладзіцца песня; мяркую, што будуць гэта *Pieśni dorohowickie*, то-бок цыкл санетаў і кароткіх вершаў, у якіх апішу маё радзімае гняздо. Хто ведае, – можа, гэта будзе твор, які дасканала ахарактарызуе маю асабовасць, г. зн. маю гарачую прывязанасць да гэтага кутка і мяне, як вартаўніка курганоў, якія завальваюцца…[1].

Нешта нам падказвае, што “вышэйшы пясняр” (у арыгінале: “wyższy piewca”) – гэта той самы “piewca *Dziadów* drugi”, а г. зн. радкі ліста ўскосна сведчаць, што санеты *Wynia: Rzeczułka* ствараліся менавіта ў той час, у 1897 г.

*Pieśni dorohowickie* не дачакаліся поўнае публікацыі. Рукапісы, здаецца, цалкам не захаваліся. Мы нават не ведаем дакладна, якія творы Адама М-скага належаць да цыкла-апісання “радзімага гнязда”. Можам адно меркаваць, што імі былі:

1. *Wynia: Rzeczułka*; 2. *Krzyże*; 3. *Dąbrowa*; 4. *Sosna*; 5. *Stary Dwór*; 6. *Wioska*; 7. *Chata*; 8. *Na zgorzelisku*; 9. *Nowy Dwór*; 10. *Okopy „Zameczek”*; 11. *Wieczornica*; 12. *Pogrzeb*; 13. *Zaścianek Zosin*; 14. *Z łanu* і інш.

З іх толькі *Wioska* і *Na zgorzelisku* былі апублікаваныя ў ХІХ ст. (У 1897 і 1899 г. адпаведна). Іншыя – пазней. Але, напрыклад, санетны цыкл *Sosna* Адам М-скі даслаў З. Пшасмыцкаму 5/17 сакавіка 1898 г. з наступным каментаром:

> Высылаю Табе сёння верш, які складае частку таго, што я меўся аддаць у выданне *Książki Mickiewiczowskiej*. Ты казаў, што кожны з нас павінны даць тое, што ёсць самае блізкае ягонай душы; я пачаў збіраць мае гэтак

[1] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 14/26 lipca 1897 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 383.

> званыя *Pieśni dorohowickie*, падзеленыя на два цыклы: *Ziemia – Ludzie*; Табе планаваў аддаць цыкл пра зямлю. Хачу ведаць, як Табе падабаецца *Sosna*? На маю думку, два раздзелы – *Krzyże* і *Dąbrowa* – лепшыя, але прачытаеш іх, калі будуць цалкам завершаныя; а калі гэта будзе? Альбо я ведаю[1].

*Dąbrowa* будзе апублікаваная ў 1905 г., *Sosna* – у 1906 г., а вось раздзел *Krzyże* не захаваўся (не выяўлены). Чаму ж санетны цыкл *Wynia: Rzeczułka* з'явіўся ў друку ўжо ў 1901 г.? Можа, з тае прычыны, што быў напісаны раней, што Адам М-скі надаваў яму большае значэнне, чым іншым раздзелам *Pieśni dorohowickich*? Мы не ведае адказу на такія пытанні, але не можам згадзіцца з думкай, што раздзел *Wynia: Rzeczułka* быў напісаны ў 1900 г. і ўжо ў маі 1901 г. быў надрукаваны. Хоць бы з тае прычыны, што амаль усе тэксты Адама М-скага чакалі тыпаграфскага станка доўгія і доўгія месяцы ці нават гады.

[1] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 5/17.03.1898 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 403.

# Беларускія вершы Адама М-скага

У сярэдзіне 1880-х гг. Адам М-скі, ужо вядомы чытачу шэрагам публікацый у газеце “Tygodnik Illustrowany”, а таксама асобным выданнем перакладу паэмы Альфонса Ламарціна *Апошняя песня пілігрымкі Чальд-Гарольда*, звярнуўся ў сваёй творчасці да беларускае мовы. Ці можна назваць гэты зварот свядомым жаданнем стаць беларускім паэтам, паэтам польска-беларускага памежжа? У асобных публікацыях беларускіх літаратуразнаўцаў беларускамоўныя тэксты Адама М-скага нават становяцца падставаю разглядаць ягоную польскамоўную спадчыну ў кантэксце “беларускае патрыятычнае ідэі”. На нашую думку, тут назіраецца падмена рэчыпаспалітаўскага складніка патрыятызму паэта на беларускі. Сцвярджаем на падставе эпісталярнае спадчыны: польскі складнік быў дамінавальны ў ягонай свядомасці. Чаму ж тады ўзніклі беларускамоўныя тэксты Адама М-скага? Адказ знаходзім у адным з лістоў да Ф. Зянковіча: “Я падумала, што някепска было б распаўсюдзіць такі спеўнік (вядома, толькі жывым голасам) замест агіднасцяў, якія цяпер можна часта пачуць”.

Наведваючыся зрэдчас (звычайна вясною ці летам) у родную Дарагавіцу, Адам М-скі сутыкнуўся з “агіднасцямі”, якія вырашыў “замяніць” папулярнымі польскімі песнямі ў перакладзе на беларускую мову. Характэрна, што задача надрукаваць спеўнік, які – як відаць – яна плануе падрыхтаваць, не ставіцца. Дастаткова, калі ён будзе пашырацца “жывым голасам”. Зрэшты, Адам М-скі, хіба, ведаў, якія цяжкасці маглі паўстаць на шляху выдання першае ў пасляпаўстанцкі час беларускамоўнае кніжачкі.

Таксама няцяжка здагадацца, што “агіднасцямі” паэт называе тое, што́ спяваюць у Беларусі. І калі ў лісце да Ф. Зянковіча, які жыў у той час у краі, можна было і не тлумачыць гэта, дык дзеля варшавяка З. Пшасмыцкага патрабаваўся шырокі каментар:

> Маё жыццё раскладаецца на дзве паловы: калі на чужыне – хваравіта сумую па краю, а калі сярод сваіх, дык кідаюся як шаленец – так баліць душа. <…> Ведае, Шаноўны Пан, хто сярод люду распаўсюдзіў вышываныя расейскія кашулі, хто пашырае ў краі расейскія песенькі? Студэнты. І цяжка сказаць нешта супраць гэтага: адны крычаць, што гэта фанатызм старэйшых, што песня і наогул усё, што на паверхні, не мае анічога агульнага з патрыятызмам; што любоў да краю яны захоўваюць на дне сваіх сэрцаў, не чынячы з яе паказухі… <…> Трэба прызнаць, што расіяне маюць цудоўныя песні, асабліва – новыя, якія моладзь спявае, любоўныя, у якіх палае нязмерны жар жарсці. Але ўласна таму, што атрута з’яўляец-

> ца прывабнаю, як мацней ад яе бараніцца трэба. *Дубинушку*[1] ніхто без расчуленасці слухаць не можа, але каб нашая моладзь ведала і спявала *Maćka*[2], то пазнала б, як наш брат-мужык па-свойму енчыць ды плача, дык можа б і зразумела, што *Дубинушка*, прыгожая і святая над Волгаю і Нявою, над нашымі курганамі – злачынная[3].

Крыху пазней, высылаючы З. Пшасмыцкаму фрагмент свайго перакладу-перапрацоўкі верша Марыі Канапніцкае (1842–1910) *U okienka*, Адам М-скі дадасць: "Яшчэ больш маю песняў для спеву; яны на гвалт нам патрэбныя, каб чужыя ў нас не пашыраліся"[4].

Менавіта так: паэт, ствараючы беларускамоўныя тэксты, думаў у першую чаргу пра супрацьдзеянне "пашырэнню чужых". Беларускамоўнае для яго – "заслона" краю ад расейшчыны. Беларускамоўнае як выяўленне польскае (рэчыпаспалітаўскае) ідэі, краёвае патрыятычнае ідэі. Фактычна тое, што прапагандавалі амаль усе ідэолагі Паўстання 1863 года. Адам М-скі стаяў на той самай пазіцыі, што і шмат якія палітычныя ды грамадскія дзеячы канца XIX – пачатку XX ст.: пагаджаюся на беларускамоўнае толькі ў тым выпадку, калі яно будзе пра Польшчу (як варыянт: пра Рэч Паспалітую абодвух народаў). Гэтая "пазіцыя" мела на ўвазе ўсялякае спрыянне такой беларускамоўнасці. Але калі ў беларускамоўным з'яўлялася беларуская нацыянальная думка, дык і Польская сацыялістычная партыя (PPS), і – вельмі верагодна – Адам М-скі адмаўляліся ад "беларускамоўнага"[5].

На нашую думку, паэт не меў кантактаў з прадстаўнікамі беларускага нацыянальнага руху, бо іх проста не ведаў ці свядома ўнікаў[6]. Ці ведаў ён, напрыклад, пра публікацыі Янам Неслухоўскім (Янкам Лучынам) беларускамоўных вершаў у газеце "Минскій листокъ", а таксама ў "Сѣверо-Западномъ календарѣ"? Магчыма, бо падтрымліваў блізкія дачыненні са стрыечнаю сястрою Альдонаю Раецкаю, якая ліставалася і сустракалася з Я. Неслухоўскім. Ці ведаў паэт пра выхад у свет *Dudki Białaruskaje Macieja Buraczka*, *Tralalonaczki*, *Smyka Białaruskaha Symona Reŭki z pad Barysawa*, ці ведаў беларусістычныя публікацыі Аляксандра Ельскага? Сёе-тое павінны быў ведаць, бо выпісваў і набываў самую разнастайную польскую перыёдыку і літаратуру. Аднак аніякіх ягоных крокаў у "беларускі бок" не зафіксавана. Паказальна і тое, што ў 1905–1907 гг. Адам М-скі надрукаваў

---

[1] Рабочая песня, створаная ў 1860-я гг. Васілём Багданавым і Аляксандрам Ольхіным на аснове народнае песні.

[2] Песня *Maciek* паходзіць са *Śpiewników domowych* С. Манюшкі. Словы Тэафіля Ленартовіча.

[3] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 25.08/6.09 1887 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 59–60.

[4] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 6/18 лютага 1888 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 101.

[5] Падобнае стаўленне, хоць і па іншых прычынах, прадэманстравалі і прадстаўнікі тагачаснае краёвае арыстакратыі, напрыклад, Эдвард Вайніловіч, Раман Скірмунт і інш.

[6] Зрэшты, увесь лад ейнага жыцця – гэта свядомае пазбяганне "чужых", "іншых", тых, каго не мела магчымасці добра пазнаць і зразумець.

шэраг польскамоўных твораў у “Kurjerze Litewskim” і “Dzienniku Wileńskim”, але – як вядома – не дасылаў сваіх беларускамоўных тэкстаў у “Naszu Niwu”. Увогуле, ці чуў Адам М-скі пра выхад у свет легальнае беларускамоўнае газеты, мэтаю якое было – сярод іншага – і тое, што ставіў перад сваімі песнямі ў сярэдзіне 1880-х і сам паэт.

Сёння мы не можам адказаць на пытанне, ці знаёміў Адам М-скі яшчэ каго, апрача Ф. Зянковіча і З. Пшасмыцкага, са сваімі беларускамоўнымі творамі? Г. зн., ці трапілі яшчэ да каго ейныя беларускія вершы і пераклады? Магчыма нават, што не.

Бясспрэчна, аднак, тое, што беларускія аўтографы Адама М-скага засталіся ў ягоным уласным архіве ў Дарагавіцы; пасля смерці паэта яны маглі тут і застацца, але – хутчэй за ўсё – павандравалі з іх новым уласнікам, скажам, у Вільню. Дадзенае нашае меркаванне грунтуецца на тым факце, што з архівам Адама М-скага пазнаёміўся Б. Жыранік. І зрабіць гэта ён мог, відаць, у Вільні падчас свайго – добраахвотнага ці вымушанага – падарожжа з Пецярбурга ў Варшаву.

Вядома, што ў 1921 г. Б. Жыранік быў ужо ў сталіцы адроджанае Польшчы і, відаць, належаў да “Związku zbliżenia narodów odrodzonych” – напалову навукова-асветніцкай, напалову палітычнай арганізацыі, што пашырала ідэі “праметэізму” – ідэю вольнасці народаў, прыгнечаных Расеяю, палучанаю з тактыкаю палітычнага падзелу савецкае імперыі[1].

Відаць, на замову “Związku zbliżenia…” Б. Жыранік падрыхтаваў дзеля газеты “Przymierze”[2] артыкул пра беларускую літаратуру[3]. На жаль, мы не ведаем, як і калі ён пазнаёміўся з беларускаю літаратураю, як і ад каго атрымаў матэрыялы дзеля падрыхтоўкі свае публікацыі. Наўрад ці дастаткова яму было працаў Мітрафана Доўнар-Запольскага, Аляксандра Ельскага і першага выдання *Гісторыі беларускае літаратуры* Максіма Гарэцкага. Асобныя фрагменты працы Б. Жыраніка паказваюць на залежнасць іх ад абазнанасці Рамуальда Зямкевіча. Увогуле, няма сумневу, што былы студэнт славістыкі Ягелонскага ўніверсітэта[4] быў знаёмы з многімі беларускамоўнымі творамі XIX – пачатку XX ст. і даволі трапна, хоць і коратка іх інтэрпрэтаваў. У тым ліку і беларускія вершы Адама М-скага:

[1] Гл.: B. Światłowski, *Prometejska racja stanu: źródła i dzieje ruchu prometejskiego w II Rzeczypospolitej*, „Poliarchia” 2014, nr 2, s. 148–149.

[2] Газета “Przymierze” выдавалася “Саюзам зблiжэння вызваленых народаў”, які дзейнічаў пад патранатам Міністэрства замежных спраў Польшчы і II аддзела Генеральнага штаба Польскага войска.

[3] У гэтым жа годзе Б. Жыранік выдаў сваю працу асобнаю кніжачкаю. Гл.: B. Żyranik, *Zarys literatury białoruskiej*, Wydawnictwa Związku Zbliżenia Narodów Odrodzonych w Warszawie; nr 2, Warszawa 1921, 40 s.

[4] Пасля Кракава Б. Жыранік знаходзіўся ў Пецярбурзе, дзе яго ў 1915 г. арыштавалі. Браў актыўны ўдзел у падзеях кастрычніка 1917 г., а пазней апынуўся ў Варшаве, магчыма нават, як супрацоўнік савецкае выведкі.

З надзвычайнай лёгкасцю адчувае беларускую душу наш паэт Адам М-скі (Зоф'я Тшашчоўская[1]). Яго беларускія песні поўныя свежасці і сапраўднай жаночай (у найбольш узвышаным гэтага слова значэнні) любві да ўсіх, хто пакутуе, каго прыгнятаюць і крыўдзяць. Нягледзячы на бясспрэчную арыгінальнасць твораў М-скага, мы знойдзем у іх рэха паэзіі ўсіх тагачасных паэтаў Белай Русі. (На жаль, беларускія творы М-скага дагэтуль нідзе не друкаваліся)[2].

Назваў вершаў Адама М-скага Б. Жыранік не падае, але гаворка ў яго ідзе, відаць, пра ўласныя творы паэта, а не пра пераклады[3]. Было б дзіўна, каб філолаг у прачытаных ім тэкстах не пазнаў папулярных твораў Т. Ленартовіча, М. Канапніцкае, а таксама *Pieśń S. Moniuszki* (як пазначалася ў выданнях *Śpiewników domowych*).

Ці не азначае гэта, што Б. Жыранік меў магчымасць працаваць з рукапісамі Адама М-скага альбо з сямейнага архіва паэта, альбо са збораў Р. Зямкевіча? Апошняе найбольш верагодна[4]. Вядомы даследнік гісторыі беларускае літаратуры ў той час з'яўляўся агентам II аддзела Генеральнага штаба Польскага войска, апрача таго істотным з'яўляецца і тое, што рэдакцыя газеты "Przymierze" знаходзілася побач з варшаўскім домам Р. Зямкевіча на вуліцы Хмельнай.

Нягледзячы на тое, што Б. Жыранік у часы сацыялістычнае Польшчы быў даволі актыўным удзельнікам польска-беларускага літаратурнага працэсу[5] [выдаў кніжачкі перакладаў вершаў Янкі Купалы *Dzień powszedni ubogi...* (1962) і Максіма Танка *Na szlaku dzikich gęsi* (1965)], ягоны *Zarys literatury białoruskiej*, а прынамсі словы пра "беларускія песні" Адама М-скага, доўга заставаліся па-за ўвагаю беларускіх літаратуразнаўцаў. І толькі У. Казбярук здолеў пацвердзіць выказванне Б. Жыраніка пра датычнасць Адама М-скага да беларускае літаратуры: у 1971 г. ён паведаміў

[1] Так [Adam M-ski (Z. Trzeszczowska)] у тытуле падраздзела і ў тэксце артыкула. Магчыма, памылка друку. У іншым разе гэта можа быць сведчаннем, што Б. Жыранік сапраўднае прозвішча паэта падае з чужых слоў.

[2] B. Żyranik, *Zarys literatury białoruskiej*, "Przymierze: Czasopismo związku zbliżenia narodów odrodzonych" 1921, nr 9–10, 13 marca.

[3] У красавіку 1970 г. У. Казбярук сустракаўся ў Варшаве з Б. Жыранікам, але аніякіх звестак ці матэрыялаў пра беларускую творчасць Адама М-скага ў яго не захавалася. Гл.: У. Казбярук, *Беларускія вершы Адама М-скага*, "Маладосць" 1971, № 12, с. 135.

[4] Не выключаем таксама і магчымасці супрацы Б. Жыраніка з Францішкам Аляхновічам, асабліва ўлічваючы верагоднасць іхняга знаёмства на пачатку XX ст. у Кракаве. Істотна таксама тое, што ў 28/29 нумары газеты "Przymierze" (1921) апублікаваны пераклад *Апокрыфа* Максіма Багдановіча. Перакладнік пазначаны крыптанімам F. A. (Як вядома, у 1924 г. Ф. Аляхновіч выдаў кніжачку перакладаў *Apokryf i inne nowele: Z białoruskiego*, дзе апрача згаданага вышэй твора М. Багдановіча змешчаныя: *Modlitwa małego Gabrusia* Змітрака Бядулі, *Brzozka* Ядвігіна Ш., *Święty Boże*! Фабіяна Шантыра).

[5] Напрыклад, Уладзімір Калеснік пісаў так: "Асабліва шмат рабіла ў справе перакладаў люблінская літаратурная газета «Камэна» і яе рэдактар Б. Жыранік". Гл.: У. Калеснік, *Зорны спеў: Літаратурныя партрэты, нарысы, эцюды*, Мінск 1975, с. 112.

пра “беларускія вершы” паэта[1], у 1974 г. апублікаваў пераклады песняў Т. Ленартовіча *Каліна* і Яна Чачота *Казак*[2], а ў 1980 г. – пераклады вершаў Марыі Канапніцкае *Ля ваконца* і *Як жа мне цябе дзяўчына*… ды арыгінальны верш паэта *Божа наш Бацько*…[3].

Амаль усе наступныя ўзнаўленні беларускіх вершаў Адама М-скага ажыццяўляліся паводле адаптацыі (якая не скажала сутнасці мастацкага выказвання паэта) У. Казберука. Іх было даволі шмат[4].

У сувязі з тым, што нашая расшыфроўка рукапісаў Адама М-скага мае пэўныя адрозненні ад таго, як гэта зрабіў Ю. Гарбінскі[5], ніжэй мы падаём усе беларускія тэксты паэта. Таксама палічылі патрэбным змясціць польскамоўныя творы, якія перакладаў ці выкарыстоўваў Адам М-скі.

---

[1] У. Казбярук, *Беларускія вершы Адама М-скага*, “Маладосць” 1971, № 12, с. 135–136.

[2] У. Казбярук, *Ступені росту: Беларуская літаратура канца XIX – пачатку XX ст. і традыцыі польскіх пісьменнікаў*, Мінск 1974, с. 28–33.

[3] У. Казбярук, *Невядомыя беларускія вершы Зоф'і Трашчкоўскай*, “ЛіМ” 1980, 4 крас.

[4] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. А. Лойка, В. Рагойша, 2-е выд., перапрац. і дап., Мінск 1988, с. 310, 409–411; *Заняпад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, уклад., прадмова і заўвагі У. Казберука, Мінск 2001, с. 538–542; *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: Анталогія*, уклад. К. Цвірка, І. Шпакоўскі, К. Антановіч, Мінск 2013, с. 774; *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 2, Мінск 2013, с. 375, 434–436 і інш.

[5] Адам М-скі (Зоф'я Манькоўская), *Цяпер і назаўседы: Паэзія* = Adam M-ski (Zofia Mańkowska, *Dzisiaj i na wieki: Poezja*; уклад. і падрыхт. тэкстаў Ю. Гарбінскі; рэд. перакл. на беларускай мове У. Мархель = wybór i opracowanie J. Garbiński, opracowanie przekładów w języku białoruskim U. Marchel, Варшава – Мінск =Warszawa – Mińsk 2004, с. 3, 395–398.

## *Расла каліна буйна, шырока…*

Гэта першы вядомы сёння беларускамоўны тэкст Адама М-скага. Захаваўся разам з вершам *Raście jawor na pryhorku…* у лісце паэта да Ф. Зянковіча ад 16 мая 1886 г. Творам папярэднічала своеасаблівая прадмова-тлумачэнне: “Аднойчы, летась, я пачала напяваць *Каліну* амаль міжволі на нашай сялянскай беларускай мове і паўтарыла дзяўчатам-служанкам – гэта выклікала захапленне, яны вучыліся па начах. На няшчасце я не маю голасу: не магу ні спяваць, ні вучыць іншых. Але магу перакладаць і маю некалькі гатовых песень; я падумала, што някепска было б распаўсюдзіць такі спеўнік (вядома, толькі жывым голасам) замест агіднасцяў, якія цяпер можна часта пачуць. Што Пан на гэта скажа? Дасылаю Пану дзве песні – гэта толькі пачатак – я забыла беларускую мову, хоць вяртаюся да яе цудоўна як да пястункі дзіцячых гадоў – а ў вушах іграе мне даўнейшая – без заганы…”.

*Калінаю* Адам М-скі называе папулярную польскую песню, якую ў 1840-я гг. напісаў Ігнацы Камароўскі (1824–1857) на верш Тэафіля Ленартовіча (1822–1893) *Rosła kalina z liściem szerokiem…*. Вядома таксама, што “мазавецкі лірнік” скампанаваў свой твор на падставе народнае песні *Czego ty Kalino taka smutna? – Bo już młodego Jasia niema*.

Rosła kalina z liściem szerokiem,
Nad modrym w gaju rosła potokiem,
Drobny deszcz piła, rosę zbierała,
W majowem słońcu liście kąpała.
W lipcu korale miała czerwone,
W cienkie z gałązek włosy wplecione.
Tak się stroiła jak dziewczę młode
I jak w lusterko patrzała w wodę.
Wiatr co dnia czesał jej długie włosy,
A oczy myła kroplami rosy.
U tej krynicy, u tej kaliny
Jasio fujarki kręcił z wierzbiny,
I grywał sobie długo, żałośnie,
Gdzie nad krynicą kalina rośnie,
I śpiewał sobie dana! oj dana[1];
A głos po rosie leciał co rana.
Kalina liście zielone miała,
I jak dziewczyna w gaju czekała,
A gdy jesienią w skrzynkę zieloną
Pod czarny krzyżyk Jasia złożono,
Biedna kalina znać go kochała,
Bo wszystkie swoje liście rozwiała,
Żywe korale wrzuciła w wodę,
Z żalu straciła swoją urodę[2].

Польскую песню Адам М-скі мог ведаць як з вуснай традыцыі, так і музычных выданняў[3], якія з сярэдзіны 1850-х гг. час ад часу выходзілі ў свет

[1] Рэфрэн, які часта сустракаецца ў народных прыпеўках. У тым ліку – у вясельных.
[2] T. Lenartowicz, *Rosła kalina z liściem szerokiem…* [w:] *Bukiet pieśni świątecznych*, zebrał J. Chociszewski, Poznań 1901, s. 114–115.
[3] Асобныя з іх мелі тытул *Kalina*.

з варшаўскіх друкарняў Рудольфа Фрыдляйна (1811–1873), а пазней – Густава Гэбэтнера (1831–1901) і Аўгуста Вольфа (1833–1910).

Відаць, з запісам беларускамоўных тэкстаў паэт раней не сутыкаўся. Прынамсі, не ведае, як асобныя аўтары і выдаўцы перадавалі адметны гук беларускае мовы [ў] на пісьме, г. зн. выданняў Аляксандра Рыпінскага, Яна Чачота, Габрыэля Асоўскага[1], Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Вінцэся Карацынскага і інш. ён не бачыў. Праўда, на прыназоўнік ***u*** ўвага была звярнутая (гл. ягоны прыпіс), хоць гук [***ў***] у словах *dzieucza, dziauczatko, Kruciu Ihrau, śpiewau, douha, lecieu, dziauczyna, usie* чамусьці застаўся "не заўважаны".

Цікава адзначыць, што перакладнік амаль дакладна передае лексічныя і стылістычныя асаблівасці арыгінала, цалкам захоўвае танальнасць ды мелодыка-інтанацыйны малюнак песні.

Друкуецца паводле: Biblioteka Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu, Rps 13228/I: *Wiersze i listy Zofji Trzeszczkowskiej do Feliksa Zienkowicza z lat 1881–1886*, s. 73.

Rasła kalina bujno, szyroko,
Da nad krynicoj, da nad hłubokoj,
Doždžyczek piła, rasu zbirała,
Wiasnoju u[2] soncy liści kupała. –
Pacierki letom mieła kalinki,
Jak dzieucza kosu pleła halinki,
Jak by dziauczatko u jasnu pahodu
I jak u lusterko hladzieła u wodu.
    Hulali wietry z bujnoj kasoju
    A oczy myła biełoj rasoju. –
Kale krynicy, kale kaliny
Kruciu nasz Jaśko dudki z wierbiny:
Ihrau jon z płaczem jak siéracina
Hdzie nad krynicoj raście kalina,
I śpiewau sztodnia ranniéj paroju
A hołas douha lecieu z rasoju.
    Kalina lepszu sukienku brała
    I jak dziauczyna u haji czekała.
A kali u osień trunu ciesali
I pod kryż czornyj Jaśku schawali,

[1] Перадаючы беларускамоўныя маналогі селяніна Барталамея, аўтар выкарыстоўвае літару ***й***. Гэта адна з першых спробаў (пасля А. Рыпінскага) "дастасавацца" да асаблівасцяў беларускае мовы. Гл.: G. Ossowski, *Tajemnicze domino, czyli Skutki niestałości: Romans satyryczno-obyczajowy*, w trzech tomach, Wilno: w drukarni J. Dworca, 1845, t. II, s. 109 i in. Рэдкае выданне Г. Асінскага выявіў Антон Францішак Брыль.

[2] "Прыназоўнік ***у*** я часцей за ўсё не лічу асобным гукам, бо ў люду гэты гук, хоць і выразны, часта зліваецца з наступным. Магчыма, іншыя патрапяць унікаць гэтага ў вершы – я не ўмею" (прыпіс Адама М-скага).

Widno kalina jaho lubiła,
Bo usie listoczki z żalu zhubiła,
Pacierki krasne u wodu skidała,
Usia kaliny krasa prapała. –

## *Расце явар на прыгорку…*

У тым жа лісце да Ф. Зянковіча змешчаны пераклад – як паведамляе ў прыпісе Адам М-скі – песні “Манюшкі *Казак* (*Tam na górze jawor stoi*), перарobленай для вясковага хлопца”. Як вядома, Станіслаў Манюшка вершаў не пісаў, а таму У. Казбярук, які выявіў твор, у першай публікацыі пазначыў, што “аўтар тэксту невядомы”[1]. Значна пазней беларускія даследнікі вызначылі: гэта “перапрацоўка” вядомай песні Станіслава Манюшкі на словы Яна Чачота[2].

Магчыма, сам Адам М-скі не ведаў, на чые словы напісаў песню С. Манюшка, бо ў большасці выданняў дванаццатага сшытка *Śpiewnika domowego* аўтарства Я. Чачота не падаецца. Усё ж, аднак, гісторыкі музыкі ўжо ў XIX ст. ведалі аўтара слоў гэтае папулярнае песні. Зрабіць гэта не складала вялікае цяжкасці: С. Манюшка няраз выкарыстоўваў вершы Я. Чачота; прынамсі, з томікаў *Piosenek wieśniaczych*. Тэкст *Tam na górze jawor stoi*… “знайшоўся” ў выданні *Piosenek wieśniaczych z nad Niemna, Dniepra i Dniestra* ў раздзеле *Piosnki wieśniacze z nad Dniestra: 1. Tłómaczone ze zbioru Wacława z Oleska wydanego we Lwowie w tomie jednym*.

Такім чынам, хоць “песня Яна Чачота нарадзілася на беларускай зямлі”[3], але з’яўляецца яна перакладам з украінскае мовы:

Tam na hori stojit jawir, jawir zełeneńki,
zahybaje na czużyni kozak mołodeńki:
zahybaju, zahybaju, pryjde czas wmeraty,
proszu tebe moja myła, daj matyńci znaty.
Pryjszła maty, przyjszła maty, pryjszła matinoczka,
obernuła biłe łyce naprotiw synoczka:
oto wydysz, mij synoczku, moje lube dytia,
ne słuchaweś otcia, matki, takie twoje żytia.
Proszu maty, proszu maty, krasno pochowyty,
sztoby w dzwony zadzwonity, w orhany zahraty;
nechże mene ne chowajut ni popy, ni diaki,
ino mia naj pochowajut wkraiński kozaki. –
Sypte bratia, sypte bratia, wysoku mohyłu,

---

[1] У. Казбярук, *Беларускія вершы Адама М-скага*, “Маладосць” 1971, № 11, с. 135.

[2] У. Мархель, *Трашчкоўская Зоф’я (Адам М-скі)* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах*, т. 6, Мінск 1995, с. 97; У. Казбярук, *Зоф’я Тшашчкоўская (Адам М-скі): жыццё і творчасць у беларуска-польскім літаратурным асяроддзі* [у:] *На шляхах да ўзаемаразумення: Навуковы зборнік*, Мінск 2000, с. 91.

[3] *Занядад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, уклад., прадм. і заўвагі У. Казберука, Мінск 2001, с. 542.

nechaj każdy o tom znaje, szto z kochania hynu;
posadit my, moji sestry, w hołowach kałynu,
nechaj każdy o tom znaje, szto z kochania hynu:
budut ptaszki prylitaty kałynońku jisty,
budut meni prynosyty wid myłoji wisty[1].

Я. Чачот пераклаў дастаткова дакладна, але змяніў страфічную будову твора:

Tam na górze jawor stoi,
Jawor zielonieńki,
Ginie kozak w cudzej stronie,
Kozak młodziusieńki.

Ginę, ginę w cudzej stronie,
Smierć mi oczy stuli;
Proszę ciebie moja miła,
Donieś to matuli. –

Przyszła matka, przyszła matka,
Przyszła matuleczka,
Obróciła białe lice
Przeciw synaleczka.

Oto widzisz mój syneczku,
Moje lube dziecię;
Nie słuchałeś ojca, matki,
Takież twoje życie! –

Proszę matko, proszę matko,
Pięknie pochowajcie;
Niech we wszystkie biją dzwony,
W organ mnie zagrajcie.

Niechaj tylko nie chowają
Popy ani dziaki;
Jeno same ukraińskie
Grzebią mnie kozaki.

Sypcie bracia, sypcie bracia
Wzniosłą mnie mogiłę;
Niechaj znają, że zginąłem
Przez kochania siłę.

Posadź, posadź moja siostro
W głowach mi kalinę;
Niech się każdy o tém dowie,
Że s kochania ginę.

Będą ptaszki przylatały
Kraśne jeść kaliny,
Będą nosić od kochanki
Miłe mnie nowiny[2].

С. Манюшка, прагнучы даць грамадству айчынныя песні, каб “адсунуць убок імпартаваную тандэту” (Вітольд Рудзінскі), цягам трыццаці гадоў напісаў больш за 250 музычных твораў на словы польскіх паэтаў, аб’яднаўшы іх у дванаццаць *Śpiewników domowych*. Сярод іх – блізу 20 тэкстаў Я. Чачота. Калі была напісаная песня на верш *Tam na górze jawor stoi*… – дакладна невядома. Але ўпершыню яна з’явілася асобна пад тытулам *Kozak* прыкладна ў 1858–1873 гг. (музычныя творы ў той час часта друкаваліся без пазначэння году) накладам Р. Фрыдляйна ў Варшаве[3], а пасля смерці кампазітара выдавец ягонае спадчыны Ян Карловіч (1836–1903) уключыў песню ў дванаццаты сшытак *Śpiewnika domowego*.

С. Манюшка дзеля песні *Kozak* выкарыстаў першыя шэсць (з дзевяці) катрэнаў Я. Чачота. Кампазітар фактычна пазбавіў твор матыву кахання, праз якое гіне лірычны герой. Відавочна, без гэтага матыву твор успрымаўся як патрыятычны: казак гіне на чужыне не інакш як на службе Рэчы Паспалітай.

[1] *Pieśni polskie i ruskie ludu galicyjskiego, z muzyką instrumentowaną przez Karola Lipińskiego*. Zebrał i wydał Wacław z Oleska, Lwów 1833, s. 339.
[2] [J. Czeczett], *Piosnki wieśniacze z nad Niemna, Dniepra i Dniestra*, Wilno 1845, s. 41–42.
[3] *Kozak: Pieśń S. Monuszki*, Warszawa: Nakładem R. Friedlein.

А вось Адам М-скі ў сваім перакладзе цалкам адмовіўся і ад патрыятычнага складніка, і ад украінскага: ягоны герой, вясковы хлопец, што ўсвядоміў сваё свавольства. З гэтай прычыны ён хоча, каб хавалі яго “хлопцы з нашае вёскі”, відаць, дзеля навукі ўсім тым, хто ведаў пра ягоныя ўчынкі.

Друкуецца паводле: Biblioteka Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu, Rps 13228/I: *Wiersze i listy Zofji Trzeszczkowskiej do Feliksa Zienkowicza z lat 1881–1886*, s. 74.

Raście Jawor na pryhorku
Jawor zialenieńki,
U czużoj wioscy prapadaje
Chłopiec maładzieńki.
“Hinu, hinu, prapadaju,
Para umiraci;
Prasi dziaucza prasi, miła,
Sztoby pryszła maci.”
Pryszła maci, pryszła maci
I horko uzdachnuła
Kali na swajho synoczka
Miłaho uzhlanuła.
“Oj dziciatko, oj ty synu,
Synoczku mój miły
Ty nie słuchau baćku, maci –
Dojszou da mahiły.”
“Praszu maci, praszu maci,
Choraszo chawajcie:
Usie dzwony niechaj dzwoniać,
Muzyku zahrajcie;
Niechaj mienie nie chawajuć
Ludzi naniatyje,
Tolko chłopcy z naszoj wioski,
Chłopcy maładyje.”

## *Гляджу на рэчку, там човен поўна…*

У адрозненне ад С. Манюшкі, які ў 1840–1860-я гг. пісаў песні паводле вершаў польскіх паэтаў дзеля падмацавання сэрцаў адукаванага класа, Адам М-скі ў 1880-я гг. паставіў перад сабою задачу працаваць – сярод іншага – дзеля ніжэйшага класа – сялян: перакладаў на беларускую мову папулярныя польскія песні. Пра сваю працу ў гэтым кірунку паэт пісаў не толькі да ліцвіна-суайчынніка Ф. Зянковіча, але і да варшавяка З. Пшасмыцкага. Адаму М-скаму было істотна, каб яго не проста зразумелі, але і падтрымалі, пашыралі ягоныя спробы. Дзеля гэтага ён шырока тлумачыць тыя матывы, якімі кіруецца:

> У вершы *Na skrzydłach Ariela* Пан замяніў "Літву" на "родную зямлю". Разумею Пана: палохаешся правінцыялізму, а на маю думку, – гэта няслушна. Я люблю ўсю Айчыну і сваю любоў, як магу, пашыраю; я далёкі ад сепаратызму, але бывае, што пра пэўны куток краю цалкам забылі, а ён патрабуе, каб менавіта да яго хто адгукнуўся. Таму ў вершы *Z daleka* я кажу: "Tak dziś, o Litwa moja, ty śpisz cicha". У вас няволя, але ёсць універсітэт, сталіца, пісьменніцтва – мы ж нічога не маем, нават уласнае імя забываем; нас трэба клікаць па імені, нам трэба казаць: "Прачніцеся!", дык тады і да агульнае працы будзем прыдатныя. Апрача гэтага ёсць сфера асабістых пачуццяў і ўспамінаў, якія прывязаныя да дрэва, да каменя, Бог ведае да чаго, але гэты ад Віслы, гэты ад Нёмана, а іншы ад нейкага балота адарвацца не можа. І што? Аніякія жабы не спяваюць так, як польскія![1] Гэта не жарт, не аднаму так здаецца. Так і мая сіроцкая песенька не можа ўзняцца і гучаць над усёю зямлёю, духу ёй не стае, але дзесьці над дробнаю рэчачкаю, што імкне да Нёмана, дзе і жывыя людзі, і магілы гэтую песню па зыках пазнаюць. А можа нават, што душа, якая жыве ў маёй песні, ляцець у іншае месца і не хацела б. Мы, ліцвіны, горача прывязваемся да свайго кутка, нашая прырода, больш, чым дзе-небудзь не кранутая, туліць нас да грудзей і адарвацца ад іх не дае. Ці паверыць Пан, што я шмат гадоў хварэў у час прылёту і адлёту птушак? Хварэў ад тугі, выразна чуў, жывучы ў шумным горадзе, як вада з пагоркаў бяжыць вясною, як лес хваёвы шуміць. Дзеля гэтага трэба быць вяскоўцам і прырасці да зямлі, як сялянскае сэрца. Але ж і вёска была! Разам з апошнімі песнямі Камоэнса я выслаў Шан. Пану верш *Mieniuszka*; гэта народная назва кветкі, назвы якое – ані польскае, ані батанічнае – я не ведаю. На выпадак, калі Пан захоча надрукаваць гэты верш, я прыклеіў галінку кветкі ля верша: можа, які знаўца назаве яго? Дык у прыпісе патлумачыць трэба будзе. Гэтыя

[1] Словы з сёмае кнігі *Пана Тадэвуша* А. Міцкевіча.

кветкі цвітуць ранняю вясною адначасна з лотаццю (sonai), у вільготных лясах сустракаюцца цэлыя каберцы з іх. Гэта кветкі мае вёскі!.. А ці сутыкаўся калі Пан з беларускаю моваю?[1]

Вядома, высылаючы беларускія пераклады З. Пшасмыцкаму, Адам М-скі зусім не лічыў, што рэдактар варшаўскае газеты "Życie" надрукуе іх. Тым больш, што высылалася "спроба", фрагменты перакладу. Дастаткова параўнаць іх з арыгіналам (у дадзеным выпадку – з вершам Марыі Канапніцкае). Ды і высылаліся яны звычайна ў лісце, а не на асобнай картцы.

**U okienka**

W chacie u mego siedzę okienka,
Cieniuchną nitkę wysnuwa ręka,
Przedemną kądziel siwa, brodata,
A oczy – lecą na koniec świata!

Z mego okienka widać niemało,
Byle się tylko patrzeć umiało,
Byle tchem ciepłym, od wnętrza chaty,
Odchuchać srebrne na szybach kwiaty...

W lewo i w prawo widać szmat nieba,
I tylko oczy podnieść potrzeba,
Żeby zobaczyć, wśród gwiazd tysiąca,
Cości wielkiego... cości bez końca!..

Choć w szybce otwór taki malutki,
Choć mgła się nad nim wiesza, jak smutki,
Choć rosa stoi w perłach, jak łezki,
Widać het!.. cały pałac niebieski!

A kiedy wiosną kogut zapieje,
Kiedy w słoneczku wioska odnieje,
To taka jasność uderzy potem,
Jakby kto chatę potrząsnął złotem...

I widać wtedy z mego okienka,
Jak się u brzegu chwieją czółenka,
Jak ta Wisełka, ta modra, nasza,
Flisów do drogi z sobą zaprasza...

Wiosce tam wielkiej wody nie trzeba;
Młynek na strudze dość zmiele chleba...
A nieraz przecie myślę: moc boża,
Że nasza Wisła idzie do morza!

Idzie i szumem po świecie gada,
Jak się tu u nas sprawia gromada...
I niesie – Bóg sam wie, jak daleko
Tratwy, i pieśnie, i łzy, co cieką...

Z mego okienka widać na lewo
Ogromne, stare, spróchniałe drzewo,
Co, powiadają, zakwitnie wtedy,
Jak już na świecie nie będzie biedy,

Ni ludzkiej krzywdy, ni poniewierki,
Ani wojenki, ani żołnierki,
Gdy każdy w własnej chacie zasiędzie
I wszystkich braćmi nazywać będzie...

Jaćbym tam temu nie była krzywa!
Chce się zwać bratem, niech się nazywa...
Byleby tylko Jaśka w Dąbrowie
Dali inaczej wołać ojcowie!..

A tam na prawo, gdzie boża męka,
Widać het, pole z mego okienka...
Po miedzy tatuś w zamysłach chodzi:
Czy też zarodzi?.. czy nie zarodzi?..

Oj, głód – to straszna jest kara nieba...
Ojcze nasz, daj nam czarnego chleba!
Zapal nam słonko najświętszą ręką
I rzuć promyczek w każde okienko![2]

З пяцідзесяці двух радкоў арыгінала ў Адама М-скага атрымалася толькі дваццаць. Ці ж можна назваць гэта перакладам верша М. Канапніцкае ды яшчэ і тытул пакінуць той самы? Цікава адзначыць і тое, што першы катрэн перакладу цалкам не стасуецца з астатняю яго часткаю; назіраем таксама жаданне перакладніка "адмовіцца" ад гераіні, што глядзіць на свет праз

[1] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 6/18 лютага 1888 г. Цыт. па: Rkps BN 2684, k. 34v–35.

[2] M. Konopnicka, *U okienka* [w:] M. Konopnicka, *Poezye, wydanie zupełne*, krytyczne oprac. J. Czubek, Warszawa 1915, s. 102–103.

размаляванае марозам вакенца, але адначасна “пакінуць” асобныя заўважаныя ёю карціны. Зрэшты, невядома, што планаваў Адам М-скі: ці то зрабіць песню з фрагментаў верша М. Канапніцкае, ці то зрабіць поўны пераклад твора, як гэта было з вершамі Т. Ленартовіча і Я. Чачота.

Друкуецца паводле: Rkps BN 2684: Korespondencja Zenona Przesmyckiego (Miriama) z lat 1884–1941, k. 35–35v.

Hlażu na reczku, tam czowien pouna[1]
Z bierahu chutko[2] sowajuć czouna,
A nasza reczka, a nasza sina,
“Pływicie − każe − idzi wicina!”

Albo

Zaćwicie jawor, haworać ludzie,
Kali na świecie biédy nie budzie
Ni ludzkoj kryudy, kali nam z chaty
Nie buduć braci[3] chłopcou u sałdaty.
Jak kożen[4] siadzie u swajej chacie
I ludziéj budzie nazywać: bracie! –
Niechaj tak każe, kali pryśpieło[5], –
Nazywaj bratom − mnie szto za dzieło!
Tolko|by Janku dau Boh pryżdaci
Tatka pozwoliu miłym nazwaci.

Pa mieży[6] Tatka chodzić i chodzić,
Pytaje – ci nam żyto zarodzić?
Oj hołod straszny − skaranie z Nieba!
Dajże nam, Boże, czornaho chléba,
Boże nasz, Baćku, zapali sonce
Niechaj zaświecić u kożne akonce[7]

!

[1] Зверху алоўкам: *czółen pełno*.
[2] Зверху алоўкам: *szybko*.
[3] “braci – brać – інфінітыў часцей за ўсё заканчваецца на ***i***” (прыпіс Адама М-скага).
[4] Зверху алоўкам: *każdy*.
[5] Зверху алоўкам: *kiedy ochota*.
[6] Зверху алоўкам: *miedzy*.
[7] Зверху алоўкам: *okienko*.

## *Як жа мне цябе дзяўчына…*

Пра пераклад верша М. Канапніцкае *Jakże cię mam brać* (з цыклу *Na fujarce*) наўпрост не згадваецца ў лістах паэткі да З. Пшасмыцкага. Але тэма перасланых беларускіх тэкстаў няраз узнімаецца ў ейнай карэспандэнцыі за сакавік-красавік 1888 г. Гэтыя допісы цікавыя яшчэ і тым, што дазваляюць зразумець і стаўленне Адама М-скага да беларускае мовы, і тую ролю, якую ён надаваў сваім перакладам у жыцці грамадства. Так, напрыклад, у лісце ад 9/21 сакавіка 1888 г. з Ноўгарада чытаем:

> З вершамі Акермановае вышлю Пану яшчэ пару беларускіх перакладаў. Нядаўна пісалі ў штотыднёвіках, што каб надрукавалі *Pana Tadeusza* па-беларуску, дык сяляне яго б не чыталі. А ці сяляне спрадвечна польскія чытаюць яго на польскай мове? Мяркую, што ніхто не адкажа сцвярджальна; такія рэчы інтэлігенцыя распаўсюджваць павінна. А тое, што беларуская песня мела б аграмадны ўплыў, я ведаю з досведу: друкаваць не дазволяць, але моладзь магла б несці яе ў хаты. Як толькі вярнуся на стала да сваіх, дык рупліва гэтым займуся[1].

Праз месяц Адам М-скі высылае ў Варшаву пераклады вершаў французскае паэткі Луізы-Віктарыны Акерман (1813–1890). Аніводзін з іх, здаецца, так і не будзе надрукаваны. Як, зрэшты, і беларускі пераклад:

> Дасылаю таксама пару ўласных драбностак[2] і фрагмент перакладу з паэзіі Канапніцкае на беларускую мову. Папярэджваю, што граматыкі гэтае мовы няма, я кіруюся адно музыкаю гэтае мовы, якая грае ў мяне ў вушах з часоў нянькі[3].

Відаць, тут ідзе гаворка якраз пра пераклад верша *Jakże cię mam brać*, што захаваўся ў архіве З. Пшасмыцкага разам з шэрагам твораў і перакладаў Адама М-скага, а ў 1942 г. набытыя ў яго Нацыянальнаю бібліятэкаю ў Варшаве.

---

[1] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 9/21 сакавіка 1888 г. Цыт. па: Rkps BN 2864: *Korespondencja Zenona Przesmyckiego (Miriama) z lat 1884–1941*, k. 39.

[2] Сярод гэтых “драбностак” знаходзіўся верш *Wieczorną godziną* (*U stóp ja twoich chciałbym leżeć cichy*), надрукаваны толькі праз год (“Życie” 1889, nr 11, 16 marca). Зазначым у гэтым месцы: у 1887–1888 гг. у прыватным жыцці З. Тшашчкоўскае адбываліся значныя падзеі (палкае пачуццё да невядомае асобы [відаць, Фелікса Зянковіча], звязаная з гэтым спроба развесціся з мужам і вярнуцца на бацькаўшчыну).

[3] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 14/26 красавіка 1888 г. Цыт. па: Rkps BN 2864: *Korespondencja Zenona Przesmyckiego (Miriama) z lat 1884–1941*, k. 40v.

Мусім абавязкова звярнуць увагу на той ліст Адама М-скага, дзе ён кажа пра мажлівы пераклад *Pana Tadeusza* на беларускую мову на падставе згадкі "ў штотыднёвіках". А. Бласінская, выдавец лістоў Адама М-скага, лічыць, што тут ідзе гаворка пра артыкул *Pan Tadeusz na Białorusi* ў "Tygodniku Illustrowanym"[1]. Калі даследніца мае рацыю, дык гэта азначае, што Адам М-скі ведаў пра выдадзены ў 1859 г. пераклад дзвюх першых кніг паэмы А. Міцкевіча; г. зн. ведаў пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і пра беларускамоўныя кніжныя выданні. Здавалася б, нічога дзіўнага тут няма: паэт нязменна цікавіўся польскамоўнымі выданнямі (Ф. Зянковіч, наведаўшы ягоны дом у Ноўгарадзе, пісаў, што Тшашчкоўскія выпісваюць ажно адзінаццаць "czasopism"), дык пэўна ж чытаў матэрыялы, у якіх закранлася беларуская тэма. Напрыклад, артыкулы Аляксандра Ельскага ў газеце "Kraj" ці Вінцэся Каратынскага ў варшаўскіх выданнях. Але справа ў тым, што Адаму М-скаму магло трапіць на вочы адно "z pism krajowych" з артыкулам пра А. Міцкевіча[2], аўтар якога шкадаваў, "że do tej pory nikt się nie zdobył na przetłumaczenie Pana Tadeusza na mowę białoruską"[3]. А гэта магло азначаць, што да свае "беларушчыны" Адам М-скі ішоў самастойна.

**Jakże cię mam brać**

Jakże cię mam brać, dziewczyno,
Jakże cię mam brać,
Kiedy mi cię z białej chaty
Nie chcą ojce dać?...

Anim ja nie ptak skrzydlaty,
Anim ja nie ptak,
Żebym z tobą leciał w górę
Przez ten modry szlak!

Anim ja nie duch, najmilsza,
Anim ja nie duch,
Żebym ciebie zdmuchnął z ziemi,
Jako kwiecia puch!

Anim ja nie mgła z nad łąki,
Anim ja nie mgła,
Żebym ciebie skrył tumanem
Przed jasnością dnia!

Anim ja nie grób, dziewczyno,
Anim ja nie grób,
Żebym z tobą poniewoli
Dostał wieczny ślub!

Oj, padają łzy z wierzbiny,
Oj, padają łzy!...
A kiedyż ty, słonko moje,
Będziesz świecić mi?[4]

Параўноўваючы верш М. Канапніцкае з перакладам Адама М-скага, прыходзім да высновы: беларускі паэт надзвычай адказна ставіўся да свае працы, стараўся максімальна захоўваць рытміка-меладычныя асаблівасці арыгінала. І адначасна сцвердзім: у большасці беларускіх перадрукаў перакладу верша *Jakże mnie ciabie dziauczyna*… назіраецца неапраўданая "мадэрнізацыя", што змяняе рытм верша. Напрыклад, "Не хочуць аддаці" замест "Не хочуць даці"; "Як тая магіла" замест "Як та магіла"; Калі ж тое

---

[1] Гл.: A. S., *Pan Tadeusz na Białorusi*, "Tygodnik Illustrowany" 1887, nr 261, 31 grudnia.
[2] Не ўдалося вызначыць, якое выданне і якую публікацыю мае на ўвазе A. S.
[3] A. S., *Pan Tadeusz na Białorusi*, "Tygodnik Illustrowany" 1887, nr 261, 31 grudnia.
[4] M. Konopnicka, *Jakże cię mam brać*… [w:] M. Konopnicka, *Poezye, wydanie zupełne*, krytyczne oprac. J. Czubek, Warszawa 1915, s. 92–93.

будзе?” замест “Калі ж то будзе?” (пяцісkладовік заменены шасціскладовікам).

Друкуецца паводле: Rkps BN 5452 III: *Zofia Trzeszczkowska (pseud. Adam M-ski): Utwory poetyckie i przekłady*, k. 97.

Jakże mnie ciabie dziauczyna
Za żonku uziaci,
Kali baćki z biełoj chaty
Nie choczuć daci?

Oj dziauczatko, ja nie ptuszka,
Krył nie dau mnie Boh,
Kab z taboju siniém Niebom
Letuci ja moh.

Ja nie duch, maja hałubka,
Biéda, ja nie duch,
Kab ciebie z ziamli źdźmuchnuci
Jak z toj kraski puch.

Nie mahu ja być tumanom
Z nad sianażaci,
Prykryć ciabie u dzień bialeńki
I sabie uziaci.

Nie mahu że ja, dziauczyna,
Jak ta mahiła,
Pa|niewoli slubu braci
Z taboju miła!

Oj laciać z wierbiny slozki
Horka mnie, ludzie!
A kali|ż mnie Boh daść sonce?
Kali|ż to budzie?

## *Божа, наш Бацька…*

Мы не ведаем, калі быў напісаны гэты верш, але ёсць падставы казаць, што ствараўся ён як працяг працы над перакладам верша М. Канапніцкае *U okienka*.

Захаваўся ён у лісце паэта да З. Пшасмыцкага, відаць, з Дарагавіцы[1] ад 12/24 ліпеня 1888 г., у якім чытаем:

> У мяне тыя самыя штодзённыя клопаты; крыху кніжак па вёсках распаўсюдзіў – і то добра. А як, Табе, браце, трапіць да душы *Modlitwa białoruska* на час бедства (на мелодыю *Chórału* Уейскага).

А занатаваўшы верш, працягваў:

> Ведаеш, Ш[аноўны] Пане, мае рэлігійныя перакананні, але сярод люду абысціся без гэтага немагчыма; зрэшты, панятак Бога Бацькі сярод убогае грамады мае сваю паэзію.

Прыехаўшы ў сакавіку 1888 г. у Дарагавіцу, З. Тшашчкоўская пачала актыўна працаваць дзеля асветы люду сваіх ваколіцаў. Такую ейную паставу, відаць, сфармавалі дачыненні з Ф. Зянковічам. На нашую думку, менавіта ў гэты час (1886–1889) пачуцці саракагадовае кабеты знайшлі водгук ў сэрцы на пяць гадоў старэйшага за яе былога выгнанніка. Пацвярджэннем можа быць і ейная тагачасная паэзія, і ейная грамадская праца:

> Я заўважыў і тое Табе, браце, дзеля пацехі кажу, што люд абуджаецца, што даўняе нехаценне знікае, што беларуская дзятва таемна, па ўласным жаданні па-польску вучыцца… Але шатан няспынна сее сваё зерне, і мае дзеля гэтага сродкі – трэба працаўнікоў скрытных, настойлівых, каб рваць – таксама няспынна – пустазелле. Дзеля гэтага не існуе дробязнага: калі катэхізісам і пацерам можна дзе трапіць, дык трэба пахіліцца і да іх з усёю сур’ёзнасцю, стлуміўшы ўласную агіду. (Кажу, натуральна, пра дзейнасць сярод люду, бо смелае вызнаванне сваіх перакананняў сярод людзей свае сферы лічу за абавязак). Я веру, што калі знойдзецца гурт настойлівае, ахвярнае моладзі сярод нашага люду, то цягам дзесяці гадоў мы маглі б вярнуць уплыў – у іншым выпадку страцім яго назаўсёды. Я спадзяюся наступнаю вясною канчаткова асесці на Літве, буду разглядацца, якія тут магчымасці, тым часам хацеў бы распаўсюдзіць тут колькі асобнікаў “Gazety Świątecznej” і выданняў для люду, якія пера-

[1] А. Бласінская датуе яго з Ноўгарада, але звяртаем увагу на наступныя словы ў лісце: “крыху кніжак па вёсках распаўсюдзіў”, а гэта сведчанне, што Адам М-скі знаходзіўся ў Беларусі.

лічаныя ў “Prawdzie”. Калі можаш, браце, зрабі мне пералік кніжачак дзеля чытання для люду, пачынаючы ад святое гісторыі і апісання цудадзейных абразкоў да дапаможнікаў па земляробству, пчальніцтву (даступных люду), словам, рэчы, якія б маглі змагацца з “сельскимъ поселяниномъ”[1] і падобнымі выданнямі. Мова павінна быць як можна прасцейшаю, звычайнаю, бо гаворка галоўным чынам пра беларусаў, для якіх моўныя складанасці могуць быць значнымі перашкодамі пры чытанні[2].

Часткаю гэтае грамадскае дзейнасці Адама М-скага стала ягоная паэтычная беларускамоўная творчасць. Звестак пра гэта, апрача згадак самога Адама М-скага ў карэспандэнцыі, не захавалася.

Верш-песня *Boże nasz Baćka, my Twai ludzi…*, як пазначыў сам паэт, напісаны на мелодыю *Chorału*, праўда, не Карнэля Уейскага (1823–1897)[3], а Юзафа Нікаровіча (1827–1890). У сакавіку 1846 г. малады ў той час кампазітар, уражаны г. зв. “rabacją galicyjską” (галіцыйскаю разнёю) стварыў музыку, на якую ягоны сябра паэт К. Уейскі напісаў тэкст *Z dymem pożarów…*, упершыню апублікаваны пад тутулам *Chorał* у 1847 г.[4].

Харал (з лац. *choralis* – харавы) – літургічны спеў у Каталіцкім касцёле. Верш Адама М-скага, як і верш К. Уейскага, стылізаваны на біблейскім маленні да Бога аб ласцы і міласці для пакутнага народу. Але пэўныя тэкставыя супадзенні назіраюцца не з *Z dymem pożarów…*, а з вершам *U okienka.*

**Chorał**

1

Z dymem pożarów, z kurzem krwi bratniéj,
Do Ciebie, Panie, bije ten głos,
Skarga to straszna, jęk to ostatni,
Od takich modłów bieleje włos.
My już bez skargi nie znamy śpiewu,
Wieniec cierniowy wrósł w naszą skroń,
Wiecznie, jak pomnik Twojego gniewu,
Sterczy ku Tobie błagalna dłoni

2

Ileż to razy Tyś nas nie smagali
A my, nie zmyci ze świeżych ran,
Znowu wołamy: "On się przebłagał,
Bo On nasz Ojciec, bo On nasz Pan!"
I znów powstajem w ufności szczersi,
A za Twą wolą zgniata nas wróg,
I śmiech nam rzuca, jak głaz na piersi:
"A gdzież ten Ojciec, a gdzież ten Bóg?"

3

I patrzym w niebo, czy z jego szczytu
Sto słońc nie spadnie wrogom na znak -
Cicho i cicho, pośród błękitu
Jak dawniej buja swobodny ptak.
Owóż w zwątpienia strasznej rozterce,
Nim naszą wiarę ocucim znów,
Bluźnią Ci usta, choć płacze serce;
Sądź nas po sercu, nie według słów!

4

O! Panie, Panie! ze zgrozą świata
Okropne dzieje przyniósł nam czas,
Syn zabił matkę, brat zabił brata,
Mnóstwo Kainów jest pośród nas.

---

[1] Відаць, маецца на ўвазе газетка для народа (“для волостныхъ правленій”) “Сельскій Вѣстникъ”, што выходзіла з 1881 – па 1917 г.

[2] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 16/28 чэрвеня 1888 г. Цыт. па: Rkps BN 2864: *Korespondencja Zenona Przesmyckiego (Miriama) z lat 1884–1941*, k. 47–47v.

[3] Вядома, Адам М-скі не памыляўся, назваўшы *Chorał* творам К. Уейскага, бо менавіта дзякуючы публікацыям пад прозвішчам паэта, песня стала папулярнаю ў другой палове XIX стагоддзя. Лічылася нават неафіцыйным польскім гімнам.

[4] [K. Ujejski], *Skargi Jeremiego*, Londyn 1847, s. 81–83.

Ależ, o Panie! oni niewinni,
Choć naszą przyszłość cofnęli wstecz,
Inni szatani byli tam czynni;
O! rękę karaj, nie ślepy miecz!

5

Patrz! my w nieszczęściu zawsze jednacy,
Na Twoje łono, do Twoich gwiazd,
Modlitwą płyniem jak senni ptacy,
Co lecą spocząć wśród własnych gniazd.
Osłoń nas, osłoń ojcowską dłonią,
Daj nam widzenie przyszłych Twych łask,
Niech kwiat męczeństwa uśpi nas wonią,
Niech nas męczeństwa otoczy blask.

6

I z archaniołem Twoim na czele
Pójdziemy potem na wielki bój,
I na drgającym szatana ciele
Zatkniemy sztandar zwycięski Twój!
Dla błędnych braci otworzym serca,
Winę ich zmyje wolności chrzest;
Wtenczas usłyszy podły bluźnierca
Naszą odpowiedź: "BÓG BYŁ I JEST!"

Друкуецца паводле: Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 12/24 ліпеня 1888 г. Цыт. па: Rkps BN 2684: *Korespondencja Zenona Przesmyckiego (Miriama) z lat 1884–1941*, k. 52v–53.

Boże nasz Baćka, my Twai ludzi,
A Niebo ciomno ad czornych chmar,
Na świecie ciażko, aż balać hrudzi.
Hdzie nie paczujesz − hoład, pażar.

Hulali wietry po naszom poli
I sopsuwali nam urażaj,
I nie ma szczaścia, i niema doli;
Boże, nasz Baćku, chleba nam daj!
~~Paszli nam sonce z ciopłaj rasoju,~~
~~Kab zas~~

Daj nam zdarouje, szczyru achotu,
Kali z sachoju pojdziem arać.
Ty baczysz ciażku naszu rabotu,
Dajże pażytku z jaje pryżdać.

Paszli nam sonce z ciopłaj rasoju,
Kab zaszumieła niwa jak haj.
Każuć – Ty Baćko – my pad Toboju –
Chleba i sonca i szczaścia daj!

# Зоф’я Тшашчкоўская і Феликс Зянковіч

У 1963 г. бібліятэка Асалінэум набыла ў Генрыкі Сулецкае (1893–1976), другое дачкі ўдзельніка Паўстання 1863 г. і выгнанца Фелікса Зянковіча (1842–1910)[1], карэспандэнцыю яе бацькі (сто адзін ліст), а таксама два альбомы з фотаздымкамі (76 фатаграфій знаёмых, сяброў і сваякоў) і інш. У каталог рукапісаў (*Inwentarz rękopisów*...) яны былі занатаваныя пад сігнатурамі: 13228/I: *Wiersze i listy Zofji Trzaszczkowskiej do Feliksa Zienkowicza z lat 1881–1886*; 13323/I: *Feliks Zienkowicz. Listy 1859–1884*; 13324/I: *Albumy z fotografiami towarzyszy, uczniów i znajomych Feliksa Zienkowicza z czasów zesłania na Syberie, t. 1–2*.

*Inwentarz rękopisów*... бібліятэка выдала друкам у 1972 г., але даследнікі маглі карыстацца машынапісам каталогу, а таксама архіўнымі матэрыяламі адразу пасля іх апрацоўкі. Уладзімір Казбярук быў адным з першых, хто пазнаёміўся з лістамі З. Тшашчкоўскае да Ф. Зянковіча, бо, відаць, звярнуў увагу на наступныя словы анатацыі рукапісу 13228/I: “dwa przekłady wierszy polskich na język białoruski”[2]. У выніку з’явіўся ягоны артыкул у часопісе “Маладосць”[3], на падставе якога ўжо можна было гаварыць пра яшчэ аднаго беларуска-польскага паэта XIX ст.

У. Казбярук згадваў таксама і пра ліставанне паэткі да Ф. Зянковіча: спачатку вельмі коратка ў названай публікацыі і ў манаграфіі *Ступені росту*[4], а пасля больш шырока ў зборніку *На шляхах да ўзаемаразумення*[5].

---

[1] Пра Ф. Зянковіча гл.: B. Jędrychowska, *Wszystkim obcy i cudzy: Feliks Zienkowicz i jego listy z Syberii 1864–1881*, Wrocław 2005, s. 59–141, а таксама беларускія публікацыі: Г. Кісялёў, *З думай пра Беларусь: Даследаванні і знаходкі з гісторыі беларускай літаратуры і рэвалюцыйнага руху другой паловы XIX стагоддзя*, Мінск 1966, с. 68–85 і інш. Ягоны ўласныя ўспаміны (*Pamiętniki*), зафіксаваныя ў кнізе Эдварда Малішэўскага *Bibliografia pamiętników polskich i Polski dotyczących: Druki i rękopisy* (Warszawa 1928, s 398), не захаваліся. Яшчэ ў даваенны час удава выгнанніка Марыя з Пуслоўскіх Зянковічава передала іх гісторыку Паўстання 1863 г. Генрыку Масціцкаму (1881–1952), архіў якога згарэў у 1944 г.

[2] *Inwentarz rękopisów Biblioteki Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu*, t. IV: *Rękopisy 13001–13725*, oprac. A. Dician, L. Górecki, A. Kapłon i in. pod red. A. Fastnachta, Wrocław 1972, s. 124, 202–203.

[3] У. Казбярук, *Беларускія вершы Адама М-скага*, “Маладосць” 1971, № 12, с. 135–136.

[4] У. Казбярук, *Ступені росту: Беларуская літаратура канца XIX – пачатку XX ст. і традыцыі польскіх пісьменнікаў*, Мінск 1974, с. 28–33.

[5] У. Казбярук, *Зоф’я Тшашчкоўская (Адам М-скі): жыццё і творчасць у беларуска-польскім літаратурным асяроддзі* [у:] *На шляхах да ўзаемаразумення: Навуковы зборнік*, Мінск 2000, с. 87–92.

Асобу Адама М-скага як эпісталографа, ягоную псіхалогію і псіхалагічнае атачэнне аналізаваў Юрась Гарбінскі ў артыкуле *Эпісталярый Адама М-скага*[1]. Тут, апрача лістоў З. Тшашчкоўскае, выкарыстоўваецца таксама і адзін ліст Ф. Зянковіча да сястры Паўліны, у якім ідзе гаворка пра знаёмства выгнанніка з Тшашчкоўскімі.

Сёння адназначна можна сказаць, што выпадковае спатканне жонкі царскага афіцэра і палітычнага ссыльнага ў Ноўгарадзе шмат у чым паспрыяла станаўленню творчай індывідуальнасці Адама М-скага. Гэта разумела сама З. Тшашчкоўская. Напрыклад, у лісце да З. Пшасмыцкага ад 2/14 сакавіка 1889 г. яна пісала:

> Потым сярод закідаў і здзекаў блізкіх мне асобаў, а найбольш лагодныя казалі (як Браніслава С[2].), што такое старое смецце не варта чапаць, – я пачаў[3] перакладаць Камоэнса; і **толькі адзін светлы чалавек** [вылучэнне нашае. – *М. Х.*], прачытаўшы *Песню I*, сказаў мне, што ў маім вершы жыве рытм рыцарскае песні, што пад ягоны бронзавы гук можна было б ісці ў бой. Той чалавек меў права так меркаваць; ён дадаў мне адвагі і сёння я не шкадую шматгадовае працы[4].

Відаць, яна няраз падкрэслівала ролю Ф. Зянковіча ў сваім жыцці і творчым лёсе, прынамсі, паўтарала гэта блізкім, якія пасля ейнае смерці палічылі патрэбным пераказаць дадзеную інфармацыю чытацкай публіцы (гл. *Некралогі Адама М-скага*).

Аднак ці будзе дастаткова думаць, што дачыненні З. Тшашчкоўскае з Ф. Зянковічам абмежаваліся патрыятычнымі павучаннямі выгнанніка, ягоным уменнем пераканаць перакладніцу і паэтку ў тым, што яна мае талент і ейная праца будзе запатрабаваная грамадствам? Тым, што яна пазней выявіць у адным са сваіх вершаў:

> Może po latach jaki mały zuch
> Za elementarz weźmie książkę mą
> I nagle iskrą zapali się duch,

[1] Ю. Гарбінскі, *Эпісталярый Адама М-скага. (З гісторыі беларуска-польскага культурнага ўзаемадзеяння XIX ст.)* [у:] *Скарыназнаўства. Кнігазнаўства. Літаратуразнаўства: Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый"*, Мінск 2001, с. 206–215.

[2] Гаворка пра прыяцельку з часоў навучання ў пансіёне Ф. Клячкоўскае ў Вільні і крэўную Браніславу Сідаровіч, якая за ўдзел у Паўстанні 1863 г. арыштоўвалася і сядзела ў астрозе. Ёй Адам М-скі прысвяціў верш *Bronisławie S.* („Tygodnik Ilustrowany" 1884, nr 71) з наступным прыпісам рэдакцыі: "Перакладнік *Luzyady* Камоэнса, блізу дваццаці актаваў якое падалі мы ў "Tygodniku", красамоўна адказвае гэтым вершам на папрокі прыяцелькі маладосці".

[3] Усе свае прыжыццёвыя публікацыі З. Тшашчкоўская падпісвала крыптанімам Adam M-ski. У лістах да З. Пшасмыцкага (магчыма, і да некаторых іншых) яна паслядоўна ўжывала дзеясловы прошлага часу першае асобы адзіночнага ліку ў мужчынскім родзе.

[4] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 2/14 сакавіка 1889 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 154–155.

A dziecko pojmie, za co ludzi mrą.
I chociaż po mnie zniknie wszelki ślad,
Choć może z grobu wyrzucą już kość,
Wyleci orlę w gronie bratnich stąd
I spojrzy w słońce – dla mnie tego dość[1].

Мы мяркуем, што тут варта ўзяць пад увагу не толькі аўтарытэт Ф. Зянковіча, чалавека, які шмат гадоў пакутаваў за нацыянальную справу (што было надзвычай істотным для кабеты-патрыёткі), але, відаць, і пачуццё закаханасці, якое спрыяла не столькі ўзнікненню перакладаў, як нараджэнню г. зв. эротыкаў, інтымнае лірыкі паэткі, якая датуецца якраз пачаткам 1880-х гг. На нашую думку, лісты З. Тшашчкоўскае да Ф. Зянковіча пацвярджаюць гэта[2]. Дык менавіта Ф. Зянковіча мы прапануем "убачыць" у споведзі Адама М-скага:

> Клічаш мяне, Зянон, на споведзь – не, брат, ані табе, ані каму іншаму я не патраплю сёння выказаць, што перажыў і выцерпеў за гэтыя апошнія гады, я не знайду для гэтага слоў; проста паспрабую падаць больш-менш факты. Калі мы пісалі адзін аднаму часцей, то гэта была самая яркая эпоха ў маім жыцці: не вясёлая, – о не! – але поўная веры ва ўласныя сілы і надзеі на заўтра. Пасля многіх гадоў блуканняў я меў намер вярнуцца на сваю сядзібу, жыць і працаваць з народам; з'яўленне маіх працаў у друку і зычлівыя водгукі пра іх абудзілі маю даўно стлумленую веру ў нейкія мае здольнасці, і нарэшце, пра што сёння вельмі складана ґаварыць, калі валасы на скронях сівеюць... Але, Зянон, гэта пачалося даўно і працягвалася так доўга, што не павінна здавацца смешным нават з маіх ссохлых вуснаў. У цябе ў руках мае песні, – а гэта ж гісторыя паэта, там мог бы шмат чаго вычытаць. Сёння, калі я гляджу на тое здалёк, думаю, што такія пачуцці могуць мець толькі людзі, якія былі з дзяцінства моцна прыгнечаныя, людзі палымянага характару, але вымушаныя зачыняцца ў сабе, як падземны агонь. Пэўна тое, што я лічыў сябе нічым; калі б мяне ўдарылі нажом, я памёр бы шчаслівым, – з тае рукі мог бы знесці ўсё. Ведаеш верш *U stóp ja twoich chciałbym leżeć cichy*[3] – гэта прэлюдыя; потым песні, як і кроў, гралі ўсё больш жвава, палка, пакуль не застагналі

[1] Adam M-ski, *Bronisławie S.*, „Tygodnik Ilustrowany" 1884, nr 71, 28.04/10.05.

[2] У рэцэнзіі на кнігу, падрыхтаваную А. Бласінскаю, мы, мяркуючы, што "чалавекам з Поўначы" мог быць Ф. Зянковіч, прапанавалі, аднак, на ролю каханага паэткі З. Пшасмыцкага. Гл.: М. Хаўстовіч, *Recenzja: Zofia Trzeszczkowska (Adam M-ski), Listy do Zenona Przesmyckiego z lat 1887–1901, wstęp i oprac. A. Błasińska, Wydawnictwo IBL, Warszawa 2019, 450 ss.*, "Acta Albaruthenica" 2020, t. 20, s. 283–286. Але перакладаючы і рыхтуючы да друку лісты З. Тшашчкоўскае да Ф. Зянковіча, прыйшлі да высновы: у іх выразна прысутнічае след закаханасці ("бязмежнае, амаль нявольніцкае пачуццё") паэткі і – можна меркаваць – толькі "давер і даследніцкая цікаўнасць" палітычнага выгнанніка.

[3] Верш (яго назва – *Wieczorną godziną*) быў высланы З. Пшасмыцкаму ў далучэнні да ліста ад 14/26 красавіка 1888 г. Упершыню апублікаваны ў газеце "Życie" (1889, nr 11, 16 marca). Рукапіс – у зборніку *Z fal życia* ў цыкле *IV. Drgnienie serc*. Гл.: Rkps BN 5454: *Zofia Trtzeszczkowska (pseud. Adam M-ski): Poezja*, k. 107–108.

страшным дысанансам: *Nie mamy nic wspólnego*[1] (я не памятаю, ці ведаеш гэты верш?). Але гэта не быў звыклы разрыў рамана, бо ўласна і рамана таксама не было. Дзве пакутныя і адзінокія душы сустрэліся і – перш чым людзі заўважаць колер сваіх вачэй ці валасоў – зрасліся назаўсёды. З аднаго боку, гэта было бязмежнае, амаль нявольніцкае пачуццё, з другога – я мяркую – толькі давер і даследніцкая цікаўнасць. Аднак не пачалася барацьба... Гэта была ўзнёслая душа, прызначаная дзейнічаць у шырокім дыяпазоне, але адначасна палкая, бурная натура, адна з тых, для якіх у сучасных умовах нашага грамадства няма месца; альбо, хутчэй, шлях, але патрэбна вялікае ахвярнасці і пасвячэння сябе, каб ісці ім. Гэты шлях абяруць толькі выключныя, а самыя здольныя асобы, як мужчыны, так і кабеты, часцей за ўсё ў нас гінуць у шале пачуццяў, у нейкім вар'яцтве, бяспамяцтве. Колькі ўжо лёсаў змарнавана на маіх вачах! Колькі вялікіх розумаў згасла! Я назіраў за такім рухам уніз; нявольнік сэрцам – я ніколі не ўмеў быць нявольнікам думкай; спрабаваў затрымаць з усіх сіл; гэта была сапраўдная барацьба за чалавечую душу; нашае ліставанне палала агнём, мы вылівалі ў яго ўсе свае думкі, перакананні і ўражанні; я заўсёды крычаў: ідзі наперад, ты слуга аднаго толькі грамадства! Мне заўсёды адказвалі: грамадства спадлела, справа прайграная, чалавек мае права на шчасце, на жыццё! Колькі было тут болю, але і сілы таксама! Не здзіўляйся, што мае песні гучалі жыццём і запалам. А чалавечае сэрца – гэта заўсёды сэрца; сярод змагання былі моманты парываў, чароўных і незабыўных. Урэшце, я прайграў, гэтай душы-ўрагану немагчыма было даць рады. Калі б яшчэ я мог стала знаходзіцца блізка, на варце, магчыма, дасягнуць удалося б большага, але тая сувязь – паважная і шляхетная – не была легальнаю; яна ўзнікла не ў першым росквіце вясны, а між сталых людзей, калі я ўжо не быў вольным, і зноў узнікалі розныя ўскладненні. Вярнуўшыся ў край, мы зблізіліся, але, відаць, было ўжо позна; адбылася катастрофа, спалучаная з ліхім побытам, маральным узрушэннем і ад'ездам на далёкую поўнач. У такія хвіліны звычайна шкада тых, хто прадказваў і папярэджваў; якраз тады вырвалася балючае *Nie mamy nic wspólnego*! З часам прыйшла развага, можа, нейкая туга, ліставанне аднавілася і вялося ўжо больш за тры гады; але гэта было іншае ліставанне – размова двух пагарэльцаў, у чыіх грудзях амаль не засталося дыху. Гэта мне вельмі шмат каштавала. Яшчэ да фінальнае катастрофы – памятаю – быў вечар, прыехала некалькі чалавек, іграў нейкі вандроўны аркестр – раптоўна адчуў: нібы нехта прытуліў халодны сталёвы ствол рэвальвера да майго левага боку, і мяне ахапіла шалёнае жаданне памерці. У гэты момант у мяне пад рукой не было зброі, і вакол мяне былі людзі; на наступны дзень у мяне была гарачка, пачалася небяспечная хвароба, запаленне ў тым самым левым баку; думаю, гэта выратавала мяне ад самагубства. <…> Цягам трох гадоў я не бачыў і, напэўна, больш ніколі не спаткаю; я ведаю, што там кепска, я з не-

[1] Рукапіс верша, здаецца, не захаваўся. Упершыню апублікаваны пад тытулам *Nic więcej* у газеце "Tygodnik Ilustrowany" (1900, nr 45). Звернем увагу на радкі: "Nic z sobą nas nie łączy: // Tylko ten długi cierni szlak, // Co nigdy się nie kończy". Яны могуць сведчыць, што асоба, да якое звяртаецца лірычны герой твора, прайшла цярністы шлях выгнання.

цярплівасцю чакаю кожнага ліста, але дапамагчы не магу. Пасля хваробы я знішчыў лісты…”[1].

Гэта ліст спрактыкаванага канспіратара; літаратара, які ўжо амаль пятнаццаць гадоў вядзе двайное жыццё: для тых, з кім сустракаецца – блізкіх і знаёмых у Ноўгарадзе, Нясвіжы, Бабоўні, Дарагавіцы – яна Зоф’я Тшашчкоўская, усе іншыя (зрэшты, не вельмі вялікае літаратурнае асяроддзе) успрымаюць яе праз вершы няіснага Адама М-скага. Тых, хто ідэнтыфікуе міфічнага паэта як кабету, – адзінкі.

Мы не ведаем, ці быў у ліку “абраных” З. Пшасмыцкі, хто не менш за Ф. Зянковіча быў датычны да творчага росту Адама М-скага, хто за дзесяць гадоў ліставання (1887–1896) стаўся вельмі блізкі З. Тшашчкоўскай як аднадумец, як чалавек высокага свету літаратуры. Але нават яму, плануючы напачатку нават выдаць ліставанне (“gorętsze od listów Heloizy i Abelarda”), яна не пажадала раскрыць таямніцу. Сапраўды, з ейных слоў вынікала: нехта Адам М-скі ўжо даўнавата, у часы свае не першае маладосці, будучы жанатым, спаткаў кабету, ва ўсіх адносінах выключную (“прызначаную дзейнічаць у шырокім дыяпазоне, <…> адну з тых, для якіх у сучасных умовах нашага грамадства няма месца”), але “рамана” фактычна не было: на “бязмежнае пачуццё” з яго боку яна адказала адно “даверам”; але з прычыны “розных ускладненняў” адбылася “катастрофа” з “ад’ездам на далёкую Поўнач”. Дарэчы, толькі з наступнага ліста Адама М-скага да З. Пшасмыцкага можна здагадацца, што на Поўнач выехаў не “Адам”, а “Яна”:

> У апошнім лісце, які атрымаў з Поўначы, напісана мне: “Нязменна інтарэсы ды інтарэсы ў нас на парадку дня, як у жыдоў гэшэфт, падумае нехта, што гэта нашая *idée fixe* – а выходзіць, што проста б’ёмся, як рыба, з неабходнасці ўхапіць свежага паветра”[2].

Зашыфраваны тэкст Адама М-скага немагчыма адназначна раскадаваць. Але на дапамогу прыходзяць іншыя ягоныя датаваныя лісты да З. Пшасмыцкага. З іх вынікае, што, вярнуўшыся на сваю “сядзібу” вясною 1889 г.[3], у студзені 1891 г. З. Тшашчкоўская зноў паехала ў Ноўгарад. Дык ці не свой выезд на Поўнач меў на ўвазе Адам М-скі? Ці не адбылася катастрофа якраз у гэты час, менавіта ў 1889–1890 гг.? І што ён называе катастрофаю? Праўдападобна, тое, што “другі бок” узяў шлюб. Дык гэта ж якраз 18 жніўня 1890 г. ажаніўся Ф. Зянковіч!

Вядома, надрукаваць сваё ліставанне з каханым было эмацыянальным рашэннем. Перш-наперш, аднак, учытаемся ў словы Адама М-скага:

[1] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 12 лістапада 1896 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 347–349.

[2] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 23.11/5.12 1896 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 355.

[3] Цікава тое, што менавіта ў 1889–1891 гг., як лічыць А. Бласінская, З. Тшашчкоўская “przeprowadziła rozwód z mężem i powróciła do Dorohowicy”. Гл.: A. Błasińska, *Zofia Trzeszczkowska i jej listy do Zenona Przecmyckiego* [w:] Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 7.

> Я маю да цябе крыху дзіўную просьбу, але мяркую, што выкананне яе цяжкім для цябе не будзе. Дык вось асаблівым збегам акалічнасцяў дасталося ў мае рукі ліставанне, якое з сямейных прычынаў баюся трымаць дома. Гэтыя аркушы, пісаныя крывёю і слязьмі, – кампраметацыя, але здаюцца мне такімі прыгожымі, што знішчыць іх не маю адвагі. Аднак над Вертэрам, над Алаізаю шмат пакаленняў плакала – а тут жа жывыя аркушы, не для друку напісаныя, а проста вырваныя з сэрца! Захаваць іх лічу сваім абавязкам, але ў пэўнай ступені і ахвяраю… Дык вось не маю анікога, каму давяраю гэтак жа, як табе, а таму хачу апячатаць гэты рукапіс і даслаць яго табе з тым, што яго не адчыніш, пакуль цябе не папрашу, а калі б памёр, то не раней, як праз 15 гадоў і то пасля смерці некаторых асобаў (прозвішчы іх табе выпішу), якія б маглі ад гэтага пацярпець. Тады ты прачытаеш спакойна – сам тады ўжо не будзеш маладым; аддаю на твой суд: ці знойдзеш там хараство, як я бачу, і пусціш сярод людзей, ці палічыш патрэбным знішчыць, захоўваючы балесную таямніцу? Што ты на гэта?[1]

Ліставанне, якое З. Тшашчкоўская хацела напачатку апублікаваць, а пасля спаліла, – гэта, відаць, не толькі атрыманыя лісты, але і чарнавікі ці копіі ўласных. Яно беззваротна страчанае. З кім ліставалася паэтка? Мы пакуль не можам адназначна сказаць, што “другім бокам” у гэтым ліставанні быў Ф. Зянковіч. Але пэўныя сляды бачым як у фактах асабістага жыцця іх абоіх, так і ў лістах паэткі да Ф. Зянковіча за 1881–1886 гг., а таксама да З. Пшасмыцкага. Асабліва цікавымі ў гэтых адносінах з’яўляюцца допісы ад 17 і 24 верасня 1890 г. Так, у першым з іх Адам М-скі піша: “За *Pascala* і *Potop*[2] баюся, ці ўдасца знайсці ўсе аркушы чарнавікоў, бо – як на ліха – арыгінал парвала мне чароўная дзяўчына, што паехала ў Варшаву па шлюбную сукенку”[3]. А. Бласінская мяркуе, што гаворка тут ідзе пра стрыечную сястру Аляксандру Раецкую, якая часам капіравала творы Адама М-скага. Аднак А. Раецкую З. Тшашчкоўская называла “нявестаю”[4] яшчэ ў 1882 г. Вядома, А. Раецкая магла ісці замуж і ў 1890 г., але, на нашую думку, больш праўдападобна, што тут маецца на ўвазе дваццацідвухгадовая Марыя Рэгіна Пуслоўская, якая ў жніўні 1890 г. стала жонкаю Ф. Зянковіча[5]. Ды і выраз “чароўная дзяўчына” (“śliczna dziewczyna”), улічваючы кантэкст, падаецца ў лісце з іранічным адценнем.

Не пакідаем без увагі і наступнае выказванне Адама М-скага ў допісе да З. Пшасмыцкага:

> Кажаш: давайце працаваць! А хіба ж я інакш веру і чыню? Так, калі думаю пра край, заўсёды гэта паўтараю, але ж ёсць яшчэ асабістае жыццё,

---

[1] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 7/19 ліпеня 1891 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…*, s. 305.

[2] Вершы французскае паэткі Луізы-Віктарыны Акерман.

[3] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 5/17 верасня 1890 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…*, s. 232.

[4] Гл. ліст З. Тшашчкоўскае да Ф. Зянковіча ад 13 ліпеня 1882 г.

[5] Гл.: Barbara Jędrychowska, *Wszystkim obcy i cudzy: Feliks Zienkowicz i jego listy z Syberii: 1864–1881*, Wrocław 2005, s. 132.

якое ад нас і нерваў нашых адарвацца не можа; дык вось яно так мяне змучыла, што часта прагну ўцячы з яго ў нябыт[1].

Урэшце ўсе сумненні, здаецца, развейвае ліст ад 11/23 лістапада 1890 г. Тут Адам М-скі просіць З. Пшасмыцкага ўключыць у калектыўны зборнік паэзіі *Parnas* творы ў наступным парадку: *Przygrywka*, *Pieśń jesienna*, *Fragment*, *Z łanu*, *U stóp ja twoich* (усяго – 1046 гадкоў) і працягвае:

> Можна было б нешта і дадаць. Меў на ўвазе *Myśli*[2], але мне здаецца, што там зашмат эротыкі – дык даў *Przygrywkę* і *U stóp ja twoich*; на пачатку і пры канцы я аддаў даніну павагі вялікаму сэрцу, якое хоць і высока на месяцы вісіць, хоць для мяне недасяжнае, аднак **мела моц разбудзіць пяснярскае натхненне і разумовую дзейнасць у зусім прыгнечаным чалавеку** [вылучэнне нашае. – *М. Х.*]; мяркую, што даваць гэтага больш у зборніку – аслабіць ураажанне. Няхай ужо так і застаецца: *U stóp ja twoich chciałbym leżeć cichy…* Сярод маіх песняў ёсць добрая жменя эратычных твораў, але тут верш больш дасканалы, з самых глыбокіх сховаў сэрца ўзятае пачуццё[3].

Недасяжны чалавек, які разбудзіў “пяснярскае натхненне” З. Тшашчкоўскае, які, урэшце, перамяніў З. Тшашчкоўскую ў Адама М-скага, – гэта, вядома Ф. Зянковіч.

Апошні (з тых, што захаваліся) ліст З. Тшашчкоўскае да Ф. Зянковіча датаваны днём 16 мая 1886 г. Цяжка, аднак, зважаючы на ягоны змест, паверыць у тое, што ліставанне на ім і скончылася. Мяркуем, што менавіта з гэтага часу яно магло стаць “больш жвав[ым], палк[ім]”, а значыць, і не мела шанцаў захавацца: нават калі сам Ф. Зянковіч, заўсёды акуратны ды педантычны, і пакінуў усе лісты ў сваім архіве, дык наўрад ці жонка і дочкі пасля ягонае смерці не паклапаціліся пра тое, каб муж і бацька застаўся ў памяці нашчадкаў у прывабным святле; асабліва істотным было тое, што ліставанне адбывалася напярэдадні шлюбу, а малады меў у той час 45–48 гадоў.

Цікава будзе параўнаць словы Адам М-скага пра асобу, што з’ехала на Поўнач, з характарыстыкай, якую даў Ф. Зянковічу Бенядыкт Дыбоўскі:

> Сярод сакратароў[4] самым актыўным быў Фелікс Зянковіч; я ведаў яго раней: ён прыехаў з Варшавы ў Вільню адначасна з Авейдэ[5]. Даведаўся

[1] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 16/24 верасня 1890 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 234.

[2] Верш не друкаваўся. Захаваўся ў архіве газеты “Życie” (рукапісны зборнік Адама М-скага *Z fal życia*). Гл.: Rkps BN 5454: *Zofia Trtzeszczkowska (pseud. Adam M-ski): Poezja*, k. 68–71.

[3] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 11/23 лістапада 1890 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 247.

[4] У перасыльнай турме ў Табольску Ф. Зянковіч быў абраны сакратаром выгнаннікаў.

[5] Гаворка пра Аскара Авейдэ (1837–1897), сябра Цэнтральнага нацыянальнага камітэта і Нацыянальнага ўрада. У ліпені 1863 г. у якасці паўнамоцнага камісара прыехаў у Вільню, дзе праз некалькі дзён быў арыштаваны. Даў падрабязныя паказанні.

значная і вартая ўсялякае павагі. Яны абодва прывіталі мяне вельмі добразычліва, адразу ж наведаліся і дапамаглі, чым маглі: Далеўскі прынёс польскія газеты і штотыднёвікі, Шыманскі[1] знайшоў і паказаў кватэру; абодва расказвалі пра даволі вялікую і разнастайную групу суайчыннікаў, з якіх мала хто належыць да катэгорыі палітычных выгнаннікаў, але ўсе яны, бадай, выгнаннікі з роднае зямлі, што дзеля службы, дзеля хлеба вымушаныя туляцца; яны хацелі адразу пазнаёміць з імі, але я ў той момант адмовіўся, у той жа час цягам трох дзён пасля прыезду ў Ноўгарад уладкаваўся так, што магу жыць доўга, успамінаючы студэнцкія часы. Пакідаючы шыкоўны гатэль, дзе нумар мне каштаваў рубель, абед – другі, а іншае – трэці ці некалькі рублёў кожны дзень, я зняў у пэўнае *Катерины Григорьевны Богдановой* (у якой ёсць некалькі сталоўнікаў і некалькі мэбляваных пакояў, якія здаюцца) малюсенькі пакойчык з мэбляю, з самаварам і прыслугаю, а таксама з абедам з трох страў, якія падаюцца ў мой пакой, ды з асобным харчаваннем для сабакі – усё за 20 руб. срэбрам у месяц.

Праўда, ён толькі 5 добрых крокаў уздоўж і 4 папярок і адасоблены ад перадпакою адно лёгкаю перагародкай, але змяшчаецца тут усё неабходнае: жалезны ложак, камода, стол, фатэль, два крэслы, канапка і вялікае люстра з туалетным столікам. Сусед мой – малады *помощникъ частнаго пристава*, што само ўжо варта чагосьці: як добрая рэкамендацыя, і хоць сусед, калі бывае дома, нудзіцца, а з прычыны, што гідзіцца друкаванага, дык гучна свішча і спявае, але гэта не замінае мне пісаць альбо чытаць, бо я прызвычаіўся да такога галасу ў казарме шмат гадоў таму. Іншых кватарантаў пакуль не бачна, а сталоўнікі збіраюцца ўсяго на некалькі гадзін і паводзяць сябе прыстойна: я іх чую, але зусім не бачу. Стол не багаты, але я галодным не бываю і практычна ем усё, што яны мне даюць, у тым ліку выпіваю і шклянку малака, нязменна падаваную з салодкім у канцы абеду, што з'яўляецца чыста рускім звычаем. Гаспадыня, кабета ўжо пажылая, і крыху малодшая ейная служанка вельмі клапоцяцца пра мяне і старанна мне прыслугоўваюць; мабыць, я ўжо выклікаў прыхільнасць да сябе, што, зрэшты, мне нескладана з гэтым класам людзей; дык спадзяюся, што "на час" будзе мне зносна.

З тае прычыны, што губернатар Лерхэ ўсё яшчэ знаходзіцца на водах у Старой Русе і, як чакаецца, вернецца толькі 26[га], я не мог марудзіць з паданнем прашэння пра пабыўку і падаў яго віцэ-губернатару, папярэдне

ў Віленскай гімназіі ў сярэдзіне 1840 г., разам з братам Аляксандрам стварыў таемную арганізацыю "Брацкі саюз літоўскае моладзі". Арыштаваны і асуджаны да пакарання смерцю, замененага 15 гадамі катаргі. Вярнуўся ў Вільню ў 1859 г. Браў удзел у Паўстанні 1863 г., быў членам Віленскага паўстанцкага камітэту "белых". У ліпені 1863 г. арыштаваны і асуджаны да 20 гадоў катаргі. Сярод дзевяці ягоных братоў і сясцёр – Тытус (1840–1864), паплечнік Кастуся Каліноўскага, і Апалонія (1838–1919), жонка Зыгмунта Серакоўскага (1827–1863).

[1] Магчыма, гаворка ідзе пра Юзафа Шыманскага, шляхціца Лепельскага павета, сасланага на катаргу на 6 гадоў. Гл.: *Восстание 1863–1864 гг на территории Литвы и Белоруссии* [online] http://kdkv.narod.ru/1864/Spis-A-7.htm [доступ: 3.01.2021].

паказаўшы яго кіраўніку канцылярыі, які тут, як і ўсюды, найбольш можа ўплываць на ход любых спраў. Ён сказаў мне, што хоць прашэнне напісанае добра, але яно не ўтрымлівае ўласна дзвюх, прызнаваных законам падстаў для атрымання пабыўкі, а менавіта: спатканне з састарэлымі (*престарѣлыми*) бацькамі альбо ўрэгуляванне маёмасных спраў, дакладна вызначаных і (звычайна) спраўджаных мясцовымі ўладамі, – дык можа не быць прынятае да ўвагі віленскім генерал-губернатарам[1], да якога маё прашэнне несумненна трапіць, як толькі мае дакументы прыйдуць з Іркуцка; а сам я, бясспрэчна, атрымаю дазвол начальніка губерні застацца ў самім Ноўгарадзе, прынамсі, пакуль справа пра пабыўку не будзе разгледжаная. Я ўсё гэта добра ведаў і без яго, але ані бацькоў, ані няісных маёмасных спраў стварыць мы не можам, дык падаў я прычыны, якія змог прыдумаць, і дзеля інфармацыі высылаю табе на асобным аркушы. Каб трэба было тлумачыць пра згаданае гандлёвае прадпрыемства больш падрабязна, дык павінна ім быць нібы гандаль таварамі, якія імпартуюцца з Кітая і Сібіры, у Варшаве, альбо таксама гандаль варшаўскімі і заграцічнымі вырабамі ў адным з расейскіх гарадоў, адпаведна з вынікамі супольнае нарады і фінансавых разлікаў паміж намі; у абодвух выпадках будзе ён весціся нашымі супольнымі намаганнямі і пры абавязковым удзеле яшчэ і трэціх асоб. Я не ведаю, які парадак існуе цяпер у Вільні адносна спраў з пабыўкамі, ці даюць іх з вялікімі цяжкасцямі, у любым выпадку там павінен быць хто-небудзь, каб пільнаваў справу ў канцылярыі Ген.-Губ., пра што я пісаў табе яшчэ з Іркуцка. Са свайго боку, я пастараюся даведацца тут, і як толькі прашэнне маё вышлюць у Вільню, дык я занатую дату і ягоны № ды паведамлю табе пра гэта. Не ведаючы характару Тотлебэна[2], я не магу параіць табе асабіста звярнуцца да яго з просьбаю, хоць лістоўна, каб меў ласку пазітыўна разгледзець маё прашэнне, зважаючы на тое, што праз васямнаццаць гадоў, праведзеных далёка ад сям'і, ужо не бацькі, а тыя з'яўляюцца бліжэйшымі крэўнымі, хто застаўся жывы; дык вось ты адна ў мяне засталася, а я – самы блізкі табе і тваім дзецям, з якімі (ты б хацела), каб я пазнаёміўся, як іх першы (пасля іх бацькі) апякун на выпадак, калі твае хранічныя хваробы прывядуць цябе да хуткае магілы і г. д. (*не прылгавшы, не обманеш*). Гэта магло быць і добрым, каб не з такім суровым немцам[3] справа. Ва ўсякім разе, давай зробім тое, што можам, а будзе тое, што будзе. Перш-наперш трэба набрацца цярплівасці, пачакаць вынікаў распачатых намаганняў пра пабыўку, хоць як для мяне, а напэўна, таксама і для цябе цяжка пагадзіцца з гэтаю затрымкаю ў асабістай сустрэчы, калі дзеля гэтага табе было б дастаткова прыехаць у Ноўгарад, што зноў жа не з'яўляецца занадта складаным і не занадта дарагім; але гэта апошняе, да чаго мы заўсёды будзем мець магчымасць звярнуцца. А пакуль я прашу цябе неадкладна напісаць

[1] Генерал-губернатарам Віленскае губерні (дакладней: віленскім, ковенскім і гродзенскім) у 1880–1884 гг. быў сапраўдны тайны саветнік Эдуард Тотлебэн (1818–1884).
[2] Гаворка пра генерал-губернатара.
[3] Род Э. Тотлебэна паходзіў з Цюрынгіі.

мне і пішы, як можна часцей, нават кароткія лісты – няхай хоць гэтую буду мець карысць з пераезду ў Ноўгарад, што я часта буду атрымліваць ад цябе паведамленні.

Мой ліст атрымаўся надзвычай вялікі, але калі яго пішу, дык мне здаецца, што размаўляю з вамі, і, хоць мае пальцы ад пяра здранцвелі, я не магу адарвацца ад яго. Неўзабаве я дашлю другі ліст, а гэты завяршаю сардэчным абдымкам для цябе і ўсіх тваіх ды пажаданнем, каб я сапраўды мог абняць цябе як мага хутчэй, што адбудзецца – цяпер можна казаць з упэўненасцю – ці то ў вас у Зубачах, ці то ў Ноўгарадзе, альбо нават у Баравічах[1] (калі – у горшым выпадку – яны выганяць з часам мяне ў павет, дык я пра гэты горад, што ляжыць блізу чыгункі, буду старацца, бо ж у Старую Русу мяне не вышлюць) – абы дзе, заўсёды праз такі час, які ў параўнанні з папярэднімі васямнаццаццю гадамі імгненнем павінен здацца. Ну, а дзеля гэтага, то варта на пэўны час і да ноўгарадскага аброжка прызвычаіцца, перш чым мы прыдумаем спосабы, як <*нечыт.*>.

Выпіска з прашэння да губернатара.

... маю гонар звярнуцца да Вашае Яснавяльможнасці з пакорліваю просьбаю

1) аказаць мне Вашае садзейнічанне дзеля атрымання ўстаноўленым парадкам дазволу прыехаць мне на шэсць месяцаў у Гродзенскую губерню для спаткання з роднаю маёю сястрою, Паўлінаю Паўлаўнаю Пуслоўскаю, што жыве ў Брэсцкім павеце ў маёнтку Зубачы[2], з якою я не бачыўся ўжо васямнаццаць гадоў і якая, адна застаўшыся ў мяне з усіх блізкіх крэўных, з прычыны кепскага здароўя не можа сама прыехаць да мяне, а таксама дзеля ўладкавання асабістых маіх маёмасных спраў, бо я ў розны час забяспечваў грашыма сястру і іншых крэўных, а сёння з нагоды меркаванага продажу вышэй згаданага маёнтка хачу ліквідаваць разрахункі і дамовіцца з сястрою наконт праектаванага намі на агульныя сродкі гандлёвага прадпрыемства.

і 2) прызначыць мне месцажыхарства ў самім горадзе Ноўгарадзе, які карыстаецца выгодамі чыгуначных зносінаў.

---

[1] Горад і чыгуначная станцыя ў Наўгародскай губерні.

[2] Зубачы – маёнтак Тытуса і Паўліны Пуслоўскіх (сястры і ейнага мужа), які знаходзіўся ў Брэсцкім павеце (сёння – вёска ў Гайнаўскім павеце Падляшкага ваяводства Польшчы).

## № 2

Відавочна, і тут ліст датаваны паводле юліянскага календара, г. зн. ён быў напісаны 24.08/5.09 1881 г.

|421| Nowogród, 24$^{go}$ Sierpnia 1881 roku

Adres: *На углу Дворцовой и Буяновской улицъ, домъ Лимонниковой, въ квартирѣ Богдановой*

Kochana Paulo!

21$^{go}$ b. m. wyprawiłem do Ciebie list rekomendowany, opisując Ci, w jaki sposób urządziłem się tu na początek i w tymże liście załączając Ci wypis z podania o urlop sześciomiesięczny, jakie wręczyłem Wicegubernatorowi, czasowo spełniającemu obowiązki Naczelnika Gubernji, 18$^{go}$ Sierpnia. Z rozmów, jakie miałem z Władzami zaraz po przybyciu, oraz z cytowanéj Ci rozmowy z naczelnikiem Kancelaryi Gubernatora, wniosłem, że podanie to moje nie zostanie natychmiast dalej przedstawionėm, t. j. przesłaném do Wilna na uwzględnienie i decyzję tamecznego Jenerał Gubernatora, nie nadeszły bowiem jeszcze moje papiery z Irkucka.

|422| Tymczasem dziś rano dowiedziałem się w Kancelaryi Gubernatora, że podanie to moje wnet nazajutrz po wręczeniu go przezemnie, odesłaném zostało Wileńskiemu Jenerał-Gubernatorowi, a choć mi Pan naczelnik Kancelaryi nie chciał udzielić N$^{ru}$ tej ekspedycyi (to mi dopiero sekret stanie!), wiém prawie nieomylnie dattę wysłania z Nowogrodu: będzie to 19 lub 20 Sierpnia. Jeśliby zatém miał się kto dowiadywać w Wilnie o dalszych onego podania losach, wystarczy mu to dla zorientowania się kiedy otrzymaném zostało w Wilnie, gdzie w Kancelaryi Jenerał-Gubernatora niezawodnie znaleźć się musi. O dalszych losach spraw tego rodzaju wiem tyle tylko, że od Jenerał-Gubernatora zostaną zapewne żądane informacje u Grodzieńskiego Gubernatora, ten zapewne do Sprawnika a ów może do Zasiedatela się |423| odwoła, tak że i sama zapewne zostaniesz zapytywaną z racyi owych naszych spraw pieniężnych, i dla tego uprzedzałem Cię w poprzednim liście – i teraz znów zawiadomić śpieszę.

Ja żyję tu tymczasem po studencku, piszę sążniste listy do Irkucka, czytam zaległe dzienniki, w które zaopatruje mię dawny a dobry znajomy, od lat sześciu z Irkucka do Nowogrodu przybyły i dotąd tu jak na uwięzi trzymany, zacny Fr. Dalewski. Znalazło się tu i jeszcze parę kolegów-usolan; wczoraj poznałem syna Jakuba Giejsztora (z którym na Syberyi ścisła łączyła mię zażyłość) młodego i wcale sympatycznego człowieka, który tu od lat czterech przy kolei żelaznej służy; słowem nie jestem już wcale samotny, a za parę dni mam się nawet w dwóch, bardzo tu chwalonych, familijnych domach zaprezentować.

Lecz co nad to ważniejszą jest dla mnie |424| rzeczą, co do towarzyskich stosunków nie bardzo się zrywam – zaczynam listy odbierać, i nie mogę nacieszyć się jeszcze możnością szybkiego porozumiewania się z Krajem. Dotąd, oprócz powitalnego listu Bolka, który już czekający mię w Nowogrodzie zastałem, otrzymałem jeszcze drugi od Maksa, ze stacyi Rokiciny na drodze żel. Warszawsko-Wiedeńskiej, gdzie on jest kasjerem i ekspedytorem, i twój list z 17$^{go}$ Sierpnia; oba wręczono mi jednocześnie, 22$^{go}$, w którym to dniu twój list do Nowo-

grodu przybył, więc mylisz się, licząc na parę tylko dni komunikację pocztową między Zubaczami a Nowogrodem. Prawda że to wyrażenie parę może oznaczać trzy dni i cztéry, a właśnie na czwarty dzień otrzymujemy tu Warszawskie gazety. Natomiast z Irkucka dotąd telegram tylko miałem, w którym mi donoszą, że już trzy listy mi tu wysłano – lecz tych nie prędko się doczekam. –

Tymczasem bądźcie zdrowi, niebawem znów napiszę.

Feliks.

*Пераклад*

Ноўгарад, 24[га] верасня 1881 года

Адрас: *На углу Дворцовой и Буяновской улицъ, домъ Лимонниковой, въ квартирѣ Богдановой*

Дарагая Паўліна!

21[га] б. м. я выслаў табе заказны ліст з апісаннем таго, як уладкаваўся тут на самым пачатку, далучаючы да гэтага ліста вытрымку з прашэння пра шасцімесячную пабыўку, якое 18[га] жніўня перадаў віцэ-губернатару, што часова выконвае абавязкі начальніка губерні. З гутарак, якія я вёў з уладамі адразу пасля прыезду, а таксама з размовы, якую я табе цытаваў, з начальнікам губернатарскае канцылярыі, я прыйшоў да высновы, што маё прашэнне не будзе неадкладна пададзена далей, г. зн. выслана ў Вільню для разгляду і прыняцця там рашэння генерал-губернатарам, бо не прыйшлі яшчэ мае паперы з Іркуцка.

Між тым, сёння раніцай у канцылярыі губернатара я даведаўся, што тое маё прашэнне было выслана віленскаму генерал-губернатару ўжо на наступны дзень пасля таго, як я занёс яго, і хоць пан начальнік канцылярыі не хацеў назваць № тае экспедыцыі (што гэта за сакрэт для мяне!), ведаю амаль пэўна дату высылкі з Ноўгарада: гэта было 19 альбо 20 жніўня. Дык як хтонебудзь у Вільні пастараецца даведацца пра далейшы лёс майго прашэння, то гэтага будзе дастаткова, каб арыентавацца, калі яго атрымалі ў Вільні, бо яно абавязкова павінна быць у канцылярыі генерал-губернатара. Пра далейшы лёс такога роду спраў я ведаю толькі, што, напэўна, генерал-губернатар будзе прасіць інфармацыю ў гродзенскага губернатара[1], а той, верагодна, – у спраўніка, а той, можа, да засядацеля звернецца, таксама і ў цябе, магчыма, запытаюцца пра тыя нашыя грашовыя справы, і таму я папярэджваў цябе ў сваім папярэднім лісце, а зараз спяшаюся нагадаць яшчэ раз.

Між тым, я жыву тут па-студэнцку, пішу доўгія лісты ў Іркуцк, чытаю даўнейшыя штотыднёвікі, якімі забяспечвае мяне мой стары і добры знаёмы, што з Іркуцка ў Ноўгарад гадоў шэсць таму прыехаў і якога трымаюць, як на прывязі гэтага часу тут, шляхетны Фр. Далеўскі. Знайшлося тут яшчэ некалькі калегаў-усалян; учора я сустрэў сына Якуба Гейштара[2] (з якім

[1] Гродзенскім губернатарам у 1878–1900 гг. быў калежскі саветнік Іван Урсын-Нямцэвіч.

[2] Гаворка пра Казіміра Гейштара (1854–1909), які працаваў у Ноўгарадзе на чыгунцы. Ягоны бацька – Якуб Гейштар (1827–1897), удзельнік Паўстання 1863 г. (адзін

зблізіўся ў Сібіры), маладога і сімпатычнага чалавека, які ўжо чатыры гады служыць тут на чыгунцы; словам, я ўжо не самотны, а праз некалькі дзён буду нават рэкамендаваны ў дамах двух вельмі шаноўных сямействаў.

Але для мяне найбольш важнае тое (бо да таварыскіх стасункаў не асабліва рвуся), што пачынаю атрымліваць лісты і не магу яшчэ нацешыцца магчымасцю хутка звязвацца з краем. Да гэтага часу, апрача прывітальнага ліста Болека[1], што ўжо мяне чакаў у Ноўгарадзе, я атрымаў яшчэ адзін ад Макса[2], са станцыі Ракіціны[3] варшаўска-венскай чыгункі, дзе ён працуе касірам і экспедытарам, і твой ліст ад $17^{\underline{га}}$ жніўня; іх абодва прынеслі мне адначасова, $22^{\underline{га}}$, у гэты дзень прыйшоў твой ліст у Ноўгарад, дык ты памыляешся, разлічваючы толькі на пару дзён паштовае камунікацыі паміж Зубачамі і Ноўгарадам. Праўда, гэтае слова "пару" можа азначаць і тры дні, і чатыры, і якраз на чацвёрты дзень мы атрымліваем тут варшаўскія газеты. А вось з Іркуцка я меў толькі тэлеграму, у якой паведамляюць мне, што сюды ўжо выслалі тры лісты, – але я не хутка іх дачакаюся.

Тым часам, будзьце здаровыя, хутка зноў напішу.

Фелікс.

### № 3

Адсутнічаюць першыя чатыры старонкі ліста. Магчыма, на яго пачатку знаходзілася віншаванне з днём нараджэння для Марыні (ці Лілі), дачкі Паўліны Пуслоўскае, а г. зн., што быў ён напісаны да 26.08/7.09 1881 г.

|425| <…> mój znajomy, jeszcze w 1874 r. z Irkucka do Nowogrodu przybyły i dotychczas stąd wyswobodzić się nie mogący, zacny wilnianin Franciszek Dalewski. Ten mię objaśnił, że wśród dość licznie reprezentowanych na rozmaitych urzędowych i prywatnych posadach w Nowogrodzie Polaków (których pewna część tylko do katolicyzmu się przyznaje, dla chleba, udanie lub szczerze, narodowości się wyrzekając) – jest pewna ilość wcale zacnych i na wszelki szacunek zasługujących pojedynczych osobistości i całych rodzin, a będąc znajomy z całem prawie tem gronem (i jak najbardziej w niem od wszystkich poważany), chciał mię zaraz po przybyciu zapoznać z rozmaitemi osobami. Nie życząc sobie odrazu licznych znajomości, dałem się przedstawić tylko w dwóch familijnych domach. Jednym są p.p. Trzeszczkowscy, pułkownik artylleryi, dowodzący jedną z $4^{\underline{ch}}$ bateryj tu od dawna rozkwaterowanych, człowiek nie pierwszej młodości,

---

з кіраўнікоў "белай" партыі на беларуска-літоўскіх землях; узначальваў Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы), публіцыст і мемуарыст.

[1] Гаворка пра Баляслава Жміеўскага.

[2] Гаворка пра Максіміліяна Дэмбіцкага (1833 – ?), які паходзіў з Варшаўскай губерні, вучыўся ў Маскоўскім і Пецярбургскім універсітэтах; падчас Паўстання жыў у Вільні, за ўдзел у якім (дапамог выехаць з Вільні Тэадоры Манчынскай [1839–1925], сястры Людвіка Нарбута [1832–1863]) арыштаваны і сасланы ў Томскую губерню. На пачатку 1870-х гг. атрымаў дазвол выехаць у Варшаву. Падтрымліваў дачыненні з Ф. Зянковічам і ў Пецярбурзе, і ў Вільні, і на Сібіры.

[3] Невялікая мясцовасць блізу Лодзі.

lecz w samej sile wieku, |426| rodem z Królestwa i dobrze mówiący po polsku, choć od dziecka w Korpusie chowany – i młodsza znacznie lubo też trzydziestkę doliczająca żona jego, rodem z Litwy i w Wilnie na pensji kształcona; ludzie bezdzietni, unikający wszelkich oficjalnych stosunków i o ile tylko się da wszelkiej znajomości z mohikanami, żyjący przeważnie we dwoje ze sobą, w otoczeniu mnóstwa wypisywanych czasopism i książek (samych polskich czasopism otrzymują jedenaście) lub szczupłego grona znajomych bliższych, wyłącznie Polaków: wyjątkowi może, lecz bardzo sympatyczni oboje, i zdaje mi się, żeśmy nawzajem dobre wrażenie wywarli. Kiedym był u nich z pierwszą wizytą, przedstawiony przez Dalewskiego, rozmowa od razu potoczyła się tak ożywiona, przyjemnie było tak uprzejme a proste, że, zapominając o mym fraku, cylindrze i białych rękawiczkach, zamiast uświęconego zwyczajem maximum – kwadransa, dwie godziny prawie przegawędziłem; nazajutrz on sam oddał mi wizytę, długo siedział w mej klatce i przy lampce Lafitu dogadaliśmy się, że on dobrze |427| zna i pamięta prużańszczyznę, kwaterował tam bowiem z baterją jako młody oficer w ostatnich latach piątego dziesięciolecia, kiedy to już z Tobą byli w Białymstoku a potem w brzeskiem: wspominał mnóstwo miejsc i osób, które i ja sam pozapominałem, przypomniał nawet, jak to konie ich baterji w Mokrem na furażu lokowane były; żegnając się zapraszał usilnie do siebie. Przedwczoraj, korzystając z zaprosin, zaszedłem do nich przed wieczorem, zamierzając zabawić godzinkę, lecz mię nie wypuszczono, sama Pani aresztowała kapelusz a mąż laskę i przegawędziliśmy we troje cały wieczór do jedenastej, przyczém częstowano mię rozmaitemi przysmakami, z Litwy przez matkę im przysyłanemi, herbatę podawała nam służąca polka, dokoła leżały pisma polskie na stołach, a po ścianach wisiały dzieła polskich malarzy, – tak, że wróciłem do mej izdebki rozmarzony o kraju i niejako atmosferą stron ojczystych owiany…

Znajomość, którą podtrzymać warto. – Drugą znajomość w domu familijnym pani Sokołowskiej wywoływało już samo sąsiedztwo, mieszkamy bowiem |428| wprost naprzeciw siebie, ulicą tylko przedzieleni, tak że z okna do okna moglibyśmy rozmawiać: staruszka to wdowa po zmarłym tu na służbie architekcie rządowym, mieszka z trzema córkami i synem, których pracą własną i resztkami dobrego niegdyś bytu i mienia po śmierci ojca wychować, ukształcić i od zupełnego wynarodowienia się w otoczeniu obcych żywiołów uchować potrafiły. I z nią wspólne mamy znajomości i wspomnienia: w 1863–4 roku, gdy z mężem mieszkała w Tombowie i w dobrym była bycie, poznała bliżej przez dłuższy czas tam bawiące rodziny Łagowskich, Lasockich, Morzyckich i wielu innych, wówczas na Sybir podążających a potem bardzo blisko mi znanych, pamięta imiona ich samych i wszystkich dzieci, ma dotąd u siebie ich fotografje… Z córek, najstarsza tylko pamięta owe czasy; młodsze pokolenie to już co innego, szkoła i otoczenie silnie swa na niém wycisnęły piętno. Dwie starsze ukończyły edukację, trudnią się lekcjami i robótkami kobiecemi (jedna introligarstwem), najmłodsza kończy gimnazjum w r. b. szkolnym; syn oficerem w piechocie, w garnizonie miejscowym.

|429| Młodzież brząka na rozklepanym fortepiane, śpiewa soło i duety, lecz bardzo rzadko swojską odezwie się melodją; mowę ojczystą kaleczy, lecz nie kryje się z nią, i ku swoim, gdzie może, się garnie. Jeśli nawet nie dla przyjemności, to poniekąd z obowiązku wypadnie zaglądać tam niekiedy; dotąd byłem raz jeden tylko, przyprowadzony przez Dalewskiego nie z ceremonialną wizytą, lecz wprost na pogadankę o szarej godzinie wieczornej. – Oprócz tych dwóch znajomości, spotkałem się tu ze służącym od kilku lat przy kolei żelaznej w Nowogrodzie synem Jakuba Giejsztora, Kazimierzem Giejsztorem, bardzo sympatycznym młodzieńcem, który, znając mię dobrze z opowiadań ojca swego, skoro dowiedział się o przybyciu mém do Nowogrodu, sam zgłosił się do mnie, powitał jak dobrego znajomego i odtąd w rzędzie bliższych znajomych moich liczyć się może. Nadto poznałem tu jeszcze kółko myśliwych, z polaków i jednego anglika złożone, raz nawet jeden chodziliśmy po obiedzie szukać dubeltów w podmiejskiej |430| okolicy i miałem przyjemność zastrzelić z pod mego psa dwie pary tej nieznanej mu dotąd zwierzyny, gdyż dubelta we wschodniej Syberyi zamieniają inne gatunki rodzaju bekasiego, Azji tylko właściwe. Mógłbym i częściej używać tu tej tak mi ulubionej rozrywki, gdybym przez zbyteczną oględność nie pozbył się broni i rynsztunków myśliwskich, których nie mając tu ze sobą, do cudzych uciekać się muszę – a cierpieć tego nie mogę; więc raz uczyniwszy zadość dobrej chęci myśliwego, który umyślnie zabrać mię przyjechał i w broń swą zaopatrzył, unikam powtórzenia tej grzeczności.

Co robię tymczasem w Nowogrodzie? Odczytuję zaległe dzienniki, piszę sążniste listy na wsze strony, odbierać też zewsząd je zaczynam; rano i wieczorem wychodzę na przechadzkę, dzień cały natomiast spędzając w domu, przeważnie z piórem w ręku. Spodziewam się, że starczy mi tego zajęcia do czasu, nim zdecyduje się sprawa mego wyjazdu na urlop, bowiem nie można ani warto nawet imać się czegokolwiekbądć póki wciąż jestem |431| jak na wylocie; jeśli mi zaś wypadnie zimować w Nowogrodzie, to potrafię zająć się jaką stałą i pożyteczną pracą. Znaczenie pożytku nie chciej jednak pojmować w ten sposób, żeby praca taka miała mi utrzymanie zapewnić lub w ogóle pieniężnie się opłacić: o taką w Nowogrodzie trudniej, niż gdziekolwiebądź, i niema co łudzić się nadzieją, bym niebawem korzystne jakieś zajęcie miał tu znaleźć – chyba i tu się ma sprawdzić, co na Syberyi o mnie mówiono, żem nie w jednym, lecz w dwóch czepkach się urodził… To też puszczając się w świat z Irkucka, gdzie mocny grunt miał pod sobą, nie łudziłem się ani trochę, że sporo czasu upłynie, zanim znów będę mógł stanąć na pewnym gruncie, i stosowniem się urządził, bym mógł czas dłuższy o własnych przetrwać środkach. Więc na zapytanie twoje, czy mi nie potrzeba czasem pieniędzy, mogę odpowiedzieć tylko, żem już nie taki fryc bym miał puszczać się na wędrówkę po świecie |432| na cudzą kieszeń się oglądając.

Oto i wszystko, co Ci obecnie o sobie donieść mogę: całe położenie moje obecne streszcza się w dwóch wyrazach – tymczasowość i oczekiwanie. Oby tylko niezbyt długo w ten sposób trwało!

Pisujcie do mnie co|najczęściej, to największa przyjemność, jaka tu mieć mogę; tymczasem bywajcie mi zdrowi, ściskam Was wszystkich serdecznie, mówiąc do widzenia się, zapewnie nieraz jeszcze – w liście tylko.

Feliks

*Пераклад*

<...> мой знаёмы, які яшчэ ў 1874 г. прыехаў з Іркуцка ў Ноўгарад і які да гэтага часу не можа адсюль вызваліцца, слаўны віленчук Францішак Далеўскі. Ён патлумачыў мне, што сярод даволі шматлікіх палякаў, што займаюць разнастайныя афіцыйныя і прыватныя пасады ў Ноўгарадзе (з якіх толькі пэўная частка прызнаецца да каталіцтва, дзеля хлеба – удавана альбо шчыра – адмаўляючыся ад свае нацыянальнасці), ёсць пэўная колькасць шляхетных і годных усялякае павагі асобаў і цэлых сем'яў, а будучы знаёмы з амаль усім гэтым таварыствам (і маючы іх павагу), хацеў рэкамендаваць мяне розным людзям адразу пасля майго прыезду. Не прагнучы ад самага пачатку мець шматлікія знаёмствы, я згадзіўся быць рэкамендаваным толькі ў двух сем'ях. Адна з іх – гэта панства Тшашчкоўскія: артылерыйскі палкоўнік, камандзір аднае з $4^{х}$ батарэй, якія здаўна тут раскватараваныя, чалавек не першае маладосці[1], але ў росквіце сіл, ураджэнец Каралеўства і добра гаворыць па-польску, хоць з дзяцінства выхоўваўся ў Корпусе[2] ды ягоная жонка, значна маладзейшая, хоць таксама гадоў пад трыццаць[3] мае, ураджэнка Літвы і ў Вільні атрымала адукацыю ў пансіёне; яны людзі бяздзетныя, пазбягаюць усялякіх афіцыйных адносін і, наколькі гэта магчыма, любых знаёмстваў з магіканамі, жывуць пераважна адасоблена, удваіх, сярод мноства перыёдыкаў і кніг, якія выпісваюць (толькі польскіх часопісаў атрымліваюць адзінаццаць), альбо знаюцца з вузкім колам блізкіх знаёмых, выключна палякаў: яны, можа, і выключныя, але вельмі сімпатычныя абодва, і мне здаецца, што мы ўзаемна склалі пра сябе добрае ўражанне. Калі я ўпершыню наведаўся да іх, рэкамендаваны Далеўскім, дык размова адразу атрымалася такою ажыўленаю, прыемнаю, такою ветліваю і простаю, што, забыўшыся пра свой фрак, цыліндр і белыя пальчаткі, замест прыстойнага, згодна са звычаем, максімуму ў чвэрць гадзіны, я гутарыў з імі ледзь не дзве гадзіны; на наступны дзень ён наведаў мяне, доўга сядзеў у маёй клетцы, і мы за чаркаю лафіта[4] высветлілі, што ён добра ведае і памятае Пружаншчыну, бо кватэраваў там з батарэяй як малады

[1] Вацлаў Міхал Тшашчкоўскі меў ў той час 42 гады (нарадзіўся 27 верасня 1839 г. у Варшаве). Гл.: M.J. Minakowski, *Wielka Genealogia Minakowskiego* [online] https://wielcy.pl/wgm/?m=NG&t=PN&n=le.3873.2.10 [доступ: 5.03.2021].

[2] В. Тшашчкоўскі выхоўваўся спачатку ў Арлоўскім Бахціна кадэцкім корпусе, а пасля трапіў у Канстанцінаўскі кадэцкі корпус, адкуль у 1855 г. быў скіраваны ў 3-ю палявую артылерыйскую брыгаду.

[3] З. Тшашчкоўская мела ў той час 34 гады.

[4] Лафіт (ці шато лафіт) – французскае чырвонае віно, надзвычай папулярнае ў Расеі ў апошнія дзесяцігоддзі XIX ст.

афіцэр напрыканцы пяцідзесятых гадоў, калі мы з табою былі ўжо ў Беластоку, а потым у Брэсцкім павеце: ён згадаў шмат месцаў і людзей, пра якіх я і сам забыўся, нават успомніў, як на коней іх батарэі ў Мокрым[1] атрымлівалі фураж; развітваючыся, ён настойліва запрашаў у госці. Пазаўчора, скарыстаўшыся запрашэннем, я пайшоў да іх пад вечар, маючы намер пабавіцца гадзінку, але мяне не адпусцілі, пані арыштавала мой капялюш, а муж – кіёк, і мы ўтраіх прагаманілі цэлы вечар да адзінаццатае; частавалі мяне рознымі прысмакамі з Літвы, дасыланыя ім маткаю[2], гарбату падавала нам служанка полька, польскія часопісы ляжалі вакол на сталах, а сцены былі завешаныя творамі польскіх мастакоў, – так што я вярнуўся ў свой пакойчык з марамі пра край і нібы авеяны паветрам роднае старонкі...

Знаёмства, якое варта падтрымліваць. Другое знаёмства з сям'ёю пані Сакалоўскае[3] было выклікана самім суседствам, бо мы жывём якраз насупраць, праз вуліцу, так, што маглі б размаўляць праз вокны; старая кабета – гэта ўдава дзяржаўнага архітэктара, які тут памёр; яна жыве з трыма дочкамі і сынам, якіх уласнаю працаю ды рэшткамі колішняга дабрабыту і маёмасці пасля бацькавае смерці выхавала, адукавала і ад поўнае дэнацыяналізацыі ў асяроддзі чужародных элементаў захаваць здолела. І з ёю ў нас ёсць агульныя знаёмыя і ўспаміны: у 1863–64 гадах, калі заможна жыла са сваім мужам у Тамбове, яна пазнаёмілася з сем'ямі Лагоўскіх, Ласоцкіх, Мажыцкіх[4] і шматлікімі іншымі, якіх вывозілі тады ў Сібір, а потым вельмі добра мне знаных; яна памятае імёны іх саміх і ўсіх іхніх дзяцей, у яе да гэтага часу ёсць іхнія фотаздымкі... З дачок толькі старэйшая памятае тыя часы; маладое пакаленне – гэта ўжо нешта іншае, школа і атачэнне пакінулі на іх моцны след. Дзве старэйшыя атрымалі адукацыю, даюць урокі і займаюцца вязаннем (адна – пераплётам), самая малодшая заканчвае гімназію сёлета; сын – афіцэр пяхоты ў мясцовым гарнізоне.

Моладзь брынкае тут на разладжаным фартэпіяна, спявае сола і дуэты, але вельмі рэдка адзавецца айчынная мелодыя; родную мову калечыць, але не хаваецца з ёю і да сваіх, дзе толькі можа, горнецца. Нават калі не дзеля прыемнасці, дык хоць па абавязку выпадае заглядаць туды часам; дасюль быў там толькі адзін раз, прыведзены Далеўскім не з урачыстым візітам,

---

[1] Маёнтак Мокрае Пружанскага павета пасля смерці бацькоў (маці, Марыя з Паніквіцкіх Зянковіч, памерла 22 верасня 1842 г., бацька, Павел Зянковіч, – у 1856 г.), належаў Паўліне і Феліксу Зянковічам. За ўдзел Ф. Зянковіча ў Паўстанні маёнтак быў канфіскаваны.

[2] Гаворка пра Міхаліну з Раецкіх Манькоўскую (1830–1898).

[3] Гаворка пра Эву Сакалоўскую і яе чатырох дзяцей: дачок Амелію, Ідалію, Ядвігу і сына, імя якога ў лістах не называецца.

[4] Маюцца на ўвазе: Юзаф (1820–1870) і Вольга Лагоўскія, Вацлаў (1837–1921) і Марыя Ласоцкія, Юльян (1825–1898) і Марыя Мажыцкія, высланыя за ўдзел у Паўстанні з краю, – блізкія знаёмыя Ф. Зянковіча, дзяцей якіх ён адукаваў. Ю. Лагоўскі, які дзякуючы сваім лекарскім здольнасцям заслужыў павагу высокіх царскіх урадоўцаў, усяляк дапамагаў выгнанцам. Дзякуючы яму, Ф. Зянковіч атрымаў дазвол пасяліцца ў Іркуцку.

а проста на размову пахмурнаю вечаровою гадзінаю. Апрача гэтых двух знаёмстваў, я сустрэўся тут з сынам Якуба Гейштара, Казімірам Гейштарам, які ўжо некалькі гадоў служыць на чыгунцы ў Ноўгарадзе, вельмі сімпатычным маладым чалавекам, што, добра ведаючы мяне па аповедах бацькі, дачуўшыся пра мой прыезд у Ноўгарад, сам прыйшоў да мяне, прывітаў як добрага знаёмага, і з таго часу можа лічыцца адным з маіх самых блізкіх сяброў. Апрача таго, пазнаёміўся я з гуртком паляўнічых, палякаў і аднаго англічаніна, і нават аднойчы схадзіў з імі пасля абеду шукаць дупеляў у прыгарадных ваколіцах; мне ўдалося застрэліць, паднятых маім сабакам, дзве пары гэтых невядомых мне птушак, бо ва Усходняй Сібіры замест дупеляў сустракаюцца іншыя гатункі бекасаў, якія водзяцца толькі ў Азіі. Тут я мог бы і часцей карыстацца сваёю ўлюбёнаю забаваю, каб праз непатрэбную асцярожнасць не пазбавіўся зброі і паляўнічага рыштунку, па якія, не маючы свайго, даводзіцца звяртацца да чужога, а я цярпець гэтага не магу; дык раз згадзіўшыся ўшанаваць жаданне паляўнічага, які наўмысна прыехаў па мяне і даў мне зброю, я ветліва пазбягаю паўтарэння гэтага.

Чым я займаюся цяпер у Ноўгарадзе? Чытаю даўнейшыя штотыднёвікі, пішу доўгія лісты ва ўсе бакі, таксама і атрымліваць іх пачынаю адусюль; шпацырую раніцай і ўвечары, а цэлы дзень сяджу дома, звычайна з пяром у руцэ. Спадзяюся, што мне хопіць гэтых заняткаў, пакуль не вырашыцца справа з маёй пабыўкаю, бо і немагчыма, і не варта нават пачынаць нешта рабіць, пакуль я як на раздарожжы; а калі мне давядзецца зімаваць у Ноўгарадзе, дык змагу заняцца нейкаю сталаю і карыснаю працаю. Аднак, гаворачы пра карыснасць, не маю на ўвазе таго значэння, што гэтая праца дасць мне сродкі на жыццё альбо прынясе грошы: у Ноўгарадзе гэта больш складана, чым дзе-небудзь, і няма сэнсу спадзявацца, што я хутка знайду тут нейкі прыбытковы занятак. Хіба, і тут спраўдзіцца тое, што пра мяне казалі ў Сібіры, нібы я нарадзіўся не ў адной, а ў дзвюх кашульках... Дык, калі я выпраўляўся ў свет з Іркуцка, дзе меў моцны грунт пад сабою, я зусім не меў ілюзій, што шмат часу пройдзе, перш чым я змагу зноў стаць на надзейны грунт, дык належна забяспечыўся, каб магчы доўгі час жыць на ўласныя сродкі. Такім чынам, на тваё пытанне, ці не трэба мне часам грошы, я магу адказаць толькі, што я ўжо не такі пачатковец, каб збіраючыся ў вандроўку па свеце, на чужую кішэню аглядаўся.

Вось і ўсё, што я магу зараз расказаць пра сябе: уся мая цяперашняя сітуацыя апісваецца двума словамі: няпэўнасць і чаканне. Абы працягвалася гэта не занадта доўга!

Пішыце мне як мага часцей, гэта для мяне найбольшая прыемнасць, якую мець тут магу; тым часам, заставайцеся здаровыя, усіх вас сардэчна абдымаю, кажучы: да пабачэння, пэўна яшчэ не раз – толькі ў лісце.

Фелікс

## № 4

Адсутнічаюць першыя чатыры старонкі. Ліст, як сведчыць яго змест (згадваецца дзень нараджэння пляменніцы), напісаны пасля 26 жніўня / 7 верасня 1881 г.

|433|<…> uprzedzić, jak oto w sprawie tej zwłócząc i na mnie się oglądając, spory jeszcze kawał czasu – w niepewności, a Zbigniew – bezczynnie, spędzić musicie.

O życiu mém tymczasem nic Wam szczególnego donieść nie mogę: odbiéram i odpisuję listy, czytam dzienniki, gazety, polskie i rossyjskie (Nowogród ma publiczną bibliotekę w czasopisma rossyjskie nieźle zaopatrzoną), przechadzam się co|dnia po parę godzin dla zdrowia, które mi trochę nie dopisuje, zapewne z powodu zwiany klimatu i wody, która w Wołchowie jest obrzydliwa; zresztą czas spędzam wyłącznie prawie sam na sam z moim Uajtem, bo jako próżniak z okoliczności, nie śmiem odrywać od zajęć znajomych kolegów-wygnańców, pracą na chleb powszedni zajętych, narzucać się też ze znajomością swą nikomu nie lubię, więc, mimo uprzejmych zaprosin, przedwczoraj zaledwie spędziłem drugi wieczór u owych pułkownikostwa Trzeszczkowskich, o których jużem |434| uprzednio wspominał, w towarzystwie samych gospodarstwa i doktora Dobrzyńskiego, praktykującego w Nowogrodzie od lat czternastu, który ma tu żonę, czworo dzieci, własny dom i byt wcale dobrze zabespieczony. Wczoraj zrana byłem na krótkiej pogadance u inżyniera przy drodze żelaznej Bychowca (z którym zapoznano mię, jako z zawołanym myśliwym) by zasięgnąć wiadomości o tutejszém Gimnazjum realném, dowiedziałem się bowiem, że znajdował się w niem w przeszłym roku krewniak jego w klassie szóstéj i musiał takową opuścić dla jakiegoś zajścia z władzą szkolną: opowiedział mi całą tę sprawę, w niezbyt korzystném świetle dyrektora zakładu przedstawiającą; dowiedziałem się też u niego, że w liczbie nauczycieli jest jeden Polak, dość chwalony, z którym postaram się zapoznać. Dziś wieczorem wybieram się na koncert, który daje jakiś przyjezdny (ze stolicy) wiolonczelista *Morozow*, ze współudziałem pianistki *Bogosłowskiej* i miejscowych |435| amatorów, będę przeto miał sposobność oglądania tutejszej publiczności przy oświetleniu wieczorném w sali tutejszéj – po naszemu – resursy obywatelskiej; dotychczas zrzadka tylko i to pośledniejszą publiczność widywałem przechadzającą się w publicznym ogrodzie, dopóki nie nastały tu od siódmego września takie chłody, że w dzień śmiało w futrze wychodzić byłoby można, śnieg pruszył kilka razy, a w nocy kałuże grubym pokrywały się lodem; wczoraj i dziś znów jasna pogoda, lecz choć słońce świeci, już ani oziębionego powietrza ni ziemi rozgrzać nie może. Oto masz i odpowiedź na zapytanie twe o pogodzie, jaką mi tu cieszyć się wypada: dotychczas wcale ucieszną nie była – wciąż wietrzne lub słotne dni, tak że parasol stanowczo laskę nowogrodzianom zamienia a najrozsądniej ten robi, który wcale letniego okrycia nie używa, nagłe bowiem powstają i nadzwyczaj |436| przejmujące wiatry. O zimie opowiadają mi, że podobną jest do petersburskiej: słotna, zmienna – błotna, śnieżna i mroźna na przemian. W ogóle, klimat tutejszy ani do przyjemnych ni do zdrowych wcale zaliczać się nie może.

Nie mam obecnie żadnego kalendarza, więc pisząc do Maryni z powinszowaniem dnia jej urodzin, nie wiedziałem wcale, że to imieniny jej w tym samym dniu przypadają: wybacz mi tę niewiadomość, kochana Maryniu, a żeby się podobna nieuwaga z mej strony nie powtarzała nadal możecie chyba zaradzić w ten sposób, że przyszlecie mi jaki stary kalendarz z wyraźnėm oznaczeniem wszystkich dni w roku, uroczystości familijne u Was stanowiących, ja bowiem otwarcie się przyznaję, że tylko dattę imienin Mamy, jako od dzieciństwa dzień dla nas uroczysty – pamiętam.

Bądźcie mi zdrowi wszyscy, uściskam Was.

Feliks

NB. List do Stryjenki Leonowej wysyłam w oddzielnej kopercie do Pauli, bo nie wiem jak adresować do Kołczyna. Odeszlijcie go Jej.

*Пераклад*

<...> папярэдзіць, як у гэтай справе марудзячы і на мяне аглядаючыся, яшчэ трохі – у няпэўнасці, а Збігнеў – без справы, мусіце правесці.

Пра сваё жыццё, між тым, я не магу сказаць вам нічога асаблівага: атрымліваю і адпісваю лісты, чытаю польскія і расейскія штотыднёвікі і газеты (Ноўгарад мае публічную бібліятэку, дзе шмат расейскае перыёдыкі), па некалькі гадзін штодня шпацырую для здароўя, якое ў мяне не зусім добрае, магчыма, з прычыны змены клімату і вады, а яна ў Волхаве агідная; зрэшты, час праводжу амаль выключна сам на сам з Уайтам, бо як лайдак праз абставіны, я не адважваюся адрываць ад працы калегаў-выгнаннікаў, якія зарабляюць сабе на хлеб надзённы, і не люблю навязвацца нікому ў знаёмыя, дык, нягледзячы на ветлівыя запрашэнні, толькі пазаўчора правёў другі вечар у сям'і палкоўніка Тшашчкоўскага, пра якіх я ўжо раней згадваў, у кампаніі гаспадароў і доктара Дабжынскага, што чатырнаццаць гадоў практыкуе ў Ноўгарадзе і які мае жонку, чацвёра дзяцей, уласны дом і добра забяспечанае жыццё. Учора раніцай быў на кароткай гутарцы ў інжынера на чыгунцы Быхаўца (з якім мяне пазнаёмілі як з добрым паляўнічым), каб распытаць пра мясцовую рэальную гімназію, бо я даведаўся, што ў мінулым годзе яго крэўны вучыўся там у шостым класе і мусіў яе пакінуць праз нейкі інцыдэнт са школьнымі ўладамі: ён расказаў мне ўсю тую гісторыю, у якой дырэктар установы паўстае ў не зусім добрым святле; таксама даведаўся ад яго, што сярод выкладчыкаў ёсць адзін паляк, якога хваляць і з якім я паспрабую пазнаёміцца. Сёння ўвечары іду на канцэрт, які дае нейкі прыезджы (са сталіцы) віяланчэліст *Морозов*[1] з удзелам піяністкі *Богословскай* і мясцовых аматараў, буду мець магчымасць назіраць за мясцовай публікай пры вячэрнім асвятленні ў зале тутэйшай, па-нашаму – *resursie obywatelskiej*; дагэтуль публіку я бачыў зрэдчас і толькі горшую, што шпацыравала ў гарадскім садзе, пакуль не пачаліся тут з сёмага верасня

[1] Гаворка пра Сяргея Марозава (1850 – пасля 1904), віяланчэліста, кампазітара і аранжыроўшчыка, артыста аркестра імператарскае расейскае оперы.

такія халады, што ўдзень можна было смела выходзіць у футры, некалькі разоў парушыў снег, а ўначы лужыны пакрываліся тоўстым лёдам; учора і сёння – зноў яснае надвор'е, але хоць і свеціць сонца, яно ўжо ні схаладнелага паветра, ні зямлі сагрэць не можа. Вось і маеш адказ на тваё пытанне пра надвор'е, якім мне тут цешыцца выпадае: да гэтага часу яно зусім не было прыемным – пастаянна ветраныя альбо слотныя дні, так што парасон адназначна замяняе наўгародцам кіёк, а самы разумны той, хто наогул не апранаецца па-летняму, бо вятры пачынаюцца нечакана і яны заўсёды пранізлівыя. Пра зіму мне апавядаюць, што падобная на пецярбургскую: слотная, зменлівая – гразкая, снежная і марозная на перамену. Увогуле, тутэйшы клімат ані да прыемных, ані да здаровых залічыць цалкам немагчыма.

У мяне на дадзены момант няма аніякага календара, дык, пішучы да Марыні[1] і віншуючы яе з днём нараджэння, я не ведаў нават, што яе імяніны прыпадаюць на той самы дзень: даруй мне гэтае няведанне, дарагая Марыня, і каб падобная няўважлівасць больш не паўтаралася, думаю, можаце мне дапамагчы тым, што прышляце які стары каляндар з выразным пазначэннем усіх тых дзён года, якія з'яўляюцца ў вас сямейнымі ўрачыстасцямі, бо шчыра прызнаюся, што толькі дату імянін мамы, як урачысты для нас дзень з дзяцінства, я памятаю.

Заставайцеся ўсе здаровыя, абдымаю вас.

Фелікс

NB. Ліст да пляменніцы Ляонавае[2] высылаю ў асобным канверце да Паўліны, бо не ведаю, як адрасаваць яго ў Колчына. Дашліце яго ёй.

---

[1] Гаворка пра Марыю Рэгіну Пуслоўскую (Ф. Зянковіч у лістах называў яе таксама Лілі), якая нарадзілася 26 жніўня / 7 верасня 1868 г., дачку Паўліны і Тытуса Пуслоўскіх. 18 жніўня 1890 г. яна стала жонкаю Ф. Зянковіча.

[2] Гаворка пра Ванду Зянковіч, дачку паўстанца 1831 г. і эмігранта Ляона (1808–1870) і Анны з Лібpоўскіх Зянковічаў, якая, выйшаўшы замуж за Караля Карпінскага, жыла ў фальварку Колчыне (Канстанцінаўскі павет, 16 вёрст ад Тэрэспаля; сёння: Бельскі павет Люблінскага ваяводства).

## II
## Зоф'я Тшашчкоўская да Фелікса Зянковіча

### № 1

Першы, вядомы сёння, недатаваны допіс З. Тшашчкоўскае да Ф. Зянковіча. Відаць, паходзіць з другое паловы верасня 1881 г. На аркушы паштовае паперы (s. 1–4) рукою З. Тшашчкоўскае занатаваны верш *Rosnę sobie na wydmuchu*..., а рукою Ф. Зянковіча – "парафраза" гэтага верша (з датаю: 18 верасня 1881 г.). Магчыма, атрымаўшы верш З. Тшашчкоўскае падчас гасціны на пачатку верасня 1881 г., Ф. Зянковіч напісаў "парафразу" і пераслаў Тшашчкоўскім. Праз нейкі час на іншай картцы (s. 5–7) З. Тшашчкоўская напісала адказ на "парафразу" (*Ej, Jeżyku, bierzesz rolę*...) і кароткую нататку да былога выгнанніка з просьбаю прыйсці на абед. Папера была складзеная ў тры столкі. Угары апошняе старонкі (s. 8) пакінуў свой "аўтограф" Вацлаў Тшашчкоўскі. Магчыма, менавіта ён перадаваў жончыную цыдулку адрасату.

Калі і дзе быў напісаны верш *Rosnę sobie na wydmuchu*..., – звестак не выяўлена. Рукапісная копія верша пад тытулам *Dumka. F. Z. na pamiątkę* захавалася сярод папераў З. Пшасмыцкага ў складзе паэтычнага зборніка (?) Адама М-скага *Z fal życia* (цыклы: I. *Z fal życia*; II. *Z legend mojej okolicy*; III. *Piosnki*; IV. *Drgnienie serc*; V. *Z niewieściej doli*)[1]; другі асобнік знаходзіцца ў рукапісным зборніку (?) *Poezje*[2], у якім два цыклы – *Z fal życia* і *Z teki żołnierza*.

Упершыню апублікаваны ў газеце „Życie" (1887, nr 40, 1 października); пазней пад тытулам *Dumka* перадрукаваны ў "Dzienniku Wileńskim" (1906, nr 45, 22.10/4.11).

"Парафраза" Ф. Зянковіча *Siostro, wzrosła na wydmuchu*... і адказ З. Тшашчкоўскае *Ej, Jeżyku, bierzesz rolę*... раней не друкаваліся.

|1| Rosnę sobie na wydmuchu
Jak stepowe ziele;
Ani słuchu a ni duchu
Gdzie moje wesele?

---

[1] Rkps BN 5454: *Zofia Trzeszczkowska (pseud. Adam M-ski): Poezje*, k. 46–122.
[2] Rkps BN 5452: *Zofia Trzeszczkowska (pseud. Adam M-ski): Utwory poetyckie i przekłady*, k. 58–62.

Od dni wielu, od lat wielu
Drętwieję w bezruchu,
A po szczęściu-wskrzesicielu
Ni duchu ni słuchu…
Rosnę sobie na wydmuchu
Jak stepowe ziele,
Nim kobiercem swego puchu
Żwir mi grób uściele.
Lecz choć deska piersi ścieśni,
Choć legnę bez ruchu –
Ty, słowiczku, piej mi pieśni,
Piej mi Oczajduchu!
Rosnę sobie na wydmuchu
Jak stepowe ziele:
Dumko moja, biédny duchu,
Czy ja was w pieśń wcielę?
|2| Czy pieśń wniknie w serca braci?
Czy zagra im w uchu?
Czy mi łezką kto zapłaci?
Ni słuchu ni duchu…
Czy piosenki méj dokończę
Z jutrzenką poranną?
Ty, słowiczku, Niebios gończe,
Ty masz pierś nie ranną.
A mnie dola serce cieśni,
Lecz silnam na duchu:
Dziecię ziemi – gram boleśniéj
Niż ty, Oczajduchu.
Zawiej wietrze, bujny wietrze,
Roznieś pieśń z podmuchem:
Z czynu stali niech rdzę zetrze,
Niech brzęknie łańcuchem;
Niech pochwycą ją współcześni,
Wzmogą się na duchu,
Potém, po nas, – moja pieśni,
Ni duchu ni słuchu…

|3| Siostro, wzrosła na wydmuchu,
Jak stepowe ziele!
W sercach bratnich, w bratnim duchu –
I twoje wesele?
Przez dni wiele, przez lat wiele,
Zdrętwiałym w bezruchu,
Niech twe piosnki-wskrzesiciele –
Braciom dźwiękną w uchu.
Siostro, wzrosła na wydmuchu,
Jak stepowe ziele!
Nim kobiercem swego puchu

Żwir grób ci uściele,
Nim ci deska piersi ścieśni,
Że się już nie ruszą –
O piej braciom, piej twe pieśni,
Piej im, Oczajduszo!
Siostro, wzrosła na wydmuchu,
Jak stepowe ziele!
W sercu twojém, w twoim duchu
Zasobów tak wiele,
|4| Że, gdy wnikną w serca braci,
Pieśnią grając w uchu,
Któryż dani łzom nie spłaci,
Odmówi posłuchu?
Gdy się nowa przyszłość rodzi,
W téj dobie porannéj,
Niech trud ciężki braciom słodzi
Pieśń twéj piersi rannéj.
Choć ci dola serce cieśni, –
Kiedyś silna duszą,
Siłę wleją twoje pieśni
I moc – Oczajduszo!
Zawiej wietrze, bujny wietrze,
Roznieś pieśń podmuchy!
Z czynów stali rdza się zetrze,
Stargają łańcuchy.
Umiłują cię współcześni,
Wzmożeni na duchu, –
I przekażą ciebie, pieśni,
Do potomnych słuchu.

18 $^{3}$/IX 81[1].

|5| Ej, Jeżyku[2], bierzesz rolę
Wbrew saméj przyrodzie:
Zamiast kłoć się pieśni piejesz
Sercom ku usłodzie.
Możeś ty jest Elf ukryty
Pod taką postacią?
Który srébrne łezki roni
Nad ginącą bracią?
Chwytasz piosnkę, zdwajasz echem –

---

[1] Дату напісання верша трэба, відаць, чытаць так 18/30 IX 81 г. Лічба “3” з’явілася памылкова замест “30”.

[2] “Jeżykiem” (зрэдчас – “Promykiem” ці “Elfem”) З. Тшашчкоўская называла ў сваіх лістах Ф. Зянковіча. У польскай мове слова “jeżyk” (вожычак) мае фанетычны амонім “jerzyk” (стрыж). На жаль, даступны матэрыял не дазваляе адназначна сказаць, які сэнс укладвала З. Тшашчкоўская ў мянушку, якую яна (?) дала палітычнаму выгнанніку. Магчыма, варта лічыць падказкаю ейныя словы “mignął niby promyk”, а г. зн. і як стрыж. Аднак паслядоўнае напісанне ёю “Jeżyk” (а не “Jerzyk”) дазваляе нам перакладаць гэтае слова толькі як “Вожычак”.

Wiész, zdrajco malutki,
Jak utęsknia śpiewak każdy
Za echem swéj nutki.
Chcesz ożywić co już więdło,
Wskrzesić co konało –
O! Bogdajże twoje słowo
Moc wskrzeszenia miało!
Nie czekałam ja, ptaszyna
Wyrwana z dąbrowy,
By mię jeszcze ktoś zawoła
Serdecznémi słowy.
|6| W relikwjarzu mych pamiątek
Zachowam je święcie.
Czemuż doli dać nie może
Piosenki zaklęcie?
Dałabym Ci wtór serc wiernych
Twego sercu biciu,
I to, czego mnie tak braknie –
Cel mysli i życiu
I wrocóny w Ojców progi
Wspominałbyś z cicha,
Jak niejedno stepu ziele
Na wydmach usycha.
Więcbyś dźwigał, więcbyś koił,
Groby kwieciem zdobił;
Krzewił zioła, a sokoły
Do lotu sposobił.
Ażbyś ujrzał, odmłodzony
Przy ich skrzydeł chrzęście,
Żeś twą przeszłość w przyszłość przelał –
A czyż to nie szczęście?!
Pieśń bezsilna, – lecz życzenie
Obecnością spłać mi –
|7| I śpiesz do nas, pożądany,
Przyjdź chléb łamać z braćmi. –

Ps, com tu napisała, to nie piosnka, ot tak, pióro machnęło po papierze – niedobra teraz na mnie godzina. Inaczéj by Panu odpowiedzieć należało, Jeżyku-Elfie. –

Nie odmawiaj nam swéj obecności, czekamy z obiadem.

Sowa

|8| Командиръ $4^{\text{ой}}$ баттареи $22^{\text{ой}}$ артиллерійской бригады *Вацлавъ Тжещковскій*.

*Пераклад*

<…>[1]

PS. Тое, што я напісала тут, гэта не песня, проста пяро нашкрабала на паперы – нядобры зараз у мяне час. Інакш належала б адказаць пану, Вожычку-Эльфе.

Не адмаўляй нам у сваёй прысутнасці, чакаем на абед.

Сава[2]

Камандзір 4ай батарэі 22ой артылерыйскай брыгады *Вацлавъ Тжещковскій*[3].

## № 2

Атрымаўшы ў канцы верасня (ст. ст.) 1881 г. г. зв. "адпачынак" (дазвол пакінуць Ноўгарад на паўгода), Ф. Зянковіч у кастрычніку выехаў у маёнтак Зубачы Брэсцкага павета Гродзенскае губерні, дзе жыла сям'я ягонае сястры Паўліны Пуслоўскае. Відавочна, на пачатку лістапада ён напісаў да З. Тшашчкоўскае ў Ноўгарад. Адказ датаваны 3/15 лістапада 1881 г.

|9|* Jeżyku, czy Promyku, już nie wiem jak mam nazwać? boś mignął niby promyk nad naszym chmurnym Nowogrodem i teraz chmurniéj tylko. – Swoim zwyczajem, powié mi Pan, że to komplement. Otóż, postaram się wytłumaczyć jak to pojmuję, a jeśli ztąd wyniknie komplement – to prędzéj dla nas, Nowogrodzian, niżeli dla Pana. – Z tego kółka, któreś Pan poznał, w naszéj chacie może jedynie byłeś Pan zrozumiany i głębiéj oceniony, bośmy niejako z jednéj sfery towarzyskiéj. Pan – dla tego, że do niéj należysz z wychowania i całéj przeszłości, jedném słowem z prawa; ja – możem trochę wzięła w spadku po Rodzicach, którzy jak na owe czasy, byli ludźmi myslącymi i przestrzegającymi form światowych; trochę z krótkiego pobytu w Wilnie, gdziem się zetknęła ze wszystkiém, co było najszlachetniejsze, i – już nigdy o tém nie zapomniałam. – (O|tey poeta powiada, że: „dawno Bóg Aniołów występnych strącił z Niebios, a jednak oni o Niebie nie zapomnieli!").

|10| Byłeś więc nam Pan bliższy niż innym, ale u nas już w polskiéj krwi, może skutkiem od dawna przyswojonéj cywilizacji, jak twierdzi Marjan Dubiecki w swych wędrówkach po Nizu, jest gwałtowne rwanie się naprzód, pragnienie czegoś lepszego. Ci wszyscy ludzie znękani życiem powszedniém, niemający srodków kształcenia się, spragnieni się promyka światła, za słowem natchnioném w ogień idą. –

---

[1] Тут і далей пры перакладах не падаюцца польскамоўныя вершаваныя тэксты.

[2] Відавочна, мянушка (ці псеўданім?) З. Тшашчкоўскае. Відаць, у той час яна не карысталася крыптанімам "Адам М-скі".

[3] Характэрна, што В. Тшашчкоўскі напісаў сваё прозвішча "Тжещковскій", у той час як у афіцыйных дакументах пісалі ў адпаведнасці з агульнапрынятым спосабам перадачы падобных польскіх прозвішчаў – "Тржещковскій".

Wybrzeże, gdzie się knuła zdrada podła,
Przed zwycięźcami w prochu się ukorzy,
Zapłaci haracz, czując iż o lepsze
Nie pójdzie z Luzy ani ich odeprze.

49). Czerwone morze wiekopomnéj sławy
Zżółknie od trwogi i fale zakłóci:
Ujrzysz, jak silne Ormuzdu dzierżawy
Dwakroć oporne, dwakroć miecz ukróci:
Ujrzysz, bój z Persy, gdy śród wściekłéj wrzawy
Grad ich strzał przeciw swym strzelcom się zwróci;
Poznają walcząc z ludem tobie drogim,
Iż ktoć się oprze – sam sobie jest wrogiem.

50). Ujrzysz Diu, twierdzę potężnie warowną,
Dwakroć ściśniętą w oblężnicze szańce;
|33| Tu, mając porę do czynów stosowną,
Chwałą się twoi okryją wybrańce:
Tu Marsa zawiść obudzi gwałtowną
Syn Luzytanii siekący pohańce;
Tu Maur, śmiertelnym ulegając ciosom,
Przeklnie Proroka i zbluźni Niebiosom.

51). Patrz, oto Goa dwukrotnie zdobyta
Na Maurytanach. – Ona teraz włada
Na całym Wschodzie – laurami okryta
Rycerskich zwycięstw – wszystko przed nią pada:
Ona wspaniała, silna, pochwał syta,
Twarde wędzidło na pohańców wkłada,
Zdolna uśmierzyć każdy lud zuchwały,
Co przeciw Luzom wzniósłby oręż śmiały.

52). Ujrzysz w Cananor jak hufec orężny
Wstrzymuje wrogów olbrzymie nawały:
Ujrzysz Calicut dziś ludny, potężny,
Jak przed zwycięzcą otwiera swe wały;
I Cochinchina pozna ten lud mężny,
Bitny, wyniosły, w przedsięwzięciach śmiały:
Nigdy cythary, zwycięstw głosicielki,
Nie opiewały sławy równie wielkiéj.

53). Takiego męstwa, zaciętości takiéj
Nie oglądały wody Leukatu,
Kiedy pod Actium ze swémi żołdaki
August zwyciężył – i na podziw światu
Pokonał wodza, co śmiałémi szlaki
Zabiegł w krainy Nilu i Eufratu,
Széroko władnąc nad ziemią i miasty
Aż sam wpadł w sieci bezwstydnéj niewiasty.

54). Patrz, tam na morzu krwawy bój się sroży
I w ogniu stoją pohańców okręty;
|34| Widzisz niesione śród morskich przestworzy
Zdobytych statków potrzaskane szczęty?
Bogaty Cherson twym Luzom dań złoży

I brzeg Chin będzie przez nich opłynięty,
Do wysp odległych, gdzie świta blask zorzy,
Wszystko ich uzna, wszystko się ukorzy.
55). Takie są, córko, przeznaczeń wyroki:
Nadludzkie męstwo w laur wieńczy ich głowy,
Nikt im nie zrówna, za żadnéj epoki,
Od wód Gangiesu po słup Herkulowy;
Od lodów do téj ciaśniny głębokiéj,
Którą Magellan opłynął świat nowy;
Nikt, choćby nawet wyszli z grobów cieni
Bohatérowie wszechwieków zbudzeni![1].

|35|

## Głos.

Kolebka moja stała gdzieś u drzwi biblioteki,
Babelu, gdzie baśń, romans śród mądrych ksiąg ogromu
Mieszały się, – a z niémi w pyle Rzymiany, Greki. –
Ja sam nie byłem wyższy od porządnego tomu.
I słyszałem dwa głosy. Wytrwały a tak zdradny
Szeptał jeden: „Ta ziemia – to wyrob cukierniczy;
Mogę (wówczas twa rozkosz nie spotka tamy żadnéj)
Dać ci apetyt równy powabom tych słodyczy”.
A drugi: „O, pójdź ze mną błądzić po marzeń drogach!
Za krańce możebności, w dal – poza światy znane!”
Głos ten śpiewał jak wicher szumiący po rozłogach,
Niby widmo ruchliwe, niewiedzieć zkąd przywiane,
Co słodko pieści ucho a jednak trwoży sobą. –
„Jam gotów, głosie luby!” rzekłem. Od téj pory
Datuje – co niestety! można zwać mą chorobą
I fatalnością moją. Odtąd poza pozory
Ogromu wszechistenia, w czarnéj otchłani głębi,
Ja, ofiara dręczona przez jasnowidztwa harpie,
Odróżniam tysiąc dziwnych światów, co się w mgle kłębi
I wlekę z sobą żmiję, która mi stopy szarpie. –
I podobny prorokom, jak ongi ci tułacze,
Ukochałem najczulej głąb morską i pustynię;
Smieję się śród żałoby, a śród uczt świetnych płaczę,
I znajduję smak miły w najbardziéj gorzkiém winie;
Często spełnione fakta przyjmuję za złudzenia
I okiem tonę w Niebie, gdy grunt z pod stóp się wali. –
Lecz głos szepce z pociechą: „Zachowaj twe marzenia;
Piękności snów szaleńczych mędrcowie nie zaznali!”[2].

|36|

## À une Malabaraise

Z nóżką drobną jak rączka dała-ć przyroda szczodra
Na zawiść najpiękniejszym białym szérokie biodra;

[1] Строфы з другое песні паэмы Л. Камоэнса *Лузіяды*.
[2] Пераклад верша Ш. Бадлера *Голас* (*La voix*).

Myslącemu artyście drogi twój kształt uroczy;
Czarniejsze nad twe ciało twe aksamitne oczy. –
W błękitów, w słońca kraju, kędy cię twój Bóg stworzył,
Twój los – zapalać fajkę, którą twój pan nałożył,
Dostarczać świeżéj wody, wonności lać do czary,
Rój natrętnych komarów wypłaszać spod kotary,
A gdy pod tchnieniem ranku westchną jaworów lasy,
Zakupywać na rynku banany, ananasy.
Gdzie zechcesz bosą nóżką błąkasz się dzień calutki
Nucąc z cicha nieznanych starych piosenek zwrótki;
A gdy wieczor nadejdzie w purpury swéj szkarłacie
Na spoczynek twe ciało złożysz na miękkiéj macie,
I zaroją się chmurę w snach twych kolibry liczne,
W snach, co jak ty kwitnące i jak ty będą śliczne. –
Czemuż cię, dziecię szczęścia, ku Francji mysl unosi,
Krainie przeludnionéj, gdzie boleść żniwo kosi?
Po co szorstkim żeglarzom zawierzać na niepewne
I drzewom twéj Ojczyzny słać pożegnanie rzewne?
Ty, ledwo przyodziana muślinu lekką tkanką,
Tam pod śniegiem i gradem skostniałabyś, wygnanko!
Jakbyś opłakiwała twój spokój i swobodę,
Gdyby, twardym gorsetem ścisnąwszy łono młode,
Przyszło-ć o chléb wieczorny żebrać w tém naszém bagnie
Sprzedając woń twych dziwnych uroków kto zapragnie,
I ścigać w zamysleniu przez brudną mgły przesłonę
Nieobecnych kokosów widziadła rozproszone![1]

Baudelaire.

* *Ad marginem*: Otrzymany 12/I 1882. Pisałem 18/I 1882.

** *Ad marginem*: Akteon zamieniony w jelenia i pożarty przez własną psiarnię, za to, że spójrzał na Dyanę w kąpieli. –

*** *Ad marginem*: O źródło słodkiéj wody toczyła się wałka zacięta na wybrzeżach Mozambiku.

*Пераклад*

6ª Студзеня 1882 г. з Ноўгараду

“Няўдзячны Вожычак! Бессаромны Вожычак!”[2]. Ну, ніколі не хваліся, Пан, што ведаеш людзей, калі мог прыпісаць мне падобныя словы. Тое, што я чакала ліста ад Пана, – гэтага не адмаўляю, але дадушы хацела ўсклікнуць: Шчаслівы Вожычак! Бо я думала, што родны край зачараваў Пана сваёй прыгажосцю, а, магчыма, і сястра Пана жаночым сэрцам пастаралася пра іншую, непаўторную прыгажосць, якая б апраменіла сэрца вандроўніка надзеяй і прыкавала яго да сябе. У падобныя хвіліны цяжка знайсці словы.

[1] Пераклад верша Ш. Бадлера *Да малабаркі* (*À une Malabaraise*). Малабар – гістарычная вобласць на паўднёвым захадзе Індыі.

[2] Відаць, нехта з наўгародцаў напісаў да Ф. Зянковіча, перадаючы (магчыма, скажаючы) словы З. Тшашчкоўскае.

Так я марыла, але горкі досвед, якога ў маім жыцці хапае на кожнай старонцы, навучыў мяне не давяраць найпрыгажэйшым марам і няраз шаптаў мне: бедны Вожычак! Толькі развітаўся з адным клопатам, як неўзабаве з-пад квету хвілёвае радасці наступны выглядвае і крычыць: – "Вітаю!" На жаль, і на гэты раз вопыт быў бліжэй да ісціны, чым мары. Хвароба ў хаце! А хто ведае гэтую чорную здань лепш за мяне? Але яна скончылася шчасліва – гэта прыемная ўзнагарода за пакуты. Памятаю, гадоў восем таму на працягу некалькіх тыдняў я адчайна змагалася са смерцю за залатую дзявочую галоўку мае сястры, але калі яна пачала вяртацца да жыцця, мне здавалася, што ўвесь свет адраджаецца па-вясноваму, хоць тады ішло да восені. Няхай і Вам так будзе, Вожычак, толькі каб працяг, дай Божа, быў вясялейшы, чым у мяне.

Бачыш, Вожычак, як няправільна несправядліва абвінавачваць зычлівых людзей у нейкіх патрабаваннях і нараканнях, пра якія ім і не снілася. Што б гэта былі за "прыязныя сэрцы", якіх адзін спознены ліст разлучае? Ці варта дбаць пра іх? Зрэшты, нічога дзіўнага, што Пан мяне не ведае, бо я даволі арыгінальная істота – шмат у чым нібы і не кабета. Гэта не азначае, што я кваплюся на вашыя мужчынскія прывілеі, але Бог неяк памыліўся, стварыўшы маю душу з дзіўным характарам. Аднойчы кіраўнічка ўстановы[1], дзе я выхоўвалася, якая любіла мяне як маці, але падабаліся ёй твары з правільнымі рысамі, у момант бяздумнасці пусціла пра мяне такую показку: "Зосю Пан Бог мусіў стварыць прыгожаю як дзяўчыну-мару, але толькі скончыў вочы, як сапсаваўся ў Яго настрой, дык змяшаў гліну і кінуў бясформенны злепак у свет, дык толькі ў позірку засталося крыху адлюстравання Нябеснае Айчыны...". Дадам яшчэ: штосьці падобнае сталася і з душою: здольнасць да паэзіі, жаўнерская вернасць штандару, жывое адчуванне прыгажосці прыроды і пачуццёвасці грэцкага свету побач з пазазямнымі вандроўкамі аскета, запал да ўсяго ўзнёслага і высакароднага і любоў да таго, што дробнае, прыгнечанае, няшчаслівае – усё гэта злілося ўва мне ў дзіўную амальгаму, імя якой, напэўна, нямогласць і туга. Мае намеры і мае жаданні разышліся з маімі чынамі; калісь я не надта шанавала ўласнае жыццё, не падлічыла, колькі яно мае гадзін – і яно цяпер помсціць мне; і гэта слушна!

Не кранай гэтага пытання, Вожычак; цяжка пісаць пра такія рэчы і не спрабуй пярэчыць, – я кажу шчырую праўду. Як Пан, часам, бывае для людзей Мефістофелем, гэтак і я маю ў душы Мефістофеля для сябе; ён мне нічога не даруе; а пішу гэта Пану толькі для таго, каб Пан ведаў, як ведаюць мае блізкія, што ў гэтай барацьбе з уласнаю душою адступілі ад мяне ўсе жаночыя пустыя клопаты пра асабістыя патрэбы; са мною можна размаўляць, як з сябрам, як з братам.

Пан ведае, што мы жыва цікавімся Панам, што справы сям'і Пана, пра якія Пан апавядаў нам, сталі часткаю нашых уласных, што мне вельмі пада-

[1] Гаворка, відаць, пра Ф. Клячкоўскую.

баецца размаўляць з Панам, дык калі хвілінка добрая трапіцца, калі выказванне таго, што мучыць душу, можа прынесці палёгку, о! кажы, Пане, бо, хіба, нідзе не знойдзеш больш спагадлівых сэрцаў! Але не бярыся за пяро, каб застацца ветлівым; не траць хвілінаў адпачынку і, перш за ўсё, не апраўдвайся, бо гэта марная праца; шэрая сава[1] і так не будзе гневацца. Ці ж я не ведаю, што такое хлеб выгнанніка? Альбо ж дарма на маёй скроні на дваццатым годзе жыцця валасы сівець пачалі, а потым паплылі пахмурныя, бязлітасныя дні і гады, каб я зайздросціла выгнанніку за хвіліны адпачынку пад роднай страхою? Калі словы Пана не з'яўляюцца звычайнай формулай свецкае ветлівасці, дык сорам Табе і грэх, Вожычак, што ты іх прамовіў.

Я ж люблю ўсіх вас, бедныя бяздомныя дзеці мае зямлі, кожнай маёй слязою, кожнай хвілінай маіх пакутаў, усёю нянавісцю да моцных, якая накіпела ў маіх грудзях, усёй сілай мае загубленае душы. Цяпер Пан прачытвае нанова пакутлівую гісторыю ўласнае сям'і, апраменену арэолам пакутніцтва, а я цягам 15 гадоў на чужыне лічу раны бясслаўных выгнаннікаў… Як бы там ні было, мы паразумеліся: я збіралася напісаць Пану перад Калядамі, але гэтулькі было клопатаў і спраў, што нельга было засяродзіцца, дык адклала да Новага года; але прыйшоў ліст Панскі і знайшоў мяне ў ложку, таму адказ затрымаўся на некалькі дзён. Святы мне не ўдаліся: у першы дзень у нас былі госці, на другі я яшчэ была ў Дабжынскіх, але на трэці я ўжо злегла і страшна пакутавала да Новага года. Цяпер ужо пачала хадзіць і выязджаць, п'ю хінін[2] і віно, але думаю, што не хутка яшчэ ачуняю цалкам.

Пачынаю справаздачу з гісторыі Ноўгараду. У горадзе і ў нашай хаціне ўсё ідзе звычайным парадкам. Вацлаў з поспехам прайшоў перадкалядныя праверкі, але ў яго ўзнікла новая праблема, бо яго прызначылі сябрам акруговага суда, які тут сабраўся, а гэта вельмі стамляе, бо яму даводзіцца няраз вяртаецца а 12 гадзіне ўначы, а ў яго і свае занадта шмат працы. Пераламалі мы з ім Панскую аплатку, і ён шле Пану самыя лепшыя пажаданні.

Пэўны час дома ў нас было трохі гулу і руху: у Станішэўскіх нарадзілася маленькая дачка, а з тае прычыны, што ў іх вельмі цесна, дзеці падчас хваробы маці былі ў нас. Потым мне стала шкада сярэдняга хлопчыка Сташка, ён самы слабы з усіх і найменш каханы, дык забрала яго на колькі тыдняў. Да гэтага часу малы з намі, цудоўнае дзіця – значна паправіўся; калі нічога не перашкодзіць, хацела б пратрымаць яго да вясны. Што ж рабіць? Ілюзія!

А зараз пра самае сумнае, і мне вельмі цяжка пісаць, але мяркую, што магу пагаварыць з Панам цалкам адкрыта. Гэта датычыцца пана Францішка[3]. Апошнімі днямі я часта ўспамінаю, што апавядаў Пан пра яго з часу

[1] Гэтыя словы пацвярджаюць меркаванне, што З. Тшашчкоўская магла карыстацца псеўданімам "Сава".

[2] У той час хінін выкарыстоўвалі не толькі як лек супраць малярыі, а таксама і як гарачкапаніжальны і абязбольвальны сродак.

[3] Гаворка пра Ф. Далеўскага.

вашага знаходжання ў Сібіры... Шмат нешчаслівых акалічнасцяў склалася на гэта. Можа, Пан, прыгадае, як яшчэ пры Пану п. Францішак займеў выгляд пакутніка? Казала я тады Пану і Вацлаву, што ведаю прычыну, але не хачу назваць яе. Я маўчала з павагі; сёння, аднак, магу гаварыць з Панам, бо шмат людзей у Ноўгарадзе ведаюць пра гэта; не прагаварыся, Пан, толькі каму з агульных знаёмых, бо – наколькі ведаю – сям’я ў Варшаве не інфармаваная (ёсць важныя прычыны), дык можа ўзнікнуць якое-небудзь непаразуменне. Справа ў тым, што п. Фр., бедны гаротнік, у канцы жыцця пажадаў мець уласны куток, уласную сям’ю; а з тае прычыны, што быў у асноўным на ўтрыманні сваякоў, не хацеў іх абцяжарваць. Таму ён так жвава ўзяўся за тую краму; не слухаў нічыіх парадаў, лічыў, што мае энергію і сілу, як і даўней. Атрымаўшы пасаду, зрабіў прапанову і атрымаў згоду. Калі Пан ад’язджаў, гэтая справа яшчэ была няпэўнаю: паненка і яе сваякі ўсё яшчэ думалі, а п. Фр. быў як у шале. Хацела б дадаць, што выбар быў вельмі добры, бо абранніца – Амелька[1]. Ва ўсіх адносінах, з усіх дзяўчат, якіх я ведаю, яна адна магла справіцца з такімі абавязкамі; яна разумее, што гэтаму чалавеку трэба быць не толькі жонкай, але нібы і дачкой, а часам і сястрой міласэрнасці. Дык, нягледзячы на гэта, яна сардэчна прывязалася да яго. Нейкі час справы ішлі добра, але, як было лёгка прадбачыць, з крамаю не атрымалася: цяжкая праца падарвала здароўе, а яшчэ горш – занятак быў неадпаведны. П. Фр. назаўсёды застаўся ідэалістам, летуценнікам 63-га года, дзе ж яму было справіцца са зграяй лотраў, якая працавала ў краме? Ён не разагнаў іх, давяраў ім, а яны кралі ў яго, пакуль ён не зразумеў, што мае значныя страты, і пачаў дакараць сябе, што не змог апраўдаць даверу і г. д. Сапраўдныя пакуты шчырага сумлення… Цяпер робіцца пералік, і, верагодна, п. Фр. пакіне пасаду. І дай Бог, каб хутчэй! Але гэта яшчэ не канец: пасада амаль страчаная, а слова прамоўленае застаецца. Адступіць? А як сказаць гэта дзяўчыне, якая зжылася з прапановаю і гатовая падзяліць найгоршы лёс? Ажаніцца і разлічваць толькі на яе працу, а не на ўласную, дык мужчынскі гонар страшэнна пакутуе. Ах! і не толькі гонар, але і гэтае беднае сумленнае сэрца, якое загарэлася, а цяпер разумее згубнасць свайго становішча...

У выніку ўсяго гэтага ён захварэў; нешта з лёгкімі, з сэрцам, доўга ляжаў без прытомнасці, як мне здаецца, з прычыны даўняе немачы. Здаецца мне таксама (гэта яшчэ некалькі асоб заўважыла), што пана Францішка атачае такое аптымістычнае кола, што ніхто ў голас фатальнага слова і не прамовіў. Цяпер яму нібы трохі лепш, – ён ачуняў, паправіўся, працуе, але аслабеў ды пастарэў гадоў на дзесяць, і я не ведаю, якім будзе апошні акт гэтае балеснае драмы? Вожычак, дарагі Вожычак, якое ж цяжкае, якое маркотнае жыццё! І чаму гэта яно вынішчае менавіта тое, што мела найбольшую духоўную каштоўнасць? Калі я гляджу на п. Фр., дык забываюся на ўласныя клопаты, хоць іх шмат, і хацела б счэзнуць у нябыце. Я думаю, што, магчыма, адзіным выратаваннем была б як мага хутчэйшая жаніцьба,

[1] Гаворка пра Амелію Сакалоўскую, будучую жонку Францішка Далеўскага.

хоць для Амелькі гэта і рызыкоўна, але яна смелая, загартаваная ў горы, і так жыццё яе нялёгкае; яна можа даваць урокі, мае рамяство ў руках, палякі, якія жывуць тут, толькі праз адзін сорам падтрымліваюць яе, і жыццё будзе цягнуцца – напалову з бядою, але сваё. Яна думае тое самае, і шлюб, здаецца, прызначаны на пачатак красавіка, калі толькі сілы п. Фр. не падвядуць да тае пары, бо часам страх мяне бярэ за яго. Калі зможаш, Вожычак, адзавіся да яго, але толькі не дай яму зразумець і словам, што ты нешта ведаеш ад мяне. Напішы яму як мага больш пра край; гэта адзінае, што яшчэ яго электрызуе, зачаруй выявамі ружовых надзей; а калі іх няма ў рэчаіснасці, няхай іх заменіць пабожная выдумка; надай яму гарту, бадзёрасці, яму гэта вельмі патрэбна.

Пра іншых знаёмых Пана нічога асаблівага паведаміць не маю: усе яны здаровыя, жывуць як звычайна і шлюць Пану прывітанні, пажаданні і г. д.

З’явіўся новы святар, відаць, прыстойны, я яго яшчэ не ведаю, ён быў у нас падчас мае хваробы. Цяпер карнавальны шал ахапіў усіх: картачныя вечары, танцы, маскарады не толькі ў клубах, але і ў прыватных дамах; маці дарослых дачок, пераапрануўшыся ў мужчынскую вопратку, танцуюць у сваё задавальненне. Калі б Пан быў тут і пабачыў усё гэта, я задала б Пану пытанне, над якім часта марна ламала галаву. Вацлаў жа не дапаможа мне разгадаць галаваломку, бо блізкія людзі ніколі не бываюць бесстароннімі, уласны настрой у той момант іхняе меркаванне змяняе.

Я заўсёды была перакананая, што чалавек павінны прымаць актыўны ўдзел у жыцці свайго кола, дастасоўвацца да яго, дзяліць ягоныя радасці і болі. Чаму ж я нежывая тут? Быццам бы старэйшая за ўсіх? Ці гэта хібы майго характару? Можа, у маім сэрцы не хапае якіх струн? Аднак жа іншыя цешацца і ім добра. Сапраўды, часам мяне агортвае зайздрасць, і я не ведаю, што б аддала, каб пераманіцца. Магчыма, трохі на мяне паўплывала мая сумная, беспрасветная маладосць, трохі прыроджаная нелюдзімасць і сарамлівасць, але я памятаю, што калісь пару разоў з запалам скакала на сялянскім вяселлі, і сёння мне здаецца хвілінамі, што ў братнім мілым коле магла б забыць пра доўгія гады пакутлівых выпрабаванняў. Што ж рабіць, калі тутэйшыя забавы падаюцца мне такімі неэстэтычнымі? Можа, віна маіх бацькоў у тым, што яны навучылі мяне так гэта бачыць? Я разумею народныя забавы і няраз у іх удзельнічала ўсёй душой, але тады яны ўзвышаліся да нас, бавіліся весела, гучна, але прыстойна; простанароднае забавы я не разумею асабіста для сябе.

І мая праца ідзе не так, як хацелася б; розныя клопаты на тыдні выбіваюць пяро з маіх рук. Мяне вельмі ўсцешыла, што мае строфы, дакладней Камоэнса, спадабаліся Пану. Не ведаю, наколькі мне ўдалося намаляваць постаць Афрадыты. Мяркуй, Пан, паводле трох галоўных строфаў:

<…>

Пакуль, аднак, з усяго, што я пераклала, уступ найпрыгажэйшы, і ён атрымаўся ў мяне найлепей. У папярэднім лісце я даслала Пану тры страфы

з яго. Цудоўны зварот да караля, поўны запалу, але вольны ад усялякае прыніжанасці – менавіта гэтак і належыць прамаўляць нацыянальным паэтам:

<…>

А згадаўшы пра шматлікіх нацыянальных герояў, гэтак заканчвае:

<…>

Чытаючы ліст Пана, мне гэтак захацелася падзяліцца з Панам сваёй працаю, што я цалкам адкінула ўсю аўтарскую ганарыстасць і шлю Пану ажно 23 актавы, хоць сама бачу ў іх шмат недахопаў: маеш іх, Пан, неапрацаваныя, як пяро адным махам накрэсліла. Гэта таксама постаць Афрадыты. Калі Гама[1], цудоўным чынам выратаваны на моры, пачынае здагадвацца пра Божую апеку над сабою, моліцца і пакладаецца на Ласку Божую, Венера спяшаецца на Неба, каб выпрасіць ласку Юпітэра і парушыць зайздросныя планы Бахуса. Гэтая карціна вельмі пластычная – сапраўднае грэцкае абагаўленне фізічнае прыгажосці – і я не старалася яе змякчыць. Думаю, што Вожычак, які чытаў са мною Бадлера, даруе мне яскравасць гэтых строфаў? Кожнае Хараства – святое. Мне падабаецца белы свет статуй, але і *Страшны суд* Мікела́нджэла[2] не быў напісаны для натоўпу. Мысляры толькі яго выхваляюць, бо разумеюць. Я не магу канчаткова адшліфаваць сваю працу яшчэ і таму, што да гэтага часу, нягледзячы на ўсе намаганні, якія чыню, перакладу Яцэка Пшыбыльскага[3] не атрымала, а хацела б параўнаць абодва тэксты.

Яшчэ больш страціць у вачах Пана мая літаратурная слава, калі я далучу сюды два вершы Бадлера, перакладзеныя абы як. Незадаволеная імі, і думаю, што калі-небудзь іх цалкам перараблю[4], але тым часам хачу даслаць Пану адлюстраванне мае думкі, як яна бегла нязваная, нечаканая, – проста так, у пэўны сумны вечар. Чытала сабе, папера і аловак былі пад рукой, – і думка паплыла. Усё гэта я перапісвала для Пана, калі была гэтак моцна хворая, што сабрацца з думкамі і размаўляць не магла; праўда, гэтым дагаджала больш сабе, але ж мела на ўвазе выкананне жадання, выказанага ў лісце Пана, дык хоць, можа, мая праца не споўніць Панскія чаканні, прымі яе як знак добрых намераў. Хібы знаходзь найдрабнейшыя, – за гэта буду ад усяго сэрца ўдзячная, але выгнанніцкія песні зычлівым сэрцам прывітай[5].

З уласнае душы нічога не выснавала, апрача некалькіх дробных песенек, якія, можа, законна Пану належалі б, але іх я не вышлю. Чаму? А навошта Пан сказаў, што каб падумаў, дык не аддаў бы мне тае парафразы[6]

[1] Маецца на ўвазе Васка да Гама (1469–1524), партугальскі даследнік, які здзейсніў марское падарожжа ў Індыю. Герой паэмы Л. Камоэнса.

[2] Маецца на ўвазе знакамітая карціна Мікеланджэла (1475–1564) *Страшны суд* (*Апошні суд*, 1537–1541).

[3] Гаворка пра Яцка Пшыбыльскага (1756–1819), паэта і перакладніка. Ягоны пераклад *Лузіяды* Л. Камоэнса апублікаваны ў 1790 г. у Кракаве.

[4] Пераклады вершаў Ш. Бадлера (з неістотнымі зменамі) былі апублікаваныя ў зборніку *Kwiaty grzechu* (przeł. Adam M-ski, A. Lange, Warszawa 1894, ss. 54, 73).

[5] Не зразумела, пра якія творы ідзе гаворка. У лісце змешчаны толькі пераклады.

[6] Гл. ліст № 1.

мае песні? Але ж думка Пана – прыгожая ды ясная, як братняя сляза, і натхнёная высакароднаю ідэяю падтрымання душы, якая заблукала ды страціла надзею. Мае не такія, мае гэтакія ж тужлівыя ды горкія, як я сама. То і ты, Пан, таксама іх не ўбачыш, а калі нават і прачытаеш, дык не пазнаеш[1].

Хварэючы, я чытала Сафокла ў французскім перакладзе. Які гэта мусіў быць гераічны народ, калі масы захапляліся падобнымі творамі! Народ, які стварыў цудоўную ў сваёй аголенасці Венеру, абыходзіўся без балетаў, аперэтак і ўсіх нашых штучак. Жаночыя характары Сафокла – гэта нешта такое магутнае, што нічога больш прыгожага паэзія, хіба, не стварыла. Ад Дэяніры да Антыгоны[2] іх цэлы шэраг, і нідзе няма моташнае любоўнае авантурнасці. Ні боль, ні смерць не нявечаць іхнія класічныя рысы; узвышаныя ў жыцці – яны застываюць як манументы.

Толькі пераклад, магчыма, і дакладны, але пазбаўлены ўсялякае чароўнасці. Памятаю асобныя фрагменты з-пад пяра Шуйскага[3], – як жа яны іначай гучалі! Чытала таксама старога Андрэ Шанье, не спадзявалася спаткаць такое моцы, якую знайшла ў яго *Le Jeu de Paume*[4]. Сёння атрымала Эсхіла. Можа, гэта грэх заглыбляцца сэрцам у старажытнасці, калі столькі балючых пытанняў рвуць грудзі сучаснікаў? Я часта кажу гэта сабе, але жыву так далёка ад краю, не маю ніякіх сувязяў, жывым ні на што прыдацца не магу, свет мёртвых – гэта мой свет. Маючы на выбар адно толькі *Літоўскую кухарку*[5] альбо пераклады паэзіі, – выбрала апошняе. Ці можна мне прабачыць гэты грэх, Вожычку? Пішу і пішу без канца, з перакладамі гэта будзе ўжо пяты аркуш і гэтакімі дробнымі літарамі; навярэдзіш, Пан, вочы і будзеш на мяне наракаць. Трэба скончыць, а скончу просьбай. Калі прыйдзе Пану пачціваe жаданне напісаць мне, дык напішы, Пан, што з панскімі надзеямі застацца ў краі? Раскажы мне таксама, Пан, пра сваю малую хворую Марыню[6]. Мне гэтак падабаюцца нашыя літоўскія дзяўчаты! Ці яна летуценніца, як у нашыя часы? Ці вясёлая шчабятуха, як Поль[7] апісвае?

---

[1] Відаць, З. Тшашчкоўская гаворыць пра сваю інтымную лірыку, якую планавала апублікаваць.

[2] Маюцца на ўвазе гераіні п'ес Сафокла (496–406 г. да н. э.) *Трахінянкі* (450 г. да н. э.) і *Антыгона* (442 г. да н. э.).

[3] Здаецца, гаворка ідзе пра Юзафа Шуйскага (1835–1883), гісторыка, публіцыста, паэта і перакладніка. Вядомы ягоныя пераклады твораў Эсхіла, Арыстафана, У. Шэкспіра.

[4] Гаворка пра Андрэ Шанье (1762–1794), французскага паэта і палітычнага дзеяча. Аўтара паэмы *Le Jeu de Paume*.

[5] Маецца на ўвазе "кніга рэцэптаў" Вінцэнты Завадскае (1824–1894) *Kucharka litewska: zawierająca przepisy gruntowne i jasne, własnem doświadczeniem sprawdzone, sporządzania smacznych, wykwintnych, tanich i prostych rozmaitych rodzajów potraw tak mięsnych, jak i postnych <…> z przydaniem na początku książki dokładnej dyspozycji stołu*, першае выданне якое выйшла ў Вільні ў 1854 г., а шостае, папраўленае – у 1881 г.

[6] Гаворка пра Марыю Рэгіну Пуслоўскую (1868 – пасля 1939), дачку роднае сястры Фелікса Паўліны Пуслоўскае (1841–1888). У 1890 г. яна стала жонкаю Ф. Зянкевіча.

[7] Маецца на ўвазе паэма Вінцэнта Поля (1807–1872) *Pieśń o ziemi naszej*, выдадзеная ў 1843 г.

Мы былі б радыя як мага больш ведаць пра Пана. Шчыра жадаем, каб Пан не вяртаўся ў наш мілы Ноўгарад; будзеш вельмі карысным сярод сваіх. У Пана па-ранейшаму велізарны энтузіязм – тая сіла маладосці. І я ўяўляю, як Пан яшчэ мусіў памаладзець сярод такое колькасці новых уражанняў у краі! Дык я паўтараю, што мы хацелі б, каб Пан не вяртаўся да нас, але гэта не значыць, што мы ніколі не сустрэнемся. І тады я не хацела б сустрэцца, як чужыя. Я сумняваюся, што зазірне Пан зараз у Варшаву, так сумна там цяпер. Тут нядаўнія падзеі[1] зрабілі цяжкае ўражанне на ўсіх, гэта значыць, на тых, хто хоць крыху мысліць, бо маладое пакаленне не мае ўяўлення пра край. Сумна, але праўдзіва. Дык да пабачэння і дай Божа ў лепшай долі, – шлю Пану гэтыя словы ад Вацлава і ад сябе як па-сапраўднаму прыязная Зоф'я Т.

<…>

* *Ad marginem*: Атрыманы 12/I 1882. Пісаў 18/I 1882.

** *Ad marginem*: Актеон пераменены ў аленя і з'едзены ўласнымі сабакамі за тое, што ён зірнуў на Дыяну, калі тая купалася.

*** *Ad marginem*: За крыніцу салодкае вады ішла барацьба на берагах Мазамбіку.

## № 4

Відаць, ліст Ф. Зянковіча ад 18 студзеня 1882 г. (гл. ягоную пазнаку на папярэднім лісце) З. Тшашчкоўская не атрымала. Аднак, не жадаючы страціць сувязь з былым выгнаннікам, напісала сама.

|37| Marca 19/31º 1882 r. z Nowogrodu

Długo już długo nie mamy wiadomości o Panu! Wyglądałam listu, ale mniejsza o mnie – sądziłam, że Pan napisze do Pana Franciszka, a że On dotąd ani słówka od Pana nie odebrał, obawiam się czy Pana broń Boże co złego nie spotkało? Już i Wacław co dzień prawie pyta – co się dzieje z naszym Jeżykiem? Czemu żadna wieść o nim nie doleci? Dogadzając więc jego chęci i własnéj tęsknéj dumce szlę tych słów kilka jak jaskółkę wiosenną po wieści – oby one tylko dobre były! Chciałoby się wierzyć, że zajęcie interesami, lenistwo lub zwykła niepamięć o oddalonych są przyczyną Pańskiego milczenia – lecz myśmy smutni ludziska i niewesołe przypuszczenia cisną nam się do głowy – więc zechciej Pan nas uspokoić.

Z Nowogrodu mam parę nowin dla Pana. Jedna bardzo miła – oto Pan Franciszek zupełnie uwolniony do Królestwa. Od czasu porzucenia magazynu ocknął się On, uspokoił, znowu serdeczny jak dawniéj, |38| tylko – starszy i słabszy. Obecnie odetchnął, poweselał, żyje nadzieją – ślub Jego odbędzie się między 7ᵐ

---

[1] З. Тшашчкоўская, відаць, мае на ўвазе паніку ў касцёле Святога Крыжа ў Варшаве 25 снежня 1881 г., падчас якое загінула трыццаць чалавек. Паводле плётак, паніку падняў злодзей-жыд, якога злавілі на гарачым учынку. Разгневаныя варшавяне тры дні грамілі дамы заможных жыдоў. Пацярпелі блізу дзесяці тысяч сем'яў.

a 11$^{m}$ Kwietnia i zaraz potém oboje wyjeżdżają do Warszawy. To wielka radość, ale jest i smutek u Sokołowskich: Jadwisia dostała okropnego krwotoku, a chociaż teraz niby zaradzono, nie|wiadomo, czy będzie mogła składać egzamin z 7$^{méj}$ klasy i mnie się zdaje, że z nią bardzo niedobrze. Chcą, żeby Idalka, która obecnie jest nauczycielką w Woroneżu i ztamtąd na wesele przyjedzie, zabrała Jadwigę na kilka miesięcy, zmiana klimatu możeby najwięcéj pomogła, chociaż według mnie, ludziom ubogim, ludziom pracy niesposob ani marzyć o ratunku od suchot.

Dziś już Jadwiga potrzebowałaby innych wygod, innych starań aniżeli biedna matka dać jéj może, a przyszłość jéj toż przecie nic innego tylko ciężka walka o chléb i dach. Szkoda biednego dziecka! –

Mówiłam Panu Franciszkowi, że mam odezwać się do Pana, otóż prosił, żeby donieść Panu, iż meble Pańskie zostaną u P. Sokołowskiéj, $^{w}$ oczekiwaniu, czy Pan |39| ich sam potrzebować będzie czy téż sprzedać każe? Z wyjazdem P. Franciszka, Amelki i Jadwigi Nowogrod stanie się dla mnie jeszcze strasznieszą pustką, bo téż ich troje jedynie tu miała za swoich. Do P. Franciszka mam jakieś prawie dziecięce przywiązanie, nie|tylko dla jego zasług i zacności, ale – on znał tych wszystkich, co promieńmi gwiazd lub płomieniem bolu zapisali się kiedyś w sercu piętnastoletniéj dziewczyny, z nim mówiąc odzyskuję młodość, mogę wywoływać z mogił cienie nawet tych, co w walce z życiem upadli, lecz w naszéj pamięci przechowali się szlachetni na tle jakiejś promienistéj chwili…

Amelkę cenię za jej prawy, otwarty charakter, za pracowitość i odwagę – Jadwiga ma dużo zapału, chce i mogłaby pracować umysłowo, a przytém i marzyć umie... Smutno mi będzie bez nich, ale niech sobie jadą! Życzę im tego z całéj duszy – Nowogrod to jak te bagniska niezgruntowane co powoli wciągają człowieka w swe otchłanie. O innych znajomych nic ciekawego nie mam do doniesienia: pani D–a kłóci się z całym światem; P. Bychowiec jeździł do kraju, bo mu Ojciec był zasłabł nagle, ale wrócił pocieszony; |40| P. Giejsztor, którego znam tylko z widzenia, na proźbę P. Franciszka wykołatał mi z Warszawy *Luzyadę* Przybylskiego. – Zresztą – wszystko po dawnemu.

W naszéj chacie téż niezbyt weseło – od kilku dni Wacław trochę cierpiący i kłopotów różnych ma sporo. Ja w poście przychorowałam ciężko, musiałam leżeć, myslałam, że już stracę władzę w nogach – dzięki Bogu jednak przeszło – czy na długo? nie wiém. Na dwory ciężko niewypowiedzialne. Słońce wiosenne całą siłą świeci w okno, a z niém wraca tęsknota za krajem. I wié Pan – ta tęsknota nie jest u mnie moralną, lecz fizyczną; wiosną i na początku jesieni rady sobie dać nie mogę, czasami jak szalona chciałabym głową bić w ścianę. Dziwny to stan – czasami siedzę nad Camoensem zdaje się zupełnie pochłonięta robotą, naraz staje mi przed oczyma kawał pola lub ogrodu Dorohowickiego oblany słońcem, a tak wyraźnie, że zdaje się o parę kroków odemnie – widzę cień padający od drzew, słyszę ich szum i piersi zaczynają boleć, oddechu brak – ot żeby tam skoczyć, tamtém |41| powietrzem odetchnąć a zdaje się byłabym zdrowa i wszystkie ciężkie mysli z wiatrem uleciałyby od głowy. Ten czas kiedy ptactwo zaczyna przylatywać i kiedy zbiera się do odlotu najgorszy dla mnie. Chciałoby się mówić bez końca o tamtych kątach domowych, a muszę się z tém kryć, bo Wacław

podobne usposobienie uważa za przesadę i nie dziw – On urodził się w mieście a wychował w korpusie kadetów – jakże tu uwierzyć, że kawał rozwalonego płota, lub błotnista jakaś kępina nęci innego człowieka jak Niebiańskie widziadło. – Zle, Jeżyku, a co gorsze – głupio! Ale co począć? Większy nas znawca serc ludzkich powiedział:

Z|taką tęsknotą, jak z karą Bożą,
Już i do trumny ciebie położą –
*Janko Cmentarnik*

Mam jeszcze ćwieka we łbie – najbliższa mi sercem a blizka i krwią istota, kobiéta wielkiego serca, o kilka lat młodsza odemnie biedna nauczycielka wskutek pracy i zmartwień straciła zdrowie – stan jéj jest groźny a ja w nieczém dopomódz jej nie mogę…

Więc téż zapamiętale zaczytuję się w utworach |42| starych pisarzy greckich, obecnie doczytuję „Osy" Arystophanesa. – Z trzeciéj pieśni Camoensa przełożyła téż oktaw sto. Teraz właśnie następuje rozdział o pięknéj a nieszczęsliwéj Inez. Brak mi odwagi przekładać takie to piękne – i od Pana nie dowiedziałam się czy się Panu podobała moja Afrodyta? – Lecz co o tém mówić, kiedy nie wiém co się z Panem dzieje? Doświadczam dziwnéj jakiejś obawy – śmieszne to zapewne, ale nie taję się z tém – jestem trochę zabobonną. – Rzecz dziwna – kiedy pojęcia religijne zmieniają się w miarę rozwoju umysłu, kiedy mysl wyzwala się coraz śmieléj, zabobon zasiany słowem staréj niańki ukrywa się gdzieś w zakątku serca i mimo naszéj woli zapuszcza korzenie! Bądź co bądź, odezwij się Pan choć króciutkiém słówkiem – prosimy o to oboje – uspokoj życzliwych ludzi. – I nie zwlekaj z odpowiedzią, bo 18go Kwietnia już podobno nasi idą do obozu. –

Swięta już tak blisko – czuję to po coraz gorszéj tęsknocie, po gorączkowym napływie wspomnień.

Jeżyku, jak u nas ślicznie przelaszczki kwitły na Wielkanoc! Tatko nam zawsze przynosił. –

Szlę Panu cały tłum życzeń, które się w słowie zawrzeć nie dadzą – bądź zdrów – szczęśliwy a nadewszystko silny – bo na życie tyle sił trzeba! Żegnam Pana od nas obójga – Zofja. –

* *Ad marginem*: Otrzymany 31/III 1882. ss. Pisałem 10/IV 1882.

*Пераклад*

19/31 сакавіка 1882 г., з Ноўгараду.

Даўно-даўно не маем звестак пра Пана! Я вочы прагледзела, чакаючы ліст – але не пра мяне гаворка – думала, што Пан напіша да Пана Францішка[1], а з тае прычыны, што ён да гэтага часу не атрымаў аніводнага слоўка ад Пана, баюся, каб, не дай Божа, чаго кепскага не здарылася. Ужо і Вацлаў амаль кожны дзень пытаецца: што там з нашым Вожычкам? Чаму аніякае

[1] Францішка Далеўскага.

весткі ад яго няма? Дык, дагаджаючы ягонаму жаданню і ўласнай маркотнай думцы, я дасылаю гэтыя словы, як вясновую ластаўку, па навіны, – абы толькі былі яны добрымі. Хочацца верыць, што занятасць справамі, лянота ці звыклая непамятлівасць пра тых, хто далёка, – гэта прычына маўчання Пана, але мы сумныя людцы і невясёлыя здагадкі лезуць нам у галаву, таму, калі ласка, няхай Пан мае ласку нас супакоіць.

У мяне ёсць пару навін для Пана з Ноўгараду. Адна вельмі добрая – Пан Францішак цалкам звольнены ў Каралеўства. Пасля таго, як пакінуў краму, Ён ачомаўся, супакоіўся, зноў стаў сардэчны, як і раней, толькі пастарэў і аслабеў. Цяпер Ён адпачыў, павесялеў, жыве надзеяю; ягоны шлюб адбудзецца паміж 7 і 11 красавіка, і адразу пасля гэтага яны разам едуць у Варшаву. Гэта вялікая радасць, але ёсць і бяда ў Сакалоўскіх: у Ядвісі пачаўся жудасны крывацёк, і хоць цяпер нібы далі яму рады, але невядома, ці зможа яна здаць экзамен за 7 клас, і мне здаецца, што з ёю вельмі кепска. Яны хочуць, каб Ідалька, якая цяпер працуе настаўніцаю ў Варонежы і прыедзе адтуль на вяселле, забрала Ядвігу на колькі месяцаў. Змена клімату, можа, дапамагла б найлепш, хоць, на маю думку, людзям бедным, людзям працы няма чаго і марыць пра выратаванне ад сухотаў.

Сёння Ядвізе патрэбныя ўжо іншыя выгоды, іншыя старанні, чым можа даць ёй бедная маці, і яе будучыня не што іншае, як цяжкая барацьба за хлеб і дах. Шкада беднае дзіця!

Я казала Пану Францішку, што маю намер азвацца да Пана, дык Ён папрасіў паведаміць, што Панская мэбля застанецца ў п. Сакалоўскае, і будзе чакаць, ці спатрэбіцца яна Пану, ці Пан загадае прадаць. З ад'ездам п. Францішка, Амелькі і Ядвігі, Ноўгарад стане для мяне яшчэ больш страшнаю пусткаю, бо толькі іх траіх мела тут за сваіх. У мяне амаль дзіцячая прывязанасць да п. Францішка не толькі за яго заслугі і высакароднасць, але ж Ён ведаў усіх, хто калісьці прамянямі зорак альбо полымем болю ўвайшоў у сэрца пятнаццацігадовай дзяўчыны; размаўляючы з ім, я вяртаюся ў маладосць, магу выклікаць з магілаў цені нават тых, хто загінуў у барацьбе з жыццём, але засталіся ў нашай памяці шляхетнымі на фоне пэўнага зіхатлівага моманту...[1].

Я шаную Амельку за ейны справядлівы, адкрыты характар, працавітасць і адвагу. Ядвіга мае шмат энтузіязму, хоча і магла б працаваць разумова, а яшчэ яна ўмее марыць... Мне будзе маркотна без іх, але хай сабе едуць! Я жадаю ім гэтага ад усяе душы. Ноўгарад падобны на неасушанае балота, што павольна зацягвае людзей у сваю прорву. Пра іншых знаёмых анічога цікавага я не магу сказаць: пані Д–а сварыцца з усім светам; п. Быхавец ездзіў у край, бо ягоны бацька нечакана занядужаў, але вярнуўся ён суцешаны; п. Гейштар[2], якога я ведаю толькі з выгляду, на просьбу п. Францішка здабыў для мяне з Варшавы *Luzyadę* Пшыбыльскага. Зрэшты, усё пастарому.

---

[1] З. Тшашчкоўская піша пра паўстанцаў 1863 г.

[2]Гаворка пра сына Якуба Гейштара Казіміра, які працаваў у Ноўгарадзе на чыгунцы.

У нашай хаце таксама не надта весела: некалькі дзён Вацлаў крыху хварэе і розных клопатаў мае шмат. Падчас посту я цяжка хварэла, давялося ляжаць, думала, што паралізуе ногі. Дзякуй Богу, – прайшло. Ці надоўга? Я не ведаю. На двары нязносна цяжка. З усяе сілы свеціць у вакно вясновае сонца, а з ім вяртаецца і туга па краі. І ведае Пан, гэтая туга ў мяне не маральная, а фізічная; вясною і ранняю восенню я не магу даць сабе рады, часам, як шалёнай, хочацца біцца галавою ў сцяну. Гэта дзіўны стан, часам сяджу над Камоэнсам, здаецца, уся ў працы, і раптам паўстае мне перад вачыма кавалак поля альбо саду дарагавіцкага, заліты сонцам, і так выразна, што здаецца, у некалькіх кроках ад мяне; я бачу цені, якія падаюць ад дрэваў, чую іх шум, і ў мяне пачынаюць балець грудзі, не хапае паветра, – от каб скочыць туды, падыхаць тым паветрам, дык, здаецца, я была б здаровая, і ўсе цяжкія думкі з ветрам вылецелі б з галавы. Той час, калі птушкі прылятаюць і калі збіраюцца ў вырай, – для мяне самы кепскі. Хочацца бясконца гаварыць пра родны кут, але мушу гэта хаваць, бо Вацлаў падобны настрой лічыць празмернасцю; і не дзіва: ён нарадзіўся ў горадзе, а выхоўваўся ў кадэцкім корпусе – як жа паверыць, што кавалак паламанага плота ці нейкая балотная купіна прыцягвае іншага чалавека як Нябесная мроя. Кепска, Вожычак, і што горш – неразумна! Але што рабіць? Большы за нас знаўца сэрцаў людскіх сказаў:

З такою тугой, як з караю Божай,
Цябе ўжо і ў дамавіну паложаць.
*Janko Cmentarnik*[1]

Маю яшчэ адну стрэмку ў мазгах: самая блізкая мне душою і родная па крыві істота[2], кабета вялікага сэрца, маладзейшая за мяне на некалькі гадоў бедная настаўніца страціла здароўе праз працу і засмучэнні; яе стан небяспечны, а я не магу ёй нічым дапамагчы...

Дык я заўзята зачытваюся творамі старажытнагрэцкіх пісьменнікаў, цяпер дачытваю *Восы* Арыстафана. З трэцяе песні Камоэнса пераклала ўжо актаваў сто. Дайшла да раздзела пра прыгожую і няшчасную Інес. У мяне няма адвагі перакладаць гэткае хараство, – і ад Пана не даведалася: ці спадабалася Пану мая Афрадыта? Але што пра гэта казаць, калі я не ведаю, што з Панам дзеецца? Адчуваю дзіўны нейкі страх: гэта, пэўна, смешна, але не хаваю гэтага – я крыху забабонная. Дзіўная справа! калі рэлігійныя паняцці змяняюцца з развіццём розуму, калі думка вызваляецца ўсё больш смела, забабоны, пасеяныя словамі старое нянькі, хаваюцца дзесьці ў куточку сэрца і па-за нашай воляй пускаюць карані! Як бы там ні было, адзавіся, Пан, хоць кароценькім слоўцам; абое мы просім пра гэта, супакой зычлівых лю-

---

[1] Радкі з гутаркі Уладзіслава Сыракомлі *Janko Cmentarnik* (1856). Герой гэтага твора, селянін Янка, пасля вайны 1812 г. сорак гадоў туляўся на эміграцыі, даглядаючы свайго параненага пана. Ён сумуе па бацькаўшчыне, ад якое адарвала яго залежнасць ад свайго гаспадара. Відавочная алюзія З. Тшашчкоўскае на свой лёс.

[2] Гаворка пра Альдону Раецкую.

дзей. І не затрымлівайся з адказам, бо 18 красавіка нашы, падобна, выйдуць у лагер[1].

Святы ўжо так хутка[2]; адчуваю гэта па ўсё горшай і горшай маркоце, па ліхаманкавым наплыве ўспамінаў.

Вожычак, як у нас прыгожа цвілі на Вялікдзень пралескі[3]! Тата нам заўсёды іх прыносіў.

Высылаю Пану цэлы рой зычэнняў, які словамі выказаць немагчыма: будзь здаровы, шчаслівы і – перш за ўсё – моцны, бо каб жыць, трэба столькі сілаў! Я развітваюся з Панам ад нас абодвух. Зоф'я.

* *Ad marginem*: Атрыманы 31/III 1882. ст ст. Пісаў 10/IV 1882.

## № 5

Падобна на тое, што адказ Ф. Зянковіча на папярэдні ліст З. Тшашчкоўскае таксама не трапіў у Ноўгарад.

|43| Lipca 13º 1882 roku, z Dorohowicy

Czy to pięknie proszę Pana tak zupełnie zapomnieć o życzliwych ludziach? Nie przypuszczałam, żebyś Pan miał powod gniewać się za co? – Pan Franciszek powtarzał mi, że Pan nie zwykł pozastawiać listy bez odpowiedzi – to też najczarniejsze mysli cisnęły się do głowy, do takiego stopnia, że kiedy otrzymaliśmy z Warszawy wiadomość, że Pan żyje i bawi w kraju to Wacław krzyknął: Chwałaż Bogu! nie pytaliśmy już w owéj chwili o nic więcéj… Podobno będzie Pan zmuszony wrócić do Nowogrodu? Żal mi Pana serdecznie, Nowogrod jest obrzydliwą dziurą, lecz jesli los skazał Pana na dłuższą tułaczkę może ten zakąt, gdzieś Pan tyle serc pozyskał, nie będzie gorszym od innych? Szérokie pole znajdziesz [Pan] do czynienia dobrze; z wyjazdem Pana Franciszka zagasła ostatnia gwiazdka nad Nowogrodem: nie brak tam ludzi nie złych, lecz brak najzupełniejszy wszystkiéj podnioslejszéj mysli…

Lękam się prawie wypowiedzieć samolubną dumkę ilebym to ja skorzystała ze słów |44| Pańskich? Zresztą, takie rojenia uwzględnione i przebaczone być powinny, bom ja nigdy nie miała sposobności kształcenia się na serio a pragnienie

---

[1] Маецца на ўвазе выезд артылерыйскае брыгады, у якой служыў Вацлаў, у летні лагер.

[2] У 1882 г. Вялікдзень паводле новага стылю святкавалі 9 красавіка.

[3] Правільна: *przylaszczki* (Hepatica) – пралескі. З тае прычыны, што рэдактар газеты "Życie", публікуючы верш Адама М-скага *Mieniuszka* (1888, nr 28, 14 lipca), "нератлумачыў" назву на польскую мову як *pierwiosnek* (Primula), у беларускім перакладзе тытул падаецца як *Пралеска*. Насамрэч, З. Тшашчкоўская адрознівала пралескі ад мінушак (Chrysosplenium). Праўда, яна не ведала, як мінушкі называюцца папольску (*śledziennica*): "Posłałem Sz. Panu wiersz pod tytułem *Mieniuszka*, jest to ludowa nazwa kwiatu, którego nazwy polskiej ani botanicznej nie znam". Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 6/18 лютага 1888 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska, *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 100.

tego piersi mi wypaliło: biję się z myslami, zbieram okruchy nauki, ale we wszystkiém brak mi podstawy więc błądzę na oslep wysilając mózg i targając zdrowie. W Pańską wiedzę tak wierzę, że słuchałabym Pana jak pokorny uczeń – cóż za dziw, że mi niekiedy błyska z za mgły chwila, gdy Panu wypowiedzieć będę mogła wątpliwości powstające chaotycznie w moim umysle? Lecz niéma co mówić o tém, jest to jedno ze złudzeń prawdopodobnie: to właśnie, co jest jedynie dobrém i zacném we mnie zawsze mi zawod przynosi. –

Smutna to rzecz proszę Pana, że kobiecie łatwo jest stroić się, być zalotnicą lub cackiem bezmyslném, lecz jesli zawoła: ludzie bracia dajcie mi skierkę waszego światła! – Żaden głos nie odpowié jéj echem. Dla czego? –

Od kilku dni bawimy się pod dachem Ojca mojego – tęskniłam strasznie, a jednak dziś cieszyć się nie mogę, gdyż wiém, że bardzo niedługo tu pozostaniemy. Gdzie się obrócimy? – jeszcze na pewno powiedzieć nie|można. Całą wiosnę chorowałam |45| dość ciężko i Wacław uroił sobie żebym do wód jechała – co do mnie – to sądzę, że szkoda czasu i pieniędzy: wolałabym pojechać na dni kilka do Warszawy a potém do Krakowa, spójrzeć na świat Boży i znowu do Dorohowicy powrócić. Wierzę w leczebną siłę rodzinnego powietrza. – Nie mogę jednak opierać się i zapewne 20 lub $21^{go}$ wyjedziemy do Horodzieja (stacja kolei) a ztamtąd na Brześć do Warszawy po poradę lekarską, po wyrok dokąd jechać mamy. – Żal mi będzie témbardziéj Dorohowicy, że się tu obecnie zjechali krewni moi po Matce, których kocham serdecznie. (Los tak zrządził że Ojcowskiéj rodziny prawie nie znam). Bawią tu dwie moje siostry cioteczne, z nich jedna narzeczona, urocze stworzenie, druga straciła już wdzięk młodości, lecz jest to najszlachetniejsze serce jakie znam i łączą nas od dawna bardzo bliskie stosunki. –

Mam też braciszka, który skończył szkołę realną i wybiera się do instytutu technologicznego w Petersburgu. – Może i nasze Swięta w Nowogrodzie nie będą takie smutne, gdy Karolek wpadnie i swoją wesołością nas ożywi? Sród tych młodych |46| i my się odmładzamy; Wacław ma niezmiernie pogodne usposobienie od natury więc też bawi się jak dziecko, a i ja czasami skaczę i hałasuję z nimi jak za młodych lat. –

Potrzeba nam tego wytchnienia, bo i ciężkich chwil nie mało: przed samym wyjazdem do obozu Wacław stracił najmłodszą siostrę, ja – ciotkę staruszkę, która w mojém życiu niemałą rolę odegrała i którą bardzo kochałam i zobaczyć pragnęłam. Na pociechę Antek nasz przeszedł do $2^{giej}$ klasy. – W Nowogrodzie wszystko jakieś Pan zostawił, sądzę tylko że się parę weselisk gotuje. Myśmy byli zmuszeni zmienić mieszkanie – dostaliśmy niezłe wcale, ale dla mnie pakować się z obozu, poslem poruszyć dom cały i zaraz znowu ruszać w drogę to było trochę za ciężko. – Może bez żadnego sensu plotę Panu? Ale w dzień ciągły gwar ani mysleć o pisaniu, a teraz noc już i bardzo późna, tęskno, nazbierało się dużo kropelek goryczy wzięłam więc pióro i gawędzę z Panem, lecz liter prawie nie widzę. – Mysl leci ku Panu często bardzo, teraz zwłaszcza kiedy Wacław tak często blizkim naszym o Panu opowiada. – Szkoda że nie potrafię Panu wypowiedzieć jaka nasza Dorohowica śliczna! Tu moi żyli i mysli – tubym i głowę położyć

chciała. – Gdybyś Pan zechciał mi odpowiedzieć – oto adres: Минской губ. Г. Несвижъ для передачи въ имѣніе Дороговицу Зофіи Тржещковской. Gdybyśmy wyjechali Mama list do Warszawy przeszle. Żegnam Pana od siebie i od Wacława serdeczném pozdrowieniem – i zostaję z głębokim szacunkiem i przyjaźnią. Zofja T. –

* *Ad marginem*: Otrzymany 18/22 VII 1882. Odpisałem ~~22~~ 3/VIII 1882.

*Пераклад*

13 ліпеня 1882 года, з Дарагавіцы

Ці ж гэта добра, ласкавы Пане, зусім забыцца пра зычлівых людзей? Я не ўяўляю сабе, што ў Пана ёсць нагода гневацца за нешта. Пан Францішак увесь час казаў мне, што Пан не мае звычкі пакідаць лісты без адказу, дык самыя чорныя думкі лезлі мне ў галаву да такое ступені, што калі мы атрымалі паведамленне з Варшавы[1]: Пан жывы і бавіцца ў краі, Вацлаў закрычаў: Слава Богу! У тую хвіліну мы ні пра што іншае не пыталіся... Падобна, Пана прымусяць вярнуцца ў Ноўгарад[2]? Шкада мне Пана шчыра, Ноўгарад – агідная глухамань, але калі лёс наканаваў Пану доўгае туляцтва, дык, можа, гэты закутак, дзе Пан заваяваў столькі сэрцаў, будзе не горшы за іншыя? Шырокае поле Пан знойдзе, каб плённа працаваць; з ад'ездам пана Францішка згасла апошняя зорка над Ноўгарадам: някепскіх людзей не бракуе, але цалкам адсутнічае ўзнёслая думка...

Мне аж страшна вымавіць эгаістычную думку: як бы я выкарыстала словы Пана! Зрэшты, гэткія мроі трэба прымаць да ўвагі і дараваць, бо ў мяне ніколі не было магчымасці вучыцца сур'ёзна, а жаданне гэтага грудзі мне спаліла: б'юся над думкаю, збіраю крыхі навукі, але не маю асноваў, дык блукаю ўсляпую, знясільваючы мазгі і трацячы здароўе. У веды Пана я веру настолькі, што слухала б Пана, як паслухмяны вучань. Нічога дзіўнага, што мне часам бліскае праз імглу хваля: буду мець магчымасць выказаць Пану сумненні, якія бязладна ўзнікаюць у маёй свядомасці. Але няма чаго і казаць; праўдападобна, гэта адна з ілюзій: уласна тое, што ўва мне ёсць добрага і сумленнага, заўсёды прыносіць мне прыкрасць.

Сумная гэта справа, ласкавы Пане, што кабеце лёгка мяняць строі, быць залётніцаю альбо бяздумнаю цацкаю, але калі яна загукае: людзі, браты, дайце мне іскрынку вашага святла! Аніводны голас не адгукнецца ёй рэхам. Чаму?

Ужо некалькі дзён мы бавімся пад дахам майго бацькі. Мне гэта страшэнна не ставала, аднак сёння я не магу цешыцца, бо ведаю, што мы будзем тут вельмі мала. Куды паедзем? Сёння немагчыма сказаць пра гэта дакладна. Усю вясну я даволі цяжка хварэла, і Вацлаў надумаў, каб я ехала на

[1] Звесткі мог падаць З. Тшашчкоўскай Ф. Далеўскі ці ягоная жонка Амелія.

[2] 9 чэрвеня 1882 г. цар Аляксандар III дазволіў Ф. Зянковічу на стала пасяліцца на бацькаўшчыне пры ўмове аказання сваякамі былому палітычнаму выгнанніку матэрыяльнае дапамогі.

воды; што тычыцца мяне, дык лічу: гэта пустая трата часу і грошай: лепш бы паехаць у Варшаву[1] на некалькі дзён, а потым у Кракаў, паглядзець на свет Божы і зноў вярнуцца ў Дарагавіцу. Я веру ў гаючую сілу роднага паветра. Аднак я не магу супраціўляцца, і, відавочна, 20-га ці 21-га мы паедзем у Гарадзей[2] (чыгуначная станцыя), а адтуль – праз Брэст у Варшаву, па медыцынскую кансультацыю, па вырак, куды нам ехаць. Мне тым больш будзе шкада Дарагавіцы, што сюды цяпер прыехалі мае сваякі па матчынай лініі, якіх я вельмі люблю. (Лёс так наканаваў, што я амаль не ведаю родных па бацькоўскай лініі). Тут зараз дзве мае стрыечныя сястры[3], адна з іх – нявеста, чароўная істота, а другая ўжо страціла гожасць маладосці, але гэта самае высакароднае сэрца, якое я ведаю, і лучаць нас здаўна вельмі блізкія дачыненні.

У мяне ёсць таксама брат[4], які скончыў рэальную школу і едзе ў тэхналагічны інстытут у Пецярбургу. Можа, і нашыя святы ў Ноўгарадзе не будуць такімі сумнымі, калі Каролек з’явіцца і ажывіць нас сваёю весялосцю? Сярод гэтых маладых людзей і мы маладзеем; у Вацлава вельмі жыццярадасны настрой ад прыроды, дык ён таксама бавіцца як дзіця, а і я часам скачу і мянташу языком з імі, як у маладыя гады.

Нам патрэбны гэты адпачынак, бо і цяжкіх хвілін было нямала: перад самым ад’ездам у лагер Вацлаў страціў самую малодшую сястру[5], я – старую цётку, якая адыграла значную ролю ў маім жыцці, і якую я любіла ды хацела пабачыць[6]. На пацеху наш Антак[7] перайшоў у 2-гі клас. У Ноўгарадзе ўсё засталося так, як Пан пакінуў, адно што рыхтуецца пара вяселляў. Мы былі вымушаныя памяняць кватэру; атрымалі цалкам неблагую, але мне, каб спакаваць рэчы пасля лагера, потым перавярнуць увесь дом і зноў

---

[1] У Варшаве ў той час жыла маці В. Тшашчкоўскага – Марыянна (Марыя) з дому Вальтэр Тшашчкоўская (памерла ў кастрычніку 1883 г. ва ўзросце 75 гадоў), а таксама, магчыма, брат Вінцэнты Войцех (1830–1897) і сёстры Эва Марыянна (1832 – ?), Зюзанна Ружа (1835–1907), Юлія Антаніна (1841 – ?). Прынамсі, Вінцэнты (побач з бацькам – Мікалаем Міхалам, маці, і сястрою Каралінаю Марыяннаю) пахаваны ў родавай магіле Тшашчкоўскіх на Павонзках. Гл.: *Warszawskie Zabytkowe Pomniki Nagrobne* [online] https://cmentarze.um.warszawa.pl/ pomnik.aspx?pom_id=10781 [доступ: 5.03.2021].

[2] З. Тшашчкоўская выкарыстоўвае правільную назву чыгуначнае станцыі – Гарадзей, хоць у той час расейская адміністрацыя ўжо шырока выкарыстоўвала слова “Гарадзея”.

[3] Маюцца на ўвазе стрыечныя сёстры З. Тшашчкоўскае Альдона (яна была маладзейшая за Зоф’ю на тры гады) і Аляксандра Раецкія.

[4] Невядома, пра каго ідзе гаворка. Але, здаецца, Каролек не быў родным братам Зоф’і. Хутчэй, стрыечным. Сынам матчынае сястры ці брата.

[5] Гаворка, відаць, пра Караліну Марыянну Тшашчкоўскую 1843 г. н., якая памерла 5 мая 1882 г.

[6] Відаць, гаворка пра матчыную сястру (?) з роду Раецкіх.

[7] Невядома, каго З. Тшашчкоўская называе “наш Антак”. Але гэта не сын ейнае роднае сястры Марыі Філамены (у замужжы – Румбовіч). Марыя і Генрык Румбовічы былі бяздзетныя.

рушыць у дарогу, было трохі цяжкавата. Можа, без сэнсу вярзу Пану? Але ўдзень пастаянны гоман, дык няма чаго і думаць пра тое, каб пісаць, а цяпер ужо ноч і вельмі позняя, сумна, назбіралася шмат кропелек горычы, дык я ўзяла пяро і размаўляю з Панам, але літар амаль не бачу. Думка мая вельмі часта ляціць да Пана, асабліва цяпер, калі Вацлаў увесь час апавядае пра Пана нашым сваякам. Шкада, што не патраплю выказаць Пану, якая прыгожая нашая Дарагавіца! Тут жылі мае думкі, тут бы і галаву складці хацела. Калі б Пан захацеў мне адказаць – вось адрас: Минской губ., г. Несвижъ для передачи въ имѣніе Дороговицу Зофіи Тржещковской. Калі б мы выехалі, мама перашле ліст у Варшаву. Я развітваюся з Панам ад сябе і ад Вацлава сардэчным паклонам ды застаюся з глыбокаю павагаю і прыязнасцю Зоф'я Т.

* *Ad marginem*: Атрыманы 18/22 VII 1882[1]. Адпісаў ~~22~~ 3/VIII 1882.

## № 6

З. Тшашчкоўская, магчыма, спадзяючыся сустрэцца з Ф. Зянковічам у Варшаве, адразу адказвае на ягоны ліст. Праўдападобна, што свой ліст яна датуе паводле новага стылю.

|47| 2º Września 1882 r., z Cieplic

Dziwnie się z tą naszą korespondencją nie klei; list Pański przyszedł do Dorohowicy kiedy już mnie tam nie było, rozpoczął więc wędrówkę z rąk w ręce aż dopiero wczora trafił do Cieplic. Listu Pańskiego pisanego w Kwietniu ani kartki do Pana Franciszka nie otrzymałam wcale; w ogóle, od czasu wyjazdu Pańskiego, doszły mię tylko dwa listy od Pana, sama zaś pisałam razy cztéry. – O jakże mi żal tych kartek, których tak wyglądałam a które mi jakaś niepoczciwa fatalność wydarła! Cieszę się jednak, że taka a nie inna była przyczyna Pańskiego milczenia, bo czasami ogarniała mię obawa, czy moje listy zbyt szczére i śmiałe nie podrażniły, nie zraziły Pana? Widzi pan, ja tak młoda wyjechała z kraju i tyle lat przeżyła w strasznéj głuszy, z własnémi myslami tylko, że czasami nie jestem w stanie pamiętać o formach towarzyskich i zawsze się boję, co inni na to powiedzą? Ot i teraz niedawno zrobiłam mały |48| wybryk i opłaciłam go wielką przykrością, ale Bóg mi świadkiem, żem nie wiedziała, że to wybryk, a zresztą, mysl miałam tak jasną i spokojną, żebym się na własną córką lub siostrę za nic podobnego nie skrzywiła, ale trudno wymagać, żeby wszyscy po naszemu sądzili? – Daremna jednak nauka; rozbijam łeb, napiję się nieraz goryczy, lecz nie mogę się zmienić w tém, co stało się drugą naturą moją. Albo milczę odrętwiała, co nieraz trwa lata całe, albo kiedy mię kto do życia rozbudzi mówię i piszę

[1] Дата пададзеная з памылкаю. Калі З. Тшашчкоўская датавала свой ліст старым стылем (13 ліпеня 1882 г.), дык Ф. Зянковіч атрымаў яго 18/30 ліпеня (а не 18/22 VII).

wprost co mi mysl i serce pod pióro przyniosą; – nie umiém być sama ~~xxxx~~ dla siebie cenzorem, a potém dręczę się obawą, czy czego trzy po trzy nie splotła?

Jeżyk nie gniewa się i nie zapomniał o nas to i zgoda – tylko po|co mię Pan w liście ochrzcił Marją? to imie mojéj siostry, a ja tak lubię swoje własne, bo mi ono przypomina serdeczniejsze „Zośka” jak mię wołał Ojciec i jak dotąd włościanie nazywają. –

Z naszych dziejów mogę donieść Panu, że za dwa dni wyjeżdżamy z Teplitz do Krakowa, gdzie zabawimy trzy dni, 8go zaś (nowy styl) wieczorem przyjedziemy do Warszawy, |49| lecz na bardzo krótko(do 13go). I znowu fatalność, Pan może w parę dni po nas przyjedzie a my nie możemy zatrzymać się ani dnia dłużéj tak już czas wyliczony. Bóg wié, kiedy się zobaczymy? Mam jakąś wiarę, że Panu los oszczędzi dalszéj tułaczki, my zaś o prędkim przyjeździe do kraju ani marzyć nie możemy.

A któż rzuci promyk światła w moje mysli chaotyczne, ciemne? Kiedyś mówiłam wszystkim ponętom szczęścia – oddaję was za swobodę mysli! Ale cóż z mysli bez wiedzy? rojenia fantastyczne, kilka chwil może jasnowidztwa w przyszłość i – nic więcej…

Pobyt w Teplitz nie był przyjemny: pogoda była szkaradna, znajomości żadnych, a na dobitkę, hotel nasz okradziono i nam odzienia najmniéj na 150 guldenów zginęło, a głównie, że najpotrzebniejsze rzeczy, które trzeba było zaraz kupować i przepłacać. –

Zawadzała nam téż nieznajomość niemieckiego języka: Wacław nie zna go wcale, ja uczyłam się trochę w zakładzie, alem zupełnie zapomniała – przez zimą myslę nad niemczyzną popracować. – Obecnie cieszę się nadzieją, |50| że siostra moja cioteczna przyjedzie może do nas na zimę, jest to biédne, złamane życiem stworzenie, niegdyś żywe jak skra i urocza jak kwiat – ale sieroctwo to ciężka szkoła… Mnie z Olą łączy przyjaźń dawna i – żadnéj innéj kobiéty tak nie szanuję. – W Warszawie spędziliśmy miłą chwilę w domu P. Franciszka – on powesełał, Amelka serdeczna i – szczęśliwa – a za parę miesięcy złoty Anioł przyjdzie przez chatę i przyniesie kolébkę… Ojcowskiéj zacności ale nie ojcowskiéj doli trzeba życzyć pisklęciu.

I Pańskie życie nie do zazdrości! wyobrażam sobie co to jest sprzedawać kąt rodzinny, bo i nas to może w przyszłości czeka – a te figury obce, targujące się obojętnie muszą się stawać nienawistnémi. Pan swojém kochającém sercem musisz ogarniać Siostrę, Jéj dziatwę, rodzinę całą i – cierpieć za wszystkich? –

Lepiéj nie mówić o tém i Pana nie drażnić. Do widzenia, Jeżyku, gdzie i kiedy? Nie wiém, ale to pewne, że się zawsze życzliwém sercem powitamy. Wacław szle Panu serdeczne pozdrowienie. 7go Września (stary stal) będziemy już w Nowogrodzie, adres dawny, proszę więc przypomnieć sobie o nas niekiedy i odezwać się do prawdziwie przyjaznéj Panu Zofji T.

* *Ad marginem*: Otrzymany 29.VIII/10.IX. 82. Odpisałem 11/23. XII.1882.

*Пераклад*

2 верасня1882 г., з Цепліц[1]

Як дзіўна, што гэтая наша карэспандэнцыя не клеіцца; ліст Пана прыйшоў у Дарагавіцу, калі мяне ўжо там не было, дык ён пачаў сваю вандроўку з рук у рукі, аж толькі ўчора трапіў у Цепліцы. Ні ліста Пана, пісанага ў красавіку, ні паштоўкі да пана Францішка я зусім не атрымала; увогуле, з часу ад'езду Пана дайшлі да мяне толькі два лісты ад Пана[2], сама ж я пісала разы чатыры[3]. О, як жа мне шкада тых картак, якія я гэтак выглядала і якія нейкая прыкрая фатальнасць вырвала ў мяне! Аднак я цешуся, што прычына Панскага маўчання была гэтакая, а не іншая, бо часам баялася: ці мае лісты, шчырыя і смелыя, не разгневалі і не напалохалі Пана. Ведае, Пан, я ў вельмі маладым веку выехала з краю і столькі гадоў пражыла ў страшэннай глухамані, толькі з уласнымі думкамі, што часам не ў стане памятаць пра тарыскія звароты і заўсёды баюся, што пра гэта скажуць іншыя? Вось нядаўна дазволіла сабе невялікае свавольства і заплаціла за гэта вялікаю прыкрасцю, але Бог мне сведка: я не ведала, што гэта свавольства; зрэшты, у мяне была такая ясная і спакойная думка, што на ўласную дачку ці сястру за нешта падобнае не скрывілася б, але цяжка вымагаць, каб усе меркавалі так, як мы. Але дарэмная навука; разбіваю галаву, не раз нап'юся горычы, але не магу змяніць тое, што сталася маёй другой натурай. Альбо маўчу здранцвелая, што часта працягваецца гадамі, альбо, калі хтосьці абудзіць мяне да жыцця, я кажу і пішу непасрэдна тое, што думка і сэрца падказваюць пяру. Я не ўмею быць цэнзарам сама ~~хххх~~[4] для сябе, а потым пакутую ад страху, ці не напляла якое лухты.

Вожычак не гневаецца і не забыўся пра нас, дык і добра, але чаму Пан ахрысціў мяне ў лісце Марыяй[5]? Гэта імя маёй сястры[6], а мне так падабаецца маё ўласнае, бо нагадвае мне больш сардэчнае "Зоська", як мяне называў бацька і да гэтага часу называюць сяляне.

Пра нас магу паведаміць Пану, што праз два дні мы выязджаем з Цепліцаў у Кракаў, дзе забавімся тры дні, а 8-га (новы стыль) вечарам прыедзем у Варшаву, але на вельмі кароткі час (да 13-га). І зноў фатальнасць, Пан, магчыма, праз некалькі дзён пасля нас прыедзе[7], а мы не можам застацца ні

[1] Горад Цепліцы на паўночным захадзе Чэхіі. Бальнеалагічны курорт.

[2] З пазнакаў Ф. Зянковіча на лістах З. Тшашчкоўскае бачна, што ён пісаў адказы на ўсе чатыры лісты паэткі.

[3] Сапраўды, З. Тшашчкоўская пісала да Ф. Зянковіча 7 лістапада 1881 г., 6 студзеня 1882 г., 19/31 сакавіка 1882 г. і 13 ліпеня 1882 г.

[4] Слова старанна выкрасленае.

[5] Хросныя метрыкі З. Тшашчкоўскае сведчаць, што яна мела другое імя Марыя. Але невядома, ці ведаў Ф. Зянковіч пра гэта, ці проста памылкова назваў паэтку Марыяю.

[6] Маецца на ўвазе Марыя Філамена з Манькоўскіх Румбовіч.

[7] У той час Ф. Зянковіч жыў у маёнтку Тытуса і Паўліны Пуслоўскіх (сястры і ейнага мужа) Зубачы Брэсцкага павета і чакаў дазволу варшаўскага генерал-губернатара

на дзень даўжэй, бо так ужо разлічаны час. Бог ведае, калі мы ўбачымся? Я веру ў тое, што лёс пазбавіць Пана ад далейшага туляння, а вось мы не можам і марыць, што хутка вернемся ў край.

А хто ж кіне праменьчык святла ў мае хаатычныя, цёмныя думкі? Раней я казала ўсім спакусам шчасця: аддаю вас за свабоду думкі! Але што ад думкі без ведаў? Фантастычныя мроі, некалькі імгненняў, можа, прадбачанне будучыні і нічога больш.

Побыт у Цепліцах не быў прыемны: надвор'е было жудаснае, аніякіх знаёмстваў, а ў давяршэнне – наш гатэль быў абрабаваны і мы страцілі вопраткі сама мала на 150 гульдэнаў, а галоўнае – самыя патрэбныя рэчы, якія давялося купляць і пераплачваць.

Перашкаджала нам і няведанне нямецкае мовы[1]. Вацлаў яе зусім не ведае, а я крыху вывучала ў пансіёне, але зусім забылася; зімою, думаю папрацаваць над нямецкаю. Цяпер я цешуся надзеяй, што мая стрыечная сястра прыедзе да нас на зіму: гэта бедная, зламаная жыццём істота, а калісьці жывая, як іскра, і прыгожая, як кветка, але сіроцтва – гэта цяжкая школа...

Мяне з Оляю[2] лучыць даўняе сяброўства, і аніякае іншае кабеты так не шаную. У Варшаве мы правялі прыемныя хвіліны ў доме п. Францішка. Ён павесялеў, Амелька сардэчная і – шчаслівая – праз пару месяцаў залаты Анёл праляціць праз хату і прынясе калыску... [3]. Бацькоўскае высакароднасці, а не бацькоўскае долі трэба зычыць немаўляці.

І жыццю Пана не пазайздросціш! Я ўяўляю, як гэта – прадаваць родны кут[4], бо і нас, можа, тое самае ў будучыні чакае; а тыя чужынцы, што нахабна таргуюцца, мусяць выклікаць нянавісць. Пан сваім вялікім сэрцам павінен атуліць сястру, яе дзяцей, усю сям'ю і – пакутаваць за ўсіх.

Лепш не гаварыць пра гэта і не цвяліць Пана. Да пабачэння, Вожычак; дзе і калі? Не ведаю, але пэўна тое, што мы заўсёды зычліва прывітаем адзін аднаго. Вацлаў дасылае Пану сардэчны паклон. 7-га верасня (стары стыль) мы будзем у Ноўгарадзе, адрас даўні[5], дык прашу згадваць часам пра нас і адзывацца да сапраўды прыязнае Пану Зоф'і Т.

* *Ad marginem*: Атрыманы 29.VIII/10.IX. 82. Адпісаў 11/23. XII.1882[6].

---

наведаць сваякоў у Варшаве і Седлецкай губерні. Атрымаўшы яго ў сярэдзіне верасня 1882 г., адразу выехаў у Варшаву. Вярнуўся ў Зубачы ў снежні 1882 г.

[1] З. Тшашчкоўская, аднак, здолела навучыцца чэшскай мове, што дазволіла ёй пазней перакласці *Магдалену* Ёзэфа Сватаплука Махара.

[2] З. Тшашчкоўская мае на ўвазе – хутчэй за ўсё – Альдону.

[3] Напрыканцы 1882 г. нарадзілася дачка Францішка і Амеліі Далеўскіх Зыгмунта. Памерла 21.09.1960 г. у Варшаве. Пахаваная ў сямейнай магіле [побач з бацькамі і сёстрамі – Аннаю (1887–1942), Зоф'яю (1888–1929) і Марыяю (1889–1958)] на Павонзках.

[4] Маёнтак Паўліны і Тытуса Пуслоўскіх Зубачы ў 1883 г. адмысловая камісія апісала і выставіла на аўкцыён на вельмі некарысных умовах для гаспадароў.

[5] Звернем увагу: у папярэднім лісце З. Тшашчкоўская пісала пра змену кватэры.

[6] Праз некалькі дзён пасля атрымання ліста ад З. Тшашчкоўскае Ф. Зянковіч выехаў на некалькі месяцаў у Варшаву і Седлецкую губерню. Пэўна, толькі вярнуўшыся ў Зубачы ён напісаў адказ.

## № 7

На ліст Ф. Зянковіча ад 11/23 снежня 1882 г. З. Тшашчкоўская доўга не адказавала (прычыны – у лісце паэткі ад 12 сакавіка 1883 г.). Пазнака Ф. Зянковіча, калі ён адказаў на дадзены ліст З. Тшашчкоўскае, тут адсутнічае.

|51| * Marca 12go 1883 r., z Nowogrodu

„byłabyś, Pani, chyba nie kobiétą, gdybyś nie pogniewała się czasami na tego Jeżyka...”

Więc – chyba nie jestem kobiétą? bo ani mi się się[1] śniło o gniewie. I za cóż miałabym się gniewać na Pana? Jako kobiéta? może? – ale ja nie znam się na tém. Jako prostak pieśniarz ludowy potrafię przecież zrozumieć, a bardziéj jeszcze odczuć, coś Pan przeżył témi czasy, jaka walka bolu, pragnień, nadziei, zwątpień i rozpaczy szarpała serce Pańskie? Wyobrażam sobie, że pomimo radości z powitania kraju i rodziny, musiałeś Pan przepędzić rok przeszły w strasznéj gorączce, i chyba hartowi duszy zawdzięcza Pan, że ta gorączka Pana nie spaliła, bo-ś ile sądzić mogę z fotografji – poprawiłeś się Pan znacznie i – odmłodniałeś! –

Ucieszyliśmy się niezmiernie wiadomością o wyzwoleniu Pańskiém; Wacław zżymał się i dąsał, gdym mu czytała o tych pięciomiesięcznych „sekretach”, a teraz zasyła Panu życzenie wszelkiego możliwego szczęścia na jakieś Pan przeszłością swoją zasłużył. –

Polecenie Pańskie, co do mebli pozostawionych u Pani S–kiéj, natychmiast załatwiłam. Zdaje mi się, że przyjęto z wdzięcznością – pani S. miała sama do Pana napisać – obecnie bawi u Dalewskich. –

A dla czegoż nie pisałam tak długo? Och, bo przez te parę miesięcy, Jeżyku, toczyłam ciężką walkę moralną, któréj szczegółów nie będę opowiadała, gdyż musiałabym |52| niepochlebnie wyrażać się o innych, a przecież właśnie dla uniknienia zbytniéj goryczy nie pisałam do Pana. Treść taka – przyjechała do mnie siostra moja cioteczna, istota niezmiernie szlachetna i rozumna a złamana ciężką walką życia i pracą dla rodziny, chciałam ją zatrzymać na dłużéj, żeby odetchnęła i wypoczęła, chciałam stać się na czas jakiś jéj nianią jak za dni naszego dzieciństwa i – nie mogłam. Rozwiała się znowu jedna z ostatnich złud moich, bo ja do prac moich literackich, (choć je bardzo lubię), nie przywiązuję wagi ani im przyszłości rokuję i pragnę więc robić choć trochę dobrego na świecie, lecz ile razy trafi mi się sposobność** zawsze spotykam przed sobą niezłomną przeszkodę. I żeby rozumna przyczyna? – nie, fantazja tylko. – Cóż robić? Nasze pokolenie kobiét jeszcze tak łamać się musi – my nie zarabiamy na chléb więc nam nic nie wolno i ludzie przywykli nas lekceważyć – trudno nawet na to wyrzekać. – Dziś – Ola daleko, a ja mówię sobie, że trzeba pchać życie jak można – żadne hałasy ani targania się do niczego nie prowadzą – tylko mi się kawałek serca odszczerbiło – jestem zimniejsza, no – i nie lepsza! Może to lekcja rozumu? Ale

[1] Так у арыгінале.

takie lekcje opłacają się najlepszémi cząstkami naszéj istoty… – Czy mi teraz wybaczysz milczenie Jeżyku?

Dziękuję Panu serdecznie za wszystkie przyjazne a tak pochlébne dla mnie wyrazy w liście Pańskim zawarte. Cóż na nie odpowiem? Znasz Pan stare fortepjany? takie, którym już brak nie jednéj struny i których pożłobione klawisze noszą slady długiego użycia – ot – grat stary na pozor? I zapewne, rapsodji |53| Liszta, fantazji Kątskiego na nich nie wygrać; ale niech tych zżółkłych klawiszy dotknie ręka staroświeckich ludzi, to jest muzyków z téj epoki, co wydała tak proste układem a tak cudne melodją polonezy Ogińskiego, a gracisko rozpłacze się taką rzewną pieśnią, jakby w jego rozbitéj piersi jaki czarodziej złożył bezdenną tonów skarbnicę? Jam się na takim gracie grać uczyła. A smutna jego historja! Dawno temu, (mnie jeszcze na świecie nie było), w miasteczku Bobowni mieszkał ubogi stolarz niejaki Citko. Był to duch zbuntowany i nie mógł poprzestać na wyrabianiu stołów i stołków, strugał jakieś lekkie, przezroczyste koronki z drzewa, w końcu, przypatrzył się, nie wiém gdzie, jak robią fortepiany i odtąd już nie miał spokoju.

Na naukę, na założenie warstatu srodków nie było, może znalazły się i inne jakie przeszkody, (poddaństwo może)? bo pamiętam, że Ojciec mój z wielkim smutkiem wspominał o tym człowieku – dość, że uczył się, dochodził, udoskonalał jako samouk. Zbudował kilku instrumentów, które, pomino bardzo prostéj konstrukcji, odznaczały się dziwne śpiewnym, jakby z piersi ludzkiéj pożyczonym głosem; ale znać biédny atrysta nie znalazł na ziemi odpowiedzi na swe zapytania, bo umarł młodo, a na cmentarzu, tuż koło naszego rodzinnego grobowiska, widziałem drewniany pomniczek, na którym czyjaś ręka położyła dziwne właściwy napis:

„BogaRodzico, Tyś świadkiem méj doli!”

Pamiętam, że dzieckiem będąc nigdy bez wzruszenia |54| tego napisu czytać nie mogłam – może to przeczucie, że w mojéj własnéj piersi osiądę pragnienia, dumki natrętne, których spełnienia nie będzie? – Wracam do rzeczy. W domu naszym był właśnie jeden z takich fortepjanów Citki i to nawet ostatni, ten, nad którym umarł – otóż dziś dusza moja do tego gratu podobna.

Znałam kiedyś na świecie rękę – nie piękną, nie posągową – prostą żylastą rękę ludzką… widziałam jak litośnie, jak kojąco opierała się na czołach cierpiących ludzi… Otóż ile razy na tę rękę patrzałam, snuły mi się z duszy roje złotych marzeń i pieśni. Rzadko bardzo błyskała mi ona, niby słońce w zimie; zresztą, i ja jéj nie szukałam, bo nie lubię gwiazd ściągać na ziemię. – Pan także stanąłeś przedemną jako wierny sługa idei, niesprzeniewierzony sztandarowi; raczyłeś mówić ze mną jak z istotą myslącą, jak z człowiekiem równym sobie, jeżeli nie wiedzą któréj nie posiadam, to pojęciem i szlachetnémi pragnieniami, więc też wydobyłeś Pan z rozbitego instrumentu śpiewną melodję i dla tego nazwałeś mię „perłą”.

Domyslam się, że według formułek przyzwoitości światowéj, powinnabym wziąć tę nazwę za prostą grzecznostkę ze strony Pana i odpowiedzieć skromnie cóś w rodzaju wierszyka Syrokomli:

Winienem Ci, zaiste, za balsam różanny
Dać ukłon debiutanta i rumieniec panny;
Winienem wyrzec głosem skromnego zachwytu:
Domine, non sum dignus takiego zaszczytu!

Ale ja wolę po prostu powiedzieć: nie omyliłeś się Jeżyku, co do treści – tylko co do czasu. Gdybym przed |55|*** laty 15$^{stu}$ stanęła na właściwéj drodze, gdyby trochę kierunku memu umysłowi i sercu, mogłabym być perłą; można było zrobić z mojéj duszy sztandar idący po przedzie pokoleniu swemu. A dziś, czy wiész czém jestem? zdartym łachmanem nieprzydatnym ni Bogu ni ludziom – a pośród tych zbutwiałych strzępów zostało mi kilka nitek królewskiéj purpury i kosztownego haftu, i kto je potrafi na jaw wydobyć, powié – perła, lecz ja się śmieję z téj złudy i od tego to śmiechu źle mi na świecie Jeżyku. –

Ale dość już wspomnień i abstrakcji – ponówmy o życiu obecnym: najprzód o Pańskiém, potém o mojém. –

Więc będziesz Pan wkrótce orał własny zagon? i tylko kwestja z gospodynią? To potrzebne Jeżyku! Kto jak Pan ma siły, zdolność i środki do pracy, ten potrzebuje pomocnicy w trudach, – i celu – którym może być jedynie własne dziecię. – Przytém, sądzę iż Panu łatwiéj niż komu dobrze się ożenić: masz Pan stosunki i wiele warunków po temu, że możesz wybierać pomiędzy wielu…

Od siebie, jako prawdziwie życzliwa Panu istota, pozwolę sobie wypowiedzieć dwie uwagi. Po pierwsze – obok piękności, co jest rzeczą miłą, i obok majątku co jest rzeczą pożyteczną – szukaj Pan głowy otwartéj. – I nie koniecznie ma to być umysł już wyrobiony; lepiéj może spotkać materjał bogaty, duszę rwącą się młodzieńczo i ciekawą, którąbyś Pan ukształcił wedle własnych pojęć. Wiém z doświadczenia, że są młode dziewczęta, które śnią o bojownikach mysli z gwiazdeczką wiedzy na czole, gotowe człowiekowi, któryby je powiódł z sobą w kraj światła, oddać się z ciałem i duszą aż do największéj ofiarności. A nieraz myslałem sobie, że jeżeli jest szczęście gdzie na ziemi, a zwłaszcza w miłości, |56| to wówczas, kiedy sprzymierzą się dwie mysli i gdy w tym duchowym uścisku ludzie rosną, kształcą się, pracują dzielą dolę i niedolę – a zawsze rozumieją się do głębi...

Powtóre – niech wybrana Pańska będzie Litwinką! Nie jestem zwolenniczką zaściankowego patrjotyzmu; – na polu społeczném wszystkie dzieci jednéj ziemi dłoń obok dłoni bratnio działać powinny; ale w życiu codziennén, gdzie dwie jednostki na każdym punkcie ścierać się muszą ze sobą, i gdzie jedna wola ugiąć się musi przed drugą, pożądaném jest, aby nawyknienia, pragnienia, instynkta mimowolne, wrodzone tych jednostek były jednakowe. –

Na ciernistéj drodze żywota po co się krwawić drobiazgami? Pomimo zaś wszelkich zaprzeczeń w teorji, nie ulega wątpliwości, że każda prowincja posiada pewne cechy odrębne. Ja plotę – a zdaje mi się, że widzę na ustach Pańskich ów

uśmiech Mefistofela, gdy tę kartkę przebiega szepcąc: „możesz prawić co ci się podoba, a ja wiém co zrobię!”

Otóż w tém i biéda, Jeżyku, że nikt z nas nie wié co zrobi; jakieś slepe fatum rządzi nami w sprawach tego rodzaju – wszelako ludziom przyjaznym serdeczne życzenia słać wolno. –

A może, kto wié? Możeś już uczynił wybor Jeżyku? Wszak już oddawna nie mam wiadomości o Panu, a zima i karnawał to pora najbardziéj sprzyjająca zawiązaniu takich stosunków – Ha! w takim razie najlepsze, najgorętsze moje życzenia pójdą za Panem, – choćby dla tego, że jak mówi Lamartine (w moim przekładzie):

Nieraz ci, którym złudy życia pękną
Lubią śnić Niebo – niewiność i piękno. –

A teraz o mnie – nie o osobie mojéj bo tu nie zasługuje na uwagą – moje ja to moje pieśni więc o nich zdam Panu sprawę. Ten rok był niedobry, sama nie |57| pisałam nic prawie – znajdzie się parę ustępów, ale to więcéj dla siebie niż dla ludzi. Z pomiędzy tych najdłuższa, najabardziéj z serca wyjęta jest piosenka: „Z dziejów życia”, właściwie kartka z historji rodzinnéj. Wypiszę tu Panu ustęp 3$^{ci}$ i początek 4$^{go}$ – posłuchaj sercem. –

3.

Poszedłem. Czas był straszny. Stary świat padł w ruiny,
W piersi, nad śmierć straszniejsze, wpełzały zwątpień żmije…
O! gdzieście wy marzone me bohatérskie czyny?
Gdzie pieśń, o któréj śniłem iż Niebo nią przebiję?
Rodzinnych obowiązków związany pętem twardém,
Szamocząc się przy ziemi o klatkę tłukłem skrzydła;
Chciałem wykuć olbrzymów myslą mą jak oskardem
I jak stepowy rumak targałem me wędzidła.
„Możeś nie stworzon piewcą?” tak nieraz szydził szatan –
Daremnie – dotąd w piersi ja mam, ach mam poczucie,
Żem z Cherubami pieśni był powołaniem zbratan
I żem jęk całéj ziemi słyszał w méj własnéj nucie!
Przeszła młodość. Tak pusto, tak głucho do okoła…
I słusznie – śmierć upadłym los karła czy olbrzyma:
Gdy jesień do odlotu drużynę ptaków zwoła,
Ranny ptak ginąć musi i nikt go nie podtrzyma.
A jednak – tak cóś smutno kiedy się młodość wspomni...
Matko ziemio rodzona, choć ty nie zostań głucha,
Gdy się u stóp twych zgarną ci biédni bezpotomni,
Co nie umieli przegryźć swojego łańcucha!

4.

I spłynęła powoli jak balzam leczebny
    Łza na powieki,
I przypłynął powoli, jak obłoczek srébrny,
    Obraz daleki;
Od rodziméj rzeczułki tchnął powiew wilgotny,

Młyn warknął w dali,
Błysły szarych chat rzędy i płomyk migotny
W oknach się pali. –
U „łucznika” ludziska zebrali się tłumnie,
Bają się skazki,
A w siwych kłębach [dymu] wypływają ku mnie
Cudne obrazki.
|58| Otaczają mię kołem, przędą wstęgę swoją
Jak barwne tęcze,
I osmutniałą duszę choć na chwilę stroją
W skrzdła młodzieńcze[1].

Probowałam zeszłego lata wybrać i uporządkować trochę dawniejszych rzeczy z tą myslą, żeby je kiedyś w świat rzucić, ale jakoś mi nie idzie, głównie dla tego, że nie mam wiary w siebie, pewności co dobre a co złe, ja tak mało umiém że instynktami się tylko rządzę, przeczuciem jakiemś – a tego za mało. Gdyby nie to, że ów zbiorek nie nadaje się do przesyłania pocztą, miałbyś go Pan dawno w ręku – wzgląd na pocztę oszczędził Panu kilka godzin nudy. O przekładach śmieléj mówię; przełożyłam jeden niewielki ustęp z Baudelair’a, któremu, pomimo cynizmu, nie odmówi niepospolitéj piękności żaden nieuprzedzony umysł. Przyszlę Panu kiedy ten urywek, dziś byłoby za wiele. Szwagier mój namówił mię do wydania w Wilnie u Zawadzkiego jednego z najdawniejszych przekładów moich z Lamartin’a. Jest to prawie piérwsza robota moja (z przekładów) i może najmniéj dokładna, ale Henrykowi najwięcéj do serca przypadła.

Zrobiłam już połowę korekty; jeżeli nic nie przeszkodzi za miesiąc wyjdzie, wówczas i Panu egzemplarz przyszlę; tylko Pan będzie łaskaw zachować mi to nazwisko jakie na książeczcze owéj wypisano, albo raczéj piérwsze litery imienia i nazwiska mojego Ojca. Sobą śród [ludzi] być nie chcę, nie przez kaprys, lecz przez wzgląd na obecne moje stanowisko i na możliwą przyszłość; nie chcę nikogo wiązać z sobą. Henryk chciał to piérwsze wydanie zrobić bardzo ozdobném, ale oparłam się temu: wyjdzie w szaréj prostéj sukience – jaki robotnik taka i książeczka. – Najwięcéj zajmuje mię Camoens. – Czwartą pieśń już zaczęłam. Czasami stary mój mistrz tak mię porywa, jak gdybym żyła za jego czasów i z nim śpiewała; on piękniejszy daleko i gorętszy od Tassa, |59| i nie dziw, bo o własnéj śpiewa Ojczyznie. – Czasami przychodzą chwile oschłości, ustępy podobniejsze do rymówanéj kroniki niż do poematu; męczy mię oktawa, ta najtrudniejsza z form w Polskim języku. Chciałabym przekładać ścisle, słowo w słowo prawie i nieraz mi się to udaje, ale trafiają się zwrótki, w których trzeba się ograniczyć na oddaniu mysli autora własnémi słowami – inaczéj nie zawrzeć treści w oktawie, a złamać formę, jak to uczynił pan Jacek, zdaje mi się że nie mam prawa. Zresztą – pan Jacek tłumaczył $13^{\underline{to}}$ głoskowym wierszem więc miał więcéj swobody, Lamarre przekładał prozą, a nie zawsze zgadzają się i z sobą i z oryginałem; – kto wié? Może i moja robota nie daléj odejdzie od pierwowzoru swego. –

[1] Цыкл *Z dziejów życia* (пад тытулам *Z życia i tęsknoty*) часткова друкаваўся ў газеце “Tygodnik Ilustrowany” (1884, nr 75, 7 VI 1884).

Tak nieraz myslę i wówczas lżéj mi na duszy i przekład niezłym się wydaje – Ale bywają dni zniechęcenia – brzydkie dnie –

Gdyby to nie było zbyt ciężkiém utrudzeniem dla Pana, prosiłabym Pana o wielką łaskę, o pozwolenia przesłania przekładu mojego, ile dotąd zrobiono, żeby Pan przejrzał i powiedział mi czy to czegoś warte? czy mam pracować daléj? boć to taka cziężka praca… –

Mogłabym wprawdzie poprosić o to Henryka, – on dobry, ale widzi Pan – mój szwagier jest bardzo światłym człowiekiem, i kiedy idzie o logikę lub gramatykę wierzę mu jak wyroczni, lecz kiedy idzie o formę, o wartość czysto literacką utworu, nie zawsze z jego sądem zgodzić się mogę****, a na Pańskiém zdaniu zupełnie polegam a przytém wierzę, że Pan w tym względzie komplementem mię nie zbędzie. – Robota moja nie jest jeszcze porządnie przepisana i nie opatrzona przepisami; na prędce kréślę zwrótki na ćwiartkach papieru a potém wciągam do książki, żeby nie zatracić. Tę to książkę, |60|***** bruljon prawie, (wyraźnie pisany) chciałabym przesłać Panu. Gdyby Pan życzył sobie, mogłabym przesłać i przekład Pana Jacka dla porównania, bo go prawie nie potrzebuję, przeglądam przez sumienność. – Jesli robota moja uzyska pochwałę, to po ukończeniu 5ciu pieśni (wszystkich 10) odważę się może na wydanie ich u Zawadzkiego. Obecnie rzucono się bardzo do przekładania utworów starożytnych, lękam się, żeby mię kto nie uprzedził. Całość może być wykończoną ledwo za lat parę, niedawno zaś czytałam, że w Galicji wydają tak częściowo prace większych rozmiarów. – O jedno tylko proszę Pana – o szczerość. Pan obecnie ma swoją pracę i swoje kłopoty, będzie Pan szukał dzierżawy, potém urządzić się trzeba, potem – może weselisko? Jeżeli więc proźba moja trafi nie w porę, powiedz mi Pan prawdę bez żadnych grzecznostek. – Ja mogę czekać – życie mię nauczyło cierpliwości – co się nie zrobi dziś zrobi się za rok za dwa, przeciwnie zaś, mam przesąd, że jeśli się komu czemkolwiek przykrość zrobi to się już ta sprawa nie powiedzie. –

W Nowogrodzie życie idzie zwykłym trybem – chyba że więcéj jeszcze w karty grają. Przybył nowy proboszcz (usunięty z Moskwy…), który urządza u siebie cóś nakształt domu gry. – Ojcowie rodzin po kilkaset rubli w jeden wieczor przegrywają. – My w tym roku jeszcze rzadziéj bywamy w towarzystwie, zniechęciliśmy się – niektóre Panie skorzystały z mojéj nieobecności latem i odmówiły mi służącą w sposob bardzo – nieestetyczny… Chciano się tłumaczyć – a tak niezręcznie że aż przykro wspomnieć. Po wielkiéj sprzeczce można serdecznie do kogoś rękę wyciągnąć, ale kiedy się raz spójrzy bez szacunku to już tam serce nie pociągnie – kłania się człowiek z konieczności. Ja tu lubię samego Dobrzyńskiego, panię Zakrzewską i dzieci Sokołowskich. Z jesieni często czytywałyśmy z Jadwiśką, teraz ona nie ma czasu – gospodarzy na miejscu Matki, bo Ewa zajmuje się introligatorstwem. Zresztą – parę panien za mąż poszło, parę dzieci urodziło, ale to w domach Panu nieznajomych. – Nie wiemy co z sobą zrobimy na lato – zdaje się, że Wacław w końcu Kwietnia wyjdzie do obozu, ja zaś prawdopodobnie wyjadę na Litwę do Matki lub do siostry, a może ztamtąd na parę dni do Warszawy, wszystko to jednak jeszcze nie pewne. – Trzeba koń-

czyć tak długą gawędę. Pan mówił, że lubi listy moje – możem jednak znużyła Pańską cierpliwość? Wacław Panu bardzo pięknie kłania – i ode|mnie przyjmij Pan serdeczne pozdrowienie. Zofja. –

|61| 27). Z obu stron wrzawa – rosną bębnów gwary,
Ryczą puzony, dmą fletnie świszczące;
W rękach chorążych wiewają sztandary
A na ich polach grają barw tysiące.
Był to czas, kiedy Ceres swémi dary
Napełnia gumna rolników, – gdy słońce
Wchodzi w znak "Panny" i skwarem dopieka,
A w tłoczniach z Bacha gron sok słodki ścieka.

28). Kastylskie trąby piérwsze hasło dały
Niosące trwogę straszliwémi zgrzyty:
Gwadjana trwożnie cofnęła kryształy;
Odbiły dźwięki Artabryjskie szczyty;
Drgnął Tag, ku morzu toczący swe wały,
Kraj Transtagański, Douera błękity;
A biédna matka, strachem przepełniona,
Tuli niemowlę do drżącego łona.

29). Na chwilę zbladły wojowników twarze,
Na chwilę k' sercu spłynęła krew cała!
Niebezpieczeństwo, gdy zdali ukaże
Oblicze swoje – najpotężniéj działa:
Z bliskiém walczymy; sród ciosów, w bitw gwarze,
Tak żądza zwycięstw, tak unosi chwała,
Iż się nie pomni na miecze, bułaty,
Nie pomni kalectw ni życia utraty.

30). Już wstępnym bojem zwarły się drużyny,
Przedni szeregi szlą w bój obie strony;
Jeden lud broni swéj własnéj krainy,
Drugi nadzieją podboju wiedziony:
Sród najmężniejszych rwie[2] piérwsze[1] wawrzyny
Waleczny Nuno męstwem zapalony;
Łamie, wywraca – i przywłaszczyciele
Praw swéj Ojczyzny – wkoło trupem ściele.

|62| 31). Lecą w powietrzu pociski, dziryty,
Pierzaste strzały i kule i groty;
Drży grunt zorany rumaków kopyty,
W dolinach echo powtarza łoskoty;
Kruszą się lance, słychać zbroi zgrzyty,
Tarcz w tarcz uderza niby gromu grzmoty;
Wróg wywarł całą moc na garść rycerzy,
~~Co z dzielnym Nunem~~ Z którą Nun dzielny spustoszenie szerzy.

32). O straszny ciosie! o dopuście Boży!
Przeciwko niemu właśni bracia stoją:
Nie dziw! Czyż śmiercią brata się zatrwoży
Kto zdradził króla i Ojczyznę swoją?

Przy nich tłum zbiegów zajadłych najsrożéj,
Co się najbliższych mordować nie boją,
Domowéj wojny zapaleni żarem,
Jak ongi Wielki Pompejusz z Cezarem.
33). O Sertorjuszu, o Corjolanie,
O Catylino, wszyscy dawni męże,
Co na chwilowe bacząc zagniewanie
Przeciw Ojczyznie wznieśliście oręże;
Jesli strąconych w piekielne otchłanie
Chłoszczą was kary, drą sumienia węże,
Powiedzcie Panu tych podziemnych światów,
Że i kraj Luza miał swych renegatów[1].

Nie mogę się oprzeć chęci przesłania Panu tych kilka zwrótek rycerskich z opisu walki między Kastylją a Portugalją o prawo dziedziczenia po zmarłym Królu Portugalskim. Ten mój przekład to piérwszy szkic tylko, nieopracowany, taki jak wyrwał się z pod pióra.

* *Ad marginem*: Otrzymany 17/29 Marca 1883 r.

** *Ad marginem*: według moich pojęć. – Nie można zawsze odrzec się swoich własnych i być echem czyjejś mysli.

*** *Ad marginem*: Znajomy Pański, P. Szymański dostał urlop na miesiąc i wyjechał do Kraju. Ma on teraz dużo zajęcia – dobr… <*нечыт.*> słownik i mnie go żal zawsze (okradli <*нечыт.*>), ale biédna jego głowa… teraz wybiera się pisać historją literatury Polskiéj dla swoich wnukow – tak mówić – może pobyt w Kraju wyleczy?

**** *Ad marginem*: Naprzykład – on trochę krzywi się na mnie za Baudeler'a – panowie wolą pobożność w kobietach. – Czemuż wydają książki? Czy Pan czytał w Ateneum z roku zeszłego artykuł pt. "Aryowie pierwotni"? – Po takiém czytaniu mysli się długo…

***** *Ad marginem*: Jeżeli będziesz Pan miał chwilkę swobodną, odpisz mi prędko, nie tak jak ja tym razem. – Czy i nadal tak adresować?

*Пераклад*

12га сакавіка 1883 г., з Ноўгараду*

"была б, Пані, хіба, не кабетай, каб часам не гневалася на таго Вожычка..."

Значыць, – я, хіба, не кабета, бо мне аніколі і ў думках не было, каб гневацца. І за што мне гневацца на Пана? Як кабета? Можа? Але я не знаюся на тым. Як просты народны пясняр, я патраплю зразумець, а хутчэй, нават адчуць, што перажыў Пан за гэты час, якая барацьба болю, жаданняў, надзеі, сумненняў і адчаю раздзірала сэрца Пана[2]. Уяўляю сабе, што, нягледзячы на радасць ад сустрэчы з краем і сям'ёю, мусіў Пан пражыць мінулы год у страшэннай ліхаманцы, і, напэўна, гарту душы ўдзячны Пан, што Яго тая гарачка не спаіла, бо, наколькі я магу меркаваць па фотаздымку, Пан паздаравеў значна і памаладзеў!

---

[1] Строфы з чацвёртае песні *Лузіяды* Л. Камоэнса.

[2] З. Тшашчкоўская, відаць, мае на ўвазе прымусовае выстаўленне на аўкцыён маёнтка Пуслоўскіх.

Мы моцна ўсцешыліся навіне пра вызваленне Пана; Вацлаў падскокваў і выказваў незадавальненне, калі я чытала яму пра тыя пяцімесячныя “сакрэты”[1], а цяпер ён перадае Пану пажаданні ўсякага мажлівага шчасця, якое Пан заслужыў сваім мінулым.

Распараджэнне Пана наконт мэблі, якая засталася ў пані С–кай[2], я адразу ж выканала. Мне здаецца, што прынялі з удзячнасцю; пані С. мелася сама напісаць Пану; яна цяпер бавіцца ў Далеўскіх[3].

А чаму я так доўга не пісала? О, бо цягам некалькіх месяцаў, Вожычак, я вяла цяжкую маральную бітву, падрабязнасці якое я расказваць не буду, таму што мне давялося б нядобра казаць пра іншых[4], і менавіта, каб пазябгаць залішняе горычы, не пісала Пану. Сэнс такі: да мяне прыехала стрыечная сястра[5], надзвычай высакародная і разумная істота, зламаная цяжкаю барацьбою з жыццём і працаю для сям’і; я хацела затрымаць яе надоўга, даць ёй перавесці дух і адпачыць, хацела на нейкі час стаць для яе нянькаю, як у дні нашага дзяцінства – і не змагла. Адна з маіх апошніх ілюзій зноў развеялася, бо я не надаю значэння сваім літаратурным заняткам (хоць яны мне вельмі падабаюцца), не бачу ў іх будучыні, адно прагну рабіць хоць крыху дабра ў свеце, але як надарыцца магчымасць**, заўсёды трапляю на непераадольную перашкоду. І каб жа разумная прычына! Не, толькі фантазія. Што ж рабіць? Нашае пакаленне кабет усё яшчэ мусіць саступаць, мы не зарабляем на хлеб, дык нам нічога не дазваляюць, і людзі прывыклі не лічыцца з намі, цяжка нават наракаць на гэта. Сёння Оля далёка, і я кажу сабе, што трэба змірыцца з жыццём, аніякі крык і лаянка ні да чаго не прыводзяць; толькі кавалачак майго сэрца адшчарбіўся, я стала больш халодная, ну, і не лепшая! Можа, гэта навука розуму? Але за такую навуку мы плацім найлепшым, што ёсць у нашай істоце... Ці прабачыш мне цяпер маўчанне, Вожычак?

Вялікі дзякуй Пану за ўсе прыязныя і гэтакія пахвальныя для мяне словы, змешчаныя ў лісце. Што ж я на іх адкажу? Ці ведае Пан старыя фартэпіяна? Тыя, якім ужо бракуе некалькіх струн і чые выбітыя клавішы маюць сляды доўгага карыстання, – ну, хлам на выгляд. І, вядома, рапсодыю Ліста[6], фантазію Концкага[7] на іх не сыграць; але няхай гэтыя зжоўклыя клавішы кране рука старасвецкага чалавека, гэта значыць, музыкі з тае эпохі, якая стварыла такія простыя і такія цудоўныя мелодыяй паланэзы

[1] Магчыма, гаворка ідзе не толькі пра “вызваленне” Ф. Зянковіча з ссылкі, але і клопаты пра вызваленне ад паліцэйскага нагляду, які быў зняты ўлетку 1883 г.

[2] Маецца на ўвазе Эва Сакалоўская.

[3] Відавочна, у Варшаве.

[4] Відаць, пра мужа Вацлава Міхала Тшашчкоўскага.

[5] Альдона Раецкая.

[6] Маецца на ўвазе Ферэнц (Франц) Ліст (1811–1886), венгерскі кампазітар, прадстаўнік рамантычнае школы.

[7] Маецца на ўвазе Апалінары Концкі (1824–1879), славуты скрыпач, кампазітар, педагог.

Агінскага[1], і хлам расплачацца такою чулаю песняю, нібы ў ягоныя разбітыя грудзі нейкі чараўнік уклаў бяздонную скарбніцу гукаў. Я вучылася іграць на такім хламе. Сумная яго гісторыя! Даўно таму (мяне яшчэ не было на свеце) у мястэчку Бабоўня жыў бедны сталяр, якога звалі Цітка. Гэта быў мяцежны дух, і ён не мог абмежавацца вырабам сталоў і зэдлікаў, стругаў нейкія лёгкія, празрыстыя драўляныя карункі; урэшце, падглядзеў, не ведаю дзе, як робяць фартэпіяна, і з таго часу не меў спакою.

Не меў сродкаў на навуку, на варштат; можа, былі іншыя перашкоды (можа, быў прыгонны?), бо памятаю, што Бацька згадваў пра гэтага чалавека з вялікім сумам. Але ён вучыўся, стараўся зразумець і ўдасканальваўся як самавук. Ён зрабіў некалькі інструментаў, якія, нягледзячы на вельмі простую канструкцыю, адзначаліся дзіўна спеўным, нібы з людскіх грудзей пазычаным голасам; але, відаць, бедны майстар не знайшоў на зямлі адказу на свае пытанні, бо памёр маладым, і на могілках, побач з нашымі родавымі магіламі, я бачыла драўляны помнічак, на якім нечыя рука зрабіла дзіўны і слушны надпіс:

“Багародзіца, ты сведка мае долі!”

Памятаю, што ў дзіцячыя гады я ніколі без узрушэння не магла чытаць гэты надпіс; можа, гэта было прадчуванне, што ва ўласных маіх грудзях паселяцца жаданні, неадчэпныя думкі, якія не здзейсняцца. Вяртаюся да сутнасці. У нашым доме было якраз адно з тых фартэпіяна Ціткі, і нават апошняе, над якім ён памёр; і вось сёння мая душа нагадвае той хлам.

Ведала я некалі на свеце адну руку – не прыгожую, не руку статуі – простую жылістую чалавечую руку... І бачыла, як яна літасціва, як супакаяльна клалася на галовы спакутаваных людзей... Дык вось, калі я на тую руку глядзела, снуліся з мае душы раі залатых мараў і песень. Вельмі рэдка яна выблісквала мне, як сонца зімою; зрэшты, і я яе не шукала, бо не люблю сцягваць зоркі на зямлю. Пан таксама з’явіўся перада мною як адданы служка ідэі, адданы штандару; меў ласку гаварыць са мною як з істотай, якая мысліць, як з роўным сабе чалавекам, калі не ведамі, якіх не маю, дык з разуменнем і высакароднымі жаданнямі, дык Пан таксама здабыў з разбітага інструмента спеўную мелодыю і таму назваў мяне “жомчугам”.

Мяркую, што ў адпаведнасці са свецкімі правіламі прыстойнасці я павінна была б разумець гэта як простую ветлівасць Пана і сціпла адказаць нешта накшталт як у вершы Сыракомлі:

Winienem Ci, zaiste, za balsam różanny
Dać ukłon debiutanta i rumieniec panny;
Winienem wyrzec głosem skromnego zachwytu:
Domine, non sum dignus[2] takiego zaszczytu![3]

---

[1] Маецца на ўвазе Міхал Клеафас Агінскі (1765–1833), кампазітар, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітае, дыпламат.

[2] Domine, non sum dignus (лац.) – Божа, я не варты. Пачатковыя словы, адказу (Domine, non sum dignus ut intres sub tectum meum = Божа, я не варты таго, каб Ты ўвайшоў пад мой дах) вернікаў на зварот святара (Agnus Dei qui tollis peccata mundi dona eis requiem = Ягнятка Божае, якое бярэ на сябе грахі астатняга свету).

[3] Страфа з верша У. Сыракомлі *Do J.I. Kraszewskiego*, напісанага ў 1848 г.

Але я лепш проста скажу: не памыляешся, Вожычак, што да сэнсу, толькі пра час. Калі б я стала на належны шлях гадоў 15 таму[1], калі б трохі пакіравалі маім розумам і сэрцам, я магла б стаць жомчугам; можна было зрабіць з мае душы штандар, за якім ішло б усё пакаленне. А сёння, ці ведаеш, што я? Падраная ануча, не прыдатная ані Богу, ані людзям; а сярод гэтага збуцвелага рыззя засталося некалькі лапікаў каралеўскага пурпуру і каштоўнага гафту, і той, хто патрапіць выявіць, скажа: жомчуг; але я смяюся з гэтае ілюзіі, і ад гэтага смеху мне пагана на свеце, Вожычак.

Але досыць успамінаў і абстракцый: давай пагаворым пра цяперашняе жыццё: спачатку – пра Пана, потым – пра маё.

Дык Пан хутка будзе араць свой загон?[2] І толькі праблема з гаспадыняй? Гэта неабходна, Вожычак! Тым, хто, як Пан, мае сілы, здольнасці і сродкі для працы, патрэбны памочнікі ў іх занятках і мэце, якою можа стаць толькі ўласнае дзіця. Больш за тое, я думаю, што Пану прасцей, чым камусьці, добра ажаніцца: Пан мае знаёмствы і добрыя ўмовы, каб выбіраць сярод многіх…

Ад сябе, як ад праўдзіва зычлівае Пану істоты, дазволю сабе зрабіць дзве заўвагі. Па-першае, разам з характвом, што прыемна, і разам з маёнткам, што карысна, шукай Пан мудрую галаву. І не абавязкова гэта мусіць быць ужо добра развіты розум; лепш, можа, спаткаць падатны матэрыял, маладую і цікаўную душу, якую Пан сфармаваў бы паводле ўласных уяўленняў. Я з вопыту ведаю, што ёсць маладыя дзяўчаты, якія мараць пра змагароў думкі з зоркаю ведаў на лбе, гатовыя мужчыне, які павёў бы іх у краіну святла, аддацца і целам, і душою аж да найвялікшага самаахвяравання. І няраз думала, што калі ёсць дзе-небудзь на зямлі шчасце, асабліва ў каханні, дык калі лучацца дзве думкі і калі ў гэтых духоўных абдымках людзі растуць, адукоўваюцца, працуюць, дзеляць долю і нядолю – яны заўсёды глыбока разумеюць адзін аднаго...

Па-другое, няхай абранніцаю Пана будзе ліцвінка! Я не прыхільніца засцянковага патрыятызму; у грамадстве ўсе дзеці аднае зямлі рука ў руку, па-братэрску дзейнічаць павінны; але ў паўсядзённым жыцці, калі двое людзей павінны сутыкацца адзін з адным на кожным кроку, і дзе адна воля павінна саступаць другой, дык пажадана, каб звычкі, жаданні, міжвольныя інстынкты, уласцівыя гэтым асобам ад нараджэння, былі аднолькавымі.

На цярністым шляху жыцця навошта сыходзіць крывёю па дробязях? Нягледзячы на ўсе тэарэтычныя пярэчанні, бясспрэчна тое, што кожная правінцыя мае свае пэўныя адметнасці. Я вярзу гэта, і мне здаецца, што бачу ўсмешку Мефістофеля на вуснах Пана, калі Ён гэтую картку чытае і шэпча: “Можаш казаць усё, што хочаш, а я ведаю, што зраблю!”

---

[1] Звернем увагу: пятнаццаць гадоў таму З. Тшашчкоўская выйшла замуж.

[2] Толькі ў лістападзе 1884 г. Ф. Зянковіч стаў арандатарам маёнтка Гвозніца Брэсцкага павета (сёння – Маларыцкі раён), які належаў Дар’і Высоцкае з дому Паніквіцкіх, аднае з сёстраў Марыі Паніквіцкае, маці Паўліны і Фелікса Зянковічаў.

У тым і бяда, Вожычак, што ніхто з нас не ведае, што зробіць; у такіх справах кіруе намі нейкі сляпы лёс; аднак прыязныя людзі могуць даслаць сардэчныя пажаданні.

А можа, хто ведае? Можа, ужо зрабіў свой выбар, Вожычак? Я ж даўно нічога не ведаю пра Пана, а зіма і карнавал[1] – самы спрыяльны час, каб завесці такія дачыненні. Ну, у такім выпадку – мае найлепшыя, самыя цёплыя пажаданні рушаць услед за Панам, хоць бы таму, што, як кажа Ламарцін[2] (у маім перакладзе):

> Nieraz ci, którym złudy życia pękną
> Lubią śnić Niebo – niewinność i piękno[3].

А цяпер пра мяне: не пра маю асобу, бо яна не заслугоўвае ўвагі: маё я – гэта мае песні, дык пра іх напішу Пану. Гэты год быў кепскі, я амаль нічога не пісала – усяго пару фрагментаў, але яны больш для мяне, чым для людзей. Сярод іх самая доўгая, з самага сэрца здабытая – гэта песня *Z dziejów życia*, уласна картка з сямейнае гісторыі. Я перапішу тут Пану ўрывак 3-ці і пачатак 4-га, паслухай сэрцам.

<…>

Мінулым летам я спрабавала выбраць і ўпарадкаваць асобныя даўнія рэчы з тою думкай, каб пусціць іх у свет, але нешта не атрымліваецца, галоўным чынам таму, што не веру ў сябе, не маю пэўнасці, што добра, а што кепска; я так мала ведаю, што кіруюся толькі інстынктамі, нейкім адчуваннем, а гэтага мала. Каб не тое, што сабранае не надаецца на перасылку поштаю[4], Пан бы ўжо даўно меў яго ў руках; дык пошта ашчаджае Пану колькі гадзін нуды. Пра пераклады кажу больш смела; пераклала адзін невялікі верш Бадлера, якому, нягледзячы на цынізм, не адмовіць у незвычайнай прыгажосці любы непрадузяты розум. Прышлю Пану некалі той урывак, сёння было б зашмат. Мой швагер[5] намовіў мяне выдаць у Вільні ў Завадскага адзін з маіх даўнейшых перакладаў Ламарціна. Гэта адна з першых маіх работ (з перакладаў) і, можа, найменш удалая, але Генрыку яна спадабалася больш за ўсё.

Я ўжо зрабіла палову карэктуры; калі нічога не перашкодзіць, праз месяц выйдзе, тады і Пану вышлю асобнік; толькі няхай Пан будзе так ласкавы захаваць у таямніцы тое прозвішча[6], напісанае на той кніжачцы, дакладней, першыя літары імя і прозвішча майго бацькі. Я не хачу быць сабою

---

[1] Перыяд ад Калядаў да Вялікага Посту, калі часта ладзяцца балі і забавы.

[2] Гаворка пра Альфонса дэ Ламарціна (1790–1869), пісьменніка і паэта, аднаго з пачынальнікаў рамантызму.

[3] Радкі з паэмы А. дэ Ламарціна *Ostatnia pieśń Pielgrzymki Childe-Harolda*, якая выйшла ў перакладзе Адама М-скага ў Вільні ў 1883 г.

[4] Відаць, гаворка пра тое, што З. Тшашчкоўская не адважваецца высылаць свае патрыятычныя творы, баючыся перлюстрацыі, якой падпадалі ўсе вялікага аб'ёму карэспандэнцыі.

[5] Гаворка пра Генрыка Румбовіча (блізу 1844 – 1905), мужа Марыі Філамены.

[6] Маецца на ўвазе псеўданім З. Тшашчкоўскае Adam M-ski.

сярод людзей не праз дзівацтва, а праз маё цяперашняе становішча і мажлівую будучыню; не хачу нікога звязваць з сабою. Генрык хацеў зрабіць гэтае першае выданне вельмі шыкоўным, але я адмовілася: яно выйдзе ў простай шэрай сукенцы – які работнік, такая і кніжачка. Найбольш займае мяне Камоэнс. Пачала ўжо чацвёртую песню. Часам мой стары майстар гэтак мяне захоплівае, нібы я жыву ў ягоныя дні і спяваю з ім; ён больш прыгожы і больш палкі за Таса[1], і не дзіва, бо ён спявае пра ўласную радзіму. Часам здараюцца моманты сухасці, фрагменты больш падобныя на рыфмаваную хроніку, чым на паэму; мяне замучыла актава, самы складаны від верша ў польскай мове. Хацела б перакладаць дакладна, амаль слова ў слова, і няраз у мяне атрымліваецца, але трапляюцца страфы, дзе трэба абмежавацца пераказам думкі аўтара сваімі словамі, інакш немагчыма змясціцца ў актаву, а ламаць форму, як гэта зрабіў пан Яцэк[2], здаецца, я не маю права. У любым выпадку пан Яцэк перакладаў 13-складовікам, дык у яго было больш свабоды, Ламарэ перакладаў прозай[3], і не заўсёды згодна і з сабою, і з арыгіналам, – хто ведае? Магчыма, і мая праца не далёка адыдзе ад першаўзору. Часта так думаю, і тады мне на душы становіцца лягчэй, і пераклад здаецца нядрэнным. Але бываюць дні паняверкі – брыдкія дні.

Калі б гэта не было збыт цяжкім клопатам для Пана, прасіла б пра вялікую ласку: дазволу даслаць пераклад, колькі зроблена да гэтага часу, каб Пан пераглядзеў і сказаў мне, ці варта гэта чаго-небудзь; ці варта мне працягваць працу? бо гэта такая цяжкая праца...

Я магла б, па-праўдзе, папрасіць пра гэта Генрыка, – ён добры, але каб Пан ведаў, – мой швагер – вельмі адукаваны чалавек, і калі гаворка ідзе пра логіку ці граматыку, я веру яму як аракулу, але калі размова пра форму, пра чыста літаратурныя вартасці твора, не заўсёды магу згадзіцца з ягонаю думкаю****, а меркаванню Пана цалкам давяраю, і спадзяюся, што Пан не збудзе мянеаднымі камплімeнтамі. Мая праца яшчэ не перапісаная належным чынам і не мае каментара; я паспешліва запісваю страфы на чвэртках паперы, а потым укладаю іх у кнігу, каб не згубіць. Вось гэтую кнігу, чарнавік амаль (выразна напісаны), я хацела б выслаць Пану. Калі Пан захоча, магу даслаць і пераклад пана Яцка для параўнання, бо ён мне амаль непатрэбны, праглядаю яго праз сумленнасць. Калі мая праца будзе ўхваленая, то пасля заканчэння 5-ці песень (усіх 10), я, магчыма, адважуся апублікаваць іх у Завадскага. Цяпер шмат хто кінуўся перакладаць старажытныя творы, дык баюся, каб хто-небудзь мяне не апярэдзіў. Усё цалкам можна скончыць за пару гадоў, а я нядаўна чытала, што ў Галіцыі гэтак часткамі

---

[1] Гаворка пра Тарквата Таса (1544–1595), італьянскага паэта XVI ст., аўтара паэмы *Вызвалены Ерусалім* (1575).

[2] Маецца на ўвазе Яцэк Пшыбыльскі.

[3] Відаць, З. Тшашчкоўская мае на ўвазе наступнае выданне: *Camoens et les Lusiades; étude biographique, historique et littéraire*, ed. by Clovis Lamarre, trans. by Jean Baptiste Joseph Millié, Paris 1878. Clovis Lamarre (1836–1899), літаратуразнаўца. Жан Батыст Жазэф Мільe (1772–1826), перакладнік.

выдаюць творы вялікага аб'ёму. Аднаго толькі прашу ў Пана – шчырасці. У Пана зараз свая праца і свае клопаты, Пан будзе шукаць арэнду, потым абзаводзіцца трэба, потым, можа, вяселле? Таму, калі мая просьба не ў пару, няхай Пан скажа мне праўду без лішняе ветлівасці: я магу пачакаць, жыццё навучыла мяне цярплівасці, тое, што не зробіцца сёння, будзе зроблена праз год, праз два, і, апрача таго, я веру, што калі каму-небудзь чым-небудзь прыкрасць зрабіць, дык з гэтаю справаю не пашанцуе.

У Ноўгарадзе жыццё ідзе звыклым чынам, – хіба, яшчэ больш гуляюць у карты. Прыехаў новы пробашч (высланы з Масквы...), які ладзіць у сябе нешта накшталт дому гульні. Бацькі сямействаў за адзін вечар прайграюць па некалькі соцень рублёў. Мы ў гэтым годзе яшчэ радзей бываем у таварыстве, знеахвоціліся: некаторыя пані скарысталіся маёй адсутнасцю ўлетку і пераманілі ад мяне служанку вельмі непрыгожым спосабам. Яны хацелі апраўдвацца, але так нязграбна, што аж прыкра згадваць. Пасля вялікае спрэчкі можна сардэчна працягнуць некаму руку, але калі часам зірне хто непачціва, дык ужо сэрца да яго больш не пацягнецца – кланяецца чалавек з абавязку. Падабаецца мне тут Дабжынскі, пані Закшэўская і дзеці Сакалоўскіх. З восені мы часта чыталі з Ядвіськаю, а цяпер у яе няма часу: гаспадарыць замест маці, бо Эва займаецца пераплётамі. Зрэшты, некалькі дзяўчат выйшла замуж, нарадзілася некалькі дзяцей, але гэта здарылася ў сем'ях, якіх Пан не ведае. Мы не ведаем, што будзем рабіць летам; здаецца, Вацлаў рушыць у лагер у канцы красавіка, а я, напэўна, паеду ў Літву да маці альбо да сястры, а можа, адтуль у Варшаву на некалькі дзён, але ўсё гэта яшчэ няпэўна. Трэба ўжо скончыць такую доўгую размову. Пан казаў, што мае лісты яму падабаюцца, аднак, можа, злоўжываю цярплівасцю Пана? Вацлаў вельмі ласкава кланяецца Пану, і ад мяне няхай Пан прыме сардэчнае прывітанне. Зоф'я.

<…>

Не магу адолець жаданне даслаць Пану гэтыя некалькі рыцарскіх вершаў, якія апісваюць барацьбу паміж Кастыліяй і Партугаліяй за права на спадчыну памерлага партугальскага караля. Гэты мой пераклад – толькі першы накід, неапрацаваны, такі, як ён вырваўся з-пад пяра.

* *Ad marginem*: Атрыманы 17/29 сакавіка 1883 г.

** *Ad marginem*: паводле майго разумення. Нельга заўсёды адракацца ад сваіх уласных і быць рэхам чыёйсьці думкі.

*** *Ad marginem*: Знаёмы Пана, п. Шыманскі, атрымаў месячны водпуск і выехаў у край. У яго зараз шмат спраў – <*нечыт.*> слоўнік, і мне яго заўсёды шкада (абрабавалі <*нечыт.*>), але яго бедная галава... цяпер ён збіраецца пісаць гісторыю польскае літаратуры для сваіх унукаў – так ён кажа; можа, побыт у краі вылечыць?

**** *Ad marginem*: Напрыклад, ён крыху крывіцца на мяне за Бадлера; панове жадаюць бачыць пабожнасць у кабетах. Чаму ж яны выдаюць кнігі? Ці чытаў Пан у “Athenaeum” за мінулы год артыкул *Aryowie pierwotni*?[1] Пасля такога чытанні доўга думаецца...

***** *Ad marginem*: Калі будзе Пан мець вольную хвілінку, дык няхай адпіша мне хутка, не так, як я гэтым разам. Ці адрасаваць і далей як дагэтуль?

## № 8

Невядома, ці адпісваў Ф. Зянковіч на папярэдні ліст З. Тшашчкоўскае, але ўжо чарговы раз яна, не атрымаўшы адказу, клапоціцца, каб ліставанне не перапынілася.

|63|* Lipca 10º 1883 r., z Dorohowicy

Upłynęło już kilka miesięcy od czasu jakem do Pana ostatni raz pisała – odpowiedzi nie otrzymałam, – jeżeli więc obecnie biorę pióro i probuję raz jeszcze być Panu natrętną, to jedynie dla tego, że nie jestem pewną, czy odpowiedzi Pańskiéj nie spotkał podobny los jak jeden list w roku zeszłym, który zawieruszył się gdzieś na poczcie. Utwierdza mię w tém przekonaniu to jeszcze, że prosiłam Pana o pewne wskazówki co do prac moich, taki już nieszczę[s]liwy fatalizm mię ściga, że ile razy wyciągnę rękę po promyk światła gaśnie on przede|mną. W chwilach, kiedy jestem silną i ufną, wydaje mi się to wskazówką, że sama czegoś dobić się powinnam, budzi się wtedy zapał i opor; ale w chwilach zwątpienia i słabości, które z latami coraz częściéj przychodzą, zdaje mi się, że sam los mnie i mysli moje przeznaczył na zatratę, oddalając mię od wszelkiego ogniska, gdziebym choć skierkę ognia |64| zdobyć mogła. Bądź co bądź, gorzką to jest prawdą, iż łatwiéj człowiek rzuca bratu-człowiekowi grosz jałmużny niż serdeczne słowo, to wsparcie moralne. – A cóż ja robię? Zawszem tu sama, niezdolna do poprawy; śmiałbyś się Pan, gdybyś mię widział czasami… Ot, przed wyjazdem z Nowogrodu tak dużo miałam pracy i takiéj niezajmującéj: trzeba było składać rzeczy, zaszywać futra, meble zabezpieczać od móli. I co Pan powié? śród miłéj woni machorki, pieprzu i skóry dziegciowéj, gdzie były mysli moje? – posłuchaj!

** 88). A ludność miasta na ten dzień wyległa:
Druhowie, krewni i powinowaci,
(Część z ciekawości na brzegi wybiegła),
Smutek na licach i w każdéj postaci:
Nas zaś dokoła tłumami obległa
Pobożna rzesza zakonniczéj braci,
I uroczyście, w procesji pochodzie,
Przy dźwięku hymnów zdążamy na łodzie.

[1] Маецца на ўвазе артыкул публіцыста, літаратара і літаратурнага крытыка Юзафа Такажэвіча (1841–1919), падпісаны псеўданімам J.T. Hodi, у 9 сшытку (3 том) часопіса за 1882 г. (s. 529–563).

89). Wiedząc jak drogi dalekie, niepewne,
Już straconymi każdy nas nazywa;
Słychać dokoła niewiast płacze rzewne,
Mężom westchnienie z piersi się wyrywa:
Matki, małżonki, siostrzyce, pokrewne,
Im która czulsza tém bardziéj trwożliwa,
Sądzą przelękłe, przybite rozpaczą,
Że nie wrócimy, że nas nie zobaczą. –

|65| 90). Nie jedna mówi: „O! synu, jedyna
Pociecho moja, podporo starości,
Co ja tu pocznę biedna starowina?
Zakończę życie we łzach i żałości;
Rzucasz mię nędzną – mów, co za przyczyna?
Czemu odjeżdżasz, o moja miłości?!
Czém Cię tak wabią oceanu tonie?
Czy chcesz pogrzebu w ryb żarłocznych łonie?”

91). A inna – we łzach – rozpuściwszy włosy:
„Umrę bez ciebie, woła, o mój luby!
A czyliż nie są twoimi me losy?
Na gniewnych morzach poco szukasz zguby?
I tak niepewnéj drodze, na klęsk ciosy,
Czemu poświęcasz nasze słodkie śluby?
I naszą miłość i radości zwodne
Wkrótce wiatr zdmuchnie, połkną głębie wodne?”

92). Tak jękiem żalu, miłości słowami
Mówili do nas i starzy, i młodzi
I drobne dzieci, wlekąc się za nami,
Choć wielu wiek zgiął i siła zawodzi.
A bliskie góry wzruszone jękami,
Żałośne echa słały k’ brzegom łodzi;
I żwir nadmorski pił deszcze kropliste
Liczne, jak ziarna piasku, łzy rzęsiste. –

Nie przerwałam zajęć, zrobiłam wszystko co do mnie należało, lecz żyłam jakiemś życiem podwojném – jedném senném, machinalném dla domu, drugiém wewnętrzném dla siebie i pieśni – w kilku dni przełożyłam całą prawie Pieśń IV$^{\underline{ta}}$. – Z Nowogrodu pojechałam na tydzień do Wacława do obozu, z tamtąd do Werek, do siostry. Na Zielone Swięta Wacław na dwa dni wpadł do nas i razem jeździliśmy żwiedzać Troki. –

|66|*** Od trzech tygodni jestem w domu, to jest w Dorohowicy. Piérwsze dni nie mogłam nasycić się powietrzem tutejszém, zdało mi się, że cóś w piersiach pęknie; potém zaczęli przyjeżdżać dawni znajomi i jeszcze bliżsi i drożsi stary Rodziców słudzy. Niektóre baby nie chcą znać mego późniejszego nazwiska, dla nich zawsze jestem „panienka (Zośka)”, a jedna nazywa mię: „załacieńkije oczki”, to dowodzi, że miałam oczy „dla wszystkicj prychilne”. – Widzi Pan, powinnabym czuć się szczęśliwą? Lecz są dusze co wieczny niepokoj w sobie noszą i ja do takich należę. Przyjechałam tu nie tyle dla mojéj chorobliwéj tęsknoty za krajem ile dla załatwienia różnych spraw rodzinnych. Otóż na

kogo spójrzę – każdemu z moich niedobrze… i serce za nich boli. – Bóg dał śliczny urodzaj, lecz tydzień temu spadł grad ogromny, nadzwyczajny jakiś, i popsuł zboże; burza połamała nam drzewa, podarła dachy, potłukła okna, słowem strata wielka i Mama zgryziona. Tęskno mi téż za Wacławem – nie zawsze rozumiemy się z nim, ale lat kilka był on chory na mojém ręku, toż przyrosłam jak do rodzonego dziecka – i nie dziw – dzieci przecie nie mam, nie mam na kogo więcéj zlać uczucia, którego zanadto wiele Bóg tchnął w serce moje. Zrobiłam się niańką, jak wiém, że mu na niczém nie zbywa tom spokojna, kiedy sama nie patrzę, to mi się zdaje, że jemu wszystkiego brak i tak téż naprawdę, to bywa – on nie umié dbać o siebie. –

A dziwnie téż my tułacze robimy się drażliwi, zbyt namiętnie kochamy kraj – mnie drażni, kiedy kto z moich mowę kaleczy, drażni każde dziecko bez elementarza – każda zdolność niespożytkowana, każda mysl w czyn nie zamieniona…

Dziś poznałem biédnego kalekę – żyda lekarza – jeżeli go społeczność nasze serdecznie przygarnie, będzie to człowiek życzliwy i użyteczny choć dziś prawie nie mówi po polsku. Wiém o jednéj rodzinie potrzebującéj również przygarnięcia, widzę osobistości między sługami, które czekają zasiewu mysli… a kto go rzuci? nikomu to ani w głowie. – To wszystko męczy, aż znowu człowiek zatęsknić za swoim kątem głuchym. O Pana nie zapytuję, bo nie wiém o co pytać? nie wiém nawet czy list mój trafi do rąk Pańskich. Jeżeli Pan zachce mi odpisać to do piérwszych dni Sierpnia bawię tu, adres mój: Минской губ. Г. Несвижъ – для передачи въ им. Дороговицу. Зофiи Тржещковской.

* *Ad marginem*: Chciałabym przesłać Panu małą Książeczkę i nie wiém dokąd? idzie mi o to, żeby doszła prosto do rąk Pańskich. –

** *Ad marginem*: Pieśń IV.

*** *Ad marginem*: Miałam w tym czasie jechać do Warszawy, lecz jakoś mi się nie chce, sądzę że nie pojadę. – Jeżeliby list Pański przyszedł beze mnie, Mama zaraz mi go odeszle. – Zresztą, czy Pan zechce odpisać mi czy nie, żegnam Pana zawsze równie przyjaźnie, serdecznie. Zofja. –

*Пераклад*

10 ліпеня 1883 г., з Дарагавіцы

Прайшло некалькі месяцаў з таго часу, калі я апошні раз пісала Пану, – адказу не атрымала, – і калі я зараз бяруся за пяро ды спрабую зноў дакучаць Пану, дык толькі таму, што не маю пэўнасці, ці адказ Пана не напаткаў гэткага самага лёсу, як адзін леташні ліст, што згубіўся дзесьці на пошце. Узмацняе маё перакананне яшчэ больш тое, што я прасіла Пана пра пэўныя парады, датычныя маіх прац, і вось пераследуе мяне нешчаслівы лёс: кожны раз, калі я цягнуся да праменьчыка святла, гасне ён перада мною. У тыя моманты, калі я адчуваю сябе моцнаю і веру ў сябе, мне здаецца, што гэта падказка, што павінна ўсяго дабіцца сама, тады абуджаецца ўва мне энтузіязм і супрацiў; але ў хвіліны сумневу і слабасці, якія з гадамі здараюцца ўсё часцей і часцей, мне здаецца, што сам лёс прызначыў мяне і мае думкі

на згубу, аддаляючы мяне ад усякага агменю, каб хоць іскрынку агню здабыць магла. Зрэшты, горкая праўда, што чалавеку прасцей кінуць брату-чалавеку грош міласціны, чым сардэчнае слова – маральную падтрымку. Што ж я раблю? Заўсёды тут я адна, няздольная стаць лепшаю; пасмяяўся б Пан, каб пабачыў мяне ў такія хвіліны... Вось, перад ад’ездам з Ноўгарада ў мяне было шмат працы і гэткае нецікавае: трэба было складаць рэчы, зашываць футры, забяспечваць мэблю ад молі. І што Пан скажа на гэта? Сярод мілага смуроду махоркі, перцу, скуры і дзёгцю дзе былі мае думкі? Паслухай!

<…>

Я не перапыніла свае заняткі, зрабіла ўсё, што мне трэба было зрабіць, але жыла нейкім падвойным жыццём: адным сонным, механічным, дзеля дома, другім – унутраным, для сябе і песні. За некалькі дзён пераклала амаль усю IV-ю песню. З Ноўгараду на тыдзень паехала ў лагер да Вацлава, адтуль – у Веркі да сястры. На Сёмуху Вацлаў прыехаў да нас на два дні, і мы разам ездзілі паглядзець Трокі.

Ужо тры тыдні я дома, гэта значыць, у Дарагавіцы. Першыя дні не магла надыхацца тутэйшым паветрам, здавалася мне, што нешта ў грудзях лопне; потым пачалі прыязджаць даўнія знаёмыя і яшчэ больш блізкія ды дарагія старыя лёкаі бацькоў. Некаторыя бабы не хочуць ведаць маё цяперашняе імя, для іх я заўсёды *паненка (Зоська)*, адна з іх называе мяне: *залаценькіе очкі*, гэта даводзіць, што вочы мае былі “для ўсіх прыхільныя”. Як бачыць Пан, я павінна б адчуваць сябе шчасліваю? Але ёсць душы, якія носяць у сабе вечны неспакой, і я – адна з іх. Прыехала сюды не столькі праз сваю хваравітую тугу па краі, колькі праз клопат пра розныя сямейныя справы. На каго ні зірну – кожнаму з маіх нядобра... і сэрца мне баліць за іх. Бог даў добры ўраджай, але тыдзень таму выпаў велізарны град, нейкі надзвычайны, і сапсаваў збожжа; бура паламала нам дрэвы, пазносіла дахі, пабіла шыбы, адным словам, вялікія страты, і мама цяпер няўцешная. Маркотна мне за Вацлава; мы не заўсёды можам паразумецца, але колькі гадоў ён быў хворы, на маіх руках, дык я прывязалася да яго, як да роднага дзіцяці, і не дзіўна, бо дзяцей жа ў мяне няма, дык не маю анікога іншага, на каго скіраваць пачуцці, якіх Бог занадта шмат уклаў у маё сэрца. Я зрабілася нянькаю: калі ведаю, што яму ўсяго досыць, дык спакойная, а калі сама не гляджу яго, дык мне здаецца, што яму ўсяго не стае і, уласна, гэтак і бывае: ён не ўмее клапаціцца пра сябе.

А дзіўна ж мы, выгнаннікі, робімся ўражлівымі, занадта горача любім край: мяне моцна кранае, калі хто з маіх калечыць мову, турбуе кожнае дзіця без лемантара, кожны непрыдатны талент, кожная думка ў чын не замененая...

Сёння я пазнаёмілася з бедным калекам, жыдам-лекарам; калі яго наша грамада сардэчна прыгорне, ён будзе зычлівым і карысным чалавекам, хоць сёння амаль не валодае польскаю моваю. Я ведаю пра адну сям’ю, якая таксама мае патрэбу, каб яе прытулілі; сярод лёкаяў бачу здольных, якія

чакаюць асветы... а хто яе дасць ім? Анікому гэта ні ў галаве. Гэта ўсё мучыць, аж зноў затужыць чалавек па сваім глухім кутку. Нічога пра Пана не пытаюся, бо не ведаю, пра што пытаць? Нават не ведаю, ці трапіць мой ліст у рукі Пана. Калі Пан захоча мне адказаць, дык да пачатку жніўня я тут, мой адрас: Минской губ., г. Несвижъ – для передачи въ им. Дороговицу. Зофіи Тржещковской.

* *Ad marginem*: Хацела б выслаць Пану невялікую кніжачку[1], але я не ведаю куды? Мне важна, каб яна трапіла проста ў рукі Пану.

** *Ad marginem*: IV песня.

*** *Ad marginem*: Мелася тым часам ехаць у Варшаву, але нешта мне не хочацца, мяркую, што не паеду. Калі б ліст ад Пана прыйшоў, а мяне не будзе, дык мама адразу ж мне яго перашле. Зрэшты, захоча мне Пан адпісаць ці не, я развітваюся з Панам заўсёды гэтак жа па-сяброўску, сардэчна. Зоф'я.

## № 9

Лісты З. Тшашчкоўскае да Ф. Зянковіча за тры гады (ліпень 1883 – май 1886 г.), відаць, не захаваліся. Але, мабыць, яны працягвалі камунікаваць між сабою, хоць і былі "гады маўчання". Больш складана сказаць пра наступныя гады: здаецца, аніякіх прычынаў перапыняць ліставанне ў іх не было. Прынамсі, у З. Тшашчкоўскае, якая проста патрабавала дачыненняў з такою асобаю, як Ф. Зянковіч. Магчыма, што нават наладжанае ў красавіку 1887 г. ліставанне з Зянонам Пшасмыцкім таксама не змагло замяніць ёй кантактаў з "Вожычкам", які ўжо самастойна гаспадарыў спачатку ў палескай вёсцы Гвозьніца, а пасля стаў адміністратарам маёнтка Вежбніца Люблінскага павета свайго калегі-выгнанца Аўгуста Іваньскага.

|67| Maja 16º 1886 r. Sioło Wysockoje

Otoż karta zakończona, kropka postawiona, robotniku, dzień twój dobiega do końca! O kogo i o co idzie? zapyta Pan, co już zapewne z pisma nie pozna ręki która je nakreśliła? Idzie oto, żem dokończyła przekładu Camoensa. Potrzeba jeszcze przejrzeć, porównać, nie jedno przerobić i dodać komentarze, ale – trudniéj przecie wykuć cóś z kamienia niż odszlifować. Oddawna to już zbierałam się ja napisać do Pana: czasami myslałam – po co narzucać się pamięci człowieka, którego bytność wpośród nas mignęła z szybkością chwili, jak przebłysk meteoru; to znowu, kiedy mi Amelka napisała, że widziała Pana smutnym i przybitym, chciałam odezwać się, bo smutni najczęściéj chętnie witają każdy głos życzliwy; – i znów jakoś mi ręka opadła. Pan wié, że mysli ludzkie jak fale: jedna drugą potrąca, zamienia – i płyną w dal i nie wiadomo co je powstrzyma. Aż oto teraz zdjęła mnie nieprzeparta ochota podzielenia się wieścią o skończeniu pracy z człowiekiem, który piérwszy zachęcił mię i dodał odwagi. Co bym ja za

[1] Відавочна, гаворка ідзе пра кніжку А. дэ Ламарціна *Ostatnia pieśń Pielgrzymki Childe-Harolda*, якая выйшла ў перакладзе Адама М–скага ў Вільні ў 1883 г.

to dała, gdybym cały ten przekład z Panem przeczytać mogła! Ileby mi Pan udzielił wskazówek? A co rzecz najważniejsza – pozyskałabym pewność, że to co dobrém nazwano – jest dobre. Próżne rojenia! I tak przed laty dużo Pan zrobił dla mnie: uwagi Pańskie w wielu rzeczach oczy mi otworzyły. Może się to Panu wyda przesadą?

|68| Lecz proszę wziąć na uwagę, że od lat już blisko $20^{\underline{\text{stu}}}$ jestem zupełnie pozbawioną towarzystwa ludzi literacko wykształconych, przed tym zaś czasem byłam tak młoda i tak mało u nas dziewczęta się uczą, że nie miałam możności uzbierać sobie zasobu jakiéj takiéj wiedzy, każdy więc najmniejszy jéj promyk staje się dla mnie rodzajem objawienia; dla tego śmiało powiém żem od Pana dużo skorzystała. Dowiodło mi to, że miałem od natury niemałe zdolności, którym tylko kierunku i pomocy do rozwinięcia się zabrakło, ale nie mniej służy za dowód, że Pan posiada niepospolity talent pedagogiczny – potęgę słowa, jasność wykładu; to téż, wbrew tradycji obywatelsko ziemiańskiéj, sądzę iż najwłaściwszym dla Pana zawodem byłby profesorski – naturalnie w wyższych zakładach. –

Jak wygląda mój przekład? Nie wiem: – czasami wątpię zupełnie to znowu wznoszę zamki na lodzie; – zawsze te zmienne fale mysli… W niektórych miejscach lękam się pospolitości wyrażeń i rymów, ale kto wie? może najzdolniejszy tłumacz temu by się nie obronił? Na przykład, trzecią część książki przynajmniéj zapełniają suche geograficzne opisy. Jeszcze, kiedy idzie o Europę, łatwiéj sobie poradzić: te bliższe nas miejscowości historja poezją opromienia; lecz jak tu, siedząc w takim kretowisku jak „Sioło-Wysockoje”, kreślić barwnym pędzlem kraje i kraiki, miasta i miasteczka Indji, zwłaszcza, jesli sam Camoens często nie więcéj o nich mówi jak – możny, ludny, bogaty i tp? Opisy bitw – najlepiéj mi się może udały: po rodzinie mam dużo żołnierskiéj krwi w żyłach. W ogóle ustępy, przy których serce choć trochę drgnąć mogło, wyszły lepiéj. Oto i wszystko co mam do powiedzenia |69| o Comoensie, prócz chyba tego, że pomimo radości z dokończenia roboty cóś mi się w życiu jakby zerwało, czegoś żal: miałem cel, teraz go nie mam, a ja bez celu żyć nie umiém. Chciej Pan przeczytać zakończenie pieśni $\text{IX}^{\underline{\text{téj}}}$ na oddzielnéj kartce przepisane. Mnie się ono podoba – a Panu? –

Chciałabym zapytać, co się z Panem dzieje? Co z Jego Rodziną? Jaką drogą idą mysli i działalność Pańska? Lecz, po tylu latach milczenia, nie wiém o co i o ile pytać mi wolno? Pamiętam jednak doskonale wszystko, co nam Pan o sobie i Swoich opowiadał, więc tę nitkę nawiązać byłoby łatwo.

Co do nas – siedzimy zawsze w nieznośnym Nowogrodzie: zmian tam mało, a jakie są to na złe; ludzie hulają, grają w karty – i – wynaradawiają się – jakby nie widzieli groźby w obłoku – smutno. Nasz dziedziczny kawałek ziemi podzielono między mną i siostrą, i nam się główna siedziba dostała; otóż dążymy do tego z Wacławem, żeby tam zanieść swoje kości; ale tyle jest interesów ciężkich, tyle różnych powikłań, że nie wiém kiedy się to nam uda? Tymczasem Wacław podupadł na zdrowiu, służba już dla niego zaciężka, ja też postarzałam bardzo; czas idzie i siły wyczerpuje… Sami możebyśmy się śmieléj rzucili, lecz tyle mamy (zwłaszcza Wacław) rodzinnych obowiązków, że plącząc własne interesa

moglibyśmy i innym uszczerbek przynieść. Słowem na każdym kroku rozterka i niepewność co tak męczy-wysila… Obecnie Wacław jest od dwóch tygodni w obozie pod Krasném siołem i ja bawię u niego, ale po 20[m] jadę do domu [na] nowe kłopoty i chcę tam stanąć przed 1[szym] Czerwca. Jesli więc ze chce Pan odezwać się |70| do mnie – to adres mój będzie: Минской губерніи Г. Несвижъ – для передачи въ имѣніе Дороговицу Тржещковской. –

A teraz – dłonią wyciągniętą po dawnemu i pozdrowieniem serdecznym żegnam Pana –

Zofja

Raz, w roku zeszłym, zaczęłam nucić „Kalinę" prawie mimowoli [w] naszym chłopskim białoruskim języku, powtórzyłam dziewczętom służącym – obudziło to zachwyt, po nocach się uczono. Na nieszczęście ja nie mam głosu i śpiewać nie mogę ani uczyć innych. – Ale mogę tłumaczyć i mam parę pieśni gotowych, pomyślałam, że nie źle byłoby może rozpowszechnić taki śpiewnik (naturalnie żywym głosem tylko) w miejsce obrzydliwości, które się teraz często słyszy. Co Pan na to? Posyłam Panu dwie piosenki – to tylko początek – zapomniałam białoruskiéj mowy choć wracam do niéj cudownie jak do piastunki lat dziecinnych – a w uchu mi gra dawniejsza – bez skazy…

|71| Treść. Afrodyta, chcąc wynagrodzić Luzów za długie trudy zatrzymuje ich na wyspie rozkosznej i Nimfy za małżonki im daje. Następnie jedna z Nimf, Tethyda, oznajmia, że obraz ten cały jest alegorją, pod którą kryje się mysl, że cnota i bohatérstwo zawsze nagrodzone być muszą (dziwne zdanie w ustach nędzarza Camoensa!) i tłumaczy znaczenie mitologji. –

88). Tak bohatérstwo przy boku piękności
Dzień prawie cały w upojeniu spędza
Słodkiéj, rozkosznéj, nieznanéj radości,
Którą się długa wynagradza nędza:
Tak zawsze w końcu męztwu i zacności
Swiat ten wysokich nagrod nie oszczędza,
Darząc tém na co zasługa ma prawo –
Głośném imieniem i széroką sławą.
89). Te śliczne Nimfy mórz z Tethydą razem,
Anielska wyspa na wodnym błękicie,
Nie są czém inném jeno czci obrazem
Co bohatérskie opromienia życie:
Sławy zdobytéj zwycięskiém żelazem,
Tryumfów, laurów wierne to odbicie,
I palm zasługi emblemat wspaniały,
I wielkich czynów i promiennéj chwały.
90). Ci nieśmiertelni, których starożytność
Śród gwiazd Olimpu umieszczać lubiła,
Tak się wyniesli przez dzieł swoich szczytność,
Które po świecie Fama rozgłosiła:
Przez męztwo jakiém znaczyli swą bytność,
Przez trudy wielkie; – a ścieżka im miła

Był to szlak cnoty tak twardy dla nogi,
Lecz w końcu gładki, i łatwy i błogi. –
|72| 91). Im się to jasne otwarły lazury
Za nieśmiertelnych czynów dokonanie,
Za dzieła[2], kunszta[1] już boskiéj natury,
Lecz przez nich w ludzkim dopełnione stanie:
Jowisz, Apollo, i Mars i Merkury,
Enej, Quirinus i obaj Tebanie,
Juno, Pallada, Ceres, Djana śmiała –
Wszyscy nosili wątłe ludzkie ciała.
92). Lecz trąba Famy tysiącznémi głosy
Dziwnémi w świecie ochrzciła ich miany:
Bogi, półbogi, gienjusze, herosy,
I opiekuny krajów i tytany.
O! wy, co sławy cenicie rozgłosy,
Gdy chcecie słynąć pomiędzy ziemiany,
Wstańcie! próżniaczy sen strząśnijcie z powiek,
Przez który w więzy okuty duch-człowiek!
93). Chciwości waszéj nałożcie wędzidło,
Uśmierzcie pychę obrzydłą, złowrogą,
Co tysiąc razy swą mocą obrzydłą
Podłéj tyranji popycha was drogą:
Czyż złoto, czyliż zaszczytów mamidło
Prawdziwą wartość ludzką podnieść mogą?
Wznioslej jest stokroć mieć u losu długi
Niż wszystko posiąść bez własnéj zasługi.
94). W pokoju słuszne stanówcie statuta,
Co przed możnymi ubóstwo osłonią;
Lub rzesza w zbroje błyszczące zakuta
Niech Saraceny dzielną gromi dłonią:
Utwierdźcie wielkość państwa – a odczuta
Będzie przez wszystkich; – losy ku wam skłonią,
Wedle zasługi skarby i oklaski,
Co życie w takie oblekają blaski.
95). Kochacie króla – wzmożcież blask korony. –
Czy go wesprzecie roztropnémi rady,
Czyli orężem, co w świecie wsławiony,
Unieśmiertelni was jak wasze dziady:[1]
Nie zna duch wielką wolą umocniony
Co niemożliwość. – Tak między gromady
Herosów – własne zapiszecie imie –
A na swą wyspę Wenera was przyjmie. –

|73| Rasła kalina bujno, szyroko,
Da nad krynicoj, da nad hłubokoj,
Doždžyczek piła, rasu zbirała,

[1] Наступныя чатыры радкі страфы запісаны збоку справа.

Wiasnoju u* soncy liści kupała. –
Pacierki letom mieła kalinki,
Jak dzieucza kosu pleła halinki,
Jakby dziauczatko u jasnu pahodu
I jak u lusterko hladzieła u wodu.
    Hulali wietry z bujnoj kasoju
    A oczy myła biełoj rasoju. –
Kale krynicy, kale kaliny
Kruciu nasz Jaśko dudki z wierbiny:
Ihrau jon z płaczem jak sieracina
Hdzie nad krynicoj raście kalina,
I śpiewau sztodnia ranniéj paroju
A hołas douha lecieu z rasoju.
    Kalina lepszu sukienku brała
    I jak dziauczyna u haji czekała.
A kali u osień trunu ciesali
I pod kryż czornyj Jaśku schawali,
Widno kalina jaho lubiła,
Bo usie listoczki z żalu zhubiła,
Pacierki krasne u wodu skidała,
Usia kaliny krasa prapała. –

|74| 2**

Raście Jawor na pryhorku
Jawor zialenieńki,
U czużoj wioscy prapadaje
Chłopiec maładzieńki.
    "Hinu, hinu, prapadaju,
    Para umiraci;
    Prasi dziaucza prasi, miła,
    Sztoby pryszła maci."
Pryszła maci, pryszła maci
I horko uzdachnuła
Kali na swajho synoczka
Miłaho uzhlanuła.
    "Oj dziciatko, oj ty synu,
    Synoczku mój miły
    Ty nie słuchau baćku, maci –
    Dojszou da mahiły."
"Praszu maci, praszu maci,
Choraszo chawajcie:
Usie dzwony niechaj dzwoniać,
Muzyku zahrajcie;
    Niechaj mienie nie chawajuć
    Ludzi naniatyje,
    Tolko chłopcy z naszoj wioski,
    Chłopcy maładyje." –

* *Ad marginem*: przyimka u najczęściéj nie liczę za oddzielną zgłoskę, bo i u ludu dźwięk ten choć wyraźny często zlewa się z następnym. Może inni potrafią tego uniknąć w wierszu – ja nie umiém.

** *Ad marginem*: Jest to piosnka Moniuszki pt *Kozak* (*Tam na górze jawor stoi*) przerobiona dla chłopca wiejskiego.

*Пераклад*

16 мая 1886 г. Сяло Высоцкае[1]

І вось аркуш дапісаны, кропка пастаўленая, дзень твой, работнік, амаль завершаны! "Пра каго і пра што гаворка? – запытае Пан, які, напэўна, не пазнае па почырку руку, якая гэта напісала. Размова пра тое, што я скончыла свой пераклад Камоэнса. Трэба яшчэ прагледзець, параўнаць, шмат што перапрацаваць і дадаць каментары, але ж высячы нешта з каменя цяжэй, чым адшліфаваць. Даўно ўжо я збіралася напісаць Пану, ды часам думала: навошта навязваць сябе памяці чалавека, прысутнасць якога мільганула сярод нас з хуткасцю імгнення, як успышка метэора; і калі Амелька[2] напісала мне, што бачыла Пана сумным і прыгнечаным, дык я хацела азвацца, бо сумныя часцей вітаюць кожны зычлівы голас; але зноў у мяне неяк рука не паднялася. Пан ведае, што чалавечыя думкі падобныя да хвалі: адна другую штурхаюць, змяняюць – і плывуць удалячынь, і невядома, што іх спыніць. Але вось цяпер адолела мяне неадступнае жаданне падзяліцца навіной пра заканчэнне працы з чалавекам, які першы заахвоціў мяне і падбадзёрыў. Што б я дала, каб магла з Панам прачытаць увесь пераклад! Колькі б даў мне Пан падказак! І самае галоўнае – атрымала б пэўнасць, што названае добрым – добрае. Дарэмныя мары! І так шмат Пан зрабіў для мяне за гэтыя гады: заўвагі Пана[3] шмат у чым адкрылі мне вочы. Можа, гэта падасца Пану перабольшаннем?

Але прашу ўлічыць, што амаль 20 гадоў я цалкам пазбаўленая таварыства літаратурна-адукаваных людзей, а да гэтага часу была такая маладая, ды так мала ў нас дзяўчаты вучацца, што ў мяне не было магчымасці атрымаць сякую-такую колькасць ведаў, дык кожны, самы малы іхні праменьчык становіцца для мяне накшталт адкрыцця; таму смела магу сказаць: я шмат скарыстала ад Пана. Гэта давяло мне, што мела значныя здольнасці ад прыроды, якім не хапіла толькі кіравання і дапамогі ў развіцці, але гэта тым не менш – доказ і таго, што Пан валодае незвычайным педагагічным талентам – моц слова, зразумеласць выкладу; дык, насуперак шляхецкай традыцыі, мяркую, што найбольш адпаведнай прафесіяй для Пана была б прафесія прафесара, натуральна, у вышэйшых навучальных установах.

---

[1] Маецца на ўвазе мясцовасць непадалёку ад Краснага Сяла. Сёння – Руска-Высоцкае (Русско-Высоцкое) у Ламаносаўскім раёне Ленінградскае вобласці.

[2] Гаворка пра Амелію Сакалоўскую, жонку Францішка Далеўскага.

[3] Відавочна, у сваіх лістах Ф. Зянковіч выказваў сваё меркаванне пра пераклады Адама М-скага.

Як выглядае мой пераклад? Не ведаю: часам я поўная сумненняў, потым ізноў будую замкі на лёдзе; гэтая вечная зменлівасць плыні думак... У асобных месцах я баюся надта простых выразаў і рыфмаў, але – хто ведае? – можа, самы таленавіты перакладнік не ўсцярогся б ад гэтага? Напрыклад, трацiна, прынамсі, кнігі напоўненая сухімі геаграфічнымі апісаннямі. Калі гаворка ідзе яшчэ пра Еўропу, дык з імі лягчэй справіцца: бліжэйшыя нам мясцовасці гісторыя паэзіяй апраменьвае; але як тут, седзячы ў гэткай кратовай нары, як "Сяло Высоцкае", маляваць каляровым пэндзлем краіны і землі, гарады і мястэчкі Індыі, асабліва, калі сам Камоэнс часта пра іх гаворыць не больш, чым – магутная, шматлюдная, багатая і г. д.? Апісанне бітваў, можа, мне ўдалося лепш за ўсё: ад продкаў маю шмат жаўнерскае крыві ў жылах. Увогуле, фрагменты, дзе сэрца хоць трохі магло здрыгануцца, атрымаліся лепей. Вось і ўсё, што я магу сказаць пра Камоэнса, за выключэннем таго, што, нягледзячы на радасць ад заканчэння працы, нешта ў маім жыцці нібы абарвалася, нечага мне шкада: у мяне была мэта, цяпер яе няма, а я не ўмею жыць без мэты. Май ласку, Пан, прачытаць завяршэнне IX-е песні, перапісанае на асобным аркушы? Мне яно падабаецца, а Пану?

Хацела б запытацца, як у Пана справы? Як сям'я? Куды скіраваныя думкі і дзейнасць Пана? Але пасля стольких гадоў маўчання я не ведаю, пра што і як магу пытацца. Аднак я выдатна памятаю ўсё, што Пан расказаў нам пра сябе і сваіх, дык было б лёгка зразумець усё.

Што да нас – сядзім стала ў нязносным Ноўгарадзе: зменаў там мала, а якія і ёсць – на кепскае; людзі лайдачаць, гуляюць у карты і дэнацыяналізуюцца, нібы не бачаць пагрозаў з неба – сумна. Наш спадчынны кавалак зямлі падзелены паміж мною і маёю сястрою, нам дасталася галоўная сядзіба; дык вось мы з Вацлавам марым пра тое, каб занесці туды нашыя косці; але гэтак шмат цяжкіх клопатаў, столькі розных ускладненняў, што я не ведаю, калі гэта ў нас атрымаецца. Тым часам Вацлаў страціў здароўе, служыць яму ўжо цяжка[1], я таксама вельмі пастарэла; час ідзе і забірае нашыя сілы... Магчыма, мы самі адважыліся б усё кінуць, але ў нас (асабліва ў Вацлава) столькі сямейных абавязкаў, што даўшы ход адно ўласным інтарэсам, мы маглі б зрабіць шкоду іншым. Адным словам, на кожным кроку ўзнікаюць праблемы і няўпэўненасць, што так мучыць і стамляе... Цяпер – ужо два тыдні – Вацлаў у лагеры блізу Краснага Сяла[2], і я баўлю час разам з ім, але пасля 20-га паеду дадому да новых клопатаў і збіраюся там з'явіцца да 1 чэрвеня. Дык калі Пан захоча азвацца да мяне – мой адрас такі: Минской губерніи Г. Несвижъ – для передачи въ имѣніе Дороговицу Тржещковской.

---

[1] В. Тшашчкоўскі меў на той час 47 гадоў.

[2] У сярэдзіне XIX ст. Краснае Сяло стала летняю вайсковаю сталіцаю Расейскае імперыі. Лагерныя зборы праходзілі ў два этапы: першы ад пачатку мая да сярэдзіны ліпеня, другі – з сярэдзіны ліпеня цягам трох-чатырох тыдняў і завяршаўся манеўрамі.

А цяпер – рукою, працягнутаю як даўней, і сардэчным паклонам я развітваюся з Панам.

Зоф'я

Аднойчы, летась, я пачала напяваць *Каліну*[1] амаль міжволі на нашай сялянскай беларускай мове і паўтарыла дзяўчатам-служанкам – гэта выклікала захапленне, яны вучыліся па начах. На няшчасце я не маю голасу: не магу ні спяваць, ні вучыць іншых. Але магу перакладаць і маю некалькі гатовых песень; я падумала, што някепска было б распаўсюдзіць такі спеўнік (вядома, толькі жывым голасам) замест агіднасцяў, якія цяпер можна часта пачуць. Што Пан на гэта скажа? Дасылаю Пану дзве песні – гэта толькі пачатак – я забыла беларускую мову, хоць вяртаюся да яе цудоўна як да пястункі дзіцячых гадоў – а ў вушах іграе мне даўнейшая – без заганы…

Змест. Афрадыта, жадаючы ўзнагародзіць лузаў за доўгія нягоды, затрымлівае іх на цудоўным востраве і дае ім німфаў за жонак. Далей адна з німф, Фетыда, заяўляе, што ўвесь гэты вобраз – алегорыя, у якой хаваецца думка, што цнота і гераізм заўсёды павінны быць узнагароджаны (дзіўнае выказванне ў вуснах бедака Камоэнса!) і тлумачыць сэнс міфалогіі.

<…>

* *Ad marginem*: Прыназоўнік ***у*** я часцей за ўсё не лічу асобным гукам, бо ў люду гэты гук, хоць і выразны, часта зліваецца з наступным. Магчыма, іншыя патрапяць пазбягаць гэтага ў вершы – я не ўмею.

** *Ad marginem*: Гэта песня Манюшкі *Казак* (*Tam na górze jawor stoi*), перароблeная для вясковага хлопца.

[1] Гаворка пра пераклад на беларускую мову надзвычай папулярнае песні, якую напісаў Ігнацы Камароўскі (1824–1857) на словы Тэафіля Ленартовіча (1822–1893) *Rosła kalina z liściem szerokim*…".

# Метрыкі

Беларускія гісторыкі літаратуры дату нараджэння Адама М-скага (З. Тшашчкоўскае)[1] падавалі паводле выяўленага У. Мархелем надмагілля, на якім чытаем: "Zofja z Mańkowskich / Trzeszczkowska / Poetka Adam M-ski. / Ur. 1847 26/XI † 24/IX 1911 / w Dorohowicy. / Może wiatr pieśni rozniesie po świecie / Pieśń serca, które czuło tak gorąco"[2]. Праўда, даследнікі не звярнулі ўвагі, што даты на помніку пададзены паводле старога стылю. Яно інакш быць не магло: у Расейскай імперыі паўсюль, нават у Каталіцкім касцёле[3], у XIX ст. выкарыстоўваўся юліянскі каляндар. Таму варта ўдакладніць: паводле надмагілля З. Тшашчкоўская нарадзілася 26.XI/8.XII 1847 г., а памерла 24.IX/7.X 1911 г.[4].

Выяўленая А. Бласінскаю копія выпіскі "изъ крестоприводной подлинной книги Бобовскаго Р. К. приходскаго костела"[5] зафіксавала крыху іншую дату – 29 лістапада 1847 г. Зноў жа – паводле старога календара, г. зн. запіс павінен быць такім – 29.XI/11.XII 1847 г.

На жаль, высветліць, якая з дат з'яўляецца дакладнай, пакуль не ўдалося: памыліцца маглі як у 1849 г., калі "паўторна" хрысцілі "19ти мѣсячную дѣвицу", так і ў 1911–1912 гг., калі выбівалі на надмагіллі дзень нараджэння.

Не дапамагае вырашыць справу і тое, што другое імя (Марыя) Зося Манькоўская магла атрымаць з г. зв. "kalindarka"[6]: паводле касцельнага календара імяніны для асобаў, якія насілі гэтае імя, прыпадалі як на 8, так і на 11 снежня. Хоць 8-га выбраць гэтае імя было больш пачэсна – у гэты дзень Каталіцкі касцёл святкуе Беззаганнае Зачацце Найсвяцейшай Панны Марыі (Niepokalane Poczęcie Najświętszej Maryi Panny).

---

[1] Гл.: *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 368.

[2] Гл.: У. Мархель, *Права на шчырасць*, "Маладосць" 2007, № 10, с. 128.

[3] На пачатку XX ст. католікі Расейскае імперыі, пасля аб'яўленых уладамі "свабодаў", няраз задаваліся пытаннем, чаму "katolik gub. kowieńskiej śpiewa *Gorzkie Żale* wtedy, kiedy jego bliski sąsiad z za Niemna w gub. suwalskiej już obchodzi święto Zmartwychwstania Pańskiego" і патрабавалі "co najprędzej wprowadzić do kościelnego życia kalendarz nowy". Гл.: *Listy do Redakcji: W sprawie kalendarza*, "Kurjer Litewski" 1906, nr 12, 15/28 stycznia.

[4] Дата смерці паводле новага стылю, дарэчы, падаецца ў некралогах.

[5] Гл.: A. Błasińska, *Zofia Trzeszczkowska i jej listy do Zenona Przesmyckiego* [w:] Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 5, 429.

[6] Maciej Buraczok [Ф. Багушэвіч], *Dudka Białaruskaja*, Kraków 1891, s. 51.

Выяўленая А. Бласінскаю копія выпіскі пра шлюб З. Манькоўскае і В. Тшашчкоўскага падае яшчэ адну, невядомую дасюль дату з жыцця паэткі.

№ 1: Метрычная выпіска пра нараджэнне і хрышчэнне Зоф'і Марыі Манькоўскае друкуецца паводле: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 147, воп. 3, спр. 24428, а. 3–3v.

№ 2: Метрычная выпіска пра шлюб Вацлава Тшашчкоўскага з Зоф'яю Манькоўскаю друкуецца паводле: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 147, воп. 3, спр. 24428, а. 4–4v.

## № 1

|3r| Копія

Метрическая выпись о рожденіи и крещеніи двуименной Зофіи Маріи Благородной Маньковской изъ крестоприводной подлинной книги Бобовскаго Р. к. приходскаго Костела требующей сторонѣ выдана изъ листа 13 статьи № 81.

Тысяча восемьсотъ сорокъ девятаго года мѣсяца Іюня 26 дня преподобнымъ Кс. Семеномъ Неселовичемъ Настоятелемъ Бобовенскаго Рымско Католическаго приходскаго Костела дополненъ обрядъ святаго крещенія надъ $19^{ти}$ мѣсячную дѣвицею двуименную Зофіею Маріею Благородныхъ Адама и Михалины урожденной Раѣцкой Маньковскихъ Судьи уѣзда Слуцкаго Законныхъ супруговъ дочерью рожденною въ мызѣ Дороговицахъ въ приходѣ Бобовенскомъ двадцать девятого Ноября тысяча восемьсотъ сорокъ седмаго года и тогда по угрожавшей опасности окрещенною Кс. Семеномъ Несѣловичемъ одною только водою. При совершеніи сего таинства присудствовавшій Дворянинъ Іосифъ Орачевскій Судья уѣзда Слуцкаго съ Изабелою Лозовскою дворянкою. Воспріемникъ крещенной свидѣтелемъ при крещеніи былъ Слуцкаго уѣезда помѣщикъ б. Судья Іосифъ Людвиковъ Орачевскій.

Что сія метрическая выпись о|рожденіи и крещеніи Благородной Зофіи Маріи Маньковской вѣрно сходна |3v| съ кресто приводною подлинною книгою Бобовскаго Рымско-Католическаго Костела въ томъ приложеніемъ Костельной печати собственноручнымъ подписомъ свидѣтельсвуется. 31 дня Января мѣсяца 1861 года въ м. Бобовнѣ /:на подлинномъ подписано:/ Администраторъ Бобовенскаго Рымско Католическаго Приходскаго Костела Ксендзъ Ад. Тышкевичъ /:М. П.:/.

Что сія метрическая выпись о рожденіи и крещеніи Благородной двуименной Зофіи Маріи дочери Адама Маньковскаго съ подлинною книгою Бобовенскаго Рымско-Католическаго Приходскаго Костела вѣрна имѣетъ законную удостовѣренность, въ томъ собственноручнымъ подписомъ съ приложеніемъ казенной деканской печати свидѣтельствую. Февраля 1 дня 1861 года. /:На подлинномъ подписал:/ Слуцкій Деканъ Кс. Шимкевичъ /:М. П.:/.

Вѣрно: За Столоначальника <*нечыт. подпіс*>.

*Пераклад*

Копія

Метрычная выпіска пра нараджэнне і хрышчэнне двухіменнае Зоф'і Марыі, высакароднае Манькоўскае, з крыжапрысяжнае аўтэнтычнае кнігі Бабаўнянскага Р. к. парафіяльнага касцёла выдадзена на запатрабаванне з аркуша 13, артыкула № 81.

Тысяча восемсот сорак дзявятага года месяца чэрвеня 26 дня вялебным кс. Сымонам Несяловічам, пробашчам Бабаўнянскага Рыма-каталіцкага парафіяльнага касцёла, дапоўнены абрад святога хрышчэння над 19-цімесячнаю дзяўчынкаю, двухіменнаю Зоф'яю Марыяю, высакародных Адама і Міхаліны з Раецкіх Манькоўскіх, суддзі Слуцкага павета, законных сужэнцаў, дачкою, народжанаю ў фальварку Дарагавіца Бабаўнянскай парафіі дваццаць дзявятага лістапада тысяча восемсот сорак сёмага года, і тады ж праз небяспеку, якая пагражала, ахрышчанаю кс. Сымонам Несяловічам адною толькі вадою. Пры ўчыненні гэтага сакраманту прысутнічалі: шляхціц Юзаф Арачэўскі, суддзя Слуцкага павету, з Ізабэлаю Лазоўскаю, шляхцянкаю. Хросны бацька хрышчанай – сведка пры хрышчэнні – Слуцкага павета памешчык, б. суддзя Юзаф Людвікаў Арачэўскі.

Што гэтая метрычная выпіска пра нараджэнне і хрышчэнне высакароднае Зоф'і Марыі Манькоўскае дакладна адпавядае крыжапрысяжнай кнізе Бабаўнянскага Рыма-каталіцкага касцёла, пасвядчаецца прыкладаннем касцельнае пячаткі і ўласнаручным подпісам. 31 дня студзеня месяца 1861 года ў м. Бабоўня /:у аўтэнтыку падпісана:/ Адміністратар Бабаўнянскага Рыма-каталіцкага парафіяльнага касцёла ксёндз Ад. Тышкевіч /:М. П.:/.

Што гэтая метрычная выпіска пра нараджэнне і хрышчэнне высакароднае двухіменнае Зоф'і Марыі, дачкі Адама Манькоўскага, з аўтэнтычнае кнігі Бабаўняскага Рыма-каталіцкага парафіяльнага касцёла дакладная і мае законнае сведчанне, у тым уласнаручным подпісам з прыкладаннем казённае дэканскае пячаткі сведчу. Лютага 1 дня 1861 года. /:у аўтэнтыку падпісаў:/ Слуцкі дэкан кс. Шымкевіч /:М. П.:/

Дакладна: За сталаначальніка <*нечыт. подпіс*>.

## № 2

|4| Копія

Метрическая выпись о бракосочетаніи Поручика Облегченной Батареи 3. полевой Артиллерійской бригады Вацлава Николаева Тржещковскаго съ помѣщицею Слуцкаго Уѣзда Софіею Адамовною Маньковскою изъ подлинной книги Несвижскаго Рымско Католическаго Приходскаго Костела съ листа 81 требующей сторонѣ выдана.

Тысяча восемьсотъ шестьдесятъ шестаго года Ноября двадцать шестаго дня въ Несвижскомъ Рымско-Католическомъ Приходскомъ Костелѣ, Ксендзомъ Іустиномъ Вейтко, по учиненіи трехъ кратныхъ оглашеній,

Поручика Облегченной Батареи 3 полевой Артиллерiйской бригады Вацлава Николаева Тржещковскаго, по свидѣтельству выданному ему Командующимъ тою Бригадою, Капитаномъ Петровымъ, отъ 14 Октября сего года за № 1126., на дозволенiе брака съ помѣщицею Софiею Адамовною Маньковскою, дѣвицею 19 лѣтъ, по сдѣланiи предварительнаго на письмѣ изслѣдованiя, о препятствiи къ бракосочитанiю, и по неоткрытiю, такъ равно по изъявленному съ обѣихъ сторонъ согласiю, въ лицѣ Костела, торжественно поблагословленъ въ присутствiи свидѣтелей, Михаила Матвѣева сына Цепринскаго-Цекаваго, кандидата обоихъ правъ, Помѣщика Iосифа Людвиковича сына |4v| Орачевскаго, Доктора Медицины Станислава Шаблевскаго, Помѣщика Слуцкаго Уѣзда Коллежскаго Ассесора Александра Николаева Загорскаго и доктора Медицины Ивана Карлова Стржалки.

О вѣрности настоящей Метрической выписи, съ подлинною книгою Несвижскаго Рымско-Католическаго Костела, надлежащимъ подписомъ съ приложенiемъ казенной Деканской печати свидѣтельствую. Декабря 5 дня 1866 года. Настоятель Несвижскаго Римско-Католическаго Приходскаго Костела и Слуцкаго Уѣзда Деканъ Кс. Шимкевич. /:М. П.:/.

Я нижеподписавшiйся, удостовѣряю вѣрность этой копiи съ подлинникомъ ея представленнымъ мнѣ Алексѣю Ивановичу Соцкому, Новгородскому Нотарiусу въ контору мою во 2 части на углу большой Михайловской улицы и набережной рѣки Волхово въ домѣ Федорова, Подполковникомъ Вацлавомъ Николаевичемъ Тржещковскимъ живущимъ въ Новгородѣ 1 части въ домѣ Тимосы. При сличенiи мною этой копiи съ подлинникомъ, въ посѣднемъ, почистокъ, прописокъ, зачеркнутыхъ словъ и никакихъ особенностей не|было. Въ этой копiи на первой страницѣ въ словѣ изъявленному поправлена буква "ъ". Апрѣля 24 дня 1881 года. По реастру № 496 /:На подлинномъ подписалъ:/ Нотарiусъ А. Соцкiй. /:М. П.:/.

Вѣрно: За Столоначальника <*нечыт. подпіс*>.

*Пераклад*

Копія

Метрычная выпіска пра шлюб паручніка аблегчанае батарэі 3 палявое артылерыйскае брыгады Вацлава Мікалаева Тшашчкоўскага з памешчыцаю Слуцкага павету Зоф'яю Адамаўнаю Манькоўскаю з аўтэнтычнае кнігі Нясвіжскага Рыма-каталіцкага парафіяльнага касцёла на запатрабаванне з аркуша 81 выдадзеная.

Тысяча восемсот шэсцьдзясят шостага года лістапада дваццаць шостага дня ў Нясвіжскім Рыма-каталіцкім парафіяльным касцёле ксяндзом Юстынам Вейткам, па ўчыненні трохразовых запаведзяў, паручніка аблегчанае батарэі 3 палявое артылерыйскае брыгады Вацлава Мікалаева Тшашчкоўскага, па пасведчанні, выдадзеным яму камандзірам тае брыгады, капітанам Пятровым, ад 14 кастрычніка гэтага года за № 1126, на дазвол узяць шлюб з памешчыцаю Зоф'яю Адамаўнаю Манькоўскаю, дзяўчынаю

19-ці гадоў, па зробленым папярэдне на пісьме даследаванні пра перашкоды да шлюбу, і па неадкрыцці, а таксама і па выяўленай з абодвух бакоў згодзе, ад імя Касцёла ўрачыста дабраславёны ў прысутнасці сведкаў: Міхаіла Мацвеева сына Цэпрынскага-Цэкавага, кандыдата абодвух праў, памешчыка Юзафа, Людвікавіча сына Арачэўскага, доктара медыцыны, Станіслава Шаблеўскага, памешчыка Слуцкага павета, калежскага асэсара Аляксандра Мікалаева Загорскага і доктара медыцыны Івана Карлава Стшалкі.

Пра дакладнасць гэтае метрычнае выпіскі з аўтэнтычнаю кнігаю Нясвіжскага Рыма-каталіцкага касцёла адпаведным подпісам з прыкладаннем казённае дэканскае пячаткі сведчу. Снежня 5 дня 1866 года. Пробашч Нясвіжскага Рыма-каталіцкага парафіяльнага касцёла і Слуцкага павета дэкан кс. Шымкевіч. /:М. П.:/.

Я, ніжэйпадпісаны, пацвярджаю дакладнасць гэтае копіі з аўтэнтыкам, пададзеным мне, Аляксею Іванавічу Соцкаму, ноўгарадскаму натарыусу ў кантору маю ў 2-й частцы на рагу Вялікае Міхайлаўскае вуліцы і набярэжнае ракі Волхаў у доме Фёдарава, падпалкоўнікам Вацлавам Мікалаевічам Тшашчкоўскім, які жыве ў Ноўгарадзе 1-й часткі ў доме Цімосы. Пры параўнанні мною гэтае копіі з аўтэнтыкам у апошнім падчыстак, прыпісак, закрэсленых слоў і ніякіх асаблівасцяў не|было. У гэтай копіі на першай старонцы ў слове "изъявленному" выпраўленая літара "ъ". Красавіка 24 дня 1881 года. Паводле рэестра № 496. /:на арыгінале падпісаў:/ Натарыус А. Соцкі. /:М. П.:/.

Дакладна: За сталаначальніка <*нечыт. подпіс*>.

# Некралогі

Niechaj nade mną i moim imieniem
Będzie milczenie i cisza głęboka…
Może gdzieś serce odpowie mi drgnieniem
Lub łza z czyjegoś uroniona oka?

Może wiatr pieśni rozniesie po świecie –
Pieśń serca, które czuło tak gorąco?
Lecz gdy już zwiędło szczęścia mego kwiecie
Niech mi rozgłosem dni smutnych nie mącą.

Dla siecią zmarszczek zoranego czoła
Już nie przystoi życia gwar zawrotny;
Niech nikt nie zowie i nikt mię nie woła:
Skończę – jak żyłem – cichy i – samotny…[1]

Так пісаў Адам М-скі ў сярэдзіне 1890-х гг. Амаль цалкам схаваўшыся ад свету, паэт, аднак, ці то з Ноўгараду, ці то з Дарагавіцы раз-пораз дасылаў яму знакі свайго існавання. Але, уласна, знакі не свае – Зоф'і з Манькоўскіх Тшашчкоўскае, а напаўмістычнага Адама М-скага. Ды, відаць, не жадала, каб пасля ейнага сыходу свет жывых даведаўся праўду і пра яе, і пра Адама М-скага.

Сталася – усё ж – інакш.

У кастрычніку–лістападзе 1911 г., адразу ж пасля ейнае смерці, ажно восем перыядычных выданняў данеслі чытацкай грамадскасці сапраўднае імя тае, хто цягам амаль трыццаці гадоў шчыра працавала дзеля польскае літаратуры і культуры.

Хто "здрадзіў" таямніцу Адама М-скага? Відавочна, той, хто гэтую таямніцу ведаў. А такіх у літаратурных колах было, здаецца, няшмат. Пра аднаго з іх мы ведаем дакладна: паэт, перакладнік і літаратурны крытык Антоні Лангэ (1862–1929), які прыязджаў у Дарагавіцу, а г. зн. схаваць сваю

---

[1] Верш *Niechaj nade mną i moim imieniem…* з прыпісам "гэта з апошніх песняў, якія я напісаў", змешчаны як дадатак да ліста Адама М-скага да Зянона Пшасмыцкага ад 5 лістапада 1896 г. Гл.: BN, sygn. 2864, k. 206v. Упершыню апублікаваны пад тытулам *Odpowiedź* у газеце "Głos" (1898, nr 31, 18/30 lipca). Два радкі з гэтага верша ("Może wiatr pieśni rozniesie po świecie – // Pieśń serca, które czuło tak gorąco") выбіты на гранітнай надмагільнай пліце Адама М-скага (З. Тшашчкоўскае) на могілках ля вёскі Бабоўня Капыльскага раёна.

тоеснасць Адаму М-скаму ад яго наўрад ці ўдалося[1]. Можна дапусціць (як гэта робіць А. Бласінская[2]), што пра тоеснасць Адама М-скага ведаў ад А. Лангэ і Мірыям (Зянон Пшасмыцкі). Аднак трэба памятаць, што ні адзін, ні другі, нягледзячы на шчыльнае супрацоўніцтва цягам 1887–1900 гг., аніяк не засведчылі сваю зацікаўленасць лёсам Адама М-скага ў XX стагоддзі.

На нашую думку, праўда пра Адама М-скага паходзіць ад ягонага блізкага атачэння – крэўных. Магчыма, пэўны ўдзел у раскрыцці таямніцы брала Альдона Раецкая. Але галоўную ролю, відаць, адыграла Станіслава з Кандратовічаў Сыльвестровіч. Пакуль не ўдалося даведацца: была яна дачкою аднаго з родных сыноў літоўскага лірніка Уладзіслава (1848–1916)[3] альбо Казіміра (1853–1915) ці нейкага іншага з роду Кандратовічаў? Але істотна тое, напрыклад, што пішучы ў "Kurjer Wileński" пра смерць Адама М-скага, яна падала – сярод іншага – што "Сыракомля меў звычай паўжартам называць яе ў дзяцінстве «беспамылковаю»[4]".

Амаль усе іншыя некралогі знаходзяцца ў наўпроставай залежнасці ад публікацыі С. Сыльвестровіч. Пацвярджэнне знаходзім, супаставіўшы апублікаваныя матэрыялы. Пададзім іх у храналагічнай паслядоўнасці:

2/15 października[5]

St[anisława] Sylw[estrowiczowa], *Ś. p. Adam M-ski. (Zofja Trzeszczkowska)*, "Kurjer Wileński" 1911, № 103.

17 października

*Ś. p. Adam M-ski. (Zofja Trzeszczkowska)*, "Kurjer Warszawski" 1911, nr 287.

Спаслаўшыся на "Kurjer Wileński", аўтар скампанаваў сваю публікацыю з асобных фрагментаў артыкула С. Сыльвестровіч. Гэтым аўтарам мог быць, на нашую думку, Тадэвуш Коньчыц (сапр. Тадэвуш Альфрэд Грот-Бэнчкоўскі, 1880–1943), маці якога пісьменніца Ванда Убершэр (Überschär, 1854–1925) у 1898 г. другі раз выйшла замуж за Уладзіслава Раймунда Каратынскага (1866–1924), сына Вінцэся. Т. Коньчыц шмат гадоў актыўна супрацоўнічаў з "Kurjerem Warszawskim" і, відавочна, ад Каратынскіх і з віленскіх газетаў ведаў пра літаратурнае жыццё на Літве.

---

[1] У Дарагавіцы А. Лангэ быў у 1894 г. Пра гэта сведчаць прыпісы пад ягонымі вершамі: *Topola* (Dorohowica, 1894), *Cmentarz* (Wspomnienie z Dorohowicy, 1894), *Na Świtezi* (Świteź – Nieśwież – Dorohowica, 1894). Гл.: A. Lange, *Poezye*, część II, Kraków 1898, s. 67–69, 93–110.

[2] Гл.: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego z lat 1887–1901*, wstęp, oprac. A. Błasińska, Warszawa 2019, s. 18: "Гэта быў бы даволі асаблівы выпадак, калі б яе сапраўднае прозвішча ведаў Лангэ, а не ведаў яго Пшасмыцкі, з якім усё ж яна знаходзілася ў больш блізкіх кантактах".

[3] Вядома, што У. Кандратовіч меў дачку Людвіку (1880–1966), якая была замужам за Былінскім. Гл.: *Wielka Genealogia Minakowskiego* [online] http://wielcy.pl/wgm/?m=NG&t=PN&n=psb.33002.11 [доступ: 5.03.2021].

[4] У арыгінале: "Syrokomla pół żartem zwykł ją w dzieciństwie tytułować «nieomylną»". Цікава, што тое самае было ў лісце З. Тшашчкоўскае да В. Каратынскага, што быў апублікаваны толькі ў 1917 г. ("Bluszcz" nr 5–6).

[5] Віленскія перыядычныя выданні ў той час падавалі як новы, так і стары стыль календара. Варшаўскія – толькі новы.

## 28 października

St. S., *Adam M-ski. (Zofia Trzeszczkowska)*, "Świat" 1911, nr 43.

Крыптанім St. S. "Nowy Korbut" (Warszawa 1982, t. 16, s. 110) расшыфроўвае як "Станіслаў Сераслаўскі", маючы на ўвазе вядомага пісьменніка, журналіста і перакладніка (1877–1941). Аднак звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што некралог у варшаўскай газеце "Świat", з аднаго боку, паўтарае шмат у чым публікацыю Stan. Sylw. у "Kurierze Wileńskim", а з другога – падае новыя звесткі (фотаздымак З. Тшашчкоўскае і цытату з нататкі на ім) пра паэтку, чаго кракаўскі журналіст, здаецца, не мог ведаць. На нашую думку, больш верагодна, што гэта С. Сыльвестровіч даслала ў "Świat" свой допіс пра смерць Адама М-скага (З. Тшашчкоўскае), а ейны крыптанім ***St. Sylw***. з невядомых прычынаў перамяніўся ў ***St. S.***

*Z teki pośmiertnej Adama M-skiego. Echa*, "Tygodnik Illustrowany" 1911, nr 43.

Публікацыя (уласна не некралогу, а нізкі з васьмі санетаў пад агульнаю назваю *Echa* з кароткаю прадмоваю) таксама магла ўзнікнуць паводле артыкула ў "Kurjerze Wileńskim" альбо (больш верагодна) у "Kurjerze Warszawskim". Дакладней, інфармацыя пра смерць Адама М-скага сталася падставаю напісання прадмовы і змяшчэння ў "Tygodniku Illustrowanym" вершаваных твораў, што знаходзіліся ў рэдакцыйным партфелі газеты. Аднак не выключаем, што С. Сыльвестровіч ці А. Раецкая даслалі ў "Tygodnik" паведамленне пра смерць свае крэўнае, а таксама і нізку *Echa*. Заўважым: толькі тры з васьмі санетаў былі калісь надрукаваныя ў газеце "Głos" (1896, nr 19, 5 V), а г. зн., што нізку цалкам маглі даслаць толькі крэўныя. Нехта з рэдакцыі напісаў колькі ўступных слоў: "Памерлая 7 дня бягучага месяца ў Дарагавіцы[1] на Слуцкай зямлі Зоф'я з Манькоўскіх Тшашчкоўская (цягам многіх гадоў супрацоўніца і нашага "Tygodnika"), што пісала пад мужчынскім псеўданімам Адам М-скі, належала да самых густоўных нашых паэтаў эпохі пасля 1863 года. Апрача арыгінальных твораў, як цыкл *Pieśni Dorohowickich*, фрагменты якога ў свой час друкаваў "Tygodnik", апрача паэмы *Jeden z wielu*, апрача зборніка лірычных вершаў *Przebrzmiałe akordy*, які тагачасная цэнзура так парэзала, што выдаць яго было немагчыма, яна аўтарка шматлікіх перакладаў вельмі добрае мастацкае вартасці; перакладала з правансальскае *Мірэя* Містараля, *Лузіяду* Камоэнса, *Габрайскія мелодыі* Байрана, творы Ламарціна, а таксама шмат іншых французскіх паэтаў. І тут, уласна, найлепей выявілася індывідуальнасць паэткі, вялікі талент перакоўваць чужыя формы на ўласныя, майстэрскае валоданне вершам. Ціхая і сціплая, яна ўсё жыццё не адкрывала прылбіцы псеўдаміна, і смерць яе ў глухім ліцвінскім кутку прайшла амаль незаўважна".

Істотна тое, што аўтар "Tygodnika" хоць і не "цытуе", не выкарыстоўвае фрагментаў некралогу з газеты "Kurjer Wileński", але спыняецца на тых самых момантах творчае біяграфіі Адама М-скага (З. Тшашчкоўскае), на тых самых – характэрных – дэталях (напрыклад, пра цэнзураванне зборніка *Przebrzmiałe akordy*), што і С. Сыльвестровіч.

## 4 listopada

T. K-c, *Z żałobnej karty. Ś. p. Adam M-ski,* "Bluszcz" 1911, nr 44.

Некралог падпісаны псеўданімам Т. Грот-Бэнчкоўскага "T[adeusz] K[ończy]c". Гэта можа быць ускосным сведчаннем, што і публікацыя ў "Kurjerze Warszawskim" таксама належыць яму. За два тыдні Т. Грот-Бэнчкоўскі здабыў новыя матэрыялы пра Адама М-скага (З. Тшашчкоўскую) і напісаў самастойны тэкст, што дало магчымасць падпісаць яго сваім звыклым псеўданімам.

---

[1] Некралог у "Kurjerze Wileńskim" не падае месца смерці Адама М-скага, а вось у газеце "Świat" – называецца Вільня. Усё гэта ўскладняе атрыбуцыю публікацый.

9 listopada

*Ś. p. Adam M-ski. (Zofja Trzeszczkowska)*, "Dziennik Chicagowski" 1911, nr 260.

Газета амерыканскае палоніі, спаслаўшыся на першакрыніцу, выкарыстала асобныя фрагменты некралогу ў "Kurjerze Wileńskim".

11 listopada

*Zofia z Mańkowskich Trzeszczkowska*. "Tygodnik Illustrowany" 1911, nr 45.

У нумары змешчана фота З. Тшашчкоўскае [вядомае нам паводле *Albumu z fotografiami towarzyszy, uczniów i znajomych Feliksa Zienkowicza z czasów zesłania na Syberię z lat 1860–1883* (Rps Ossol. 13324/I, t. 2)] з наступным каментаром: "Фотаздымак сціплае паэткі, якая ненавідзела славу, толькі сёння, з вялікімі цяжкасцямі, здолелі мы здабыць для нашых чытачоў".

17 listopada

*Kartki ilustrowane: Zofia Trzeszczkowska*, "Biesiada Literacka" 1911, nr 46.

Невядомы "аўтар" выкарыстаў, спаслаўшыся на аднаго "z jej biografów, p. St. S.", дзеля свае публікацыі фрагменты некралогу з газеты "Świat", але ўдакладніў, што Адам М-скі (З. Тшашчкоўская) памерла "w Mińsku Litewskim"[1], і перадрукаваў рэпрадукцыю фотаздымка паэткі ў вайсковай вопратцы.

18 listopada

Jan…, *Wspomnienie. Adam M-ski (Zofja z Mańkowskich Trzeszczkowska)*, "Bluszcz" 1911, nr 46.

Listopad

L. W., *Wspomnienia pozgonne: Ś. p. Zofia Trzeszczkowska (Adam M-ski)*, "Biblioteka Warszawska" 1911, t. IV, z. 2 (listopad), s. 410–411.

Нехта L. W., што з нумара ў нумар рыхтаваў для часопіса раздзел *Wspomnienia pozgonne*, пераказаў, не спаслаўшыся на першакрыніцу, некралог з "Kurjera Wileńskiego".

Друкуюцца ў перакладзе з польскае мовы паводле:

№ 1 : St[anisława] Sylw[estrowiczowa], *Ś. p. Adam M-ski. (Zofja Trzeszczkowska)*, "Kurjer Wileński" 1911, № 103, 2/15 października, s. 2;

№ 2 : St. S., *Adam M-ski. (Zofia Trzeszczkowska)*, "Świat" 1911, nr 43, 28 października, s. 16.

№ 3: T. K-c, *Z żałobnej karty. Ś. p. Adam M-ski,* "Bluszcz" 1911, nr 44.

№ 4: Jan…, [*Wspomnienie*]. *Adam M-ski (Zofja z Mańkowskich Trzeszczkowska)*, "Bluszcz" 1911, nr 46.

[1] У газеце "Świat": "w Wilnie".

## № 1

## Св. п. Адам М–скі (Зоф'я Тшашчкоўская)

У суботу 24 верасня (7 кастрычніка) бягучага года пакінула гэты свет вельмі таленавітая паэтка, хоць адносна мала вядомая шырокай грамадскасці. Глыбокая думка, а таксама пачуццё, якое біла жывым пульсам, выліваліся ў яе ў дзівосную паэтычную форму і плылі шырокай свабоднай плынню, спяваючы то элегічную песню мінулых гістарычных падзеяў, то адбіваючы тон пошуму родных бароў і палеткаў, або плачучы вялікім, але глыбока прыхаваным жалем жыцця.

Гэта быў пясняр папраўдзе з Божае ласкі, вольны ад штучнага і мазольнага рыфмавання. Тое, што наплывала ў яе на пяро, – вырывалася наўпрост з сэрца і розуму.

Найлепш характарызуе яна сябе ў прадмове да *Przebrzmiałych akordów*[1]:

"Я нічога не пісала[2] для мастацтва, а калі і ёсць нейкая мастацкасць у маіх вершах, дык яна выпадковая: птах спявае альбо каркае ў залежнасці ад таго, якое горла дала яму прырода, так было са мною. Я пераліла ў песню толькі тое, што сама адчувала, перажыла альбо падгледзела ў сэрцах блізкіх мне людзей":

Jak gra promieni w słońca pryzmacie
Istoty drogie, ludzie blizcy…
Wy w piosnkach piewcy lśnicie wszyscy,
Lecz tylko on zna te postacie[3].

А яшчэ лепей выказваецца ў сваёй *Piosnce*…:

Piosnko ma, dziecino ma,
Dziecino rozżalona,
Na piersi mej, na wiernej tej,
Odpocznij ukojona.
I z serca mi zaczerpnij krwi,
Na nuty przelej wrzące,
I cichy ton w rycerski śpiew
I w hymny zmień gorące[4].

---

[1] *Przebrzmiałe akordy* (*Акорды, якія адгучалі*) – падрыхтаваны ў 1896–1898 гг. Адамам М-скім (З. Тшашчкоўскаю) зборнік вершаў, выдаць які не атрымалася.

[2] У арыгінале дзеяслоў пададзены ў форме жаночага роду, аднак малаверагодна, што Адам М-скі (З. Тшашчкоўская) пісала прадмову ад імя кабеты.

[3] Першая страфа ўступу (*Przygrywki*) да паэмы *Jeden z wielu*, напісанай у 1880-я гг., а надрукаванай ў 1890 г. у Кракаве. У першапублікацыі:

Jak gra promieni w szkła pryzmacie…

Магчыма, St. Sylw. карысталася рукапісам паэмы.

[4] Верш *Piosenko ma* (з цыклу *Piosenki*) пры жыцці аўтаркі не друкаваўся. Рукапіс у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (BN, sygn. II 5454, k. 103).

Народжаная ў 1847 годзе ў Драгавіцы[1] Мінскае губерні Слуцкага павету ў сям'і Адама і Міхаліны з Раецкіх Манькоўскіх, яна з ранняга дзяцінства пачала выяўляць нязвыклыя разумовыя здольнасці і надзвычай ураждлівую душу.

Сыракомля меў звычай паўжартам называць яе ў дзяцінстве "беспамылковаю". Першыя гады свайго жыцця яна правяла ў Драгавіцы, гадаваная старымі традыцыямі, рэхам 30-х гадоў[2], якое чулася ў апавяданнях старое бабкі, потым краёваю трагедыяй 63 г.[3] і фанатычнаю прывязанасцю да роднае зямлі, да яе славы і тугі. У гэтай атмасферы непамерна развівалася дзіцячае ўяўленне:

Kołysał mię ciemny bór,
A potem żołnierski śpiew,
I dotąd serce gra im wtór
I w takt uderza moja krew.
To z babki ust płynął ten śpiew
Od Samossiery[4] gór,
I dotąd w takt uderza krew
I serce gra im wtór.
Z pod niebios gdzieś chrzest orlich piór
Rodzonej puszczy wiew –
To wszystko me: – im duch gra wtór
I serce me i krew[5].

З яе маладымі гадамі звязаныя ўспаміны пра суровы дэспатызм маці; але бацьку бязмежна давярала. Будучы чалавекам выдатна адукаваным, ён ахвотна дзяліўся сваімі ведамі з малою Зосяю, абуджаючы ў яе сур'ёзныя думкі і любоў да хараства.

У варшаўскім пансіёне пані Клячкоўскай[6], куды яна была аддадзеная, яе вылучала гаспадыня сярод іншых вучаніц і дапускала на паважныя літаратурныя сходы, якія перыядычна адбываліся ў ейным доме.

---

[1] Трэба: у Дарагавіцы. Тут і далей, відаць, памылкі друку, бо ў апошнім сказе некралогу падаецца правільнае напісанне.

[2] Маюцца на ўвазе падзеі Паўстання 1830–1831 гг., у якіх брала ўдзел і навагрудская шляхта.

[3] Маецца на ўвазе Паўстанне 1863 г.

[4] Правільна: Somosierry. Маецца на ўвазе легендарная бітва 30 лістапада 1808 г. блізу Самасьеры падчас вайны Напалеона супраць іспанцаў. Польскаму эскадрону Яна Казятульскага (блізу 120–150 узброеных пікамі кавалерыстаў) імператар французаў аддаў загад атакаваць у лоб паслядоўна размешчаныя чатыры батарэі непрыяцеля. Бой цягнуўся каля 8 мінут і завяршыўся разгромам іспанцаў. Загінула амаль палова ўдзельнікаў атакі. Адам М-скі (З. Тшашчкоўская) няраз згадвала сямейную легенду, паводле якое ў бітве блізу Самасьеры браў удзел брат ейнае бабулі.

[5] Верш змешчаны ў лісце Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 2/14 сакавіка 1889 г. Пад тытулам *Kołysanka* друкаваўся ў выданні "Jednodniówka" (Monachium 1897, s. 23), у склад рэдакцыі якое ўваходзіў Адам Пшасмыцкі, брат Мірыяма.

[6] Насамрэч пансіён Францішкі Клячкоўскае (1827–1889) знаходзіўся ў Вільні.

Першыя літаратурныя спробы з’явіліся на дванаццатым годзе жыцця аўтаркі пад уражаннем ад смерці малога брата[1].

У вельмі маладым веку яна выйшла замуж за вайскоўца, п. Вацлава Тшашчакоўскага, і выехала разам з ім углыб Расеі ў Зарайск Разанскае губерні[2].

Блізу 1872 г. памёр бацька, якога яна вельмі любіла. Хвароба мужа не дазволіла паехаць на яго пахаванне. Душэўная прыгнечанасць узмацнялася яшчэ і тугою па краі і рознымі прыкрасцямі, звязанымі з вайсковаю службаю.

Нарэшце выбухнула турэцкая вайна[3].

Маладая жонка ў жаўнерскай вопратцы спадарожнічала мужу ў паходзе. Пакуль, аднак, дабраліся ў Румынію пад Бухарэст, вайна ўжо заканчвалася, дык яны спыніліся на нейкі час у Рушчуку[4], а пасля вярнуліся ў Расею.

У Ноўгарадзе яна пазнаёмілася з выгнаннікам Зянковічам[5], які затрымаўся там не надоўга падчас этапу[6]: ён значна паўплываў на яе паэтычную форму. Выпадкова купленыя ў дарозе падчас вяртання *Wędrówki Childe Harolda* Байрана і *Jocelyn* Ламарціна[7] далі штуршок паэтцы заняцца перакладам абодвух твораў на польскую мову[8].

---

[1] Відаць, гаворка пра старэйшага брата Аляксандра.

[2] Сёння: горад у Маскоўскай вобласці Расеі (145 км на паўднёвы ўсход ад Масквы).

[3] Маецца на ўвазе расейска-турэцкая вайна, якая пачалася ў красавіку 1877 г., а закончылася ў лютым 1878 г.

[4] Горад на правым беразе Дунаю. У лютым 1878 г. расейскае войска захапіла горад, які быў перайменаваны ў Русе. Батарэі, што знаходзіліся ў горадзе (відавочна, і батарэя В. Тшашчкоўскага), перашкаджалі турэцкаму флоту падымацца ўверх па Дунаі.

[5] Гаворка пра Фелікса Зянковіча.

[6] Недакладна. У 1881 г. Ф. Зянковіч пасля 17 гадоў сібірскае высылкі атрымаў дазвол на пасяленне ў Ноўгарадзе.

[7] Першым творам, які Адам М-скі пераклаў на польскую мову, была паэма А. дэ Ламарціна *Le Dernier Chant du Pélerinage d’Harold* (Paryż 1825). Відаць, менавіта гэты твор (*Апошняя песня пілігрымкі Чальд-Гарольда)*, а не паэма Дж.Г. Байрана (якую ўжо ў 1857 г. пераклаў Міхал Будзыньскі [1811–1864]), а таксама *Jocelyn* (*Жоселен*) былі набыты падчас вяртання з вайны. Паэму *Апошняя песня пілігрымкі Чальд-Гарольда* А. М-скі выдаў у 1883 г. у Вільні, а *Жоселен* рэдакцыя газеты “Życie” прыняла да друку ў 1887 г., хоць пасля сыходу з выдання З. Пшасмыцкага выдаць удалося толькі ў 1891 г. клопатам Зыгмунта Сарнэцкага (1837–1922) у Кракаве.

[8] Сам Адам М-скі ў лісце да З. Пшасмыцкага ад 2 / 14 сакавіка 1889 г. падаў гэта наступным чынам: “Ці калі згадваў я табе, пры якіх акалічнасцях пачаў перакладаць Ламарціна? Я вяртаўся з турэцкае вайны, пакутуючы ад дунайскае ліхаманкі і галюцынацый; знясілены паходам, хацеў нечым галаву асвяжыць; у Кішынёве на складзе, на паліцы сярод бутэлек віна, свечак і мыла я знайшоў 8 тамоў паэзіі і адразу ў дарозе пачаў перакладаць. У Харкаве шукаў нечага лепшага, але ў кнігарні, якая называлася ўніверсітэцкаю, мне і майму таварышу, калі мы папрасілі кніжак на замежнай мове, адказалі няветліва; сказалі, што Расея мае залішне шмат уласнага святла, каб пазычаць яго ў чужых. Мяркую, што пан кнігар быў у вельмі кепскім настроі, бо не хочацца верыць, што ў горадзе, дзе ёсць універсітэт, ніхто

Пасля яна шторaз смялей і шырэй выпрабоўвала свае літаратурныя здольнасці, працуючы адначасова ў розных кірунках і вывучаючы замежныя мовы, каб мець магчымасць увасобіць у роднай мове пярліны еўрапейскіх літаратур. Дык узнік пераклад з правансальскае *Miréio* Містраля[1]. Гэты аўтар даслаў ёй яшчэ адзін твор *Nerto* дзеля перакладу[2], але паэтка не знайшла ў ім таго, што, паводле яе слоў, "за сэрца хапае", дык адмовілася ад гэтае працы і ўзялася за *Luzjad* Камоэнса[3], на якога з нагоды юбілею была звернутая асаблівая ўвага.

Апрача Ламарціна яна перакладала з французскае мовы цэлы шэраг аўтараў: Бадлера[4], Гі дэ Мапасана[5], Гомеша дэ Амарыма[6], Аленеіда Барб'е[7],

замежных твораў не патрабуе? У Таганрогу, ля блакітна-жомчужнага Азоўскага мора я пераклаў *Ostatnią pieśń Chide-Harolda* Ламарціна, якую пасля мой крэўны з Завадскім выдалі ў Вільні (паскудна – з памылкамі!); праспяваў мне гэтую песню глухі скрып мачтаў на прыстані, дзе я часта сядзеў. <…> Пасля *Ostatniej pieśni* – я ўзяўся за *Jocelyna*, які даў мне колькі прыемных гадзін у маім смутку; там ёсць адна карта журбы самотніка, нібы цалкам з мае душы вырваная". Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego*…, s. 154–155.

[1] Над перакладам паэмы нобелеўскага лаўрэата (1904) Фрэдэрыко Містраля (1830–1914) *Miréio* (1859, *Мірэй*) Адам М-скі працаваў з 1890 г. да 1896 г. Твор быў выдадзены ў 1897 г. у серыі "Biblioteka najcelniejszych utworów literatury europejskiej".

[2] Маецца на ўвазе аповесць у вершах Фрэдэрыко Містраля (1830–1914) *Nerto*: *nouvelle*, выдадзеная ў 1884 г. Пра ліставанне Адама М-скага з правансальскім паэтам і мовазнаўцам звестак не захавалася.

[3] Над перакладам *Os Lusíadas* (*Лузіяды*, 1569) Л. Камоэнса Адам М-скі пачаў працаваць, відаць, у 1880–1881 г. Асобным выданнем твор быў надрукаваны пры спрыянні З. Пшасмыцкага ў 1890 г. у Варшаве.

[4] Гаворка пра Шарля П'ера Бадлера (1821–1867), французскага паэта, літаратурнага крытыка і перакладніка. Адам М-скі пераклаў блізу 60 ягоных вершаў. Засталіся неапублікаванымі: *Le coucher du soleil romantique, La musique, La rebelle, Une martyre, Correspondances, La vie antérieure, Le guignon, La masque, Sed non satiata*.

[5] Гі дэ Мапасан (1850–1893), французскі пісьменнік, аўтар многіх знакамітых апавяданняў, аповесцяў і раманаў. Адам М-скі пераклаў ягоную драматычную паэму *Histoire du vieux temps* [*Stare dzieje: Scena wierszem* („Życie" 1887, nr 50, 11.XII)].

[6] Маецца на ўвазе Франсішку Гомеш дэ Амарым (1827–1891), партугальскі паэт і пісьменнік. Адам М-скі пераклаў тры ягоныя вершы: *Piosnka miłosna* ("Kalendarz Powszechny" 1889, s. 46), *A Hungria* (уласна: *A queda da Hungria – Падзенне Венгрыі*), *Niewolnik* (неапублікаваныя).

[7] Гаворка, відавочна, пра Анры-Агюста Барб'е (1805–1882), французскага паэта і драматурга. Адам М-скі пераклаў ягоны верш *Pozory* („Życie" 1889, nr 9, 18.III).

Леконта дэ Ліля[1], Рабіно-Бертран[2], Андрэ Тэр'е[3], Альфрэда дэ Віньі[4]. Пазней перакладала з чэшскае мовы *Магдалену* Махара[5], а таксама на просьбу Хмялёўскага[6] – *Габрайскія мелодыі* Байрана[7].

Дасканалыя пераклады атрымалі вялікае прызнанне ў літаратурным свеце; асабліва Хмялёўскі і Янікэ[8] жыва заняліся яе талентам, ім таксама вельмі ўдзячная была паэтка за падштурхоўванне і падахвочванне да працы[9]. Шмат хто з літаратараў ведаў толькі яе псеўданім "А. М-скі" (імя бацькі Адам Манькоўскі), не падазраваў, што аўтарам з'яўляецца кабета і ўхвальна адзываліся як пра незвычайны мужчынскі талент. Аўтарка не развенчвала гэтых ілюзій, ведаючы, што жаночы талент выклікаў бы à priori[10] прадузятую крытыку.

---

[1] Шарль Мары Рэнэ Леконт дэ Ліль (1818–1894), знакаміты французскі паэт. Адам М-скі пераклаў ягоныя вершы: *Źródło* („Tygodnik Ilustrowany" 1885, nr 119, 11.IV), *Śmierć Adama* („Prawda" 1894, nr 38, 22.IX), *Glaukon* („Głos" 1895, nr 6), *Hypatia* („Prawda" 1896, nr 5, 1.II), *L'Holocauste*, *Le Talion*, *Niobé*, *Sacra fames*, *Thyoné* (неапублікаваныя).

[2] Маецца на ўвазе Шарль Рабіно-Бертран (1835–1885), французскі паэт. Ягоных вершаў у перакладзе Адама М-скага не выяўлена.

[3] Андрэ Тэр'е (1833–1907), французскі паэт, пісьменнік, драматург. Адам М-скі пераклаў два ягоныя вершы: *Le charbonnier* (*Вугальшчык*), *L'assemblée* (*Асамблея*) (неапублікаваныя).

[4] Альфрэд дэ Віньі (1797–1863), французскі паэт і пісьменнік. Адам М-скі пераклаў ягоную паэму *Éloa, ou La sœur des anges* (1824) [*Eloa czyli siostra aniołów* („Ateneum" 1895, t. III, s. 217–240)].

[5] Гаворка пра Ёзафа Сватаплука Махара (1864–1942), чэшскага паэта, пісьменніка і палітычнага дзеяча. Ягоны раман у вершах *Magdalena* (*Магдалена*) выдадзены ў 1893 г. у Празе.

[6] Гаворка пра Пятра Хмялёўскага (1848–1904), вядомага гісторыка літаратуры, крытыка, прафесара Львоўскага ўніверсітэта, пры спрыянні якога Адам М-скі надрукаваў у 1890-я гг. шэраг як уласных твораў, так і перакладаў.

[7] *Габрайскія мелодыі* Дж. Г. Байрана П. Хмялёўскі ўключыў у падрыхтаваную ім кнігу твораў ангельскага паэта *Poemata* (1895) у серыі "Biblioteka najcelniejszych utworów literatury europejskiéj" (s. 585–598). Тлумачачы прычыны, чаму ўключыў пераклад Адама М-скага, ён пісаў: "Што да *Габрайскіх мелодый*, то можна было б скласці іх з розных, ужо друкаваных перакладаў у сякую-такую цэласнасць, але заўсёды ў ёй відаць было б адрозненні ў спосабе перадачы арыгіналу. Замест сумнеўнага збору, я палічыў патрэбным даць аднародную новую спробу перакладу, асабліва, што за яго ўзяўся такі здатны майстра і такі задушэўны паэт як перакладнік *Лузіяды*, вядомай чытачам "Бібліятэкі", Адам М-скі".

[8] Гаворка пра Людвіка Янікэ (1818–1903), публіцыста, перакладніка, заснавальніка і рэдактара "Tygodnika Illustrowanego" (1859–1886).

[9] Незразумела, чаму аўтарка сярод асобаў, які спрыялі Адаму М-скаму, не згадала З. Пшасмыцкага? Проста не ведала ці былі нейкія іншыя прычыны?

[10] Ад лац. *a priori* – не абапіраючыся на факты.

Сярод яе арыгінальных твораў – *Jeden z wielu*[1], паэма, дзеянне якое адбываецца на фоне гістарычных падзеяў. Пасля – *Przebrzmiałe akordy*[2], зборнік вершаў, у якіх высвечваюцца ўспаміны, боль і слёзы апошніх нашых краёвых здарэнняў.

Выданнем *Ostatnich akordów*[3] заняўся Хмелёўскі, фірма "Gebethner i Wolff"[4] набыла іх у 1898 г. сабе; але, на жаль, строгі цэнзар так нелітасціва павыкрэсліваў з іх цэлыя фрагменты, палавіна напалавіну, нават у найбольш бязвінных і далёкіх ад бунтоўнае думкі частках, што паэтка не згадзілася на друкаванне сваіх твораў у падобнай парэзанай форме.

У цыкле *Pieśni Drohowickich* гучыць чуллівая мелодыя любові да свае зямлі, свайго люду, разуменне іхняе долі і нядолі, найбольш выразна – у песні *Z Łanu*.

Tyś mi chłopie nie święty, ani idylliczny,
Znam każdy z błędów twych i wad,
Lecz zło i dobro twoje, to mój skarb dziedziczny
Boś ty mój brat.

Nie umiem głośno płakać nad twoją niedolą
Nad mrokiem twoich głów i chat,
Lecz wszystkie rany twoje mą własną pierś bolą
Boś ty mój brat[5].

З гарачаю замілаванасцю да прыроды, услухаўшыся ў пульс яе жыцця, яна кажа:

… W przyrodzie niema sieroty!
Ona matka – i jej łańcuch złoty
Wszystkich łączy…
(*O czem trawa gada*)[6]

Гэтая вельмі разумная, з пачуццём характва і здольная асоба вызначалася дзіўнаю сціпласцю. Хавалася ад людзей і славы, і было гэта, бадай, прычынаю зусім малое яе вядомасці.

У сённяшніх умовах, калі цэнзура пэўным чынам змянілася, варта было

---

[1] Паэму *Адзін з многіх*, якую Адам М-скі называў "ўлюбёным дзіцяткам мае душы" і найбольш яе цаніў, удалося выдаць у Кракаве ў 1890 г.

[2] *Акорды, якія адгучалі*.

[3] *Апошнія (мінулыя) акорды*. Гаворка, відавочна, пра той самы рукапіс.

[4] Маецца на ўвазе кнігавыдавецкі дом "Gebethner i Wolff", заснаваны Густавам Адольфам Гебетнерам і Аўгустам Робертам Вольфам у Варшаве ў 1857 г. (да 1872 г. – "G. Gebethner i Spółka").

[5] Рукапіс верша *Z łanu* (цыкл *Z fal życia*) знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (Rkps BN 5454, k. 51–57). Упершыню часткова апублікаваны ў газеце "Dziennik Wileński" 1907, nr 293.

[6] Рукапіс верша *O czem trawa gada* (цыкл *Z teki żołnierza*) знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (Rps BN 5454, k. 138–140, а таксама Rps 5452, k. 65–67). Апублікаваны ўпершыню ў зборніку *Album współczesnych poetów polskich*, wyd. J. Kasprowicz, t. II, Lwów 1899.

б, каб сям'я альбо нехта са згоды сям'і, заняўся выданнем тых прыгожых вершаў, сабраных у двухтомным рукапісе[1].

Думала пра гэта сама паэтка, але слабасць і хвароба апошніх гадоў (склероз) не дазволілі ёй ажыццявіць той намер. Адно невялікая частка яе песень друкавалася ў часопісах і штотыднёвіках.

Некалькі гадоў таму ў "Tygodniku Ilustrowanym" былі змешчаныя фрагменты з *Dorohowickiego* цыклу[2].

Stan. Sylw.[3]

P. S. Пасля адраджэння польскага друку на Літве нябожчыца-паэтка выяўляла сваю зычлівасць да "Dziennika Wileńskiego" і "Gońca

[1] І сапраўды, як сведчыць часопіс "Echo Literacko-Artystyczne", невядомыя бліжэй сябры (Адама М-скага?) у 1913 г. планавалі выдаць ягоныя творы: "Адам М-скі (нар. 1847 – пам. 1911) быў вельмі высакародны паэт, але з прычыны акалічнасцяў – мала да гэтага часу вядомы. Сёння кола сяброў вырашыла пачаць выданне ягоных твораў. Шмат Адам М-скі друкаваўся пры жыцці ("Ateneum", "Prawda", "Życie", "Głos", "Tygodnik Illustrowany"), аднак пераважная большасць ("znaczna większość") засталася ў рукапісах" (1913, z. 3, s. 330).

[2] Stan. Sylw. мае на ўвазе публікацыю ў "Tygodniku Ilustrowanym" нізкі (чатыры санеты) *Dąbrowa* (1905, nr 29, 22.06/9.07). Можна дадаць: асобныя творы цыклу *Дарагавіцкія песні* друкаваліся і ў газеце „Kurjer Litewski" (1906).

[3] Крыптанім Stan. Sylw. належыць Станіславе Сыльвестровіч (Stanisława Sylwestrowiczowa), якая на пачатку XX ст. друкавалася на старонках "Kuriera Wileńskiego" і "Kuriera Litewskiego". Гл.: Ludwik Czarkowski, *Pseudonimy i kryptonimy polskie*, Wilno 1922, s. 80. У сеціве маецца інфармацыя, што захаваўся машынапіс ейных *Успамінаў* (Stanisława z Kondratowiczów Sylwestrowiczowa Nowicka, *Wspomnienia* 1919–1920, maszynopis). Гл.: *Dworce, mosty, drogi, tory* [online] http://obw.muzhp.pl/ziemia/gospodarstwa-i-majatki [доступ: 19.12.2020]. Змешчаныя тут фрагменты сведчаць пра тое, што яна, магчыма, была нявесткаю ўнука (?) Станіслава Сыльвестровіча (Сільвестровіча, 1833 – блізу 1910), уладальніка маёнтка Гожа ў Гродзенскім павеце, сябра Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, летам 1863 г. – паўстанцкага начальніка Гродзенскага ваяводства: "Знаходзячыся ў Гродне, я таксама заехала ў Гожу, якая засталася без усялякага прыгляду, бо п. п. Міхлеры ўцяклі ад бальшавікоў у горад. Нашэсце пакінула тут вельмі прыкметныя сляды; тое, што не ўдалося зрабіць вайне, зрабіў разбуральны дух бальшавізму. Пусткамі свяціліся ўсе будынкі, і толькі некалькі сем'яў жыло ў пакоях для лёкаяў. Палац здалёк свяціўся павырыванымі вокнамі і дзвярыма, пячныя дзверцы зламаныя альбо скрадзеныя, мэбля пашкоджаная, а часткова разрабаваная. Фартэпіяна Міхлераў стаяла перакуленае, з вырванымі клавішамі і віткамі бездапаможна завіслых струнаў, што сведчыла пра ступень культуры нападнікаў. <…> Усе гаспадарчыя пабудовы таксама былі пустыя, бальшавікі забралі ўсё, што можна было забраць, апрача некалькіх кароў, якіх пакінулі для лёкаяў. <…> Пасяліцца ў палацы было немагчыма, дык для мяне падрыхтавалі адзін пакой у будынку для лёкаяў, абставілі сяк-так рэшткамі мэблі. <…> Самая складаная галаваломка: што рабіць з Гожай? Узяць пад уласную адміністрацыю было немагчыма праз адсутнасць інвентару і грошай, прыстойнага арандатара цяжка было знайсці праз вялікую колькасць прапановаў зямлі, сялянам я не хацела аддаваць, бо баялася, каб яны яе не знішчылі".

Wileńskiego”[1], змяшчаючы ў гэтых выданнях свае паэтычныя творы, пераважна даўнейшыя, якія праз цэнзуру раней не маглі быць надрукаваныя або з’яўляліся толькі ва ўрыўках.

Red.[2]

## № 2

## Адам М-скі (Зоф’я Тшашчкоўская)

У сталым веку, але душою заўсёды маладая, памерла некалькі дзён назад у Вільні таленавітая паэтка Зоф’я Тшачкоўская. Літаратурны свет, чытачы ведалі яе толькі пад псеўданімам Адам М-скі, а моцны акорд, што няраз гучаў у ейных вершаваных творах, амаль не дазваляў дапускаць, што пад псеўданімам хаваецца кабета. Хоць і не заўсёды, бо побач з моцнымі мужчынскімі строфамі шмат можна знайсці гэткіх дзіўна-мяккіх, жаночых фрагментаў.

Пяснярка з Божае ласкі, узгадаваная традыцыямі 1830 г., яна сама вачыма дзяўчынкі-падлетка глядзела на падзеі 1863 г. (нарадзілася ў Дарагавіцы Мінскае губерні ў 1847 годзе), – палюбіла больш за ўсё на свеце родную зямлю, ейныя трыумфы і нядолю. На гэтым фоне развівалася маладая буйная фантазія, на гэтым фоне развівалася маладая паэтычная душа. Як гэта яна сама прыгожа кажа ў адным з твораў:

Kołysał mię ciemny bór,
A potem żołnierski śpiew,
I dotąd serce gra im wtór
I w takt uderza moja krew.
To z babki ust płynął ten śpiew
Od Samossiery gór,
I dotąd w takt uderza krew
I serce gra im wtór.
Z pod niebios gdzieś chrzest orlich piór
Rodzonej puszczy wiew –
To wszystko me: – im duch gra wtór
I serce me i krew.

Аднак лёс наканаваў ёй шмат гадоў жыць далёка ад айчыны, у далёкай Расеі, бо выйшла замуж за жаўнера, п. Вацлава Тшашчкоўскага. І як тыя полькі, што з мужамі і братамі ішлі на поле бітваў, так і яна пасяшалася ў жаўнерскай вопратцы на поле бітвы, калі яе муж мусіў узяць удзел

[1] У віленскай перыёдыцы творы Адама М-скага друкаваліся, здаецца, толькі ў двух нумарах “Dziennika Wileńskiego” (1906, nr 1; 1907, nr 293) і ў чатырох нумарах “Kurjera Wileńskiego” (1905, nr 33; 1906, nr 12, 37, 94).

[2] Адказным рэдактарам і выдаўцом “Kurjera Wileńskiego” быў Напалеон Роўба (1860–1929), віленскі журналіст і пісьменнік, прыяцель Ф. Багушэвіча, аўтар некралогу беларускага паэта ў газеце “Tygodnik Illustrowany” (1900, nr 23), а таксама двух артыкулаў-успамінаў у “Kurjerze Litewskim” (1906, nr 84; 1928, nr 33).

у турэцкай вайне. Гэта не было донкіхоцтвам, як тлумачыць яна сама ў лісце да аднае, блізкае ёй крэўнае[1], напісаным на тыльным баку фатаграфіі, рэпрадукцыю якое мы тут змяшчаем: “Я апранула гэтую жаўнерскую вопратку, бо дзяліла нягоды таго цяжкага паходу, бо людзі мёртвымі падалі ад марозу каля мяне, бо, ідучы за голасам сэрца, не хацела нікому перашкаджаць. Цяжкія перажыла гадзіны, але адчувала сябе карыснаю і патрэбнаю. Я лячыла і дагледала жаўнераў, яны тлумна гарнуліся да мяне; цыганскія дзеці, убогія атачалі мяне паўсюль; гатуючы ежу ў полі на камянях, я глядзела ў Неба, на Дунай, марыла пра Літву і складала песні”.

Я даслоўна працытаваў гэты фрагмент нязнанага дакумента, бо характарызуе ён лепей за ўсялякія словы індывідуальнасць паэткі. З ейных арыгінальных твораў перш за ўсё вядомыя: паэма *Jeden z wielu*, дзеянне якое адбываецца на фоне гістарычных падзеяў, зборнік патрыятычнае паэзіі *Przebrzmiałe akordy*, а таксама цыкл *Pieśni Drohowickich*. Таксама мела яна прызнанне як перакладніца, што дала польскай літаратуры – сярод іншага – *Luziady* Камоэнса, творы Містраля, Ламарціна, а яшчэ вершы Бадлера, Леконта дэ Ліля, Альфрэда дэ Віньі і іншых.

St. S.

## № 3

## З жалобнае старонкі
## С. п. Адам М-скі

Шэрагі кабет-літаратараў увесь час прарэджвае смерць: нядаўна памерла ў Вільні с. п. Зоф’я з Манькоўскіх Тшашчкоўская, вядомая ў літаратуры пад псеўданімам Адам М-скі.

Гэта быў талент высокага ўзроўню, талент наскрозь паэтычны, з Божае ласкі.

Глыбіня думкі, а таксама шчырасць пачуцця, што нараджала натуральнасць выказвання, поўнае ўменне панавання над формаю – усё гэта складалася ў ейных песнях у нешта прыгожае і незвычайнае. Псеўданім, досыць цяжкі, каб запомніць, досыць дзіўны, а таксама поўнае пазбяганне г. зв. “свету”, груповак, гурткоў і гурточкаў, – прывялі да таго, што імя Зоф’і Тшашчкоўскае як паэткі не было на столькі вядомым, на колькі заслугоўвала: казалі пра яе як пра вельмі таленавітую паэтку толькі ў вузкім літаратурным коле, называлі яе і вылучалі Янікэ, Хмялёўскі, ведала яе крыху, пераважна з перакладаў, старэйшае пакаленне чытачоў, але чытацкая публіка мала пра яе знала.

Аднак с. п. Зоф’я Тшашчкоўская, памінаючы ейныя арыгінальныя творы, ужо перакладамі заслужыла на памяць чытачоў.

Незвычайная лёгкасць разумення складанага зместу, істотнага сэнсу думкі літаратара характарызавалі яе як перакладніцу, не кажучы ўжо пра

[1] Гаворка ідзе, відаць, пра Альдону Раецкую.

тое, што ейныя пераклады вызначаліся высокімі мастацкімі вартасцямі.

Яна пераклала – сярод іншага – такія шэдэўры замежнае літаратуры, як *Luzyady* Камоэнса, *Mireio* правансальскага паэта Містраля, а пасля *Magdalenę* Махара (белым вершам), *Melodye hebrajskie* Байрана, цэлы шэраг дробных твораў Ламарціна, Бадлера, Мапасана, Барб'е, Леконта дэ Ліля, Тэр'ера, Альфрэда дэ Віні і інш. З ейных арыгінальных твораў адзначыць варта ў першую чаргу гістарычную паэму *Jeden z wielu*, патрыятычныя песні *Przebrzmiałe akordy*, а таксама цыкл *Pieśni dorohowickie*.

Паэтка нарадзілася ў 1847 г. у Дарагавіцы Мінскае губ. у сям'і Адама і Міхаліны з Раецкіх Манькоўскіх, расла і развівалася ў атмасферы, напоўненай пачуццямі любові да роднага краю і жалем па страчанай айчыне, адукацыю атрымала ў Варшаве і ў маладым веку выйшла замуж за Вацлава Тшашчкоўскага, з якім правяла амаль дваццаць гадоў у Расеі і Румыніі.

Шмат ужо гадоў з глыбіні зацішнага кутка сярод літоўскіх пушчаў не прыходзіла да нас ейная песня, паэтка апошнія гады маўчала, не жадаючы ці не могучы сыграць на сваёй лютні гучных гукаў, звонкіх мелодый.

Апошнім, здаецца, ейным творам, што друкаваўся ў варшаўскіх часопісах, быў цудоўны верш *Błogosławiony bądź, mej wiosny dniu daleki* ў "Tygodniku Illustrowanym", напоўнены меланхоліяю і надзвычай шчыры.

Т. К-с.

## № 4

## Адам М-скі (Зоф'я Тшашчкоўская)

Z jałowego próżno czekać plonu roli,
Widzeić, jak dęby gną się pod wichrami,
Jadowitemi wciąż oddychać mgłami
I w błocie życia tracić lot sokoli,
Myśleć, że gaśnie gwiazda lepszej doli,
Czuć, jak zwątpienia rdza serca nam plami,
I nie mieć sił już, by wstrząsnąć więzami –
Och, któż z nas nie wie, jak to strasznie boli![1]

Пішучы шмат гадоў таму гэтыя словы да Адама М-скага, Мірыям меў на думцы агульную нядолю, пакутнае змаганне з варожымі сіламі і тое глыбокае расчараванне, якое так часта бывае наступствам таго змагання, і адначасна інтуіцыяй паэта адчуў і выразна акрэсліў лёс незвычайна таленавітае асобы, якая магла б заняць у літаратуры вельмі значнае месца, але, зазнаўшы горыч цяжкіх турботаў, страціла "lot sokoli", заўчасна адклала пяро, – а з свайго натхнення, з мрояў усяго жыцця, з гарачых парываў да ідэалу яна дасягнула і пакінула пасля сябе значна менш, чым магла.

Зоф'я з Манькоўскіх Тшашчкоўская, якая старанна хавалася ўсё жыццё пад псеўданімам Адам М-скі, нарадзілася ў 1847 годзе ў бацькоўскім маёнт-

[1] Два катрэны з санета З. Пшасмыцкага (Мірыяма) *Na stanowisku*.

ку Дарагавіца, у мясцовасці выключна, як на тыя манатонныя раўніны, маляўнічай, блізу рэчкі Выня, сярод ціхіх і цёмных пушчаў, якія калыхалі яе душу і шапталі свае найпрыгажэйшыя песенькі. Самыя мілыя ўспаміны дзіцячых гадоў лучыліся ў яе заўсёды з памяццю пра бацьку, чалавека вельмі шляхетнага і незвычайных рысаў характару. Яна пачала пісаць вельмі рана; здаецца, смерць брата стала першым штуршком, каб выказаць у паэтычнай форме журбу таго першага кахання, якое яе пакінула, – і на ўсё жыццё журба засталася галоўным матывам яе паэзіі.

У Вільні, у часе побыту ў пансіёне п. Клячкоўскае, с. п. Зоф'я пазнаёмілася з Сыракомлем, блізкага крэўнага сям'і ейнае маці, і тады ён напісаў у яе альбоме жартаўлівы і падкрэслена ўзнёслы верш пра тое, якім урачыстым святам з'яўляецца дзень святое Зоф'і. Рана выдадзеная замуж за вайскоўца Вацлава Тшашчкоўскага, чалавека крыштальна чыстага сумлення і непарушных прынцыпаў, яна паехала з мужам углыб Расеі, дзе жылі па чарзе ў Сурдалі[1], Зарайску ды Ноўгарадзе, і паўсюдна дом Тшашчкоўскіх захоўваў рысы польскага хатняга агменю, кожны выгнаннік, высланы на чужыну, адчуваў сябе там як дома, у атачэнні айчынных часопісаў, кніжак і зычлівых сэрцаў.

З тых гадоў, можа, найлепшых, калі не браць пад увагу тугу па радзіме, якая межавала часам з настальгіяю, і ад якое ратаваліся, наколькі гэта было мажліва, паездкамі на бацькаўшчыну і сустрэчамі з раднёю і суседзямі ў гасціннай Дарагавіцы, – застаўся самы значны плён; тады былі зробленыя цудоўныя пераклады *Ostatniej pieśni z wędrówki Child Harolda* Байрана[2], *Jocelyn* Ламарціна, *Kwiaty grzechu* Бадлера і шмат-шмат іншых. Хмялёўскі і Янікэ вельмі высока цанілі талент пані Зоф'і і моцна заахвочвалі яе, менавіта пераклад *Luizjad* Камоэнса лічылі выдатным творам, бо перакладніца пераадолела ў ім надзвычайныя цяжкасці. А колькі ж выпадковых, сітуацыйных перакладаў разышлося па свеце, трапіла ў рукі, якія не здолелі іх ацаніць і захаваць; здаралася, напрыклад, што нехта спяваў песню на чужой мове, а мелодыя была прывабная, словы прыгожыя – у той жа момант паўставаў пераклад, наспех запісаны алоўкам, а часам адно толькі прамоўлены. Я памятаю пару такіх разрозненых строф:

He, bracia, w walce nierównej
Naprzód! nie dajmy się zgnieść!
Niech naród dzielny, hartowny,
Ocali wolność i cześć.

Choć przyjdzie legnąć drużynie,
Choć w lochach czeka nas zgon,
Siew naszej myśli nie zginie
I dla pokoleń da plon![3]

[1] Так у арыгінале. Магчыма, у Суздалі.
[2] Памылка аўтара. Гэта твор А. Ламарціна.
[3] Цалкам твор не захаваўся.

Поўнага тэксту я не памятаю, бо столькі гадоў прайшло! Але засталося жывое ўражанне цудоўнае летняе ночы, духмянасць ліп Дарагавіцкага парку, маладыя галасы, што спявалі гэтую песню і пані Зоф'я, якая пратэстуе супраць розных праяваў абыякавасці і свайго роду талерантнасці, чаго яна не разумела.

Да тае, пэўна, эпохі належыць цудоўны заклік:

**Błogosławioną bądź!**

Błogosławioną bądź, błogosławioną bądź,
O krótka ty, godzino,
Gdym czuł, że w żyłach mych
Potoki ławy płyną,
Gdy się wzdymała pierś
Płomiennem upojeniem,
Gdy każde z serca drgnień,
Było miłości drgnieniem,
Gdy zdrój poezyi bił
Z mej piersi dziś stłumionej,
Gdym jako człowiek żył,
A śnił, jak bard natchniony!
Błogosławioną bądź!
Przez każdy wiosny wiew,
Przez każdy kwiatu pąk,
Przez każdy ptaszy śpiew,
Przez krwi gorącej war,
Przez skrzydeł orlich lot,
Przez Prometeja dar
Przez walk męczeńskich pot.
Przez wszystko, co tu wre,
Przez myśli bujnych zdrój,
Przez każdą życia skrę,
Przez wieczny duchów bój!

Błogosławioną bądź, błogosławioną bądź,
Choć dla mnie już miniona;
Choć kwiaty zwarzył mróz,
A pierś zastygła, kona
Lecz jam twój widział świt,
Doznałem twej potęgi,
I czułem się, jak nic
Wszechżycia barwnej wstęgi;

Więc szepcę, idąc w mrok:
Mej wiosny dniu daleki,
Błogosławionym bądź
I dzisiaj i na wieki![1]

[1] Верш апублікаваны ў газеце "Tygodnik Illustrowany" (1900, nr 25, 10.06).

Хутчэй за ўсё ён з’яўляецца ўспамінам  і развітаннем тае буйнае, багатае эпохі…

У часе турэцкае вайны пані Зоф’я ў мужчынскай вопратцы спадарожнічала мужу, але з тае прычыны, што іхняя частка войска была накіраваная на фронт пад канец ваенных дзеянняў, дык закончылася на тым, што яны некалькі месяцаў прабылі ў Бухарэсце, пасля ў Дабрэні[1], адкуль, уласна, дайшоў да мяне цудоўны, поўны энтузіязму ліст, напісаны на некалькіх аркушах, з заахвочваннем да працы, да вывучэння музыкі і прыроды, поўны цытат з Віктара Гюго ў перакладзе Феліцыяна[2], поўны ўзнёслых думак і надзей, што дасканала паказваў гэтую гарачую ідэальную душу.

Я не памятаю дакладна даты, калі пані Зоф’я на стала пасялілася ў вёсцы, аднак, на жаль, у хуткім часе шмат цяжкіх клопатаў абрынулася на яе, дык літаратурная праца пачала адсоўвацца на ўсё больш далёкую перспектыву, штораз менш часу можна было ёй прысвяціць. Праўда, з’явіўся яшчэ пераклад *Mireio*, твора правансальскага паэта Містраля, пасля – *Magdalena* з чэшскае, што перакладаліся час ад часу, у дарозе, алоўкам. Пасля быў прыгатаваны да друку том арыгінальнае паэзіі *Przebrzmiałe akordy*; аднак суровая тагачасная цэнзура гэтак пакрэсліла і столькі выкінула, што яна адмовілася ад думкі друкаваць. Вось каб цяпер нехта з паэтаў, прыяцеляў нябожчыцы, Антоні Лангэ, напрыклад, альбо Мірыям мог бы заняцца ўпарадкаваннем і аднаўленнем тых неміласэрна пакрэмзаных аркушаў, дык колькі б сапраўдных пярлінаў натхнення ўратавалася б ад знішчэння. З самых даўніх твораў паэма *Jeden z wielu* друкавалася за мяжою, шмат вершаваных твораў змяшчалі: “Tygodnik Illustrowany”, “Prawda”, “Przegląd Tygodniowy”, “Ateneum”, шмат засталося ў рукапісах.

Апошнія гады жыцця Адама М-скага былі вельмі сумныя – працяглая хвароба вычарпала сілы, збегам фатальных акалічнасцяў любімы палетак выслізнуў з-пад ног, пяро спачывала без дзеяння. Адным з апошніх, вядомых мне твораў, быў верш *O zmroku*.

Oto zmrok zapadł – ziemia uciszona
Pełnemi pierśmi oddech nocy pije;
Srebrzyste lilie otworzyły łona,
I pragniesz kochać – i drżące ramiona
    Zarzucić komuś na szyję.

Najlżejszy powiew drzew liści nie trąca,
Śnią o rozkoszy zadumane róże;
Zda się pokoju przyrody nie zmąca
Nic – tylko jakaś gwiazda spadająca
    Zagasła w niebios lazurze.

Tak dusza ludzka przycisza swe bóle,
O całodziennych troskach zapomina;

[1] Невялікая вёска ў Румыніі.
[2] Гаворка пра Феліцыяна Фаленскага (1825–1910), паэта, драматурга і перакладніка.

Zmarszczki się gładzą na wyniosłem aureolę
    Ku niebu skrzydła rozpina.

Zda się, nic jego pokoju nie zmąca,
Jakby pozbywszy ciężaru istnienia
Pływał na blasku srebrnego miesiąca;
Wtem nagle – niby gwiazda spadająca
    Przeleciał odbłysk wspomnienia.

I błoga cisza pierzchła w jednej chwili
Pod tchnieniem tego przeszłości anioła;
Kiedy przyroda puchar szczęścia chyli,
Chwili spokoju, chwileczki motylej
    Człowiek osiągnąć nie zdola[1].

Адной з выдатных рыс характару с. п. Зоф'і была шчырая прывязанасць да моладзі і да дзяцей, якіх сама не мела; яна заўсёды гатовая была пакінуць самае мілае таварыства, каб пайсці да маладых; сардэчна распытваючы іх пра ўсё на свеце, даючы парады, заахвочваючы да працы, яна казала заўсёды: "маладым належыць будучыня, дык трэба іх бараніць ад абыякавасці і бяздзейнасці, трэба пільнаваць, каб сумненні не закрадаліся ў іхнія сэрцы". Любіла акружаць сябе "вясною", гарнула да сябе маладых, – і шмат з тых, каму ўжо гады пасерабрылі галовы, успамінаюць яе са словамі пашаны і ўдзячнасцю.

Ян…

З тае прычыны, што мы ўжо друкавалі кароткую нататку пра памерлую паэтку, сёння дадаём яшчэ ўспамін, які можа быць довадам таленавітасці с. п. Зоф'і Тшашчкоўскае (*заўвага рэд.*).

[1] Верш пры жыцці Адама М-скага не друкаваўся.

# Нязнаныя вершы Альгерда Абуховіча?

## I

Спадчыне Альгерда Абуховіча дзеячы беларускага Адраджэння пачатку XX ст., здаецца, не надалі належнага значэння. Вацлаў Ластоўскі, атрымаўшы ў 1912 г. "паперы" слуцкага паэта, толькі праз два гады аддаў у друк дзве ягоныя байкі (*Waŭkałak* і *Staršyna*)[1], а праз чатыры апублікаваў успаміны (*S papierou Olhierda Obuchowiča*)[2], верш (*Duma a Karólu XII*)[3] і яшчэ дзве байкі (*Woŭk i lisica* і *Sud*)[4]. У беларускіх выданнях 1920-х гг. пра паэта яшчэ некалькі разоў згадвалі, ягоныя байкі некалькі разоў перадрукоўвалі ў школьных чытанках *Родны край* Леанілы Чарняўскае (Гарэцкае) і *Хрыстаматыі* Максіма Гарэцкага. Пазней даследнікі з жалем прызналі, што значная частка даробку літаратара са Случчыны была беззваротна страчаная.

І сапраўды, "паперы" А. Абуховіча так і не былі адшуканыя, але, відаць, па той простай прычыне, што ніхто іх і не шукаў. Пра гэта сведчыць той факт, што нават друкаваныя творы паэта можна сёння выявіць: зусім нядаўна Вячаслаў Мартысюк[5] натрапіў у школьнай чытанцы Язэпа Лёсіка (1883–1940) на публікацыю двух баек А. Абуховіча. І калі адна з іх – *Воўк і Лісіца* – ужо сустракалася ў чытанках В. Ластоўскага і Л. Чарняўскае, дык байка *Ліс і Варона* чамусьці аказалася па-за ўвагаю беларускіх літаратуразнаўцаў. Не скажаш, што выданне, у якім твор апублікаваны, невядомае і рэдкае: яно фіксуецца каталогам Нацыянальнае бібліятэкі Беларусі (шыфр: Ба 239462). Зрэшты, не выключаем, што доўгі час гэтая чытанка знаходзілася ў спісе забароненай савецкаю цэнзураю літаратуры, а г. зн. што шэраговыя чытачы (не літаратуразнаўцы!) доступу да яе не мелі.

Гаворка ідзе пра наступнае выданне: Язэп Лёсік, *Наша крыніца: Чытаньне для беларускіх школ*, выданне другое, выпраўленае, Берлін: выданьне Навукова-літэрацкага аддзелу Камісарыяту асьветы Б. С. С. Р., 1922, 275 с., [4] л. іл.

---

[1] O. Obuchowič, *Staršyna*; *Waŭkałak* [y:] *Biełaruski kalendar na 1915 hod*, Wilnia 1914, s. 36–37.

[2] *S papierou Olhierda Obuchowiča*, "Homan" 1916, nr 33–40.

[3] O. Obuchowič, *Duma a Karólu XII*, "Homan" 1916, nr 49.

[4] O. Obuchowič, *Woŭk i lisica*; *Sud* [u:] *Rodnyje zierniaty: Knižyca dla škoĺnaho čytańnia*, zlaž. W. Łastoŭski, Wilna: Homan, 1916, s. 123, 125.

[5] Мы ўдзячныя калегу за інфармацыю пра выяўлены твор паэта XIX ст. З дазволу даследніка публікуем байку *Ліс і Варона* як дадатак да раздзела *Альгерд Абуховіч*, што быў змешчаны ў пятым томе *Даследаванняў і матэрыялаў*.

У Берліне на патрэбы беларускага школьніцтва надрукавалі чытанку Я. Лёсіка, якая ўжо выходзіла ў свет у Мінску ў 1920 г. падчас польскае акупацыі беларускае сталіцы. Маем на ўвазе выданне ў трох частках[1], апублікаванае Цэнтральнаю беларускаю школьнаю радаю:

1. *Наша крыніца: Другое чытаньне для Беларускіх школ*, ч. I, злажыў Я. Лёсік, Менск 1920.
2. *Наша крыніца: Другое чытаньне для Беларускіх школ*, ч. II, злажыў Я. Лёсік, Менск 1920.
3. Наша крыніца: Другое чытаньне для Беларускіх школ, ч. III і IV, злажыў Я. Лёсік, Менск 1920, 130+IV стар.

Першая і другая часткі чытанкі адсутнічаюць у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, а вось трэцяй пашанцавала больш: яна сама дайшла да нашага часу і захавалася кароткая анатацыя выдання ў газеце "Вольны Сьцяг"[2].

Невядома, ці складальнік уключаў байку *Ліс і Варона* ў "савецкую" чытанку 1919 г. для пачатковае школы. Таксама невядома і пра змест дзвюх першых частак "польскае" *Нашае крыніцы* 1920 г. Але той факт, што заключная, трэцяя (раздзелы III і IV) частка налічвае 130 старонак, г. зн. прыкладна столькі, колькі і раздзелы III і IV у выданні 1922 г., можна меркаваць, што і першая, і другая часткі, якія ўбачылі свет у менскай друкарні Якуба Грынблята, колькасна адпавядалі I і II "берлінскім" раздзелам. Таксама і пазнака "выданне другое, выпраўленае" можа сведчыць, што "берлінская" кніжка толькі "выпраўлялася", а не дапаўнялася новымі тэкстамі.

Такім чынам, можна меркаваць, што байка А. Абуховіча *Ліс і Варона* была ў складзе чытанкі Я. Лёсіка: *Наша крыніца: Другое чытаньне для Беларускіх школ*, ч. I, Менск 1920, якая налічвала блізу 80 старонак.

Як вядома, Я. Лёсік у 1919–1920 гг. знаходзіўся ў Менску, але з тае прычыны, што польскае наступленне вясною-летам 1919 г. пасунула лінію фронту на ўсход, дык Вільня і Менск апынуліся ў адной зоне акупацыі. А гэта дазволіла менскім беларусам пазнаёміцца з дасягненнямі віленскага беларускага школьніцтва. Менавіта ў гэты час Я. Лёсік мог атрымаць як *Rodnyje zierniaty* В. Ластоўскага, так і *Родны край* Л. Чарняўскае, г. зн. байка *Воўк і Лісіца* трапіла ў *Нашую крыніцу* з аднае з іх[3].

Самога В. Ластоўскага наўрад ці Я. Лёсік мог бачыць у той час: за антыпольскую дзейнасць "неадменны сакратар Адраджэння" трапіў спачатку ў турму, а пасля быў выдалены ў літоўскі Каўнас.

---

[1] У першай палове 1919 г., у часы бальшавіцкае акупацыі Менску, Я. Лёсік падрыхтаваў і выдаў сваю першую школьную чытанку. Яна, здаецца, не захавалася (прынамсі, яе няма ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі), але ёсць ейнае бібліяграфічнае апісанне: Я. Лёсік, *Наша крыніца: другое чытаньне для пачатковых беларускіх школ*, Менск: Выдавецтва Камісарыяту Асьветы Літвы і Беларусі, друкарня Камісарыяту Асьветы, 1919, 102 с. Гл.: *Храналагічны паказальнік навуковых прац Я.Ю. Лёсіка* [online] http://library.basnet.by/html/csl/276/4.htm [доступ: 14.03.2021].

[2] Гл.: "Вольны Сьцяг" 1920, № 2, 25 сьнежня.

[3] Вызначыць адкуль дакладна – вельмі складана, бо і Л. Чарняўская, і Я. Лёсік не толькі транслітаравалі байку, але і ўнеслі пэўныя змены. Напрыклад, у першапублікацыі слова са слуцкіх гаворак "niškom" у першае стала "нізком", а ў другога – "цішком".

Дык застаецца загадкаю, якім жа чынам байка *Ліс і варона* ад В. Ластоўскага трапіла да Я. Лёсіка? Шляхоў, зрэшты, магло быць некалькі. Напрыклад, праз Рамуальда Зямкевіча ці Янку Станкевіча. Апошні кантактаваў і з рэдактарам "Гоману", і – як сябра літаратурна-выдавецкага аддзелу Наркамасветы Літоўска-Беларускай ССР, а пазней прэзідыуму Беларускае цэнтральнае школьнае рады – з Я. Лёсікам. На нашую думку, менавіта ён і прапанаваў байку А. Абуховіча ў "польскую" чытанку Я. Лёсіка.

Байка *Ліс і варона* – твор перакладны. Напісаў яго ўкраінскі паэт і перакладнік Сцяпан Руданські (1833–1873) у сярэдзіне 1850-х гг. А вось упершыню апублікаваны быў толькі ў 1894 г. у львоўскай газеце "Зоря".

А. Абуховіч з 13 катрэнаў арыгіналу пераклаў 12, цалкам захаваўшы вобразны і рытміка-інтанацыйны лад твора. Перакладнік, магчыма, змяніў назву байкі, хоць больш праўдападобна, што гэта Я. Лёсік, не маючы ў рукапісе пазнакаў ні пра аўтара арыгіналу, ні пра тытул твора, даў, на яго думку, адпаведны.

***Ворона і лис***

Пробігає лис голодний,
Через пеньки скаче…
Аж слухає десь ворона
На гіляці кряче…

Прибігає, хоч видати,
Та ніяк дістати…
Лис хитрить ся і вертить ся,
Давай підмовляти…

Підмовляє, щоби злїзла…
Прищурює очи…
Обіцяє мняса гóри, –
Ворона не хоче…

"І не хочу, і не злїзу!
Стала говорити,
Іди собі, коли хочеш,
На село дурити!..

Ти думаєш, що ворона
Розуму не має…
Сидить собі на гиляці,
Нїчого не знає…

Та я знаю, що ти хочеш,
Як псявіра, їсти…
І хіба-б я дурна була,
Щоб думала злїзти…".

– Бог з тобою, голубонько!
Став лис прикидатись:
Та тепер вже, зозуленько,
Нїчого боятись…

Вийшов указ з того сьвіта,
Щоб мир був усюди!
Щоби мирно собі жили
І зьвірі, і люди!!".

А ворона розважає:
Брешеш ти, мій враже!..
Далі кругом подивилась, –
Та лисови й каже:

"Та який же мир той буде,
Та спокій між нами,
Коли он-де йдуть до лїса
Стрільцї із хортами!"

– Будь здорова, голубонько!
"А то що? Куда ти?"
– "Та-ж стрільців лихе надносить,
Треба утїкати!..

"А указ же з того сьвіта,
Що про мир писали?"
– Може вони ще указу
Того не читали.

"Ну, не бій ся-ж, голубчику!
Я лиш так сказала…
Але вашого указу
І я не читала!.."

[1858][1].

[1] С. Руданський, *Ворона і лис*, "Зоря" 1894, ч. 14, 15/27 липня, с. 321–322.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацыі: [А. Абуховіч[1]], *Ліс і варона* [у:] Язэп Лёсік, *Наша крыніца: Чытаньне для беларускіх школ*, выданне другое, выпраўленае, Берлін: выданьне Навукова-літэрацкага аддзелу Камісарыяту асьветы Б. С. С. Р., 1922, с. 64–66.

## *Ліс і варона*

Прабягае ліс галодны
Ды праз кусты скача,
Ажно чуе: дзесь варона
На галіне крача.
Прыбягае – хоць відаці,
Да нельга дастаці.
Ліс хітрыцца і мудруе. –
Давай падмаўляці,
Каб варона з дрэва зьлезла.
Прыжмурвае вочы,
Дакляруе мяса горы, –
Варона ня хоча.
–„І ня хочу і ня зьлезу!
– Стала гаварыці –
Ідзі сабе, калі хочаш,
На сяло дурыці!
Бо я знаю, чаго хочаш:
Пэўна, смачна зьесьці!
Але-ж я ўжо ня дурная,
Каб з дзерава зьлезьці.”
– „Бог з табою, васпанечка! –
Стаў ліс прыкідацца. –
Але цяпер, зязюлечка,
Нечага баяцца:
Вышаў, бачыш, з таго сьвету
Прыказ, – дай мне веры! –
Каб жылі сабе спакойна
І людзі і зьверы.”
А варона разважае:
–„Брэшаш ты мне, ўража!”
Навакола азірнулась,
Потым лісу кажа:
–„Не настане, кум, ніколі
Супакой між намі,

[1] Прозвішча падаецца толькі ў змесце. Гл.: Язэп Лёсік, *Наша крыніца: Чытаньне для беларускіх школ, выданне другое, выпраўленае*, Берлін: выданьне Навукова-літэрацкага аддзелу Камісарыяту асьветы Б. С. С. Р., 1922, с. 272.

Калі шпараць каля лесу
Унь, стральцы з хартамі!”
–„Ну, бывай здарова, паня!..
–„Пачакай,! Куды ты?”
–„Да стральцоў ліха падносіць,
Трэба мне ўцякаці...”
–„А прыказ-жа з таго сьвету,
Што пра мір пісалі?!..”
–„А калі яны таго прыказу
Яшчэ ня чыталі?!..”
–„Ня пужайся, мой кумочак,
Я пажартавала!
Але вашага прыказу
І я ня чытала.”

## II

Супастаўляючы арыгінал (байку С. Руднянскага *Ворона і лис*) з перакладам А. Абуховіча, мы звярнулі ўвагу на ўкраінскае слова “враже”, якое беларускі паэт перакладае як “ўража”, і прыгадалі, што ў байцы *Sud* літаратара са Случчыны яно прысутнічае таксама. Падумалася: а можа, і байка *Sud* з’яўляецца перакладам з украінскае мовы? На жаль, выявіць арыгінал падобнага твора не ўдалося[1].

Нехарактэрнае для беларускае мовы слова “ўражэ” сустракаем яшчэ ў адным творы XIX ст. – у перакладзе балады Пятра Гулака-Арцямоўскага (1790–1865) *Твардовський*. Прычым, уласна там, дзе яго ў арыгінале няма:

Стриб по хаті, хап за клямку,
Твардовський – по пиці,
Трісь по гирі – розбив склянку
І горщик з полиці[2].

А Твардоўскі, цап, за кудлы:
–“Пачэкай ты, ўражэ!
Як на ўцёкі – то ты мудры,
А што ўмова кажэ?”[3].

В. Ластоўскі, падаючы пераклад балады ў друк, зазначыў: “З рукапісу 1840-х гадоў, падпісанаго: Г. Арцімоўскі”[4]. Але ў нас ёсць падставы меркаваць, што картка, на якой была занатаваная балада *Пані Твардоуская*, паходзіла з “папераў” А. Абуховіча, а пазнака перакладніка ўвяла ў зман дастаткова вопытнага даследніка: ён палічыў пазнаку ўказаннем на аўтарства, тым

[1] Праўда, у нечым падобны матыў маецца ў байцы Аляксандра Сумарокава *Суд*. Суддзя Мартышка наступным чынам разглядае справу Ваўка і Лісы:

Прогневалася вся судейская утроба:
Кричит судья: вы лжете оба,
Лиш тем утруждена судейская особа:
Я с вами более не говорю:
Подите к моему секретарю.

[2] П. Гулак-Артемовский, *Вибрані твори*, Київ 1956, с. 65.
[3] *Пані Твардоуская*, “Наша Ніва” 1915, № 19–20, 22 мая.
[4] *Ibidem*.

больш, што і датаванне рукапісу[1] не адпавядала ягоным ведам пра гады жыцця паэта са Случчыны. Дык В. Ластоўскі праігнараваў версіфікацыйнае падабенства *Пані Твардоускае* з вядомымі яму тэкстамі А. Абуховіча.

Нам жа падаецца, што гіпотэза пра А. Абуховіча як верагоднага аўтара балады *Пані Твардоуская* вартая ўвагі беларускіх літаратуразнаўцаў.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацыі: *Пані Твардоуская*, "Наша Ніва" 1915, № 19–20, 22 мая.

## *Пані Твардоуская*

З рукапісу 1840-х гадоў, падпісанаго: Г. Арцімоўскі

Гайда, хлопцы! Гучна шпарка,
Музыкі, заграйце!
Гэй, шыркару[2]! Гэй, шынкарка!
Гарэлкі давайце!..
Рэжуць скрыпкі і цымбалы,
Дзеўчаты танцуюць,
Хлопцы с п'яна не памалу,
Каля іх гарцуюць[3].
Пан Твардоўскі ў канцы столу
С пастаўца[4] чыркае[5]:
–"Гуляй, душа, тра-ля-ля-ля!"
К тахту падпевае,
Скруціў жыда, як гамана[6],
Вусы пакручае,
У бацьку, ў матку ён улана

---

[1] Балада П. Гулака-Арцямоўскага была напісаная ў 1827 г. Упершыню апублікаваная ў часопісе "Вѣстникъ Европы" (1827, т. VI, с. 116–129). У гэтым жа годзе твор перадрукаваны ў часопісе "Славянинъ" (1827, т. XXVII), зборніку Міхайлы Максімовіча *Малороссійскіе пѣсни* (Москва 1827, с. 1–9), часопісе "Dziennik Warszawski" (1827, t. IX, nr 28, s. 203–212), а таксама выдадзены асобным адбіткам. Пра выданні і рукапісы 1840-х гг. звестак не захавалася. І толькі ў 1861 г. Панцеляймон Куліш апублікаваў баладу яшчэ раз у часопісе "Основа: Южно-Русскій литературно-ученый вѣстнікъ" (1861, т. III, с. 102–108).

[2] Так у "Нашай Ніве". Трэба, відаць: *шынкару*.

[3] Наступную страфу арыгінала перакладнік апусціў:

Бряжчать чарки, люльки шкварчать,
Шумує горілка;
Стук, гармидер, свистять, кричать,
Голосить сопілка.

[4] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускае мовы*, Мінск 1983, с. 481: "ПОСТÁВЕЦЪ, -вца, с. м. Глиняный, болѣе муравленный, сосудъ въ видѣ цвѣточнаго горшка, въ которомъ приготовляютъ лакомую пищу. *Каждому старцу по поставцу*. Посл. *Поставецъ молока, каши*".

[5] Укр. *черкати* – шмат піць алкаголю.

[6] Укр. *гамáн* – каліта; капшук.

I грамаду лае, –
Памкнуўся улан, ён ўздоўж ёга
Шаблюкаю сьвіснуў,
Улан – цю-цю! го-га, го-га!
Зайцам у лес пырснуў!
Ўзяў на бакір пісар шапку,
I грашмі забразгаў,
Аж наш пісар, верць, ў сабаку
I на ўсіх загаўкаў.
А шаўцу – то пан Твардоўскі
Добра ў знакі даўся,
Бо мабыць с “часок” маскоўскі
Барылай[1] качаўся;
Ў нос ўторкнуў яму дудкі,
З дудак, маўляў с кухі[2],
Б’юць пад стрэху цераз дудкі
Крыніцы сівухі,
Б’юць крыніцы, Пан Твардоўскі
Кухаль падстаўляе,
Аж, зірк, на дно, што у беса?
Уюн на дне гуляе.
Дух сьвяты, грамада з вамі!
Патарашчце-ж банькі[3]!
Уюн уцёк; казёл з рагамі
Вынырнуў са шклянкі!
Бэкнуў, як чартоў радзімец,
Пагуляў кудлаты,
Скочыў ў комін; тут, зірк, немец
Стаіць сярод хаты.
Нос карчочкам, лыч сьвінячы,
Карк шарсцінью крыты,
Кур’і ножкі, хвост сабачы,
Рожкі стоцьма ўбіты.
Круць нагамі, верць вачамі, –
У пояс пакланіўся:
–“Ну, Твардоўскі! час каб з намі
Ты ўжо разлічыўся!
Нагуляўся, навярэдзіў, –
Усяго паспытаўся:
Дзеўчат дражніў, кабет зводзіў,

[1] Гл.: I. Насовіч, *Слоўнік беларускае мовы*, Мінск 1983, с. 16: “БАРЫ́ЛА, ы, с. общ. 1. Боченокъ, мѣрою въ 3 ведра и болѣе. *Барылу пива выпили*. <…>”.
[2] У арыгінале: *з кухви*. Укр. *кухва* – дзежка; гляк.
[3] Укр. *баньки* (*очне яблуко*)– вочы.

Мужом ў знакі даўся[1].
Нагрэў ты і мне чупрыну,
Як сам здароў знаеш,
Акульбачыў як скаціну, –
Лішэк вымагаеш[2].
Што цяпер, Твардоўскі, будзе,
Аб тым ў пеклі знаюць,
Бо карчму, во, гэту людзі
«Рымам» называюць!
Годзі мудрыць табе з намі”.
“Слова – не палова!
Помніш, пане, як між намі
Станула умова?
Лыса гора, брытва, пальцы,
Паперы поўкарты...
Гайда ў пекла сквярэць ў шмальцы,
Годзі строіць жарты!..”[3]
Бач, чарцёнак як падлюка
Хітра ўмудраваўся?
“Рым” – карчма?! чартоўска штука!
Твардоўскі азваўся:
–“Што ж, пайду у пекла спраўдзі
Калі ўмова служэ;
Але й ты рабі па праўдзі
Дый не чванься дужа.
Глянь у контракт твой са мною,
Яка там умова? –
Йшчэ тры штукі за табою, –
Зробіш, – ні паў слова!..
Вот вісіць панад дзьверамі

[1] Наступную страфу арыгінала перакладнік апусціў:
Чого душа забажала,
Мав всього ти стільки!..
Курей, ковбас, м'яса й сала,
Бочками горілки.

[2] У арыгінале наступная страфа ішла пасля страфы, якая завяршалася радком: “Амінь сьому слову!” Гл. ніжэй.

[3] Наступныя строфы арыгінала перакладнік апусціў:
В письмі стоїть, читай сміло:
На кагал бісовський
З начинкою душу й тіло
Одписав Твардовський.
Служить йому чорти мають
(Так прийшлось в умову),
Поки в Римі не піймають,
Амінь сьому слову!

Зростам мабыць с цапа*[1]
Прад тваймі якраз вачамі
Малявана шкапа[2];
Ніхай шкапа падамною
Жерабцом гарцуе,
Ніхай круціць галавою
Скачэ і бушуе;
Возьмеш ешчэ пяску жменю
С пад старэчай хаты,
Спляцеш с пяску, як з раменя
Гарапнік трайчаты.
Дый папасьвіць каня трэба,
Стаць на адпачынак,
То ўжо, глядзі, каб як з неба
Ўрадзіўся будынак.
Будынак з лупін арэхоў,
Пастаў адным махам,
І з барод жыдоўскіх стрэху,
Цьвекавану[3] макам.
Во, гваздочак на пачынак –
Локаць лічы ў доўжкі, –
Па тры ў кожну ўбій з мачынак[4],
А менш ані трошкі".
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .[5].
Бес дасужы: сьвіснуў, ляснуў,
І конь ўжо бушуе;
Батог с пяску ў жмені хляснуў,
Твардоўскі сумуе[6].
"Лоўка зробіў! німа рады,
Чорце, аглашоны!
А цяпер, зажый купелі
Ты з вады сьвячонай!"
–"Ой, сваточку, я у тэй лазьні
З роду не купаўся!"
Скорчыўсь, зморшчыўсь, шабоўць, ў воду,

[1] * Цап – казёл скапец (заўвага "Нашае Нівы").
[2] Укр. *шкапа* – лядашчы конь.
[3] Укр. *цвях* – цвік.
[4] Укр. *мачи́на* – макавае зярнятка.
[5] Невядома, што сігналізуюць тут кропкі. Перакладнік аніводнага радка не апусціў.
[6] Наступную страфу арыгінала перакладнік апусціў:
Скік в стремена, давай драла...
Аж що за одмінок?
Стріха в хмарах заблищала,
І стоїть будинок.

Дый назад падаўся[1].
–“Э, Твардоўскі, ізноў справу
Выгралі чэрцякі?!”
–“Пачэкайце, йшчэ на славу
Утру ім табакі!
Хто праграў, хто выйграў справу
То – як давядзецца!
–“Павярніся, глянь на лаву,
Што табе здаецца?
Цмокніс з жонкаю маею, –
Яна твая будзе, –
(Як жыву на сьвеці з ею,
Аб тым маўчаць людзі),
Ніхай ксёндз вам рукі звяжэ…
Трэці пункт умовы…”
–“Чуйця людзі, што чорт скажэ?
Зважйце на словы! –
– Будзь ты, чорце, ейным мужам,
Астатняя умова:
Абы толькі жыў у дружбе,
Я тады ні слова!..”
. . . . . . . . . . . . . . . . .[2]
Тут ўжо чорту не да солі:
Хвосцікамківае,
Нос скапыліў на басолі
Да дзьвярэй шмыгае.
А Твардоўскі, цап, за кудлы:
–“Пачэкай ты, ўражэ!
Як на ўцекі – то ты мудры,
А што ўмова кажэ?”
–“Ой, пусьці, пусьці, Твардоўскі!

---

[1] Наступныя строфы арыгінала перакладнік апусціў:

Захлинувся, чхнув і приснув,
Тричі закрутився,
Тричі тупнув, тричі свиснув,
Аж шинк затрусився.
Хмара, як ніч, налетіла,
І сонце сховалось;
Галок, круків, ворон сила
На стрісі зібралось!
Крукають, кавчать, мекечуть
Всіма голосами:
То завиють, то шепечуть,
Бряжчать ланцюгами!

[2] Тут кропкі могуць сігналізаваць пэўную “перастаноўку” радкоў (іх шэсць замест васьмі ў арыгінале) перакладнікам.

Гвалт! ратуйце людзі!
А не, – злаю па-маскоўску, –
Сорам слухаць будзе!”
І, тымчасам, верць, ў старонку
І с куточка хаты,
Ад ключа зглядзеўшы дзірку,
Уцёк вон пракляты...
“Эй, лаві, лаві псяюху!”
Ўсе ўжо закрычалі;
А “псяюхі” ані духу –
Памінай як звалі!
. . . . . . . . . . . . . . . . . .[1].
“Жонка люба, годзі плакаць!
Твардоўскі азваўся, –
Хацеў с чортам вас пасватаць,
Чорт, бач, атказаўся...”[2].

*Падау у друк В. Л.*

---

[1] Невядома, што сігналізуюць тут кропкі. Перакладнік аніводнага радка не апусціў.
[2] У арыгінале балада завяршалася наступнымі строфамі:

Мабуть, всі чорти – бурлаки,
Та ще й розум мають,
Знають, де зимують раки, –
Од жінок втікають.
Може, в пеклі інше діло,
В нас сього немає:
Жінка гризе душу й тіло,
Мужик попиває!
Нуте ж, хлопці, швидко, шпарко!
Музики, заграйте!
Гей, шинкарю! Гей, шинкарко!
Горілки давайте!”.

# Да біяграфіі Ялегі Пранціша Вуля[1]

**Прашэнне братоў Корбутаў**

У апошні час удалося выявіць колькі дробных згадак у друку і архівах пра Ялегі Пранціша Вуля (1835–1894).

Найперш – пра архіўную справу часоў высылкі, якая можа дадаць яшчэ колькі дэталяў да біяграфіі беларускага паэта. Мы ўжо пісалі[2], што ў маі–чэрвені 1864 г. Э.Ф. Карафа-Корбут разам з братам Вільгельмам былі высланы з краю. У жніўні 1864 г., калі быў зацверджаны вырак аўдытарыята па справе г. зв. "дыманоўскае шайкі" (Арцём Вярыга-Дарэўскі, Маўрыцы Карафа-Корбут і інш.), маці паэта Антаніна і жонка Ганна з Талвінскіх, звярнуліся да Віцебскага ваеннага губернатара з просьбаю дазволіць ім "следовать за Маврикием". Дазвол быў дадзены і 4 верасня Карафа-Корбуты з Віцебску этапамі накіраваліся ў Сібір. Выехалі ўвосень, а г. зн., што іхняе падарожжа было больш складаным і цяжкім, чым Элігі Францішка і Вільгельма, якія ўжо ў кастрычніку 1864 г. апынуліся ў Табольску. Відаць, ведаючы, што следам за імі едуць бацька, маці, а таксама жонка Элігі Францішка, браты імкнуліся дачакацца іх у Табольску[3]. Зрабіць гэта было магчыма: тагачасны (1861–1867) табольскі губернатар Аляксандар Дэспат-Зяновіч (1828–1894) шмат у чым спрыяў выгнаннікам і дазваляў затрымлівацца на этапе.

Пра акалічнасці гэтае "прыгоды" апавядаецца ў справе Дэпартамента выканаўчае паліцыі МУС, якая называецца: *По отношению генерал-губернатора Западной Сибири об оставлении родных братьев Альфонса и Иосифа Полонских, Франца и Вильгельма Корбутов в Тобольске или об отправлении их всех вместе в Сибирь* (крайние даты: 12.X.1864 – 27.IX.1877)[4].

На жаль, мы не змаглі пакуль пазнаёміцца з гэтаю справаю на 43 аркушах. Спадзяемся, што некалі яна будзе апублікаваная ці прааналізаваная. (Дзеля гэтага, уласна, згадваем тут пра яе і падаём ейны архіўны адрас).

---

[1] Выказваем шчырую ўдзячнасць Антону Францішку Брылю за дапамогу ў пошуку дакументаў і матэрыялаў.

[2] Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX ст.*, Warszawa 2014, t. I, s. 242–243.

[3] Нельга выключаць, што выгнаннікі проста шукалі магчымасці застацца ў Табольску.

[4] Гл.: РГИА, ф. 1286, оп. 25, д. 1403. Відаць, табольскі губернатар А. Дэспат-Зяновіч перанакіраваў просьбу братоў Палонскіх і Корбутаў да генерал-губернатара Заходняе Сібіры Аляксандра Дзюгамаля (1801–1880), які, у сваю чаргу, звярнуўся па тлумачэнне ў Дэпартамент выканаўчае паліцыі.

Тут толькі зазначым, што, магчыма, табольскія ўлады дазволілі Элігі Францішку і Вільгельму дачакацца сваіх, але пазней сям'ю падзялілі: Вільгельма (верагодна, з маці[1]) пакінулі ў Табольску, а Маўрыцыя, Элігі Францішка і Ганну накіравалі ў Іркуцкую губерню. Як вядома, браты мелі розныя віды і тэрміны пакарання.

### Перакладнік Алджэрнона Чарлза Суінберна

Э.Ф. Карафа-Корбут з жонкаю блізу дзесяці гадоў пражылі ў Сібіры. Урэшце атрымалі дазвол выехаць у Варшаву[2], дзе паэт уладкаваўся ў рэдакцыю "Gazety Polskiej". Як ведаем з некралога, да літаратурнай творчасці ён звяртаўся даволі рэдка. Пакуль удалося выявіць толькі адзін невялікі фрагмент верша (ці паэмы) Алджэрнона Чарлза Суінберна (1837–1909) у перакладзе Ялегі Пранціша Вуля:

Łzami i śmiechem już jestem znudzony,
Tymi, co płaczą, – tymi, co się śmieją.
Tem, co przyjść może, i wszelką nadzieją,
Tymi, co siali, aby zbierać plony,
Jestem znudzony dni i godzin matnią,
Okwitłym pączkiem, uschłym kwiatka listkiem,
Marzeniem, żądzą, i władzą, i wszystkiem,
Sen mi pozostał uciechą ostatnią![3]

Incognitus – гэта псеўданім літаратара і лекара Яна Бжазінскага (1850–1913), які часта выступаў на старонках "Gazety Polskiej" з літаратуразнаўчымі артыкуламі. У адным з іх, а менавіта *Z książek i życia*, аўтар шырока выкарыстоўвае вершаваныя творы еўрапейскіх паэтаў. Англамоўнага А.Ч. Суінберна перакладае супрацоўнік рэдакцыі Э.Ф. Карафа-Корбут, а падпісвае свой пераклад уласным прозвішчам – ***F. Korbutt***.

### У рэкламнай абвестцы "Gazety Polskiej"

Прозвішча беларускага літаратара ў варшаўскіх друкаваных выданнях сустрэлася нам пакуль толькі адзін раз. У "Kalendarzu Warszawskim na rok 1894" (дазвол цэнзуры: *1 ноября 1893 г.*) на рэкламнай старонцы "Gazety Polskiej" сярод аўтараў і супрацоўнікаў выдання называецца і карэктар Францішак Корбут[4]:

---

[1] Антаніна Карафа-Корбут або засталася ў малодшага сына ў Табольску, або памерла ў дарозе – ва Усоллі Маўрыцы Карафа-Корбут быў без сям'і. Гл.: W. Lasocki, *Wspomnienia z mojego życia*, t. II: *Na Syberji*, Kraków 1937, s. 333.

[2] У родныя мясціны выгнаннікам з Літвы-Беларусі выязджаць было забаронена.

[3] Гл.: Incognitus, *Z książek i życia*, "Gazeta Polska" 1886, nr 128, 11 czerwca.

[4] У некралозе адзначаецца, што апрача карэктуры газеты, Ф. Корбут меў і іншыя рэдакцыйныя абавязкі.

Stałymi współpracownikami „Gazety Polskiej” są między innymi: S. Askenazy[1], Wł. Bogusławski[2], M. Flaum[3], J. Gadomski[4], K. Górski[5], D. Henkiel[6], W. Karczewski, K. Kaszewski[7], St.A. Kempner[8], J. Kotarbiński[9], F. Korbutt, W. Kosiakiewicz[10], A. Krajewski[11], L. Krzywicki[12], E. Leo[13], E. Lubowski[14], I. Matuszewski[15], Br. Neufeldówna[16], H. Piątkowski[17], A. Rembowski[18], J. Śliwowski, T. Smarzewski, W. Zalewski; prócz tego „Gazeta Polska” utrzymuje stałych korespondentów we wszystkich większych stolicach Europy i miastach krajów[19].

Гэта якраз тыя людзі, з якімі працаваў Э.Ф. Карафа-Корбут, з якімі сустракаўся, магчыма, нават якім пісаў лісты, а г. зн. ці то ў іхніх успамінах, ці то ў іхніх архівах маглі застацца памяткі пра кантакты літаратараў з кола “Gazety Polskiej”. Невыпадкова на пачатку XX стагоддзя Рамуальд Зямкевіч ведаў і пра варшаўскі перыяд жыцця беларускага паэта, і пра ягоны псеўданім.

---

[1] Маецца на ўвазе Шыман Аскеназы (1865–1935), польскі гісторык жыдоўскага паходжання.

[2] Маецца на ўвазе Уладзіслаў Багуслаўскі (1839–1909), літаратурны і тэатральны крытык, літаратар, перакладнік і рэжысёр. За ўдзел у Паўстанні 1863 г. высланы ў Сібір, адкуль вярнуўся ў 1869 г. Для “Gazety Polskiej” пісаў фельетоны *Bez tytułu*.

[3] Маецца на ўвазе Максімільян Флаўм (1864–1933), польскі лекар і публіцыст жыдоўскага паходжання.

[4] Маецца на ўвазе Ян Гадомскі (1859–1906), літаратар, публіцыст і выдавец. З 1889 г. быў галоўным рэдактарам “Gazety Polskiej”.

[5] Маецца на ўвазе, відаць, Канстанты Гурскі (1868–1934), мастак і карыкатурыст.

[6] Маецца на ўвазе Дыянізы Генкель (1842–1920), сурэдактар “Gazety Polskiej” (1873–1897). За ўдзел у Паўстанні 1863 г. быў сасланы ў Аёкскую воласць Іркуцкае губерні, дзе адбываў высылку і Э.Ф. Карафа-Корбут. Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX ст.*, Warszawa 2014, t. I, s. 246–247.

[7] Маецца на ўвазе, відаць, Казімір Ян Кашэўскі (1825–1910), літаратурны і тэатральны крытык, перакладнік.

[8] Маецца на ўвазе Станіслаў Аляксандар Кэмпнер (1857–1924), эканаміст і журналіст.

[9] Маецца на ўвазе Юзаф Катарбінскі (1849–1928), пісьменнік, крытык і актор.

[10] Маецца на ўвазе Вінцэнты Касякевіч (1863–1918), пісьменнік, аўтар рамана *Bawelna* і інш.

[11] Маецца на ўвазе Аляксандар Альберт Краеўскі (1819–1903), публіцыст і перакладнік. На высылцы ў Сібіры правёў больш за 20 гадоў. Сурэдактар “Gazety Polskiej”.

[12] Маецца на ўвазе Людвік Кшывіцкі (1859–1941), марксіст, сацыёлаг і эканаміст.

[13] Маецца на ўвазе Эдвард Леа (1828–1901), польскі адвакат і журналіст жыдоўскага паходжання. У 1874–1897 г. быў рэдактарам “Gazety Polskiej”.

[14] Маецца на ўвазе Эдвард Любоўскі (1837–1923), драматург.

[15] Маецца на ўвазе Ігнацы Матушэўскі (1858–1919), літаратурны крытык.

[16] Маецца на ўвазе Браніслава Неўфельд (1857–1931), перакладніца. З 1883 г. цягам 23 гадоў працавала ў “Gazecie Polskiej”.

[17] Маецца на ўвазе Генрык Пянткоўскі (1853–1932), мастак, літаратар і крытык.

[18] Маецца на ўвазе Аляксандар Рамбоўскі (1847–1906), адвакат і гісторык.

[19] *Kalendarz Warszawski na rok 1894*, Warszawa 1893, n/n.

**Запіс у *Aktach stanu cywilnego***

За амаль дваццаць гадоў жыцця ў Варшаве Элігі Францішак Карафа-Корбут няраз, пэўна, звяртаўся ў розныя дзяржаўныя ўстановы, а г. зн., што ў архівах павінны застацца дакументы, якія могуць паведаміць пра важныя моманты ягонае біяграфіі. Пакуль выявіць іх не ўдалося, але затое ў метрычнай кнізе парафіяльнага касцёла Усіх Святых знайшоўся запіс пра смерць паэта. З гэтага запісу мы можам даведацца, дзе ён жыў апошнія (а можа, нават і ўвесь варшаўскі перыяд!) гады жыцця.

Друкуецца паводле: Archiwum Historyczne m. st. Warszawy, sygn. 72/1219/0/-/62: *Akta stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej Wszystkich Świętych w Warszawie, 1894*, k. 171, N 1021.

[Метрычны запіс пра смерць]

Состоялось въ Варшавѣ въ Приходѣ Всѣхъ Святыхъ въ двадцать седьмой день Ноября / девятый Декабря тысяча восемьсотъ девяносто четвертаго года въ девять часовъ утра. Явились Владыславъ Залескій, сотрудникъ журнала “Газета Польска” и Брониславъ Корбуттъ студентъ Университета, совершеннолѣтніе жительствующіе въ Варшавѣ и объявили что здѣсь въ Варшавѣ по улицѣ Злотой подъ номеромъ тысяча пятьсотъ восьмымъ вчера въ два часа пополудни умеръ Францишекъ Корбуттъ /Fraciszek Korbutt:/ женатъ, литератъ, пятидесяти восьми лѣтъ отъ роду, родившійся въ городѣ Хородокъ Витебской губерніи, сынъ Маурыцего и Антонины урожденной Соболевской, супруговъ Корбуттъ, оставляя послѣ себя овдовѣвшую жену * урожденную Толвиньскую. По удостовѣреніи о кончинѣ Францишка Корбутта, актъ сей присутствующимъ прочитанъ, ими и нами подписанъ. –

* добавить слово “Анну”.

Władysław Zaleski Bronisław Korbutt
Кс. Викентій Мѣховичъ Викарій

*Пераклад*

Здарылася ў Варшаве ў парафіі Усіх Святых[1] дваццаць сёмага лістапада / дзявятага снежня тысяча восемсот дзевяноста чацвёртага года ў дзевяць гадзін раніцы. З’явіліся: Уладзіслаў Залескі[2], супрацоўнік выдання “Gazeta Polska” і Браніслаў Корбут[3], студэнт Універсітэта, паўналетнія, жыхары

[1] Корбуты былі парафіянамі касцёла Усіх Святых, які знаходзіцца пры пляцы Гжыбоўскім (Plac Grzybowski 3/5).

[2] Пра Уладзіслава Залескага звестак выявіць не ўдалося. Але, відаць, у дакуменце памылка: сярод супрацоўнікаў “Gazety Polskiej” быў W. Zalewski. Тым больш, што і ў подпісе чытаецца хутчэй ***w***, а не ***s***.

[3] Гаворка пра Браніслава Карафа-Корбута (1870–1932), сына Вільгельма. Нарадзіўся ён у Табольску (больш дакладна, ахрышчаны ў тамтэйшым касцёле). Маці Браніслава – Браніслава Вінчэўская, відаць, пасля нараджэння сына вярнулася ў Варшаву, дзе Браніслаў пайшоў у гімназію. Праўда, вучобу ён завяршаў у Табольску (хіба, тут усё яшчэ жыў бацька?), пасля чаго зноў апынуўся ў Варшаве (не пазней, чым у 1893 г.),

Варшавы, і паведамілі, што тут, у Варшаве, у доме пад нумарам тысяча пяцьсот восьмым[1] пры вуліцы Złota ўчора ў дзве гадзіны папаўдні памёр Францішак Корбут /Fraciszek Korbutt/, жанаты, літаратар, пяцідзесяці васьмі гадоў[2], які нарадзіўся ў горадзе Гарадок[3] Віцебскае губерні, сын Маўрыцыя і Антаніны, народжанае Сабалеўскае, мужа і жонкі Корбутаў, пакідаючы пасля сябе аўдавелую жонку*, народжаную Талвінскую[4]. Пасля сведчання смерці Францішка Корбута акт гэты прысутным прачытаны, імі і намі падпісаны.

* дадаць слова “Ганну”.

Władysław Zalewki, Bronisław Korbutt
Кс. Викентій Мѣховичъ Викарій

---

дзе ў 1897 г. закончыў медыцынскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Пасля некалькі месяцаў працаваў у варшаўскім шпіталі св. Духа пад кіраўніцтвам Юзафа Павінскага. А ў 1898 г. заняў пасаду лекара чыгуначных сярэднеазіяцкіх ліній у Туркестане. Жыў у Ашхабадзе і Чарджуі да 1921 г. Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX ст.*, Warszawa 2014, t. I, s. 245–246; М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XIX ст.*, Warszawa 2019, t. V, s. 232.

[1] Гэта нумар дома паводле г. зв. гіпатэчнае нумарацыі. Паводле паліцэйскае нумарацыі ён меў нумар 51. Знаходзіўся пры вуліцы ***Złota*** паміж вуліцамі ***Sosnowa*** і ***Wielka***. У 1887 г. домаўласнікам быў нехта Лубіцкі (гл.: *Табель домамъ г. Варшавы и предмѣстья Праги*, Варшава 1887, с. 66). Але вядома таксама, што з 1840-х гг. дом належаў Сабалеўскім (у 1852 г. уласнікам дома быў Войцех Сабалеўскі. Гл.: *Taryfa domów miasta Warszawy i przedmieścia Pragi*, Warszawa 1852, s. 32), а пасля – іхнім нашчадкам. Магчыма, Лубіцкі і быў адным з іх. Цікава тое, што маці Францішка Корбута была з роду Сабалеўскіх. І, відаць, невыпадкова, што на пахаванне паэта запрашалі “żona i siestrzeńcy”: тут, відаць, ішла гаворка пра дзяцей сястры маці Элігі Францішка, Антаніны з Сабалеўскіх Карафа-Корбут. (Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XIX ст.*, Warszawa 2019, t. V, s. 232.). Дык ці не наймалі Корбуты кватэру ў сваякоў? Дом не захаваўся (разбураны ў 1944 г., пасля вайны – разабраны). На яго месцы ў 1989–2004 гг. знаходзілася гандлёвая галерэя ***City Center*** (новы адрас – Złota 44), сёння – высотны будынак (192 м, 55 паверхаў), вядомы як ***Żagiel Libeskinda***.

[2] Пляменнік, відавочна, не ведаў года нараджэння Э.Ф. Карафа-Корбута, а дакументы, якімі карыстаўся былы выгнаннік, не былі дакладныя.

[3] Паводле метрычнае кнігі Віцебскага парафіяльнага фарнага касцёла Элігі Францішак Карафа-Корбут нарадзіўся ў Віцебску. Гл.: *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 368.

[4] Пра Ганну з Талвінскіх Карафа-Корбут, гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX ст.*, Warszawa 2014, t. I, s. 246–247.

**Абвестка пра асвячэнне помніка**

У верасні 1895 г. у выданні, дзе шмат гадоў працаваў Францішак Корбут, з'явілася кароткая ананімная інфармацыя пра асвячэнне помніка на магіле беларускага паэта. Як вынікае з яе, жонка і пляменнік паклапаціліся і пра партрэт, які быў змешчаны ў вянцы авальнае формы.

Друкуецца паводле: *Z miasta: Pamięci Zmarłego*, "Gazeta Polska" 1895, nr 218, 11/23 września.

## Z miasta: Pamięci Zmarłego

W sobotę na cmentarzu Powązkowskim po skończonej mszy w miejscowym kościele, w obecności rodziny, kolegów i przyjaciół zmarłego w dniu 8 grudnia r. p. ś. p. Franciszka Korbutta, wieloletniego współpracownika nasze "Gazety", odbyło się poświęcenie pomnika. Pomnik ś p. Franciszka Korbutta zdobi udatny portret kredkowy. Spora garstka osób oddała ostatni hołd pamięci zmarłego. Niech spoczywa w spokoju!

*Пераклад*

## Гарадскія навіны: Памяці нябожчыка

У суботу на Паванзкоўскіх могілках пасля імшы ў мясцовым касцёле ў прысутнасці сям'і, калегаў і сяброў памерлага 8 снежня мінулага года с. п. Францішка Корбута, шматгадовага супрацоўніка нашае "Gazety", адбылося асвячэнне помніка. Помнік с. п. Францішка Корбута аздабляе ўдалы пастэльны партрэт[1]. Вялікая грамада людзей аддала апошнюю даніну памяці нябожчыку. Хай спачывае ў спакоі!

[1] Сёння пра партрэт на помніку нагадвае авальнае паглыбленне.

# Некралогі Янкі Лучыны

Пяць польскіх выданняў адгукнуліся на вестку пра смерць Янкі Лучыны (1851–1897). Былі гэта пераважна кароткія нататкі. Тры з іх – у штотыднёвіках “Głos”, “Prawda” і “Kraj” – надзвычай падобныя і пакідаюць уражанне, што ўзніклі на падставе аднае інфармацыйнае крыніцы, а дзве – у „Tygodniku Illustrowanym” і „Przeglądzie Literackim” – узніклі як пераказ публікацыі ў “Głosie”.

Пададзім іх у храналагічнай паслядоўнасці:

2/14 жніўня

(al), *Głosy: Jan Niesłuchowski*, „Głos: tygodnik literacko-społeczno-polityczny” 1897, nr 33, 14/2 sierpnia, s. 806.

9/21 жніўня

*Kronika powszechna: Zmarli: Jan Niesłuchowski*, „Tygodnik Illustrowany” 1897, nr 34, 9/21 sierpnia, s. 674.

23жніўня / 4 верасня

*p*. [A. Świętochowski], *Wspomnienia pozgonne: Jan Niesłuchowski*, „Prawda” 1897, nr 36, 23 sierpnia / 4 września, s. 426.

12/24 верасня

A., *Ś. P. Jan Niesłuchowski*, „Kraj” 1897, nr 37, 12/24 września, s. 29.

верасень

*Nekrologia: Jan Niesłuchowski*, „Przegląd Literacki” 1897, nr 17–18, wrzesień, s. 22.

У беларускім літаратуразнаўстве добра вядомыя толькі два[1] з іх. У 1960-я гг. Адам Мальдзіс[2] выявіў публікацыю ў штотыднёвіку “Prawda”, а крыху пазней Генадзь Кісялёў[3] – у “Kraju”.

[1] Пра іншыя толькі коратка згадаў Уладзімір Казбярук. Гл.: У. Казбярук, *Літаратурныя клопаты Янкі Лучыны*, “Полымя” 1981, № 8, с. 235.

[2] Гл.: А. Мальдзіс, *Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст.*, Мінск 1969, с. 135–136. С. і В. Александровічы апублікавалі гэты некралог у хрэстаматыі крытычных матэрыялаў *Беларуская літаратура XIX – пачатку XX ст.* (Мінск 1978, с. 117–118), апусціўшы вершаваны фрагмент з акварэлькі *Na głuszce*.

[3] Гл.: *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 474–476.

Цікава тое, што ўсе некралогі – ананімныя. Праўда, тры з іх падпісаныя крыптанімамі, якія даследнікі стараліся расшыфраваць. Напрыклад, А. Мальдзіс адназначна сцвердзіў, што некралог у “Prawdzie” належыць пяру “рэдактара часопіса, вядомаму тэарэтыку пазітывізму Аляксандру Свентахоўскаму”[1]. Бясспрэчна, знаны беларускі даследнік ведаў, што рэдактар “Prawdy” карыстаўся крыптанімамі ***p***.; ***P***.; ***p. p***.; ***P. P.*** – скарачэнне больш звыклага ягонага псеўданіму “Poseł Prawdy”[2]. Дык, нягледзячы на тое, што А. Свентахоўскі (1849–1938) быў дастаткова далёкі ад – так скажам – тагачасных беларускіх спраў, падставы для такое атрыбуцыі былі, бо яшчэ ў 1896 г. штотыднёвік (nr 11) апублікаваў “akwarelkę” *Na głuszcze* Яна Неслухоўскага, г. зн. у рэдакцыі “Prawdy” ведалі беларускага паэта. Але на падставе чаго ў некралозе сцвярджаецца: “Мы ведаем даволі шмат ягоных твораў, якія пакуль не друкаваліся. Сярод іх ёсць таксама абразкі, маляўніча напісаныя па-беларуску. Варта, каб хто-небудзь заняўся гэтай спадчынай, аб’яднаў бы яе ў вязанку”[3]? Мо сам Янка Лучына напісаў калісь пра сваю творчасць у рэдакцыю? Мо даслаў ёй свае творы – у тым ліку і беларускамоўныя? На гэтыя пытанні адказу пакуль няма. Дык гіпатэтычна прапануем: а можа, нейкая іншая, больш блізкая да паэта асоба даслала ў рэдакцыю “Prawdy” ці прыватна А. Свентахоўскаму інфармацыю пра смерць[4] беларускага паэта, а таксама звесткі пра яго жыццё і творчасць? Хто гэта мог зрабіць? Хутчэй за ўсё – нехта са сваякоў Янкі Лучыны з Мінска. Але не выключаем, што зрабіў гэта Адам М–скі ці Альдона Раецкая. Дакладней, Адам М–скі, даведаўшыся пра смерць беларускага паэта ад А. Раецкае, напісаў у Варшаву. Пацвярджэннем гэтае думкі можа быць той факт, што Адам М-скі якраз у гэты час актыўна карэспандаваў з рэдакцыяй “Prawdy”: у 35 нумары газеты публікаваўся верш *Odchodzę*[5], а ў 43 – *Śpiewacy*[6]. Відаць, дасылаючы свае вершы, паэт з Міншчыны паведаміў і пра смерць літаратара са свайго рэгіёну.

---

[1] А. Мальдзіс, *Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст*., Мінск 1969, с. 135.

[2] Адпаведны том біябібліяграфічнага выдання *Nowy Korbut* выйшаў з друку ў 1977 г., але матэрыяламі рэдакцыі ў Instytucie Badań Literackich можна было карыстацца і ў 1960-я гг. Гл.: *Bibliografia literatury polskiej „Nowy Korbut”*, seria IV: *Literatura pozytywizmu i Młodej Polski*, t. 15, Warszawa 1977, s. 671.

[3] p. [A. Świętochowski], *Wspomnienia pozgonne: Jan Niesłuchowski*, „Prawda” 1897, nr 36, 23 sierpnia / 4 września, s. 426.

[4] Дата смерці Янкі Лучыны ў беларускім літаратуразнаўстве падаецца паводле прыпісу на палях прадмовы аднаго з асобнікаў зборніка *Poezye Jana Niesłuchowskiego* (Warszawa 1898). У сувязі з гэтым біябібліяграфічны слоўнік *Беларускія пісьменнікі* (Мінск 1994, т. 3, с. 113) фіксуе дату смерці як “16.7 /28.7.1897”. Але ці можам мы быць пэўнымі, што словы “zmarł 16 lipca 1897 r.” занатаваныя паводле старога стылю? Толькі тады, калі асоба, якая пісала гэтыя словы, паходзіла і жыла на Літве-Беларусі, а не ў Кароне.

[5] Adam M–ski, *Odchodzę*, “Prawda” 1897, nr 35, 16/28 sierpnia.

[6] Adam M–ski, *Śpiewacy*, “Prawda” 1897, nr 43, 11/23 października.

Не на шмат больш яснасці і з некралогам, апублікаваным ў штотыднёвіку “Głos”: крыптанімам ***al***, як вядома, карыстаўся Антоні Лангэ; вядома і тое, што А. Лангэ актыўна супрацоўнічаў з гэтаю газетаю. Здавалася б, тут не можа быць аніякіх сумненняў, але адкуль яму, варшаўскаму жыду, ведаць, што лучынаўская “песня, якая імітуе брэх сабак падчас пагоні, вядомая ўсім паляўнічым на Случчыне”? Адкуль ён мог ведаць, што беларускія пераклады Янкі Лучыны “часткова друкаваліся ў «Мінскім лістку» (даўнейшым) і ў «Мінскім календары»? Асабліва ўзяўшы пад увагу тое, што ***al*** бачыць розніцу між “даўнейшым” і “сённяшнім” “Минскимъ листкомъ”.

Адказ тут можа быць адзін: некралог напісаны на аснове інфармацыі з Мінска (ці Беларусі) у рэдакцыю або непасрэдна А. Лангэ. А даслаць звесткі пра смерць Янкі Лучыны мог усё той самы Адам М-скі. Як пацвярджэнне – і прыязныя дачыненні перакладнікаў Ш. Бадлера, і вершы, якія Адам М-скі публікаваў у газеце “Głos”[1], і песня слуцкіх паляўнічых, якую добра адчула паэтычная душа капылянкі ў “акварэльках” Янкі Лучыны.

Праўда, ёсць пярэчанні: у лістах да Зянона Пшасмыцкага за 1897 г. Адам М-скі анічога не згадвае пра смерць мінскага паэта. Больш за тое: піша пра смерць Адама Асныка (1838–1897), дадаючы: “będziesz zmartwiony, bo też to i strata”[2]. Зрэшты, ці мусіў Адам М-скі пісаць у Парыж Мірыяму пра смерць літаратара, даробак якога не вельмі высока ацэньваў раней? Іншая справа – паведаміць тым, хто зможа ў мясцовых выданнях аддаць даніну павагі таму, “хто ў такім няшчасці, як ён, думае яшчэ аб працы дзеля грамады”[3].

Трэці некралог, змешчаны ў штотыднёвіку “Kraj”, падпісаны крыптанімам ***A.***. Паводле слоўніка Людвіка Чаркоўскага *Pseudonimy i kryptonimy polskie*, крыптанімам гэтым карысталіся дзве асобы: Аляксандар Краўсгар (1842–1931) і Антоні Акола-Кулак (1883–1940)[4]. Але першы з іх жыў у Варшаве, а другі, хоць і паходзіў з Беларусі, быў занадта малады ў 1897 г., каб супрацоўнічаць з пецярбургскаю газетаю. На шчасце, пазнейшыя гісторыкі літаратуры зафіксавалі, што гэтым жа крыптанімам карыстаўся і А. Свентахоўскі. Ды і ў “Kraju” ён зрэдчас друкаваў свае матэрыялы. То ці не па просьбе Адама М-скага з’явілася і гэтая згадка ў газеце, якую актыўна выпісвала беларуска-літоўская шляхта?

Звернем, аднак, увагу на тое, што ў “Kraju” змешчаны той самы партрэт Янкі Лучыны, што і ў зборніку *Poezye*, які выдалі – па няпэўных звестках – сваякі паэта[5]. А гэта можа даводзіць, што сям’я Неслухоўскіх дбала пра тое,

---

[1] Напр.: Adam M-ski, *Nad mogilą Delfiny*, “Głos” 1897, nr 50, 29 listopada / 11 grudnia.

[2] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 26–29 ліпеня 1897 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 384.

[3] Ліст Адама М-скага да З. Пшасмыцкага ад 17/29 студзеня 1890 г. Цыт. па: Z. Trzeszczkowska (Adam M-ski), *Listy do Zenona Przesmyckiego…,* s. 210–211.

[4] L. Czarkowski, *Pseudonimy i kryptonimy polskie*, Wilno 1922, s. 9.

[5] А. Мальдзіс, *Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст.*, Мінск 1969, с. 135.

каб захаваць і памяць пра паэта, і ягоны даробак. Пацвердзіць дадзеную гіпотэзу можна тым, што ўжо ў студзені 1898 г. кніжка Янкі Лучыны была не толькі складзеная, але ўжо і атрымала дазвол цэнзуры. Магчыма, сам паэт у апошнія месяцы жыцця займаўся падрыхтоўкаю зборніка да выдання, але не паспеў завяршыць працу. Дык апошнія тэксты "дададзены" нейкім іншым і з гэтае прычыны, як удалося вызначыць Уладзіміру Мархелю, яны не маюць пазнакі, што гэта не арыгінальныя творы, а пераклады вершаў расейскае паэткі з Ноўгараду Вольгі Чумінай (1858–1909).

Характэрна, што аўтары некралогаў у штотыднёвіках "Głos", "Prawda" і "Kraj" акцэнтуюць увагу на беларускамоўнай творчасці Янкі Лучыны ды нават заклікаюць апублікаваць і іх у будучай кнізе паэта. Гэта яшчэ адно сведчанне, што пісаў(лі) іх чалавек (людзі) блізкі(я) да беларускае культуры. А вось аўтар прадмовы да зборніка *Poezye*, як заўважылі С. і В. Аляксандровічы, "ні адным словам не ўспомніў пра беларускія творы Янкі Лучыны"[1]. Зрэшты, адсутнасць і беларускіх твораў у зборніку, і "слова" пра іх у прадмове можа тлумачыцца пазіцыяй выдаўца-фундатара выдання.

Некралогі Янкі Лучыны і іхнія пераклады на беларускую мову друкуюцца паводле:

№ 1 – (al), *Głosy: Jan Niesłuchowski*, „Głos: tygodnik literacko-społeczno-polityczny" 1897, nr 33, 14(2) sierpnia, s. 806.

№ 2 – *Kronika powszechna: Zmarli: Jan Niesłuchowski*, „Tygodnik illustrowany" 1897, nr 34, 9/21 sierpnia, s. 674.

№ 3 – *Nekrologia: Jan Niesłuchowski*, „Przegląd Literacki" 1897, nr 17–18, wrzesień, s. 22.

**№ 1**

## Jan Niesłuchowski

(al) W Mińsku gubernjalnym w końcu ubiegł. mies. zmarł Jan Niesłuchowski, człowiek, który charakterem, inteligiencją i poglądami dodatnio oddziaływał na szerokie koła publiczności w swojem otoczeniu; był to przytem uzdolniony poeta, który, uległszy silnie wpływom Syrokomli, przeważnie jego ton naśladował. Co do treści jednak głównie życie myśliwskie go nęciło; niestety! w poezji tylko mógł się oddawać tej namiętności, gdyż w młodym wieku na polowaniu uległ chorobie, która go na całe życie w łożu niemal unieruchomiła. *Akware1e z życia myś1iwskiego* pozostaną pamiątką tych zamiłowań łowieckich litwina, którego losy skazały na unieruchomienie. Jego łowy na wilki, na łosie, na niedźwiedzie niekiedy przypominają tonem *Pana Tadeusza*. Pieśń, naśladująca szczekanie psów podczas gonu, znaną jest wszystkim myśliwym w Słuczczyźnie. Ale nie|tylko po po1sku pisał Niesłuchowski; pod pseudonimem Janka Łuczyny znany był jako wyborny poeta białoruski, jako doskonały tłumacz Syrokomli na język ludu miejscowego. Przekłady te częściowe były drukowane w „Mińskim

[1] С. Александровіч, В. Александровіч, *Беларуская літаратура XIX – пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў*, Мінск 1978, с. 117.

listku” (dawnym) i w „Kalendarzu mińskim”. Słyszeliśmy że J. N. przed śmiercią zgromadził wszystkie swe utwory w zamiarze ich ogłoszenia w książce. Byłoby do życzenia, jeżeli znajdzie się wydawca na tę książkę, aby nie pominął rzeczy białoruskich, gdyż dla ludności, mówiącej tym językiem a pozbawionej prawie własnych poetów, każdy utalentowany pisarz niezwykłą posiada wartość.

*Пераклад*

## Ян Неслухоўскі

(al) У губернскім Мінску напрыканцы мінулага месяца памёр Ян Неслухоўскі, чалавек, які характарам, розумам і поглядамі аказваў станоўчы ўплыў на шырокія грамадскія колы ў сваім атачэнні; ён быў таксама таленавітым паэтам, які, трапіўшы пад моцны ўплыў Сыракомлі, пераважна наследаваў яму. Што датычыць зместу, дык яго ў асноўным прыцягвала паляўнічае жыццё; на жаль! толькі ў паэзіі ён мог аддавацца гэтаму захапленню, бо ў маладым узросце захварэў на паляванні[1], што ледзь не паклала яго на ўсё жыццё ў ложак. *Паляўнічыя акварэлькі*[2] застануцца памяткаю пра тыя паляўнічыя захапленні ліцвіна, лёс якога асудзіў на бяздзейнасць. Яго паляванне на ваўкоў, ласёў і мядзведзяў часам нагадвае *Пана Тадэвуша*. Песня, якая імітуе брэх сабак падчас пагоні, вядомая ўсім паляўнічым на Случчыне. Але Неслухоўскі пісаў не толькі па-польску; пад псеўданімам Янка Лучына ён быў вядомы як выдатны беларускі паэт, як дасканалы перакладнік Сыракомлі на мову мясцовага люду. Гэтыя пераклады часткова друкаваліся ў “Мінскім лістку”[3] (даўнейшым) і ў “Мінскім календары”[4]. Мы чулі, што Я. Н. перад смерцю сабраў усе свае творы з намерам

[1] Паводле іншых звестак: параліч разбіў Янку Лучыну, калі ён выходзіў з тэатра (канцэрта).

[2] Гл.: J. Niesłuchowski, *Akwarelka myśliwska z Polesia: Przed wilią* [w:] *Życie illustrowane*, Warszawa 1887; J. Niesłuchowski, *Akwarelki z życia myśliwskiego na Polesiu,* „Życie” 1888, nr 25_ 26, 1889, nr 8; J. Niesłuchowski, *Na głuszce*, „Prawda” 1896, nr 11.

[3] У газеце “Минскій листокъ” надрукаваныя тры арыгінальныя творы Янкі Лучыны, гл.: *Вясновай парой*, “Минскій листокъ” 1889, № 20, 14 марта; *Заходзіць сонца за горы*, “Минскій листокъ” 1889, № 71, 12 сент.; *Вясна*, “Минскій листокъ” 1891, № 28, 22 февр., а таксама пераклад верша У. Сыракомлі, гл. *Ямщикъ,* “Минскій листокъ” 1890, № 19, 6 марта.

[4] “Мінскім календаром” аўтар называе два выпускі “Сѣверо-Западнаго календаря”. Тут друкаваліся і арыгінальныя творы паэта, і пераклады вершаў У. Сыракомлі. Гл: Н-скій, *Радной старонцѣ*, “Сѣверо-Западный календарь на 1892 год”, Минскъ 1891; *Пакуль новы годъ настане на свеце*, “Сѣверо-Западный календарь на 1892 год”, Минскъ 1891; Янка Лучина, *Стары лясникъ*, “Сѣверо-Западный календарь на 1893 год”, Минскъ 1892, с. 12–14; Л. Кандратовичъ, *Горсць пшаницы* (пер. Янка Лучина), “Сѣверо-Западный календарь на 1892 год”, Минскъ 1891; Л. Кандратовичъ, *Буселъ* (пер. Янка Лучина), “Сѣверо-Западный календарь на 1893 год”, Минскъ 1892, с. 21–22; Л. Кандратовичъ, *Надто салодкія думки* (пер. Янка Лучина), “Сѣверо-Западный календарь на 1893 год”, Минскъ 1892, с. 31–32; Л. Кандратовичъ, *Ямщикъ* (пер. Янка Лучина), “Сѣверо-Западный календарь на 1893 год”, Минскъ 1892, с. 33–35.

апублікаваць іх у кнізе. Было б добра, калі знойдзецца выдавец гэтае кнігі, каб ён не прамінуў беларускія рэчы, бо для люду, які размаўляе на гэтай мове і амаль пазбаўлены ўласных паэтаў, кожны таленавіты пісьменнік мае надзвычайную каштоўнасць.

**№ 2**

[Zmarł] Jan Niesłuchowski, inżynier technolog, oraz poeta i zapalczywy myśliwy, lat 46, w Mińsku litewskim. Napisał między innemi *Akwarelle myśliwskie*, drukowane w Warszawie. Znać było w jego pracach wpływ Syrokomli.

*Пераклад*

[Памёр] Ян Неслухоўскі, інжынер-тэхнолаг, а таксама паэт і зацяты паляўнічы, 46 гадоў, у Мінску літоўскім. Напісаў – сярод іншага – *Паляўнічыя акварэлькі*, якія друкаваліся ў Варшаве. У яго творах заўважаецца ўплыў Сыракомлі.

**№ 3**

Jan Niesłuchowski, mało znany, choć nie bez talentu poeta, zmarł w Mińsku w końcu lipca. W utworach jego czuć było wpływ a nawet naśladownictwo Syrokomli. Oryginalnym był jednak w bardzo ładnych „akwarelach myśliwskich”, odczuwał w nich silnie piękność przyrody. Pod pseudonimem Janka Łuczyny pisywał poezye białoruskie i tłómaczył na ten język utwory Syrokomli. Z zawodu był inżynierem-technologiem. Pozostawił po sobie wspomnienie człowieka zapału i niezwykłej słodyczy, pomimo dotkliwych bólów fizycznych, jakie cierpiał przez bardzo długie lata.

*Пераклад*

У канцы ліпеня ў Мінску памёр малавядомы, хоць і не пазбаўлены таленту Ян Неслухоўскі. У ягоных творах можна было заўважыць уплыў і нават наследаванне Сыракомлі. Аднак ён быў арыгінальны ў вельмі прыгожых “паляўнічых акварэльках”, дзе моцна перадаў прыгажосць прыроды. Пад псеўданімам Янка Лучына ён пісаў беларускую паэзію і перакладаў на гэтую мову творы Сыракомлі. Па прафесіі ён быў інжынерам-тэхнолагам. Ён пакінуў пасля сябе памяць пра чалавека энтузіязму і незвычайнае дабрыні, нягледзячы на моцны фізічны боль, які ён цярпеў шмат гадоў.

# Abstract

The main part of Volume VII of *Research and materials* is dedicated to the life and work of Jan Barščeŭski, Hieronim Marcinkievič and Adam M-ski.

By publishing the obituaries of the author of *Nobleman Zavalnia* on the 170th anniversary of his death (mostly already known, but with a new version of the translation, as well as a new commentary), we thus focus on the problem that has arisen recently with the discovery of a large number of documents concerning the biography of the Belarusian writer: the need to prepare a new biography of Barščeŭski both for encyclopedic editions and for the academic history of Belarusian literature.

The section *Hieranim Marcinkievič* contains a number of texts by the writer (the dramatic poem *The Traveler*, his letters to Adam Zavadski), as well as some previously unknown information about the poet's studies at Dorpt University and our article, which examines the problem of attribution of the theater vignette *Evening: an Occasion in a Tavern near Falkovičy* on the basis of both well-known and more obscure publications. The hypothesis about H. Marcinkievič being the author of this play originally belongs to Ramuald Ziamkievič. Although he did not have concrete proof of said authorship (the section titles of the play were wrongly indicated), he was earnest in sharing his hypothesis, as he informed Francišak Aliachnovič and Aliaksandr Šlubski. Michaił Pijatuchovič, on the other hand, had a different outlook on the authorship of *Evening*…. In all fairness, he does not address the question of authorship at all in the prologue to his planned publications of Aliaksandr Rypinski's manuscripts, but it is likely that he has mentioned during his lectures with Belarusian State University Students that the vignette was written by A. Viaryha-Dareŭski (we say this on the basis of later articles by A. Adamovič). M. Larčanka and L. Fihłoŭskaja, apparently lacking knowledge on A. Rypinski's manuscripts, found the vignette in "Leningrad archives and libraries", listed as written by some Sazanovič. It is interesting that researchers have described the subject of the play in quite a general manner, as "the daily life of peasants under lordship", which corresponds with the illustration of the text in the manuscripts of A. Rypinski. After the publication of *Evening*… In 1988, most researchers (Vičasłaŭ Rahojša, Hienadź Kisialioŭ, Uładzimir Marchel) have positioned themselves in favor of H. Marcinkievič's authorship, even though Vital Skałaban did not propose to rush into any final conclusions. The analysis of philological publications, the style of Polish-language works by H. Marcinkievič, as well as certain circumstances of literary life in Viciebsk between the end of the 1850s and the beginning of the 1860s allow us to voice some doubts about H. Marcinkievič being the actual author of *Evening: an Occasion in a Tavern near Falkovičy*. An equally likely author could had been either A. Viaryha-Dareŭski or some Sazanovič.

The last section of the volume provides materials and research on the life and career of Adam M-ski (Zofia Traščkoŭskaja): the Belarusian-language poems by the poet, her letters to Feliks Ziankovič, her certificates (of birth and marriage), and obituary. A careful reading and analysis of Adam M-ski's letters allowed us to draw a conclusion about the enormous role that a former exiled with whom she met in Novgorod played in the life and creative destiny of Z. Traščkoŭskaja. In our opinion, F. Ziankovič not only encouraged the poet to translate works of European literature into Polish, but also inspired her to create her own poetry. The feeling of love, which captivated the heart of the woman, 35–40 years old at the time, gave birth to beautiful examples of love poetry, although it brought its author only pain and bitterness.

The appendix publishes recently discovered documents that add significant, as we believe, details to the creative portraits of Alhierd Abuchovič, Jaleha Praciš Vul and Janka Lučyna.

